Міхась Амялішка

# ЗАБЛУДНЫЯ

Раман-успамін

www.kamunikat.org

Мінск, «Кнігазбор», 2009

УДК 75.071.1(476) (092)+929 Амялішка
ББК 85.143 (4 Беи)
А61

**Амялішка, М.**

**А61** Заблудныя : раман-успамін / Міхась Амялішка. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 176 с.

ISBN 978-985-6930-43-3.

Раман-успамін «Заблудныя» — гэта шэраг эсэ, якія аўтар стварыў на падставе апавяданняў сваіх бацькоў, блізкіх. Можна сказаць, гэта сямейныя паданні сям'і Амялішкаў, пераасэнсаваныя і запісаныя Міхасём Васільевічам. У іх раскрываюцца ўсе бакі чалавечага жыцця: праца і палітыка, каханне і злачынствы, вера людзей у Бога і светлую будучыню. У цэнтры аповеду — вёскі Бортнікі, Вольна, мястэчкі Сноў і Нясвіж.

**УДК 75.071.1(476) (092)+929 Амялішка**
**ББК 85.143 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-6930-43-3**

© Амялішка М., 2009
© а. Крот А., прадмова, 2009
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2009

www.kamunikat.org



## Часцінка «малой гісторыі»

*Літаратурнай працай Міхась Васільевіч Амялішка (сёлета яму споўнілася 80 год) заняўся дастаткова позна. Сам аўтар прызнаўся мне, што пісаць пачаў толькі пасля выхаду на пенсію. Таму яго літаратурныя дасягненні невялікія, пакуль што гэта толькі дзве кнігі ўспамінаў — «Гучыць наш хор» (у 2007 годзе быў выдадзены яе скарочаны варыянт «Гучыць хор "Бацькаўшчына"») і «Гаёвы». Абедзве кнігі існуюць толькі ў машынапісным, «самвыдатаўскім» выглядзе, але, спадзяюся, у хуткім часе будуць выдадзеныя. Каштоўнасць гэтых кніг не столькі ў іх літаратурна-мастацкіх вартасцях, колькі ў шчырасці аўтара, які спрабуе перадаць сваім чытачам частку жыцця — ўласнага і сваёй сям'і.*

*Нярэдка, слухаючы апавяданні старэйшых людзей пра мінулае, пра часы іх маладосці, каханне, жыццё, хочацца ўсклікнуць: «Дарагія мае! Запішыце гэта, каб разам з вамі не зышла ў нябыт частка нашай гісторыі, багацце нашага мінулага». Таму, з удзячнасцю прачытаў я ўспаміны Міхася Васільевіча Амялішкі, які ўзяўся за складаную працу — аднавіць пэўны пласт «малой гісторыі», гісторыі сваёй сям'і.*

*Раман-успамін «Заблудныя» — гэта шэраг эсэ, якія аўтар стварыў на падставе апавяданняў сваіх бацькоў, блізкіх. Можна сказаць, гэта сямейныя паданні сям'і Амялішкаў, пераасэнсаваныя і запісаныя Міхасём Васільевічам. У іх раскрываюцца ўсе бакі чалавечага жыцця: праца і палітыка, каханне і злачынствы, вера людзей у Бога і светлую будучыню. Сям'я Амялішкаў, а таксама іх родныя Абрамчыкі — гэта звычайныя беларускія сем'і. Але якая ж цікавая іх гісторыя! Людзі, нягледзячы на перажытыя рэвалюцыі і войны, патрэбу зарабляць на штодзённы хлеб цяжкаю працай, цікавяцца мінулым сваёй краіны, літаратурай (галоўны герой успамінаў, Васіль, бярэ з сабою кнігу заўсёды, калі ідзе на абход сваёй дзялянкі лесу), кахаюць, ствараюць сем'і. Аўтар раскрывае нам таксама культуру ўзаемаадносінаў, якая панавала ў беларускіх сем'ях яго рэгіёну, пакуль не была знішчаная бальшавікамі.*

*У літаратуры пра жыццё ў Заходняй Беларусі мы прывыклі бачыць постаці змагароў з польскім прыгнётам, якія звязваюць лёс Беларусі, яе незалежнасць, з Савецкім Саюзам. Міхась Васільевіч паказвае іншы бок*

*заходнебеларускай рэчаіснасці. Яго героі — гэта людзі, якія прымаюць дзяржаўны лад Другой Рэчы Паспалітай. Яны жывуць у гэтай дзяржаве, займаюцца гаспадаркай, зарабляюць грошы, вучаць дзяцей, жэняцца. Аднак землякі і родныя Міхася Васільевіча — гэта не канфармісты, якія знаходзяцца на службе польскай дзяржаве. Яны мараць пра незалежную Беларусь, адкідаючы гвалтоўны шлях набыцця незалежнасці, ня вераць савецкай прапагандзе і шукаюць сваіх шляхоў для адраджэння Бацькаўшчыны.*

*Няхай ёсць у кнізе М. В. Амялішкі і пэўныя хібы. Аднак каштоўнасць успамінаў — у іх шчырасці, дакладнасці апісання падзеяў. Гэтую дакладнасць аўтар спалучае з пэўнаю гістарычнаю рэканструкцыяй, укладае ў вусны сваіх герояў важныя звесткі пра гісторыю Беларусі, тагачасную палітычную сітуацыю ў свеце і г. д. Міхась Васільевіч уплятае сваю «малую гісторыю» у «вялікую гісторыю» свету, паказваючы неадрыўнасць пакаленняў беларусаў ад свайго мінулага.*

*Хтосьці можа задаць пытанне: ці варта было пісаць чарговую кніжку ўспамінаў, бо столькі ўжо напісана пра Заходнюю Беларусь? Ці ўспаміны М. В. Амялішкі могуць прынесці нешта новае? Мой адказ: не толькі Міхасю Васільевічу варта пісаць, але кожны мусіць пачаць пісаць свае ўспаміны, гісторыю сваёй сям'і, горада, мястэчка, каб захаваць для нашчадкаў кавалак нашай гісторыі, нашай Бацькаўшчыны.*

*Айцец Андрэй Крот*

www.kamunikat.org



*Маім бацькам Васілю Андрэевічу*
*і Надзеі Аляксандраўне прысвячаю*

# Частка • 1

# ГАЁВЫ

## 1. Гаёвы злавіў першага незаконнага парубшчыка

Васіль спаў неспакойна. Варочаўся з боку на бок, не мог заснуць. Яго жонка Надзя прачыналася, казала з папрокам:

— Васіль, што такое, ты не спіш? Усё круцішся ды круцішся, мне спаць не даеш.

Заўвагі Надзі не аспрэчваў. Маўчаў. Штось хвалявала.

Учора памешчыцу Слізнёву наведаў ляснічы з Нясвіжа, запрасіў гаёвага і сказаў:

— Пан гаёвы, трэба старанна ахоўваць лес, лавіць і штрафаваць зладзеяў, якія самавольна высякаюць дрэвы на даручаных вам участках. Калі не прымеце належных мер, то за страту лесу будзем штрафаваць вас.

Як толькі з'явілася дзянніца, Васіль падняўся. Узяў на кухні кужэльны ручнік, мыла, пайшоў на ганак. Ля страхі стаяла дубовая бочка, поўная сцюдзёнай дажджавой вады. Памыўся. Адчуў сябе бадзёрым. Вярнуўся на кухню, там закусіў вяндлінай з хлебам, запіў кіслым малаком і пайшоў у лес. Надзя і дзеці спалі. Ён вырашыў пайсці ў бліжэйшы ўчастак лесу. Спадзяваўся прыпыніць самавольныя высечкі дрэў, бо менавіта гэта і было галоўным абавязкам гаёвага.

У аднавяскоўцаў спакон веку бытавала такое выслоўе: «Хто ў лесе не злодзей, той у хаце не гаспадар», таму сяляне ехалі ў лес, высякалі дрэвы, якія падабаліся ім, і не думалі, што яны робяць шкоду — крадуць. Васіль ішоў і разважаў, а што ён будзе рабіць, калі зловіць злодзея.

На ўсходзе святлела. Да ўскрайку лесу заставалася каля сотні метраў, калі Васіль заўважыў на траве свежы след воза, які цягнуўся ад лесу ў напрамку вёскі Бортнікі. Спачатку хацеў ісці па следзе, а калі падумаў,

то пайшоў у адваротным кірунку. Уважліва пачаў сачыць, і след завёў яго ў глыб лесу. Агледзеўся. Заўважыў свежапрыгнутыя, паламаныя кусты падлеску. Убачыў пень, наспех прыкрыты ігліцай і мохам. Памераў дыяметр пня і запісаў у адмысловы нататнік: 30 сантыметраў. Галля паблізу не было. Заўважыў сляды босага чалавека, якія вялі ў гушчар да акопа, выкапанага жаўнерамі нядаўняй сусветнай вайны. Там знайшоў прыкрыты сушняком вяршок і галіны свежаспілаванай сасны. Калі добра развіднела, праз некалькі метраў ля пня гаёвы ўбачыў адбітак камля сасны і сьляды чалавека ў лапцях, а справа — сляды босага, а паміж імі пілавіны з абодвух бакоў. Зноў праз такую ж адлегласьць знайшліся такія ж сляды. Апошнія засталіся там, дзе адпілавалі верх сасны. Уважліва разгледзеў усё, убачыў месца, дзе стаяў воз. Канчаткова ўпэўніўся, што зладзеяў было двое, і пайшоў па следзе. Чым далей адыходзіў ад лесу, тым больш ягоныя боты пакрываліся буйнай расой. Па народнай прыкмеце, гэта сведчыла, што сёння будзе добрае надвор'е.

Неўзабаве сляды на траве скончыліся. Далей яны ішлі ў напрамку вёскі Бортнікі па палявой дарозе. Каб след іншымі фурманкамі не зацёрся, трэба было ісці як мага хутчэй — злавіць парушальніка.

Сонейка ўсё вышэй і вышэй падымалася над гарызонтам.

На ўсход ад дарогі быў вялікі кавалак зямлі памешчыцы пані Слізнёвай, а на ўскрайку — гай з невялікім азярцом. Увесну адтуль былі чутны спевы салаўя і зязюлі. Цяпер жа, калі пачаліся сялянскія палосы, спевамі вылучаўся жаўрук, які даваў «сольны нумар» і апускаўся на зямлю — сціхаў. Тут жа другі падхопліваўся з гнязда, выконваў сваю частку праграмы, якой кіраваў нябачны дырыжор. Скончыўшы спевы, ён вяртаўся ў свой «дом», а працягваў спяваць жаўрук-сусед. Такія спевы слухаў гаёвы.

Васіль ішоў хутка і неўзабаве адчуў, што яму становіцца горача. Расшпіліў гузікі форменнага кіцеля. Канцэрт жаваранкаў скончыўся, як толькі ляснік падышоў да вёскі.

У двары хаты, куды прывёў след, пачаўся страшэнны брэх сабакі. На лямант з хаты выйшаў гаспадар і змікіціў, што да яго завітаў непажаданы госць — ляснік. Акурат на ягоным участку гаспадар мінулай ноччу спусціў сасну, якая тут жа, папілаваная на кавалкі, ляжыць на калёсах.

— Добры дзень, гаспадару! — прывітаўся Васіль.

— Не, сёння пачынаецца дрэнны дзень! Не чакаў я цябе ў такі ранні час. Што цяпер будзем рабіць, я не ведаю. Я ў тваіх руках. Мудрае выслоўе гаворыць: можаш мяне караць ці мо мілаваць, — адказаў гаёваму Андрэй Таркайла, гледзячы наўпрост яму ў вочы. Меркаваў гэтым самым выклікаць у свядомасці Васіля спачуванне свайму ўчынку.

— Як што? Ты, галубок, папаўся, — паказаў Васіль рукой на воз, дзе ляжала сасна, — гэта табе не хаханькі, а сапраўдны доказ тваёй віны. Цяпер будзем пісаць пратакол, а пасля накіруем яго ў суд, які вырашыць, якую кару табе прыйдзецца панесці за шкоду.

Андрэй падумаў, што настаў час прасіць лесніка дараваць яму ўкрадзенае.

— Пан Васіль, можа быць, мы з табою дамовімся па-добраму. Не пішы ты на мяне гэты пратахол. Ты добра ведаеш, якія мы зараз багатыя. Хлеба ў хаце нямашака. Перабіваемся бульбай, дык і тая ўжо на зыходзе. А сям'я ў мяне вялікая. Дзяцей пяцёра. Іх жа трэба карміць. Спілаваць гэтае дрэва прымусіла нішчымніца. Хацеў зрабіць з яго хляўчук, дзе меркаваў завесці парсючка ды пазбавіцца ад паўсядзённай нястачы. Зямлі маю ўсяго каля двух гектараў, ды і тая цягнецца ў вузкіх шнурох ад адной дарогі да другой. Толькі кароўка і ратуе нас ад голаду.

— За твае злачынства табе прыйдзецца разлічвацца сваёй каровай або канём.

— Пабойся Бога, пане гаёвы, — сказаў Андрэй, — тады мы ўсе памрэм з голаду, калі ў нас забяруць нашу карміліцу, а тым больш каня.

— Ну, што ж, трэба было думаць, перш чым ісці на такі рызыкоўны крок! Надоечы да мяне прыязджаў ляснічы з Нясвіжа і папярэдзіў, што ягоны памочнік — аб'ездчык — заўважыў: у падпарадкаваным мне абходзе здараюцца самавольныя высечкі дрэў. За гэта хтосьці павінен разлічвацца. Калі не злаўлю злодзея, то мне самому прыйдзецца плаціць за шкоду.

Андрэй канчаткова зразумеў, што яму не выкруціцца ад пакарання…

Толькі што адбылася мірная дамова Расіі і Польшчы аб раздзеле Паўночна-Заходняга краю на часткі: заходнюю, што ўвайшла ў склад Польшчы і атрымала назву Wschodnie Kresy, і ўсходнюю, з якой бальшавікі «зляпілі» БССР.

У дзевятнаццатым годзе Саветы ваявалі з палякамі і акупавалі наш край. Андрэй Таркайла пачуў лозунг: «Уся зямля сялянам, а фабрыкі і заводы — рабочым». Мясцовыя людзі паверылі, што калі ўсталюецца гэтая ўлада, яны атрымаюць зямлю дарма. Гэта была мара беззямельных і малазямельных сялян. І гэтая абяцанка моцна засела ў іх галовах. Таму многія сяляне добраахвотна ішлі ў Чырвоную Армію ваяваць, бо спадзяваліся атрымаць зямлю і не ведалі, што дармавы сыр бывае толькі ў пастцы. Сярод гэтых людзей быў і Андрэй Таркайла, які моцна паверыў у бальшавіцкія лозунгі і чакаў здзяйснення гэтага цуда. І як толькі ён папаўся, то, каб выкруціцца ад пакарання, вырашыў выкарыстаць свой апошні шанец:

— Ну што ж, прыйдзецца разлічвацца за гэтае дрэва, але ж калі ў нашым краі зменіцца ўлада, дык што ляснік пад час змены яе мне скажа?

— Не хвалюйся за мяне, улада ўсталявалася моцная, і ты мяне гэтым не спалохаеш. Тым больш, што я не з палахлівых, знаходжуся на дзяржаўнай службе. Адкруціцца табе не ўдасца — будзем складаць пратакол.

На гэтым іх размова скончылася б, каб да яе не далучыліся жонка Андрэя Анюта і старэйшы сын Іван. Яны пачалі, перабіваючы адзін аднаго, упрошваць лесніка спыніць справу і дараваць узятую ў лесе толькі адну сасну. Аднак Андрэй зневажальна сказаў:

— Сціхніце! Дурні, вы нічога не разумееце.

Васіль дастаў кішэнны метр. Зрабіў замеры камля сасны на возе і запісаў у свой нататнік. Упэўніўся, што дыяметр пня і камля супалі. Пачаў пісаць. Пры замерах і складанні пратакола прысутнічаў запрошаны гаёвым у якасці сведкі сусед Андрэя Хведар Жанкевіч, па вулічнаму Баўдзей. Неўзабаве пратакол быў напісаны, і на гэтым справа была скончана. Атрымаўшы неабходныя подпісы-крыжыкі, ляснік пайшоў дахаты.

Сонца ўздымалася пад поўдзень. Са з'яўленнем травеньскага цяпла дрэвы і расліны канчаткова прачнуліся ад зімовай спячкі. Наступіла пара росквіту каштанаў, усялякіх колераў бэзу і многа чаго іншага. Васіль ішоў і захапляўся цудамі прыроды, свабодна дыхаў. Паветра ўзбагачалася водарамі ад цвіцення дрэў, лугавых і лясных красак.

Пасля зімовай нястачы корму надышоў час, калі жывёла на пашы наядалася ўдосталь. Настала спрыяльная пара развіцця ўсяго жывога пасля працяглай зімы.

Васіль ішоў і разважаў, як быць далей. Яму шкада было сям'ю Андрэя. Дзеці малыя, ім жыць і есці штосьці трэба. А з другога боку, ён засердаваў на Андрэя за ягонае папярэджанне адпомсціць гаёваму, калі бальшавікі зноў прыйдуць да нас. На самой справе, так было некалькі гадоў таму. Не паспелі прыстасавацца да адной улады, як яна змянілася на іншую. І ў гэтыя безуладныя дні помслівыя людзі пачыналі чыніць самасуд над «крыўдзіцелямі». Андрэй Таркайла праўду кажа. Так бывала не раз. «А што, сапраўды, можа, лепш дараваць Андрэю ягонае злачынства? А як быць з работай? Прыйдзецца сысці з пасады, якую пасля чатырохгадовага беспрацоўя ўдалося атрымаць. Не, гэта мне не падыходзіць. Злодзею прыйдзецца разлічвацца за самавольна спушчаную сасну».

Васіль так задумаўся, што не заўважыў, як апынуўся ля свайго хутара ў Бортніках. На ганку дома яго нецярпліва чакала Надзя.

— Васіль, дзе ж ты блукаеш? Прыходзіў бацька, хацеў з табою аб чымсьці пагутарыць. Сядзеў можа з гадзіну, а пасля сказаў, што ўвечары загляне. Сёння яго чарга пасвіць кароў.

— Мая даражэнькая, ці ж ты не ведаеш, якія ў мяне службовыя абавязкі? Я ж мушу ахоўваць дзяржаўны лес, лавіць і штрафаваць зладзеяў, якія самавольна высякаюць дрэвы.

— Васіль, я ўсё добра ведаю. Але ж абед, а цябе ўсё няма і няма. Я ўсё згадвала, што гэта з табою здарылася? Дзеці не адзін раз выбягалі на тваю сцежку, каб паглядзець, ці не ідзе татка. Не дачакаўшыся, мы папалуднавалі.

Што ж гэта мы стаім на ганку? — схамянулася. — Хадзем, я цябе пакармлю. Сёння тваё любімае шчаўе з вэнджанымі свінымі рабрынамі.

Яны ўвайшлі ў кухню. Надзя зачарпнула кубак вады з вядра, паднесла кавалак мыла і пачала палівацьВасілю на рукі над мядніцай. З асалодай

ён намыльваў іх, змываў бруд, а пасля намыліў твар, шыю і з характэрным фырканнем умыўся. Надзея падала ручнік. Няспешна выцерся, сеў за стол, дзе ўжо стаяла талерка шчаўя, з апетытам пачаў есці. Пад'еўшы, пачаў расказваць сваёй сяброўцы:

— Сёння ў Храмушы сасну спусцілі: ноччу, да свету, папілавалі на кавалкі і прывезлі на падворак. Гэта былі Андрэй Таркайла з сынам Іванам з Бортнікаў. Злавіў іх, як кажуць, за руку.

І ён падрабязна расказаў Надзі пра ўсё. Уважліва выслухала яго, заклапочана параіла:

— Васіль, я баюся, што Таркайла не дарма гразіцца. Андрэя добра ведаю. Мы ж з ім з адной вёскі. Будзе выкручвацца, як вуж. Ён заўсёды быў завадатарам у любой хлапечай кампаніі, нікому не дараваў крыўды. Паслухай, што я табе скажу, Васіль: мусіць, твой бацька і хацеў цябе папярэдзіць, каб не звязваўся.

— Калі ішоў дахаты, то думаў, ці не дараваць яму крадзеж адной сасны. Хацеў парваць пратакол. Ды калі так зраблю, то абавязкова аб гэтым парушэнні стане вядома ў лясніцтве. Там палічаць, што я злодзею патураю і тым самым дапамагаю раскрадаць лес, і прыцягнуць мяне разам з ім да судовай адказнасці. Суд прызнае і мяне вінаватым. Назначыць мне штраф, а лясніцтва звольніць з працы. Вось што чакае мяне, калі прыкрыю гэтае злачынства. І ў той жа час, каб выкруціцца, Андрэй страшыць мяне распраўай пад час змены ўлады. Тут я буду кіравацца прымаўкай: «Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць». Злачынца павінен несці пакаранне.

Адпачыў нейкі час. Потым узяў пратакол і пайшоў у Вальнянскую гміну. Войт Сядлецкі ўважліва азнаёміўся з пратаколам і сказаў:

— Гэты пратакол трэба адвезці ляснічаму ў Нясвіж. Там вырашаць, што з ім рабіць.

## 2. Успаміны Васіля аб прызначэнні яго гаёвым

Васіль успамінаў, як ён у 1922 годзе ішоў у палац пані Слізнёвай уладкоўвацца лесніком. Было гэта так. Андрэя Амялішку, бацьку Васіля, калі ён ішоў па сваіх службовых справах у вальнянскую царкву, сустрэла гаспадыня маёнтка пані Ядвіга Слізнёва і, прывітаўшыся з царкоўным старастам, спытала:

— Пане староста, ці можна Вас затрымаць на хвіліначку?

— Я слухаю Вас, шаноўная пані Ядвіга.

— Пане Андрэй, я хацела б запрасіць Вас да сябе ў палац і параіцца па некаторых пытаннях. Ці маеце час, каб удзяліць некалькі хвілін мне?

— Так, шаноўная пані, маю.

Каб пазбавіць царкоўнага старасту ад гадання, чаму гэта раптам пані запрашае яго да сябе ў палац, Ядвіга вырашыла падрыхтаваць Андрэя:

— Пане Андрэю, да мяне прыехаў мой знаёмы, ляснічы з Нясвіжа, пан Эдвард Струмінскі, і прасіў мяне пазнаёміць яго з самым аўтарытэтным чалавекам вёскі Вольна, каб вырашыць некалькі пытанняў. Я падумала, што такім чалавекам можа быць толькі паважаны пан Андрэй.

Тут яны падышлі да палаца. Пані Ядвіга загадала лёкаю правесці Андрэя ў гасціны пакой і запрасіць туды пана Эдварда.

Трэба нагадаць, што Андрэй упершыню наведаў палац па выкліку бальшавіцкага камісара, які размясціўся там разам са сваім штабам пад час наступу на Варшаву. А пані Слізнёва і яе дачка, панна Марыя, каб пазбегнуць бальшавіцкіх рэпрэсій, вымушаны былі са сваімі блізкімі пакінуць свой маёнтак — з’ехалі на захад.

Андрэя запрасілі, каб ён дапамог размясціць на начлег кавалерыйскую часць. І вось тады ён упершыню трапіў у гэты пакой і назіраў яго багатае ўбранства. Зараз ён бачыў зусім іншае: кудысьці знікла мэбля, якая ўпрыгожвала яго. Аконныя рамы былі пашкоджаны. Адным словам, пасля бальшавіцкага гаспадарання быў неабходны рамонт.

Неўзабаве ў пакой увайшлі пані Ядвіга і ляснічы. Пані Ядвіга пазнаёміла старасту Андрэя з ляснічым, які звярнуўся да яго:

— Пан стараста, я звяртаюся да вас з просьбай ад імя павятовага Нясвіжскага лясніцтва дапамагчы нам знайсці прыстойнага чалавека на службу гаёвым двух участкаў дзяржаўнага лесу: Храмушаў і так званага Мітрапольскага. Пажадана, каб будучы гаёвы быў адукаваным. Я прашу вас, пане Андрэю, не пазней за заўтрашні абед прыслаць сюды ў палац чалавека, якога вы прапануеце ў гаёвыя.

Як толькі пан Струмінскі закончыў, пані Ядвіга сказала:

— Прабачце, пан ляснічы, а я хачу папрасіць пана Андрэя, каб ён дапамог мне знайсці сталяра, які б кваліфікавана замяніў рамы вокнаў у маім палацы. Я чула, што ваш сын Базыль да вайны набыў кваліфікацыю сталяра-чырвонадрэўшчыка і зараз рамеснічае. Падумала, а ці не даручыць яму выканаць мой заказ. Настаў час заняцца ліквідацыяй тых страт, якія былі нанесены палацу мінулымі падзеямі.

— Паважаныя панове, я зараз не змагу адказаць на вашыя пытанні, бо мне трэба параіцца з сынам Васілём, які мае значна большую адукацыю, чым я.

Ён з гордасцю расказаў прысутным аб поспехах у вучобе свайго сына Васіля і працягнуў:

— Ён можа выканаць ваш заказ, пані Ядвіга. А што тычыцца вашай прапановы, пан ляснічы, то мне таксама патрэбна параіцца з сынам. Магчыма, ён пагодзіцца заняць пасаду гаёвага ў бліжэйшым часе.

Вярнуўшыся дахаты, Андрэй сустрэў сына і падрабязна расказаў яму і ягонай жонцы Надзеі аб сваёй сустрэчы з паняй Слізнёвай і аб тых прапановах, якія ён там пачуў.

Даведаўшыся аб тым, што ёсць магчымасць уладкавацца лесніком, Васіль, параіўшыся з жонкай і бацькамі, на наступны дзень а дванаццатай гадзіне дня прыхапіў усе неабходныя дакументы і пайшоў у палац на сустрэчу.

На стук у парадныя дзверы палаца выйшаў лакей і правёў Васіля ў гасціную. Там яго чакаў ляснічы. Васіль, увайшоўшы ў пакой, спытаў:

— Ці можна мне ўвайсці, пане ляснічы?

— Можна, заходзьце. Па усіх прыкметах гэта і ёсць пан Базыль Амялішка.

— Так, гэта я.

— Сядайце, калі ласка, і пакажыце вашы дакументы аб адукацыі і ўсё, што вы з сабою прыхапілі.

Васіль аддаў пану Струмінскаму пасведчанні аб заканчэнні Гарадзішчанскага рэальнага вучылішча і атрыманні за царскім часам спецыяльнасці чырвонадрэўшчыка Ракаўскага сталярнага вучылішча. Уважліва прагледзеўшы іх, ляснічы застаўся задаволены, што Базыль мае такую грунтоўную падрыхтоўку. Запытаў:

— A czy pan Bazyl rozmawia po-polsku?

— Porozumieć sie mogę, a pisać nie.

— У такім разе, калі пан Базыль пагодзіцца заняць пасаду гаёвага, то яму прыйдзецца самастойна навучыцца не толькі размаўляць, але і пісаць на польскай мове.

— Я мяркую, што мне гэта будзе не складана, бо як лінгвістычныя, так і матэматычны навукі мне даюцца лёгка.

— Вось і добра. Я лічу, што вы на пасаду лесніка падыходзіце, і я вас прызначу гаёвым дзялянак Храмушы ля вёскі Вольна і Мітрапольскага лесу поруч з вёскай Росаш. Як толькі будзе загад аб прызначэнні вас на пасаду гаёвага, то мы вас запросім на курсы, дзе вы атрымаеце ўсе неабходныя настаўленні, — падвучым і праінструкціруем. Зараз канец траўня, а прызначыць вас на пасаду я мяркую са студзеня новага 1923 года.

У гэты момант у пакой увайшла пані Ядвіга і прывіталася:

— Дзень добры панству!

Потым звярнулася да Васіля:

— Я даўно чула аб тым, што ў царкоўнага старасты, пана Андрэя Амялішкі, ёсць здольны старэйшы сын, які атрымаў нядрэнную адукацыю, удзельнічаў у вайне, быў паранены і зараз працуе сталяром. А вось размаўляць з ім мне прыходзіцца ўпершыню. Я ўчора прапанавала пану Андрэю, каб ягоны сын пагадзіўся замяніць папсаваныя рамы вокнаў у маім палацы. А цяпер я пытаюся ў пана Базыля, ці згодны ён выканаць такую складаную работу.

— Пані Ядвіга, за апошнія гады пасля вяртання са шпіталя мне прыходзілася рабіць рамы дома ў крамніка Бэрка, вядомага гандляра ў

Гарадзішчы, і ў іншых. Аб якасці маёй працы вы можаце даведацца ў яго.

Пані Ядвіга ведала, што Васіль вырас у прыстойнай сям'і, і вырашыла даручыць яму такую адказную работу, як замена рам у сваім палацы.

— Пане Базылю, я згодна наняць вас старшым сталяром і прасіць, каб вы да новага года замянілі рамы вокнаў майго палаца. Мяркую, што вам аднаму выканаць такі заказ будзе не пад сілу. Прапаную самому знайсці кваліфікаванага памочніка з мясцовых. Усім неабходным для работы — майстэрняй, лесам і інструментам — забяспечыць вас кіраўнік спраў маёнтка. Усе дробязныя пытанні будзеце вырашаць з ім.

Васіль узяўся за выкананне заказу старанна і з адказнасцю. Пані Ядвіга загадала свайму аканому набыць усё неабходнае для паспяховага заканчэння работы, і Васіль прыступіў да працы ў адмысловай майстэрні на тэрыторыі маёнтка.

Хадзіць на працу было недалёка: хата ягонага бацькі была за паўкіламетра ад палаца. Перш чым пачаць працаваць, Васіль вырашыў запрасіць памочнікам свайго сябрука Адася Рудамана, з якім ён вучыўся разам у Вальнянскай царкоўнапрыходскай школе. Бацька Адася быў вядомы ў Вольнай сталяр, майстар сваёй справы, ды апошнім часам хварэў. Ён перадаў сыну сваё майстэрства. Адасю падабалася сталярная праца, аднак ён не меў той падрыхтоўкі, якую Васіль набыў у вучылішчы. Калі пры сустрэчы ў майстэрні з паняй Ядвігай Васіль прапанаваў узяць на працу ў якасці памочніка Адася, яна пагадзілася, таму што добра ведала ягонага бацьку Івана: ён часта выконваў сталярныя заказы ў маёнтку.

## 3. Аўгусцін Абрамчык успамінае

Скончыліся войны. Паўночна-Заходні край па Рыжскай дамове 1921 года быў падзелены на дзве часткі: усходнюю і заходнюю. Васілю з сям'ёй лёсам наканавана было застацца жыць у Польшчы.

Аўгусцін Абрамчык, дзед жонкі Васіля, працаваў у маёнтку Слізняў кіраўніком спраў. Ота Слізень выдзеліў яму службовы дом у маёнтку Вольна, дзе ён жыў з сям'ёю. Карыстаўся панскай бібліятэкай, цікавіўся гісторыяй нашага краю, а калі выйшаў на пенсію, то Слізні падарылі яму на ўскрайку вёскі Бортнікі пусты хутар з трыццаццю гектарамі зямлі, домам і ўсімі гаспадарчымі забудовамі. Надзін дзед Аўгусцін меў неблагую адукацыю, паходзіў з сям'і збяднелай шляхты. А як шмат ведаў, то й любіў расказваць сваім унукам пра гісторыю роднага краю.

Вёска Вольна за часамі Вялікага Княства Літоўскага атрымала вольны прывілей за ўдзел яе жыхароў у войнах. Гэтым, відавочна, тлумачыцца яе назва — «Вольна». Кожная сям'я гэтай вёскі надзялялася адной валокай зямлі (больш чым дваццаць гектараў). Гэта адбывалася ў пачатку 17-га ста-

www.kamunikat.org

годдзя. Па дамове з дзяржавай жыхары Вольнай бралі на сябе абавязак старанна апрацоўваць зямлю, мець добрых коней і ўсё неабходнае для таго, каб пастаўляць абаронцаў на войны, якія прыходзілася весці ВКЛ. Маладыя, здаровыя сяляне на загад старэйшын-князёў сядалі на каня і абаранялі радзіму. Многія ў тых войнаў гінулі. Гэта было да тых часоў, пакуль Літва мела сваю дзяржаўнасць. З цягам часу сем'і раслі, нараджаліся новыя абаронцы, што патрабавала перадзелу зямлі. Так з былых валокаў узнікалі палосы, і да пачатку 19-га стагоддзя валокі ператварыліся ў «шнуры». Большасць жыхароў вёскі Вольна належалі да грэка-каталіцкай канфесіі, і ў 1786 годзе яны пабудавалі ўніяцкую царкву і ля яе Базыльянскі кляштар.

Вядома, што Польшча і Літва заключылі саюз і ў 1569 годзе ўтварылі агульную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Вяршэнства ў гэтай дзяржаве мелі палякі. Дзевяноста працэнтаў насельніцтва нашага краю былі грэка-каталікамі, а астатнія належалі да іншых канфесій.

Калі адбыўся захоп нашых земляў Кацярынай II, Літва як дзяржава канчаткова страціла сваю самастойнасць: сілком была далучана да Расіі і атрымала назву «Северо-Западный край» з Гарадзенскай, Мінскай, Ковельскай, Віцебскай, Магілёўскай, Смаленскай і Гомельскай губернямі. Паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі ў канцы 18-га стагоддзя было жорстка раздушана царскімі войскамі пад камандаваннем Аляксандра Суворава. Наш край вайной далучылі да Расіі. Пануючай рэлігіяй у Расіі было праваслаўе, таму цар Мікалай I у 1839 годзе грэка-каталіцкую канфесію на прасторах Расійскай Імперыі забараніў. Уніяцтва пагражала канкурэнцыяй праваслаўю і падпарадкоўвалася Ватыкану, а не маскоўскай патрыярхіі, што не падабалася царскай уладзе. Большая частка сялян была сілком пераведзена ў праваслаўных, а меншая, больш заможная — шляхта і памешчыкі — перайшла ў рыма-католікі, бо лічыла, што рыма-каталіцкая канфесія ім бліжэйшая за праваслаўную.

Уніяцкія храмы былі зачынены і прыстасаваны пад праваслаўныя цэрквы. Усялякае супраціўленне гэтаму рашэнню царскіх улад жорстка каралася. Сем'і маіх прадзедаў сілком перахрышчаны ў праваслаўныя, а памешчыкі Слізні перахрысціліся ў рыма-каталікі і пачалі наведваць касцёл у мястэчку Паланэчка. Калі Васіль з Надзеяй аддзяліліся ад бацькоў і пераехалі на хутар Бортнікі ў траўні 1929 года, то па нядзелях наведвалі царкву ў Вольна на ўласным возе. Наведваць царкву прыходзілася па чарзе: асаблівасць сельскагаспадарчай вытворчасці патрабавала некаму заставацца дома, каб даглядаць гаспадарку.

www.kamunikat.org

## 4. Паездка Васіля ў Нясвіжскае лясніцтва

Раніцай наступнага дня Васіль запрог свайго любімага каня Варанка, узяў неабходнае і паехаў у лясніцтва. На пераезд канём ад Бортнікаў да Нясвіжа патрабавалася выдаткаваць пяць-шэсць гадзін. Васіль не любіў хутка ехаць — шкадаваў каня.

Дарога ў лясніцтва праходзіла праз мястэчка Сноў. Там па нядзелях і па асабістых днях адбываліся вялікія кірмашы. Прыязджалі сяляне з бліжэйшых вёсак, прывозілі туды ўсё, што можна было збыць, каб атрымаць прыбытак ад сваёй нялёгкай працы: жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, грэчку, гарох і іншае. Вялі на продаж коней, кароў. Везлі на вазах авечак, свіней, індыкоў, гусей, качак, курэй — усё, што было выгадавана ў гаспадарцы. Звычайна сюды ў гэтыя дні прыязджалі купцы з больш аддаленых гарадоў Польшчы і нават з замежжа. Праўда, з-за ўсходняй мяжы купцоў не было. Там купцы і гандляры былі ліквідаваны рашэннем генсека Осіпа Джугашвілі па мянушцы Сталін. Гандаль Саветаў з Польшчай калі і адбываўся, то на ўзроўні афіцыйных дзяржаўных структур.

Прыезджыя купцы набывалі вялікімі партыямі коней, кароў, свіней, загружалі ў вагоны на бліжэйшай чыгуначнай станцыі Хвоева.

Васіль заехаў на кірмаш і пацікавіўся навінамі, бо Надзя дала яму наказ:

— Па дарозе, Васіль, заедзь у Сноў на кірмаш і пацікаўся, колькі зараз каштуюць парасяты.

Сноў і ягонае наваколле адрозніваліся ад іншых мястэчак. Тут былі спрыяльныя ўмовы развіцця сельскай гаспадаркі, урадлівыя глебы, таму і кірмашы заўсёды былі багатыя.

Спытаў у некалькіх прадаўцоў, па якой цане прадаюцца парасяты. Васіль зразумеў, што можна было б купіць іх даволі танна, калі б ён ехаў сёння дахаты. Але ён меў іншую мэту — ехаць у лясніцтва. На кірмашы было шмат парасят, а пакупнікоў мала. Большасць з іх прыцэньваліся, а купляць не спяшаліся. Васілю трэба было хутчэй ехаць да Нясвіжа. Да месца неабходна было пераадолець яшчэ больш за дваццаць кіламетраў. Набліжаўся поўдзень. Васіль ведаў, што прыйдзецца начаваць у Нясвіжы — у Ёселевым заезным двары.

Калі выехаў на шашу ў патрэбным напрамку, то апынуўся ў зусім іншым асяроддзі: абапал павольна «плылі» яму насустрач палі рознай збажыны, гаі, пералескі, пашы са статкамі коней, кароў і нават свіней. Сяляне з больш аддаленых вёсак яшчэ ехалі на кірмаш. Везлі на вазах свіней і птушак у адмысловых закратаваных скрынях, праз адтуліны якіх можна было разгледзець усё, што ехала насустрач. Чым болей ён аддаляўся ад Снові, тым менш і менш было сустрэчных фурманак. Ехалі насустрач толькі тыя, хто не любіў рана ўставаць, таму і пазніўся на торг, разважаючы: паспею.

У гэтую травеньскую пару наваколле чаравала Васіля. Яго сустракаў своеасаблівы хор птушак, з замілаваннем слухаў ён спеў салаўя, праяз-

www.kamunikat.org

джаючы ля ракі Вуша. Васіль па натуры быў улюбёным у паэзію, ведаў на памяць шмат вершаў Пушкіна, Някрасава, Кальцова, з якімі пазнаёміўся ў царкоўнапрыходскай школе, рэальным вучылішчы мястэчка Гарадзішча і сталярным вучылішчы Ракава непадалёк ад Менску, дзе вучыўся пры цары.

З цікаўнасцю назіраў за тым, як мяняюцца колеры ўбораў дрэў. Сваім дзецям ён, калі меў вольны час, заўжды расказваў аб захапленні лесам, яго бясконцым чараўніцтвам, багаццем розных колераў дрэў і ўсіх раслін, красак, розных ягаднікаў у пару іх росквіту. Увесь гэты цуд хваляваў яго. І колькі б разоў ні бываў там, ён заўжды адкрываў новае, раней не заўважанае. Дапаўнялася ўся гэтая прыгажосць спевамі птушак: вось самец, стварыўшы сям'ю, уладкаваў самку на гняздо, а сам сваім спевам зачароўвае сваю «каханую» да тых часоў, пакуль не з'явяцца птушаняты і не пакінуць свой дом.

Васіль любіў мастацкую літаратуру, чытаў кніжкі, якія яму траплялiся ў рукі. Як толькі ўсталявалася мірнае жыццё, самастойна авалодаў польскай мовай і свабодна карыстаўся ёю. Нягледзячы на пару года, на тое, што настаў час, скажам, скасіць атаву, чытаў захапіўшую яго кніжку — лічыў, што чарговая праца можа быць выканана пазней. Але калі ўзнікала тэрміновая справа, напрыклад, рой пчол вылецеў з вулля і яго тут жа трэба злавіць, то ён, зразумела, адкладваў чытанне, рабіў тое, што належала выканаць проста цяпер. Надзя часта яго папракала:

— Васіль, чаму ты не займаешся карыснай справай, а ў гарачую летнюю пару чытаеш кніжкі?

Надзея лічыла, што чытанне кніг недапушчальна летам, калі шмат іншых гаспадарчых работ патрабавалі свайго чарговага выканання

Захапленне цікавай кнігай бывала настолькі яму пажаданым, неабходным, што ён, калі ішоў у лес на службу, употай ад жонкі клаў у палатняную торбу з харчамі кніжку, знаходзіў сабе такое месца, дзе чутны былі толькі спевы птушак і шум дрэў, чытаў яе да канца і толькі тады ішоў і выконваў свае службовыя абавязкі.

А чацвёртай гадзіне па поўдні Васіль заўважыў на гарызонце вежы Нясвіжскага касцёла, а гэта азначала, што непадалёку Нясвіж. Заўсёды, калі сюды прыязджаў, любаваўся азёрамі, якія атачалі велічны замак Радзівілаў.

Азёры вакол замка на рацэ Вуша ўзніклі на працягу 15–16-га стагоддзяў. Іх спраектавалі замежныя спецыялісты. Рукамі прыгонных сялян на рацэ Вуша былі пабудаваны запруды. Васілю, зразумела, хацелася паглядзець на замак бліжэй, пазнаёміцца з яго багаццем. Аднак там жылі князі Радзівілы, і ніхто не меў права без спецыяльнага запрашэння знаёміцца з гэтай славутай мясцінай. Васілю дазвалялася паглядзець на цудоўны замак і на ягоныя паркі са значнай адлегласці. Улада Пілсудскага паважала маёмасныя правы памешчыкаў. Экспрапрыяцыі зямель і ўсіх уладанняў

www.kamunikat.org

гэтага старажытнага ліцвінскага княжацкага роду ў Польшчы не адбылося. Радзівілы працягвалі жыць у сваёй рэзідэнцыі і валодаць вялізнымі абшарамі беларускай зямелькі.

## 5. Васіль у Ёселя

Палюбаваўшыся здаля багатым квітненнем каштанаў і бэзу ў радзівілаўскім парку, Васіль рушыў на заезны двор, знайшоў месца каню з возам. У гэты момант на ганку дома з'явіўся гаспадар, жыд Ёсель. Падышоў да Васіля.

— Добры дзень, пане гаёвы. Рады вас бачыць у нас.

— Добры, — адказаў Васіль, і яны паціснулі рукі. — Пан Ёсель, скажыце, калі ласка, ці ёсць магчымасць сёння ў вас пераначаваць?

— Ведаеце што, сёння нядзеля і амаль увесь двор застаўлены фурманкамі, аднак для такога госця, як пан гаёвы, у мяне знойдзецца месца.

— У такім разе, з вашага дазволу, я спачатку распрагу каня, пакіну на гэтым месцы воз, адвяду каня да студні, напаю яго і прывяду на месца, забяспечу харчам і прыйду ў гасціную, — сказаў Васіль і пачаў распрагаць каня. Спачатку рассупоніў хамут. Выняў з гужоў дугу, прыхіліўшы яе да пярэдняга кола воза, і падвёў каня да калодзежа, вада з якога здабывалася «жураўлём» — доўгім бервяном, на канцы якога было прымацаванае драўлянае вядро, акутае жалезнымі абручамі, што нагадвала звычайную драўляную бочку, толькі значна меншых памераў. На процілеглым канцы бервяна калодзежа прымацавана грузіла для процівагі. Расцугляў каня. Пасля дарогі Варанок прагна выпіў амаль поўнае вядро. Студня была неглыбокая, таму што заезны двор знаходзіўся недалёка ад ракі Вушы. Напаіўшы каня, павёў яго да воза. Пасля трэба было завесці Варанка ў аглоблі галавой да воза і прывязаць. Развязаў пасак, які ўтрымліваў падсядзёлак, павесіў на шыю каню торбу з аўсом. Узяў з сабою харчы, якія падрыхтавала Надзя, пайшоў у гасціную. Яго сустрэў Ёсель

— Чым пана гаёвага можам пачаставаць?

— Падрыхтуйце мне кручок манапалькі, калі ласка, а закуску я маю сваю — мне жонка штосьці дала з сабою.

Сеў на вольнае месца за сталом, пачаў даставаць з сумкі і раскладваць на стале хлеб, згатаваныя яйкі, два кавалкі вяндліны з салам, якія перад Вялікаднем правэндзіліся ў хатняй вяндлярні і набылі пах ядлаўцовага дыму, чым і запахла на ўсю гасціную. Прысутныя сяляне, якія прыехалі на рынак, не маглі не спытаць:

— Паважаны пан гаёвы, як вам удалося так правэндзіць свініну, што яна так прыемна пахне?

www.kamunikat.org

Васіль з прыемнасцю раскрыў свае сакрэты па прыгатаванні вяндліны, дадаў:

— Шаноўныя, у асноўным прыгатаваннем вяндліны займаецца мая гаспадыня Надзея. Яна магла б больш дэталёва расказаць аб жаночых сакрэтах. — Васіль прапанаваў суседзям за сталом пакаштаваць ягоную хатнюю вяндліну. Некаторыя, больш смелыя з прысутных, узялі па кавалку, пакаштавалі, пахвалілі гаспадара і гаспадыню за цудоўны смак.

Пані Хая, жонка Ёселя, прынесла заказаны кручок гарэлкі і спытала:

— Выбачайце, можа, вам прынесці міску баршчу, які я толькі што згатавала?

— Не адмоўлюся. Калі ласка, прынясіце.

Праз некалькі хвілін прынесла поўную міску баршчу і сказала:

— Смачна есці.

Васіль падзякаваў і з апетытам пачаў спажываць. Да яго падышоў Ёсель. Васіль сказаў:

— Сядайце за стол, будзем разам частавацца. Мне аднаму есці не вельмі цікава.

Ёсель падзякаваў за запрашэнне, сказаў, што ён толькі што паабедаў.

— Калі так, то з вашага дазволу закончу палуднаваць, а то я зранку нічога не еў.

— Калі ласка, смачна есці, пане гаёвы.

## 6. Мясцовыя сяляне цікавяцца палітычнымі пытаннямі

Ёсель адышоў да другога стала, дзе сядзелі сяляне. Па іхняй вопратцы можна было здагадацца, што яны мясцовыя і малаадукаваныя. Пабывалі на базары, нешта прадалі і вырашылі схадзіць у заезны двор, выпіць чарку манапалькі і падсілкавацца — адным словам, адысці ад абыдзеншчыны, даведацца пра тое, што іх хвалявала. Спадзяваліся, можа, тут, у гэтым двары, яны атрымаюць адказы на жыццёва важныя пытанні. І калі падышоў Ёсель, то адзін з іх, смялейшы, спытаў:

— Пане Ёсель, скажыце, калі ласка, ці праўда тое, што Саветы за мяжой задарма аддаюць сялянам зямлю, а рабочым фабрыкі і заводы?

— Мае вы даражэнькія, я там не быў і нічога пэўнага сказаць вам не магу. Аднак я мяркую, што ў свеце няма такіх дурняў, каб камусьці раздаваць такія каштоўнасці, як зямлю, а тым больш задарма фабрыкі ды заводы.

А другі з прысутных сялян звярнуўся да Васіля:

— Пане гаёвы, вы часта бываеце ў лесе, а там можна сустрэць усялякіх людзей. Мабыць, вы ведаеце адказ на пытанне майго сябра?

Васіль, падсілкаваўшыся, устаў і адказаў:

— Выбачайце, мне зараз патрэбна схадзіць да воза.

Выйшаў на ганак. Заўважыў, што сонейка схіляецца да захаду, садзіцца ў хмару, што па народнай прыкмеце нагадвала змену надвор'я ў наступны дзень.

Вясна заканчвалася. Пакуль што не паспела нарадзіцца новае, больш агрэсіўнае пакаленне мух, аваднёў, камароў і іншай пошасці, якія нялітасціва нападаюць на жывёлу летам.

Ягоны Варанок з'еў усё, што было ў торбе, убачыў свайго гаспадара і прывітаў яго іржаннем, спадзяваўся, што атрымае на закуску чаго іншага. Васіль падышоў да воза, зняў з галавы каня торбу — яна была пустая, палажыў яе пад сядзенне. Ён загадзя паклаў на дарогу леташняй духмянай канюшыны, накрыў дзяружкай і выкарыстоўваў пад час язды як сядзенне. А цяпер узяў адтуль добры ахапак і палажыў каню. Васіль добра ставіўся да жывёлы, якая яму служыла. Перад тым, як пайсці ў гасціную, ён падышоў да каня (Варанок са смакам уплятаў канюшыну), пагладзіў яго па галаве.

— Ах ты, мой харошы, пачакай, я зараз цябе яшчэ напаю, і ты будзеш з большым апетытам частавацца.

Адвязаў сябра ад воза і павёў да калодзежа, напаіў. Гэтым разам Варанок выпіў значна менш. Упэўніўшыся, што ён добра ўладкаваны, гаёвы вярнуўся да сялян і далучыўся да іхняе кампаніі.

## 7. Расказ гаёвага

— Прашу прабачыць за мой адыход. Я павінен быў дагледзець каня. Вы мяне, панове, прасілі выказацца адносна таго, як за мяжой на ўсходзе ідзе раздача былой маёмасці: зямлі, заводаў і фабрык. Паслухайце, што я пачуў ад знаёмага, якому ўдалося ўцячы з-за мяжы і пасяліцца з сям'ёй у нашай вёсцы. Уцекачу пашэнціла. Магчыма, ён меў нейкія сродкі, бо набыў дзесяць гектараў зямлі, калі распрадаваўся былы маёнтак у Бортніках, і займеў сваю ўласную краму. Дзяліцца абы з кім пра падзеі там, за мяжой, ён чамусьці неахвотна. Амаль ніхто з вяскоўцаў не ведае, як яму ўдалося ўцячы з сям'ёй ад бальшавікоў, перажыўшы ўсялякія жахі і здзекі ад камбедаў і карных органаў ДПУ.

Аднойчы я ішоў з лесу пасля чарговага абыходу дзялянак. Чую, што мяне наганяе фурманка. Азірнуўся. Дык гэта ж пан Яўген Дашкевіч!

«Добры дзень пану Дашкевічу!»

Яўген затрымаў каня.

«Добры дзень пану гаёваму! Сядай, калі ласка, падвязу амаль дахаты. Нам удвох будзе весялей, — ён прыпыніў каня, я сеў з ім побач. — Еду з Баранавіч. Быў на кірмашы, прадаў сёе-тое, набыў прадукты і іншыя тавары ў сваю краму».

Адносіны да мяне ў яго былі больш адкрытымі. Уладкаваўшыся на вазок, я спытаў у яго:

«Пан Яўген, а што ж чуваць сёння на гэтым свеце? Як там за кардонам, ці бальшавікі надзялілі ўсіх сялян зямлёй, а рабочых зрабілі ўладальнікамі фабрык і заводаў?»

Задаў яму гэтае пытанне, таму што аднавяскоўцы, ведаючы аб маёй адукаванасці, пры сустрэчы са мной часцяком пыталі ў мяне аб тым жа, і я не ведаў, што ім адказаць.

«На тваё пытанне можна адказаць коратка: бальшавікі, каб перацягнуць на свой бок беднейшых сялян, а іх у нас, як і за кардонам, большасць, хлусліва заявілі, што яны пасля перамогі рэвалюцыі атрымаюць дармавую зямлю, а рабочыя — фабрыкі і заводы. Сяляне і рабочыя паверылі і дапамаглі бальшавікам захапіць уладу ў грамадзянскай вайне. Аднак зямлю, фабрыкі і заводы сялянам і рабочым аддаць не маглі, бо зразумелі, што без зямлі і прамысловасці страцяць уладу. З імі ніхто не будзе лічыцца, таму што яны не маюць уласнасці. І вось тут пачаліся цікавыя падзеі:правялі нацыяналізацыю зямлі, яна раптам стала дзяржаўнай. Адабралі зямлю і ўсю маёмасць у памешчыкаў і капіталістаў, а ў багатых сялян пачалі сілком адбіраць збожжа, каб накарміць галадаючых. Пачалася грамадзянская вайна. Правадыр Уладзімір Ульянаў, каб уратаваць насельніцтва ад голаду, увёў так званую новую эканамічную палітыку (скарочана НЭП). Раптам у Расіі перапыніўся голад — краіна пакрысе стала ажываць. З’явілася шмат уласнікаў як у сяле, так і ў гарадах, багатых людзей, якія самі распараджаліся сваёй маёмасцю. Сельская гаспадарка паступова станавілася на рынкавы шлях развіцця.

Пасля смерці Ульянава першым сакратаром адзінай правячай партыі становіцца грузін Осіп Джугашвілі — Сталін. Ён, маючы неабмежаваную ўладу, вырашае адабраць у сялян набытую імі ўласнасць і зрабіць яе дзяржаўнай. А робіцца гэта вельмі хітра. У сяле сілком утвараюцца агульныя гаспадаркі — калгасы. А каб яны былі створаны, забіраюць перш за ўсё зямлю ў заможных сялян, назваўшы іх кулакамі, і сілком перасяляюць такіх у раёны, мала прыгодныя для жыцця. Гэта робіцца дзеля таго, каб запалохаць і прымусіць астатніх «дабравольна» ўступаць у калгасы. Зямля пападае ў рукі старшынь калгасаў, якіх фактычна прызначае адміністрацыя. На памешчыцкіх землях узніклі чыста дзяржаўныя прадпрыемствы — саўгасы. Фабрыкі і заводы ўпраўляюцца дырэктарамі, стаўленнікамі адной і той жа адміністрацыі. Вось усё, што я ведаю аб тых падзеях, якія адбываліся за мяжой. А што робіцца там зараз, я не ведаю», — закончыў свой расказ пан Яўген.

Пад’язджаючы да майго хутара, Яўген прапанаваў мне купіць жонцы і дзецям свежы сітны пытляваны хлеб, якога мы не мелі. Я ведаў, як ён ім падабаецца. Мая Надзя сама пячэ цудоўны хлеб у печы на цагляным подзе

www.kamunikat.org

на лісцях капусты, хрэну ці дубу. Такая посцілка з лісця абараняе боханы ад забруджвання іх попелам і ўзбагачае водарам карысных рэчываў, якія перадаюцца хлебу пры выпечцы, надаюць своеасаблівую духмянасць. Я купіў бохан, развітаўся з панам Дашкевічам і пайшоў дахаты.

Вось тыя звесткі, якія пачуў ад перасяленца з-за кардона. Мяркую, што сваёй аповесцю адказаў на ваша пытанне.

— Значыць, з пабудовай супольных гаспадарак бальшавікі адабралі тую зямлю, якая адвечна належала сялянам. Так я разумею ці не? — спытаў адзін з прысутных.

— Фактычна, так. Каб зманіць сялян, бальшавікі запісалі ў калгасным статуце: зямля перадаецца ў агульную ўласнасць усіх сялян. Працуюць жа яны пад кіраўніцтвам старшыні калгаса, якога выбіраюць на агульным сходзе. Яго абавязкова прапануе і зацвярджае прадстаўнік уладнай адміністрацыі, безумоўна прысутнічаючы на сходзе. Фактычна сяляне страцілі сваю ўласнасць і ініцыятыву свабоднага распараджэння зямлёй і прадукцыяй, атрыманай цяпер на агульнай зямлі.

## 8. Аповед гаёвага пра сустрэчы з парушальнікамі кардону

— Пан гаёвы, дзякуем за расказ. Просім, раскажыце, ці сустракаліся вы ў лесе з перабежчыкамі з-за кардону? Калі такое было, аб чым вы з імі гутарылі?

— Летам мінулага года я па службовых справах ішоў у лясны гадавальнік па сцежцы, якая праходзіць праз гушчар, зараслы ядлоўцам, маліннікам і іншымі хмызнякамі. Калі я павярнуў галаву ўправа, заўважыў: штосьці на адлегласці дзясятка метраў чарнее. Падумаў: мабыць, казуля забралася ў глухамань і адпачывае. Паварочваю ўправа і гляджу, як бы цішэй праціснуцца праз зараснікі і не спалохаць жывёлу. Падыходжу і бачу, што памыліўся. Гэта не падобна на казулю. Яна на такую блізкую адлегласць нікога не падпускае — падхопліваецца і ўцякае. Падыходжу яшчэ бліжэй і бачу: на вайсковай палатцы мінулай вайны салодка спіць чалавек, падлажыўшы пад галаву рукзак. Адзенне яго было не з лепшага, відаць было, што ён не з мясцовых. Калі я падышоў да яго, то ён адчуў трывогу, прачнуўся, расплюшчыў вочы, убачыў незнаёмага чалавека і не ведаў, што рабіць. Гэта працягвалася каля хвіліны, а пасля чужынец падняўся і спытаў:

«Ты хто такі?»

«Я ляснік гэтага лесу. У царкве мяне ахрысцілі Васілём. А ты хто?»

«Я чалавек. Ці не бачыш, што я адпачываў?»

«Я яшчэ здаля прыкмеціў, што ў гушчары штосьці ляжыць. Падумаў, што гэта казуля. Але бачу: чалавек сярод белага дня адпачывае. Вось я і падумаў: што ж ён мінулай ноччу рабіў?»

«Як што? Усю ноч ішоў і вырашыў адпачыць, а ты мяне разбудзіў», — сказаў ён.

Я прыкмеціў, што страх яго пакінуў.

«І што ж гэта цябе прымусіла ісці ўсю ноч? Ты не з тутэйшых», — дадаў я і ўбачыў, як ён вагаецца, узважвае, адкрыцца яму ці схлусіць. І ўрэшце вырашыў расказаць праўду.

Падняў палатку, злажыў яе і палажыў у рукзак. Я заўважыў: па ўзросце ён прыкладна мой равеснік. Мяне зацікавіла ягоная асоба: што прымусіла яго ісці ў лес і тут адпачываць? Чалавек пачаў расказваць:

«Яўтух Сямён Іванавіч. Нарадзіўся я ў Менскай вобласці непадалёку ад Негарэлага ў вёсцы Сасновы Бор Да вайны вучыўся ў Нясвіжы, там скончыў настаўніцкую семінарыю. Бацька — селянін-серадняк, па мерках цяперашняй улады. Жыве зараз там. Сям'я ў бацькі вялікая — сямёра дзяцей, гэта калі не лічыць тых, якія заўчасна памерлі. Пасля заканчэння семінарыі быў пакліканы царом у войска. Служыў у вайсковай частцы ля Беластока пры штабе пісарам».

«Прабач мяне, Сямён, я бачу, што мы з табою амаль аднагодкі, бо я таксама служыў пісарам з 1914 года ў Беластоку ў вайсковай часці, якая пры цары там размяшчалася. Я мяркую, што наша гутарка зацягнецца, то не стаяць жа нам працяглы час, а дзесьці трэба прызямліцца. Давай пройдзем адсюль некалькі дзясяткаў метраў. Ведаю зручнае месца, дзе мы зможам сесці, і ты працягнеш свой аповед».

Сямён сказаў, што ён згодны. Праз хвілін пяць падышлі да паваленага бурай дрэва і селі. Насупраць быў даволі шырокі пень. Я разаслаў на ім настольнік. Дастаў са сваёй торбы ежу і прапанаваў Сямёну:

«Перш, чым прадоўжыш свой расказ, давай падсілкуемся. Тым больш, што час палуднаваць».

«Не, што ты, ці я цябе буду пазбаўляць твайго прыпасу?»

«Я думаю, што гэтага хопіць нам абодвум. Не саромейся. Я адчуваю, што і табе не шкодзіць падсілкавацца, бо у цябе была, відавочна, доўгая і нялёгкая дарога».

І тут я заўважыў, як ён глядзіць на ежу, і зразумеў, што небарака даўно нічога не еў. І мы пачалі есці. Яназіраў, як Сямён з прагнасцю накінуўся на сала. Ён еў хвілін дзесяць без усялякай размовы, таму што быў галодны. Падсілкаваўшыся, сказаў:

«Шчыра дзякую, а то я, праўду кажучы, з таго моманту, як пачаў пераходзіць мяжу, амаль двое сутак нічога не еў. Такога смачнага сала я ніколі не каштаваў».

Пасля яды Сямён прадоўжыў свой расказ:

«Калі пачалася Першая сусветная вайна, мяне адправілі на фронт, быў паранены ў першым баі пад Беластокам. Раніла мяне асколкам ад снарада ў правую нагу. Санітары перавязалі рану і адправілі ў шпіталь ў Беластоку. Там зрабілі аперацыю і павезлі санітарным поездам на ўсход. Пасля доўгіх пераездаў з аднаго месца на другое завезлі мяне ў шпіталь Екацярынбурга.

Дзякуй Богу, раненне было не складаным, аднак праляжаў там амаль год. У пачатку 1917 года мяне камісавалі, паехаў на радзіму».

«Дзіўна, — сказаў Васіль, — амаль у той жа час мяне таксама адправілі на фронт, і пад мястэчкам Ломжа я атрымаў раненне ў правую руку. Мабыць, тым жа санітарным цягнікам адправілі таксама ў шпіталь Екацярынбурга».

«Дабіраўся доўга, — прадоўжыў Сямён, — у жніўні быў ужо дома ў бацькі, дзе застаў мяне бальшавіцкі пераварот. Пачаў настаўнічаць у пачатковай школе поруч са станцыяй Коласава. Вучыў там сялянскіх дзяцей на беларускай мове. Бальшавіцкую ўладу прыняў з усёй душой. Думаў, што Саветы выканаюць сваё абяцанне — надзеляць сялян зямлёй.

Час ішоў. У пачатку 1920-х гадоў быў нацыянальны ўздым. Паўсюдна ў школах дзяцей вучылі па-беларуску, адкрываліся школы, тэхнікумы, універсітэт у Менску. На працу ў гэтыя вучэльні ішлі нацыянальна свядомыя вучоныя. Яны мелі свае карані тут, у Беларусі, а адукацыю атрымалі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу (Петраградзе), Кракаве і ў іншых заходніх гарадах. Ствараліся калектывы вучоных, якія распрацоўвалі асновы беларускай граматыкі літаратурнай мовы. Як пасля дажджу шпарка растуць грыбы, так хутка развіваліся беларуская літаратура і культура. Усё гэта доўжылася да апошняга часу.

Кіраўніку бальшавіцкай партыі Сталіну нашы поспехі не спадабаліся, бо ён лічыў, што яны садзейнічаюць умацаванню нацыяналізму і ўрэшце могуць прывесці да таго, што беларусы па ўзоры Фінляндыі могуць паставіць пытанне аб стварэнні сваёй, незалежнай ад СССР, дзяржавы. А гэта, з яго пункту гледжання, ні ў якім разе нельга дапусціць, бо калі Беларусь атрымае незалежнасць, то бальшавікі страцяць важны заходні плацдарм — праход у Еўропу. Каб папярэдзіць такія наступствы, Сталін рашыў фізічна знішчыць патэнцыяльных носьбітаў «патрыятызму» — інтэлігенцыю. А як гэта зрабіць? Трэба прыдумаць (і ў гэтым пераканаць рабочых і бяднейшых сялян, каб яны паверылі), што нацыянальныя кадры стварылі падпольную партыю — партыю нацыянальных дэмакратаў (нацдэмаў), якая пагражае знішчыць савецкую ўладу ў Беларусі. А раз так, то беларуская інтэлігенцыя — «вораг народа» і яе належыць зліквідаваць. Сталін у канцы дваццатых гадоў даў сакрэтнае ўказанне аддзелам ДПУ выявіць і забараніць «нелегальную» партыю нацыянал-дэмакратаў, а яе членаў арыштаваць.

Апошнім часам стала адбывацца штосьці незразумелае. Пачаліся арышты нацыянальна свядомых людзей, якія ўсюды адстойвалі беларускасць: у навучальных установах, на прадпрыемствах, ва ўрадавых структурах, вёсках і інш. Арыштаваных пачалі абвінавачваць у прыналежнасці да неіснуючай партыі нацдэмаў. Катаваннямі следчыя дабіваліся ад некаторых патрыётаў прызнання таго, што існуе такая партыя. Катаванні былі

настолькі жорсткімі, што некаторыя падследныя фізічна не вытрымлівалі і пагаджаліся з тым, чаго хацелі каты, самі сябе абгаворвалі. Следчыя дасягалі сваёй мэты, а «прызнаўшыхся ў шпіёнстве», абгаварыўшых сябе — расстрэльвалі. НКУСаўцы, дабіўшыся катаваннем прызнання таго, чаго яны хацелі, верылі, што сапраўды існуе падпольная арганізацыя нацдэмаў і яе належыць зліквідаваць, а калі хтосьці з катаў пачынаў сумнявацца ў гэтым, дык ён залічваўся да памагатых нацдэмаў, падлягаў у лепшым выпадку адхіленню ад пасады, а ў горшым — ліквідацыі. Вось што творыцца ў нас. І калі хтосьці выказваў сваё незадавальненне дзеяннямі карных органаў, то такіх улады арыштоўвалі, судзілі і адпраўлялі на перавыхаванне ў ГУЛАГ. Дастаткова было праўдзіва адказаць на пытанне: “Што, табе не падабаецца савецкая ўлада?” — “Так, не падабаецца”.

Гэтага было дастаткова афіцыйнай асобе, каб цябе абвінаваціць у тым, што ты вораг і судзіць, як ворага народу.

Бачачы гэта, я зразумеў: мяне, як свядомага беларуса, таксама неўзабаве арыштуюць, таму што ў апошнія гады мне завочна ўдалося закончыць універсітэт у Менску і ўладкавацца выкладчыкам беларускай мовы ў тэхнікуме горада Бабруйска, які рыхтаваў настаўнікаў пачатковых класаў. Каб пазбегнуць арышту і катаванняў, вырашыў уцячы за межы БССР».

«Мне гэта падаецца неверагодным, — сказаў Васіль, — каб такое адбывалася ў дзяржаве, дзе кіруюць рабочыя і сяляне».

«Вось тут, — працягваў Сямён, — мая ранейшая вера ў бальшавіцкія лозунгі раптоўна знікла, як туман пры яснай пагодзе. Мне цяпер нічога не застаецца, як ісці да палякаў і прасіць палітычнага прытулку. Цяпер, пан Васіль, вы ўсё пра мяне ведаеце. Я ў вашых руках, — закончыў Сямён і супакоіўся. — Хараша ў гэтым цудоўным месцы, любавацца прыгажосцю тутэйшых мясцін, слухаць кукаванне зязюлі, якая адлічвае рэшту нашых дзён, — сказаў Сямён, — ды пара мне ісці наладжваць сувязі са знаёмымі, вырашаць свой лёс з тутэйшымі ўладамі».

«Сямён, па распараджэнні майго лясніцтва я павінен адвесці вас у бліжэйшы пастарунак і здаць паліцыі, бо вы парушылі заканадаўства Польшчы — незаконна перайшлі мяжу. Там вас затрымаюць: арыштуюць і будуць высвятляць, як гэта ўдалося вам парушыць мяжу і з якой мэтай. Пасля досыць працяглай працэдуры вырашаць ваш лёс. З вашага расказу я зразумеў: мы з вамі амаль аднагодкі — больш за тое, нашы лёсы супадаюць. На жаль, мне не ўдалося атрымаць вышэйшую адукацыю. Скончыў у роднай вёсцы царкоўнапрыходскую школу, вучыўся ў рэальным вучылішчы мястэчка Гарадзішча, а пасля ў тэхнічным вучылішчы Ракава ля Менску набыў спецыяльнасць сталяра-чырвонадрэўшчыка. Вярнуўся на радзіму ў 1916 годзе. Вайсковай камісіяй прызнаны нягодным служыць у войску. У 1919 годзе ажаніўся. Працаваў у мясцовым маёнтку сталяром — рабіў новыя рамы вокнаў палаца, а пры Польшчы ўзялі на працу гаёвым. Дык што будзем рабіць з вамі?»

«Я думаю, лепш за ўсё хай пан гаёвы адпусціць мяне на свабоду і пакажа, як хутчэй дайсці да мястэчка Гарадзішча, бо там я маю лепшага сябра, з якім вучыўся ў Нясвіжы. Спадзяюся, ён мне дапаможа вырашыць мой лёс. Ці згодны вы з маёй прапановай і адначасова просьбай?»

«Як я ўжо казаў, гэта будзе парушэннем службовага абавязку. І ў той жа час, прымаючы пад увагу, што мы з вамі сустрэліся ў такім гушчары, спадзяюся, што ніхто нас не бачыць і не чуе нашай размовы. Растлумачу вам, як дабрацца да мястэчка Гарадзішча. І каб у мяне не было аніякай непрыемнасці, давайце забудзем сустрэчу. Я вас, а вы мяне не сустракалі і не бачылі. Правяду да дарогі, якая праз 14 кіламетраў прывядзе да Гарадзішча. А зараз ідзем за мной. Праз гушчар я вылезу першым на сцежку. Аглянуся. І калі нікога не ўбачу, то пайду да гадавальніка, а вы выйдзеце на сцежку і крадучыся пойдзеце за мной на адлегласці 15 метраў, ды так, каб бачыць мяне. Калі я дайду да гадавальніка, зайду за яго агароджу і падыду да мінулагодніх пасадак, прыгнуся і буду разглядваць іх. Вы ў гэты момант будзеце ісці напрасткі па сцежцы ля гадавальніка. Праз 300 метраў будзе шаша. Пасля павернеце ўлева і будзеце ісці прыкладна 4 кіламетры. Там павінна быць дарога — былы Кацярынінскі тракт. Бераце ўправа — і праз 10 кіламетраў вы ў Гарадзішчы».

Так мы развіталіся з Сямёнам. Ён пайшоў у невядомасць.

Другая выпадковая сустрэча з перабежчыкам адбылася восенню, у той час, калі я збіраў грыбы ў дзялянцы лесу, якая завецца ў нас Бегуном. Балоцістая мясціна, парослая бярэзнікам, вольхамі, малiннікам і іншымі хмызнякамі. На прагалінах у канцы лета і ў пачатку восені ў грыбныя гады можна напаткаць шмат апенек. Я сабраўся схадзіць туды, узяўшы новы лазовы кош. Іду, уважліва прыглядаюся. Бачу, на пяньках, ствалах пераважна ўсохлых бярэзін столькі маладых крамяных апенек, што, як кажуць, хоць касой касі. Стаўлю кошык, раскрываю кішэнны нож, пачынаю рэзаць, пакаваць і раптам чую, што за кустом хруснула сухая галінка. Прыслухаўся. Ціха, толькі дзесьці чуваць птушынае шчабятанне. Запаўняю кошык. Праца спорыцца. Думаю, будуць рады дзеці, будзе ім забава перабіраць, а Надзі смажыць. Не заўважыў, як запоўніў кошык. Такая ўдача! І тут зноў пачуўся трэск галінак і крокі. З-за куста паказаўся малады мужчына гадоў дваццаці пяці. Убачыў мяне, прыпыніўся, прывітаўся і спытаў:

«Скажыце, дзе тут дарога, якая вядзе да Міра?»

Я быў апрануты па-вясковаму, без форменнага адзення лесніка. Ён убачыў мяне з кошыкам, поўным грыбоў, і палічыў мяне выпадковым селянінам.

«Дарога да Міра, кажаш? А яна ж тут недалёка. Чаму ж гэта ты забраўся ў гэтае гіблае месца? Я цябе ўпершыню бачу. І навошта табе дарога да Міра? У бліжэйшы час там кірмашу не прадбачыцца».

Незнаёмец не спяшаўся мне адкрывацца — хто ён такі, якія ягоныя намеры. Вырашыў скарыстаць выпадковую сустрэчу, каб расказаць не-

знаёмаму вясковаму чалавеку, што яго хвалявала апошнім часам і што ён пачуў нядаўна ад бальшавіцкіх агітатараў. Да мяне звярнуўся з юнацкім запалам:

«А ведаеце, што кажуць добрыя людзі пра жыццё на ўсходзе за кардонам, у Саветах?»

«Не, я там не жыў. Цікава пачуць, даведацца, што ж там робіцца, як там жывуць мясцовыя людзі».

Я так адказаў яму, каб пачуць, што мне раскажа незнаёмец. Тым часам прапанаваў яму сесці на павалены камель бярозы. Ён сеў, я, уладкаваўшы свой кош, побач і запытаў:

«Скажы, хлопча, а як цябе завуць? Мяне ахрысцілі Васілём, а цябе?»

«А навошта вам патрэбна імя?»

«Як нашто? Я не пабаяўся назваць сваё імя. А ты, адчуваю, хочаш са мною пагаварыць, ды нібы баішся мяне».

Пасля майго папроку незнаёмец вырашыў адкрыцца.

«Ну, што вы, дзядзько Васіль? Мяне завуць Іванам, а прозвішча Стрыж».

«Вось мы і пазнаёміліся. А цяпер я хачу адпачыць і паслухаць, што ты хочаш мне сказаць».

«Дзядзько Васіль, мы жывем ва ўмовах, калі большасць зямлі належыць багацеям-памешчыкам, а нам амаль нічога не застаецца. У нашай вёсцы ўсе сем'і вялікія. На кожнага едака прыходзіцца мала зямлі. Хлеба на ўсіх хапае толькі да Каляд, а пазней застаецца бульба, ды і тае ўдосталь не на ўсіх стае да вясны. Многія на прадвесні жывуць галаднавата. Пачатковыя школы ў нас працуюць толькі на польскай мове. А добрыя людзі кажуць, што за мяжой у Беларусі жыхарам даюць зямлю задарма, адабраўшы яе ў багацеяў. Усе школы працуюць па-беларуску. Вось і вырашыў я, што трэба пашукаць лепшай долі ў нашых братоў на ўсходзе», — скончыў Іван Стрыж і ўважліва паглядзеў на мяне — чакаў, што я яму скажу.

«На гэта я табе адкажу так: нядаўна, у ліпені месяцы, я пайшоў па ягады і ў гушчары лесу наткнуўся на чалавека, які сярод белага дня спаў. З прыбліжэннем ён прачнуўся. Пазнаёміліся».

І я расказаў Івану аб сустрэчы з Сямёнам. На што Іван адказаў:

«Штосьці, дзядзечка, кажаце мне не тое. Відавочна, вы з тых, хто задаволены нашымі ўладамі».

На гэты выпад супраць расказу, пачутага мною ад Сямёна, я не пакрыўдзіўся, а толькі дадаў:

«Ну, што ж, хлопча. Ты яшчэ малады. Я табе расказаў пра тое, што чуў. Ты, відаць, разумны, зробіш высновы сам. Магу параіць: не ўсялякім расказам давярай. Навучыся разбірацца ў людзях: хто хлусіць, а хто кажа праўду. Асэнсоўвай пачутае. Сцеражы цябе Бог».

Пасля гэтых слоў развіталіся. Я прывёў Івана да дарогі на Мір. Больш Івана я не сустракаў. Вось, паважаныя, што я пачуў ад гэтых двух выпад-

ковых сустрэч. Вам таксама параю: перш чым штосьці адрэзаць, трэба сем разоў адмераць, пра што гаворыць мудрае народнае прыслоўе. Не забывайце аб ім у складаныя моманты жыццёвых абставін.

## 9. Аповед Васіля Ёселю аб сустрэчы з парушальнікам мяжы, які вярнуўся з СССР

Развітаўшыся з сялянамі, Васіль пайшоў паглядзець, што з Варанком, падлажыў яму канюшыны. Папрасіў Ёселя, каб ён прыгледзеў за возам і канём, пакуль Васіль адпачне.

— Не хвалюйцеся, вартаўнік вароты зачыняе нанач на ключ.

Васіль, заспакоены, пайшоў адпачываць. Пасля такога дня, насычанага многімі падзеямі, ён спаў без усялякіх сноў.

Раніцай, як толькі развіднела, Васіль быў на нагах, выйшаў на двор да каня, падвёў да студні і напаіў. Падлажыў свежы ахапак канюшыны, зайшоў у спальны пакой. Узяў ручнік і кавалак гаспадарчага мыла, пайшоў умывацца. Выйшаў на вуліцу, падышоў да плоту, дзе быў прымацаваны бляшаны мыцельнік, поўны прахалоднай вады. Пасля сну абліванне твару, шыі сцюдзёнай вадой узбадзёрыла яго. Выцерся свежым духмяным ручніком, увайшоў у гасцініую.

Ёсель таксама быў на нагах. Прывітаўшыся, Васіль і Ёсель разгаварыліся.

— Цікавыя гісторыі расказаў пан гаёвы ўчарашнім вечарам. Такі цяпер сумбурны свет, столькі людскіх меркаванняў, што не ведаеш, дзе праўда, а дзе мана.

— Так, гаспадару, бываюць такія моманты, што цяжка разабрацца нам, што дзеецца ў нашых мясцовасцях. Мы жывем у памежжы, дзе пераходзяць кардон розныя людзі. Адны шукаюць лепшай долі за мяжой, іншыя ідуць з заданнем, каб весці агітацыю з неадукаванымі і маласвядомымі. Ёсць і такія, што ўцякаюць ад карнікаў — бароняць сваё жыццё. Так што, пане, трэба больш за ўсё слухаць і трымаць язык за зубамі, каб не нажыць бяды.

Была ў мяне зусім нядаўна сустрэча ў лесе з парушальнікам мяжы, які, крадучыся, ішоў праз участак лесу і выпадкова ўбачыў мяне. Ён хацеў прайсці мімаходзь незаўважаным. Аднак я яго затрымаў.

«Стой! Пачакай! Я ляснік гэтага лесу. Мне трэба даведацца, хто ты такі і куды ідзеш не дарогай, а чамусьці лесам?»

На мае патрабаванні ён затрымаўся, глянуў спадылба, спытаў:

«А навошта я табе патрэбен? Што, я не магу свабодна гуляць па тваім лесе?»

«Сапраўды, ты можаш свабодна гуляць па лесе. Але я ляснік і ведаю ўсіх тутэйшых людзей. Здагадваюся, што ім трэба ў лесе, а цябе ніколі не

сустракаў. Мае абавязкі знаёміцца з людзьмі, якіх сустракаю ў замацаваных за мною дзялянках лесу, дапамагаць знайсці патрэбную ім дарогу. Мяне па-тутэйшаму клічуць гаёвы Васіль, а цябе як?»

Ён нейкі час стаяў і думаў, што сказаць.

«Тут недалёка ў гадавальніку ёсць месца, — сказаў я, — калі не супраць, мы там можам пагутарыць і заадно адпачыць».

«Згодзен, хадзем».

Мы пайшлі. Я наперадзе, ён за мною. Праз некалькі хвілін я адчыніў веснічкі і мы зайшлі ў лесагадавальнік. Убачылі лаўку. Яна была вільготная. Я паслаў на яе сваю палатку, і мы селі.

Дзень быў цёплы, вясенні. Вакол яшчэ было шмат снегу, але, нягледзячы на гэта, у лясным гушчары адчуваўся наступ вясны. На ўскрайку гадавальніка раслі магутныя елкі ды сосны. Мы заўважылі вавёрку, якая пераскоквала з галінкі на галінку — палявала на шышкі. Вылузвала з іх насенне, паядала яго. Цікава было назіраць, як яна спрытна вылушчвае семкі, а шалупінне падае на снег, засмечваючы яго.

«Слухаю, расказвай», — сказаў я.

«Завуць мяне Зміцер Піліпчык. Нарадзіўся непадалёку ад Слоніма».

«А чаму ты ідзеш лесам, а не дарогай?»

«Гэта доўгая гісторыя, але пастараюся коратка расказаць вам. Два гады таму я пад уплывам бальшавіцкіх агітатараў вырашыў пашукаць лепшай долі за кардонам і ўдала перайшоў з сябрам усходнюю мяжу недзе за Стоўбцамі. Мы без перашкод дабраліся да мястэчка Койданава. Там нас затрымалі міліцыянты і адправілі ў Менск на допыт у НКУС. Нас абвінавацілі ў тым, што мы незаконна парушылі мяжу, а значыць, мы польскія шпіёны. У Менску нас дапытвалі. Дабіваліся катаваннямі, каб мы сазналіся, што мы польскія шпіёны, закінутыя ў БССР дзеля шпіёнскай дзейнасці. Я не паддаўся на ўгаворы. Катаванні вытрымаў. Мяне судзілі за незаконны пераход мяжы. Прысудзілі дзесяць гадоў турмы з адбываннем пакарання на будоўлі Беламорска-Балтыйскага канала. Мой сябра не вытрываў, падпісаўся, што ён польскі шпіён, агаварыў сябе і быў расстраляны. А я будаваў канал у такіх цяжкіх умовах, што зараз здзіўляюся, як выжыў, і больш, як мне ўдалося ўцячы адтуль, вярнуцца на радзіму. Я мяркую, што мне ў гэтай справе дапамог Бог».

«Ну, дапусцім, ты яшчэ на радзіму не дайшоў», — удакладніў я.

«Я думаю, мне засталося яшчэ дзень-два, каб дайсці да сваёй вёскі».

«Скажы, Зміцер, ці спраўдзіліся твае надзеі адносна таго, што там, у Саветах, лепшае жыццё, чым у нас?»

«Калі мы ў Койданаве ў знаёмай сям'і пасля двух бяссонных начэй адаспаліся і вырашылі схадзіць у магазін, дык гаспадыня, дзе мы начавалі, не раіла нам днём паказвацца на вуліцы. Яна тлумачыла нам, што мястэчка Койданава невялікае, і ўсе прышлыя становяцца прыкметнымі. Мы не паслухалі яе і пайшлі паглядзець на багацце прадуктовых крамаў. Убачылі,

што на паліцах магазінаў значна менш тавараў, чым у нас, а ў прамтаварнай краме мануфактура прадавалася толькі па размеркаванні мясцовых улад і ў абмежаванай колькасці. Пасля мы вырашылі схадзіць на базар. Мы спыталі ў міліцыянера: “Скажыце, калі ласка, як прайсці нам на базар?” — “А вы хто такія? Вашы дакументы”.

Запрасіў нас на ўчастак, дзе і арыштавалі. А што з намі здарылася пасля, дык вам вядома».

Вось якія падзеі адбыліся вясной таго года.

— Скажыце, а які далейшы лёс апошняга перабежчыка? — спытаў Ёсель.

— Зміцеру я растлумачыў, што лепш за ўсё яму схадзіць у бліжэйшую гміну і шчыра расказаць аб прыгодах. На маю думку, гэта было б лепшае рашэнне ягонай справы. Растлумачыў, як дабрацца да бліжэйшай гміны. Пачаставаў яго хлебам з салам — ён і адышоў.

## 10. Візіт гаёвага ў лясніцтва

— А ці не падрыхтаваць пану гаёваму што-колечы на снеданне? — спытаў Васіля Ёсель

— Так, можна згатаваць гарбаты, а закуска ў мяне яшчэ засталася. А дзевятай пайду ў лясніцтва, таму мне трэба не пазніцца. Прашу вас, хай конь з возам застаюцца на месцы. Я там доўга не затрымаюся. Спраўлю ўсё намечанае і паеду дахаты.

— Пан гаёвы, не хвалюйцеся, з канём і возам нічога благога не стане.

На стале з’явілася гарбата. Васіль прыступіў да снедання. З апетытам прыкончыў свой прыпас і а дзевятай гадзіне быў у лясніцтве.

Васіль пастукаў у дзверы і пачуў:

— Прашу, уваходзьце!

Васіль нясмела ўвайшоў, прывітаўся.

— Прашу паведаміць пану ляснічаму, — сказаў Васіль сакратару, які сядзеў у прыёмным пакоі, — што я гаёвы Вальнянскага абходу Васіль Амялішка, хачу наведаць яго па службовых справах.

Сакратар выйшаў і хутка вярнуўся. Сказаў:

— Заходзьце.

Васіль пераступіў парог кабінета.

— Дзень добры, пане ляснічы.

— Дзень добры, пане Базылю.

Ляснічы выйшаў з-за стала, прывітаўся з Васілём за руку, прапанаваў яму сесці, сам сеў на сваё крэсла.

— Ці пан можа ўдзяліць мне некалькі хвілін? — спытаў Васіль.

— Уважліва слухаю. Што ў вас здарылася? Няўжо пан злавіў злодзея?

— Так, злавіў, і вось пратакол.

Васіль падаў пратакол ляснічаму. Той уважліва прачытаў і сказаў:

— Пане гаёвы, віншую вас з першым поспехам. Гэтай справе трэба даваць ход. Мы перадамо пратакол у павятовы суд. А цяпер ідзіце да сакратара і атрымайце свой заробак. Калі ў вас да мяне няма больш пытанняў, то да пабачэння.

## 11. Васіль едзе дахаты

Развітаўшыся з ляснічым, Васіль атрымаў грошы, пайшоў на заезны двор, разлічыўся з Ёселем за начлег і дадатковыя паслугі, запрог каня ды паехаў дахаты.

Быў панядзелак. На небе пачалі з'яўляцца хмары. Васіль падумаў: «А другой палове дня магчымы дождж, таму што, калі раніцай я выйшаў на двор, на траве расы не было, а гэта, па народнай прыкмеце, на дождж і, магчыма, навальніцу».

Таму ён спяшаўся дахаты, каб да абеду пераадолець увесь шлях, пазбегнуць магчымай навальніцы ў дарозе.

Варанок пасля працяглага адпачынку і добрага пачастунку жвава бег. Да таго ж адчуваў, што бяжыць дахаты. Так бывае: дарога дадому менш доўжыцца і, відаць, яшчэ таму, што, як кажа народнае выслоўе, у гасцях добра, а ў сваёй хаце лепш. Хутчэй праплывалі і заставаліся ззаду вёскі, лясы і пералескі. Прыпынілі спевы птушкі, адчуваючы набліжэнне непагадзі, схаваліся ў свае патаемныя месцы. Толькі каля ракі Вушы працягваў спяваць салавей ды кукавала зязюля. Шукалі больш небяспечнае месца вароны і сваімі гартаннымі характэрнымі толькі ім гукамі заклікалі суродзічаў хавацца ад магчымай бяды. Прырода чакала непазбежных змен, таму ўсё навокал паступова прыціхала, затойвалася — чакала навальніцы.

На дарозе было менш сустрэчных фурманак. Зрэдку сустракаліся сялянскія вазы, якія запознена везлі на свае палеткі гной, каб як мага хутчэй завяршыць пасадку бульбы. Васіль разважаў: мабыць гэтыя людзі пазняком садзяць бульбу таму, што не маюць уласных коней — пазычаюць іх у суседзяў.

Васіль, калі вучыўся ў Ракаве, прачытаў у газеце «Наша ніва» артыкул, у якім пісалася аб гістарычным факце з'яўлення бульбы ў нашым краі. У артыкуле гаварылася пра тое, што ў сямнаццатым стагоддзі мараходамі бульба была завезена ў Еўропу з Паўднёвай Амерыкі, а адтуль распаўсюдзілася па ўсім свеце. З-за неадукаванасці сялян каштоўнасць бульбы як харчовай і кармавой культуры спачатку была не зразумелая. Землеўласнікі і памешчыкі сілком прымушалі прыгонных сялян вырошчваць бульбу, а насілле, калі яно робіцца нават у высакародных мэтах, звычайна выклікае пратэсты, таму на

першых парах супроць вырошчвання бульбы ўзнікалі стыхійныя пратэсты, вядомыя ў нас як «картапляныя» бунты. Яны адбываліся не адзін год і да той пары, пакуль людзі не пераканаліся ў каштоўнасці гэтай культуры. Мінулі стагоддзі, сяляне ўпадабалі бульбу, ды так, што яна стала для большыні мясцовых сялян асноўнай ежай. Дзякуючы бульбе многім сялянам нашага краю ўдаецца пазбегнуць голаду ў цяжкія часы нястачы харчу. Таму невыпадкова, што нас суседзі называюць «бульбашамі». Многім нашчадкам невядомы гістарычныя звесткі з'яўлення яе: лічаць, што «картопля» існавала ў нас спрадвечна. У тым жа артыкуле Васіль прачытаў, што да з'яўлення ў нашым краі гэтай культуры асноўным харчам прыгонных сялян былі жытні хлеб, пансак, капуста, пастарнак і інш. Нездарма ж у тыя далёкія часы ва ўжытку было выслоўе «Хлеб ды каша — яда наша».

Так, успамінаючы аб карысці бульбы, Васіль без затрымак даехаў да Снові, прыпыніўся ля дома Аляксандра Купрыянчыка, родзіча Надзі, даў магчымасць адпачыць каню. Не распрагаў, а толькі рассупоніў хамут ды, паслабіўшы пасак ад кульбачкі, расцугляў і напаіў Варанка. Паднёс яму канюшыны і зайшоў ў хату. На стук у дзверы выйшла жонка Аляксандра Вольга, запрасіла госця ў хату і сказала:

— На жаль, Саша толькі што адправіўся кудысьці па справах, і не ведаю, як доўга ён затрымаецца.

— Паважаная Вольга, я зайшоў да вас на паўгадзіны. Хачу даць адпачыць каню. Трэба спяшацца дахаты, каб пазбегнуць магчымай навальніцы.

— За гэты час я хуценька падрыхтую вам яешню на сале і гарбату. Вы ж яшчэ не абедалі.

Вольга папрасіла прабачэння ў госця, пакінула яго ў гасцінай і пайшла на кухню. Хутка прынесла госцю апетытную яешню і шклянку гарбаты.

Пад'еўшы, Васіль падзякаваў гаспадыні за пачастунак, развітаўся і паехаў дахаты.

Надвор'е тым часам пагаршалася: з захаду наплывала хмара. Васіль усё часцей тузаў лейчынамі, звяртаўся да Варанка:

— Но! Хутчэй бяжы. Што, ты не бачыш — з табою пападзем пад навальніцу.

Конь шпарка бег, а хмара ўсё павялічвалася і паступова засланіла ўвесь гарызонт. Цямнела. Перад дажджом ўзмацняліся парывы ветру, якія захоплівалі і падымалі ў паветра дарожны пыл, сляпілі жывёлу і чалавека. Чакалася, што вось-вось ліне дождж. Пад'язджаючы да Вольнай, звярнуў да хаты, дзе нарадзіўся. Калі пачаўся моцны дождж з грымотамі, ён якраз пад'ехаў да бацькоўскага дома. Ніхто не заўважыў, як Васіль прыехаў на падворак, затрымаў каня каля адрыны, прывязаў пад праліўным дажджом яго да плоту. Не распрагаючы каня, гаёвы таропка зняў з сябе палатку, пакрыў ёю каня, увайшоў у сені. З ягонай вопраткі сцякала вада. Пачаў распранацца тут жа, каб не нарабіць клопатаў гаспадыні. І толькі тады,

калі, узяўшыся за металічную клямку, адчыніў дзверы, ягоныя родзічы ўбачылі, што гэта іх Васіль. Маці ўсклікнула:

— Васіль, Божа! Адкуль ты гэта ўзяўся? Ты ж, відаць, з лесу. Ды так прамок!

— Не, мама, я не прамок. Мяне абараніла мая вайсковая палатка. Праўда, моцна намок конь і воз. Я ездзіў у Нясвіжскае лясніцтва. Ды вось пралічыўся і папаў пад навальніцу.

— Сядай, грэйся. Мы якраз збіраліся абедаць. Ты ж яшчэ не абедаў? — запытала маці.

— Я гадзіну таму затрымліваўся ў Снові, адпачываў там з канём. Дык жонка Аляксандра Купрыянчыка Вольга частавала мяне яешняй. Так што, як кажуць, замарыў чарвячка, а абедаць буду дома. Мяне да вас загнала навальніца. Перачакаю ў вас і паеду дахаты.

Бацька сказаў:

— Я здагадваюся, Васіль, па якіх пытаннях ты наведваў Нясвіжскае лясніцтва. Мне стала вядома (у вёсцы ўсе чуткі разносяцца вельмі хутка), што ты злавіў злодзея, і гэты злодзей — Андрэй Таркайла з Бортнікаў. Скажы, а ці добра ты зрабіў, што пра гэты, можна сказаць, крадзеж адной сасны ты адразу паведаміў у лясніцтва?

— А што, я буду плаціць за гэтую сасну? Як ты думаеш?

— А чаму ты павінен плаціць за спілаваную сасну? Аб гэтым жа ніхто не ведаў.

— Так, тата, не ведаў.

І Васіль растлумачыў прысутным, аб чым папярэдзіў яго тыдзень таму ляснічы Эдвард Струмінскі. І дадаў:

— Я раней заўважаў самавольныя парубкі, але аб гэтых крадзяжах маўчаў — фактычна я іх пакрываў, за што і атрымаў папярэджанне ад ляснічага. А цяпер маўчаць не магу. У мяне няшмат грошай, каб разлічвацца за чужыя грахі. І калі я надалей буду пакрываць зладзеяў, то мяне абавязкова звольняць з мае пасады і заставяць плаціць за ўкрадзенае, — з запалам сказаў Васіль.

— Васіль, пабойся такога бандзюгі, як Андрэй Таркайла, якому ты ўжо наступіў на мазоль. Думай, Васіль, думай, каб з гэтага чаго-небудзь благога не атрымалася, — з трывогай сказала маці.

— Будзе табе, маці, палохаць сына. Яму ж трэба працаваць і дзетак гадаваць. Што, ён на службе будзе толькі лічыцца? А хто ж будзе ахоўваць лес? Вядома, што зладзеі не перавяліся і ад іх раптам не пазбавішся. Калі дараваць яму ягонае злачынства, прыкрыць яго, то трэба браць на сябе ўсю віну і заплаціць штраф за злодзея. Ляснічы падумае: ці варта трымаць такога мяккацелага гаёвага? Трэба прыціснуць лісе хвост, калі яна папала ў пастку — так кажа народная прымаўка. Будзе навука тым, хто шукае лёгкага хлеба, — падтрымаў бацька сына. І тэма гаворкі перамянілася.

Малодшы брат Давыд, паціраючы рукі, сказаў:

— Але ж добры прайшоў дождж, уліло дык уліло. Карысная і своечасовая дапамога яравым і азімым, а то апошняя спякота прынесла шмат непрыемнасцей. Зямля ў некаторых месцах пачала перасыхаць і трэскацца. Дзіва што, больш за два тыдні дажджу не было. Цяпер ёсць надзея, што расліны атрымалі дапамогу і ўсё паправіцца, а то на нашых шнурох, на тых, што на ўзгорках, жыта пачало жаўцець.

Дождж патроху пачынаў памяншацца. Не чутно было такога напору патоку вады, які быў спачатку. Грымоты паступова сціхалі. Аднак маланка раз-пораз працягвала бліскаць, пасля чаго пачыналіся моцныя і працяглыя грымоты. У гэты момант маці пачынала маліцца і папярэджваць усіх адысці ад вокнаў, перахрысціцца і прамаўляць пацеры.

Прайшло яшчэ хвілін дваццаць, і ўсё сціхла. Грымоты аддаляліся на поўнач. З саламянай страхі вада сцякала ў падрыхтаваныя загадзя вёдры, ночвы, бочкі, кублы, балеі, якія запаўняліся вадой, што так патрэбна ў доме.

Маці Ксенія папрасіла хлопцаў аднесці на луг сатканыя зімой палотны, а самай малодшай Сашы сказала:

— Дачушка, сходзі разам з імі на луг, намачыце ў рэчцы палотны і рассцяліце там — няхай падсыхаюць ды адбельваюцца, пакуль сонейка свеціць. Як толькі падсохнуць, ты іх зноў намачы ў Змейцы. Намочыш — рассцелеш, пасушыш, намочыш — і зноў пасушыш, і так тры ці чатыры разы. Застанься там, пакуль яны будуць адбельвацца. Папільнуй, каб гусі палотны не запэцкалі. Як толькі палотны апошні раз падсохнуць, я папрашу Лаўрына, каб ён дапамог табе аднесці іх у адрыну.

— Ноля, ноля*, мама, я ўсё зраблю, як ты сказала.

Быў дождж — гадзіна адпачынку, а далей дамачадцам знайшоўся занятак. Мужчыны з бацькам пайшлі ў гумно.

Васіль развітаўся з раднёй і паехаў дахаты. Пасля дажджу лёгка дыхалася. Конь шпарка бег, адчуваў, што вось прыбяжыць да свайго стойла і атрымае ўдосталь яды, а Васіль разважаў на возе: як жа там ягоныя самыя блізкія спраўляюцца з гаспадарчымі работамі? Дзеці, напэўна, чакаюць бацьку, якія пачастункі ён прывязе з Нясвіжа. Васіль не забыўся: купіў дзецям цукерак, а жонцы квяцістую хустку.

Не даязджаючы да сваёй хаты, Васіль убачыў, што навальніца прынесла няшчасце — адна хата ў Бортніках загарэлася ад маланкі і ўжо дагарала, калі ён пад’ехаў. Каля яе сабраўся натоўп суседзяў, але ўжо нічым не маглі дапамагчы. Нягледзячы на складанасці, гаспадарам і суседзям удалося частку скарбу выратаваць ад агню. Чулася галашэнне жонкі пагарэльца:

* Так, добра (*рэгіян.*).

— А мае ж вы людцы, як жа цяпер мы будзем жыць? А хто ж нас цяпер прыме ў падсуседзі?

Васіль тым часам паглядзеў на пажарышча, паспачуваў пагарэльцам і паехаў на хутар. Дома яго з трывогай чакалі. Калі воз паказаўся на дарозе каля Яцкевіча, дзеці пабеглі ў хату з крыкам:

— Мама, тата ўжо каля Леўка!

Калі Васіль павярнуў на падворак, старэйшы сын Мікалай паспеў залезці на воз.

— Татачка, як я рады, што я вас дачакаўся, — абняў бацьку за шыю і пацалаваў, — у нас толькі нядаўна скончылася навальніца з маланкай і грымотамі, а ў вёсцы ад маланкі згарэла хата Івана Сняжко. Мы з мамай так напалохаліся, Соня пачала плакаць, а мама маліцца. Прасіла Бога, каб гэтая бяда нас мінула, — спяшаўся сын расказаць бацьку пра апошнія падзеі.

Пакуль Мікалай расказваў бацьку навіны, Варанок затрымаўся ля ганка. Васіля радасна сустракала Надзя з дачкой. А Мікалай сказаў:

— Тата, я распрагу каня, а вы ідзіце ў хату адпачываць, — і паехаў пад хлеў распрагаць каня.

Дзеці і Надзя былі рады таму, што бацька вярнуўся з падарункамі, настаў радасны момант — знікла тое, што іх прыгнятала.

Мікалай распрог каня, адвёў каня ў загарадзь на пашу, пабег у хату. Бацька падзякаваў за дапамогу, даў яму падарунак і запытаў:

— Ну, як у вас тут, што чуваць? Ці быў Мікалай у школе? Як яго вучоба?

На гэтае пытанне адказала Надзя:

— У Мікалая добрыя поспехі. Ён старанна рыхтуе свае класныя заданні. Наш вучыцель Антоні Бабуль сёння сказаў, што Мікалай лепшы вучань у школе.

Васіль сказаў:

— Калі я вучыўся ў Ракаўскім сталярным вучылішчы, дык бацька аднаго з навучэнцаў, у якога былі дрэнныя поспехі ў вучобе, жартаўліва ўшчуваў сына: «Вучыся сынок — студэнтам будзеш, а не давучышся — ахфіцэрам станеш».

На абед Надзя прыгатавала дзве першыя стравы: малочны крупнік і капусту. А на другое — верашчаку са шкваркамі і аладкамі. На трэцяе было прапанавана кіслае ці салодкае малако па жаданні.

Усе мігам селі за стол, памаліліся і прыступілі да абеду. Абед цягнуўся нядоўга, таму што адбываўся пазняком. Дзеці, канешне, не выцерпелі б да такой пары не еўшы, таму Надзя адрэзала кожнаму на перакуску па добрай лусце хлеба са свежым маслам, якое толькі што было збіта ў бойцы, і дадала да таго ж па кавалку хатняй каўбасы. Таму яны, ведама што, маглі чакаць бацьку амаль да вечара.

Падсілкаваўшыся, перахрысціліся і разышліся хто куды.

## 12. Сяляне пераважна вялі натуральную гаспадарку

Яны больш прадавалі прадукцыі, чым куплялі. У гаспадарцы было дастаткова прадуктаў сваёй гадоўлі, неабходных для жыцця. Гаспадыні самі пяклі хлеб, а па святах — пірагі. Забяспечваліся сем’і мясам і салам сваёй гадоўлі на ўвесь год. Забівалі да трох кабаноў. Мяса іх засальвалі ў кублах, а напрадвесні правяльвалі пры сонечным надвор’і і вэндзілі ў хатняй вяндлярні. Рэзалі бараноў, спажывалі іх мяса і нарыхтоўвалі з іх аўчыны сырыя скуры і воўну. Скуры везлі ў гарбарню, а з вырабленых скур у шаўцоў заказвалі зімовую верхнюю вопратку — кажухі. Воўну пралі, а з нітак рабілі швэдары, шкарпэткі, рукавіцы, пальчаткі, вязаныя шапкі, даматканае сукно. З сукна шылі верхняе зімовае адзенне, гарнітуры, паліто і г. д.

А колькі ўвагі патрабаваў лён! Яго вырошчвалі сотак па дваццаць. Не меней як два разы яго трэба было ўручную прапалоць. Калі паспяваў, яго вырывалі і звязвалі ў малыя пучкі. З чатырох-шасці пучкоў састаўлялі кучкі на полі і пакідалі даспяваць і прасыхаць. Пагожым днём звозілі ў гумно, раскладвалі на таку, пранікам уручную абмалочвалі (аббівалі). Атрымлівалі лён-сырэц і семя з мякінай. На трыеры (яго бралі на пракат) ачышчалі семя ільну ад мякіны. Яе пускалі на корм жывёле. Адборную частку семені ільну пакідалі на насенне, а астатняе ішло на продаж або, часцей за ўсё, везлі на прыватныя маслабойні, дзе атрымлівалі ільняны алей і макуху (выжымкі). Алей спажывалі пераважна поснымі днямі, а таксама выкарыстоўвалі ў прыгатаванні якасных фарбаў. Макуху запарвалі кіпнем і паілі цялят-сысункоў.

Лён-сырэц вязалі ў пукі і ў жніўні адвозілі на луг. Падбіралі там адпаведную пляцоўку — сцелішча. Рассцілалі аднаслойна і агароджвалі калючым дротам, каб на сцелішча не заходзіла жывёла.. Там лён-сырэц ляжаў столькі часу, каб жнівеньскія росы за пару тыдняў пераўтварылі яго ў ільнотрасту, падрыхтаваную да далейшай апрацоўкі.

Другі спосаб падрыхтоўкі ільнотрасты выкарыстоўвалі тыя сяляне, у якіх на балоце былі ямы з вадой. У гэтыя ямы апускалі пукі ільносыравіны, і яна там даспявала — пераўтваралася ў ільнотрасту. Гатовыя пукі даставалі, сушылі, і адвозілі ў гумно.

Пасля ў кастрычніку ільнатрасту пачыналі канчаткова апрацоўваць: сушыць у спецыяльных сушнях, церці на церніцах (ільнацёрках) — аддзялялі кастрыцу ад валокан ільна. Затым бралі пук валакна, вешалі на трапло — трапалі (ачышчалі ад кастрыцы). Атрыманае ільновалакно на спецыяльных ільночасалках ачышчалі ад кудзелі (паклі) і атрымлівалі якаснае валакно. З яго пралі ніткі і ўрэшце ткалі палатно. Кудзеля выкарыстоўвалася пры будаўніцтве дамоў. Яе пракладвалі між бярвення як цеплаізаляцыйны матэрыял і выкарыстоўвалі для іншых тэхнічных мэт. Частка якаснага ільновалакна адвозілася на продаж.

www.kamunikat.org

Акрамя ільну амаль у кожнай гаспадарцы вырошчвалі каноплі. Гэтай культуры адводзілі некалькі сотак агароднай зямлі. З канапель пры абмалоце атрымлівалі канаплянае семя і канапляную трасту. Частку семені адвозілі на маслабойні і атрымлівалі канапляны алей, які спажываўся і выкарыстоўваўся пераважна на тэхнічныя мэты. З канаплянае трасты амаль такім жа спосабам, як і з ільняной, атрымлівалі трывалае валакно, з якога рабілі моцную тканіну і вяроўкі.

## 13. Паездка Васіля ў Мір

Паездкі ў лясніцтва, на кірмашы ў Снові, Баранавічы і Міры давалі Васілю шмат вольнага часу, каб абдумаць свае гаспадарчыя справы. І не толькі гэта. Пасля Нясвіжа Надзя прасіла Васіля калісь паехаць у Мір, прадаць некалькі мяхоў збожжа і заадно купіць там парасят, пакуль яшчэ не пачалася касавіца.

Прыбраўшы воз напярэдадні вечарам, Васіль быў падрыхтаваны, каб як мага раней выехаць. Надзя, якая заўсёды падымалася з узыходам сонца, выйшла на падворак. Абняла Васіля, пацалавала і пажадала яму шчаслівай дарогі. Васіль, тузануўшы лейчынамі, прамовіў: «Но, паехалі!», і воз рушыў з месца. Надзя перахрысціла Васіля і дадала: «Удачы табе!»

Са свайго падворка фурманка выехала на дарогу, якая напрасткі вяла да Мітрапольскага лесу. Конь пасля працяглага начнога адпачынку пачаў жвава бегчы. Надвор'е было спрыяльнае. Сонца паступова падымалася над небакраем. Хутка паказаўся Мітрапольскі лес. Васіль зрабіў аб'езд вакол яго. Уважліва прыглядаўся да слядоў, якія выходзілі з лесу. Нічога падазронага не знайшоўшы, накіраваўся ў Паланэчку. У гэты момант узнікла магчымасць заняцца сваёй любімай справай — абдумваннем розных пытанняў, як гаспадарчых, так і тых, якія ўзнікалі пры сустрэчы з невядомымі людзьмі. Звычайна ў Паланечцы ці на выездзе з вёскі Серамавічы ў яго хтосьці прасіўся пад'ехаць да Міра. Васіль не вельмі рады быў абы з кім весці доўгую размову на працягу 25 кіламетраў. Аднак па натуры ён быў спагадлівым. І калі заўважыў прыстойна апранутага чалавека, які падняў руку і папрасіў, каб Васіль падвёз яго да Міра, прыпыніўся.

— Што ж, сядайце. Будзем знаёміцца.

Пакуль незнаёмец уладкоўваўся на возе, агледзеў яго. Гэта быў мужчына, чыста апрануты, у новых хромавых ботах, прыкладна аднаго ўзросту з Васілём. Ён менш за ўсё нагадваў тутэйшага вясковага селяніна.

— Добры дзень! — павітаўся незнаёмец. — Мяне завуць Мацей Чэчат. Я працую ў Юравічах настаўнікам пачатковай школы. Скончыў пры цары Нясвіжскую семінарыю. Доўгі час не мог уладкавацца на працу. Сам я родам з Цырына. Там і зараз жывуць мае бацькі, браты і сёстры.

Палякі прапанавалі вучыць тутэйшых дзяцей. Дзеля гэтага прыйшлося прайсці курсы, авалодаць польскай мовай і ўсімі неабходнымі ведамі і інструкцыямі. Пасля прызначылі на пасаду настаўніка пачатковай школы. Зараз вакацыі. Я вырашыў з'ездзіць у Мір, каб праветрыцца, наведаць свайго лепшага сябра і пазнаёміцца з цэнамі на кірмашы.

— А я Васіль Амялішка. Працую гаёвым. Ахоўваю дзве дзялкі лесу: Храмушу і Мітрапольскі лес. Маю сваю гаспадарку ў Бортніках. Жонка выправіла мяне, каб на кірмашы прадаў некалькі мяхоў збожжа і набыў парасят, — растлумачыў Васіль.

Конь тым часам бег трушком, і між седакамі ўзнікла даволі цікавая гаворка. Мацей быў адукаваным чалавекам, дасведчаным у розных палітычных пытаннях. Натуральна, яны не маглі абысці хваляваўшых іх тэм. Мір, Паланэчка, Цырын і іх ваколіцы — гэта тая частка польскай тэрыторыі, дзе пераважае праваслаўнае насельніцтва, у большасці — малазямельныя сяляне. Яны лічаць сябе тутэйшымі. І калі каго-небудзь з іх запытаць: «Хто ты па нацыянальнасці?», ён абавязкова адкажа: «Я, пане, тутэйшы».

— Скажыце, калі ласка, пане Мацею, хто мы такія? Мне ў вайну, калі я быў паранены, давялося лячыцца на Урале ў Екацярынбургу. Дык там на такое пытанне адказваюць: я рускі, ці татарын, ці башкір. Чаму?

— Ведаеце, пане гаёвы, гэта складанае пытанне. Калі разглядаць яго з гістарычнага пункту гледжання, дык трэба заўважыць, што наш край у сваёй большасці населены ліцвінамі, якія да сярэдзіны 19-га стагоддзя па веравызнанні на 90 працэнтаў былі ўніятамі. Пасля 1839 года бяднейшыя малазямельныя ці беззямельныя (парабкі ў памешчыкаў) сяляне-ўніяты (грэка-каталіцкага веравызнання) рашэннем царскіх уладаў сілком былі перахрышчаны ў праваслаўныя. Меншая, больш адукаваная і заможная, частка ліцвінаў прыняла каталіцтва і пачала наведваць касцёл — маліцца па рыма-каталіцкім абрадзе на польскай мове (у тыя часы ў «Северо-Западном» краі ні адзін з касцёлаў не карыстаўся ў набажэнстве беларускай мовай). Яны лічаць сябе палякамі. У той жа час яны не маглі адмовіцца ад ужывання ў сваіх сем'ях беларускай мовы. Большасць жа праваслаўных пачала маліцца на малазразумелай ёй стараславянскай мове і называць сябе тутэйшымі.

І вось што я вам скажу. У мяне ў школе ёсць вучні з розных сем'яў, рознай канфесійнай прыналежнасці. Пераважная большасць — праваслаўныя дзеці з Юравіч і дзеці збяднелай мясцовай шляхты, якія жывуць непадалёк у сваіх маёнтках. Калі іх запытаць: «Kto ty jesteś?», то шляхціцы адкажуць — паляк, а праваслаўныя — тутэйшы. Дзеці ў іх узросце сапраўды не разумеюць, якая ў іх нацыянальнасць, і нават іх бацькі, маючы невялікую адукаванасць, а то і ніякай, таксама не ведаюць, хто яны такія, і ім прасцей за ўсё адказаць на гэтае пытанне, што я — тутэйшы. Каталікі і іх дзеці

наведваюць касцёл, дзе імшу вядзе ксёндз на польскай мове з фрагментальным выкарыстаннем лацінскай, а казанні выключна на польскай мове. Польская мова ім больш зразумелая, а значыць, бліжэйшая, чым праваслаўным царкоўная славянская, на якой адпраўляюцца літургіі.

Праваслаўны адчувае сваёй душой, што ён не рускі, і дакладна не ведае, якой ён нацыянальнасці, і ўвогуле большасць неадукаваных сялян само слова «нацыянальнасць» не разумее. Таму мясцовыя сяляне лічаць сябе тутэйшымі. Гэтая здзеклівая назва нацыянальнай прыналежнасці ўзнікла як пратэст супраць скасавання ўніяцкай канфесіі і прымусовага пераводу ўсіх простых сялян у праваслаўе са стратай сваёй старажытнай назвы — літвін.

Конь бег шпарка. Насустрач ім плылі пакуль што не скошаныя лугі, на якіх буялі лугавыя краскі, разнатраўе: агеньчыкі чырвонай канюшыны, белай дзяцеліны і інш. Каля Малых Жухавіч пачаліся палі, на якіх зелянелі жыта, ячмень, авёс. Менш сустракалася загонаў пшаніцы. Канюшына ўжо была скошана і ляжала ў пракосах, а дзе-нідзе ў копах. Да водараў лугавых красак дадаваўся прыемны пах свежага сена. У вёсцы сустрэлі некалькі вазоў з канюшынай. «Зялёнае» лета пачалося. Сяляне рупіліся як мага хутчэй назапасіць жывёле корму на зіму.

Калі фурманка ехала па вёсцы Вялікія Жухавічы, то нашы знаёмыя апынуліся ў тунелі: з абодвух бакоў іх акружалі дамы сялян і векавыя ліпы, якія толькі што пачалі цвісці. Вакол гэтых велічных дрэў можна было пачуць гудзенне пчол, чмялёў. Паветра было напоена адмысловым мядовым водарам. Далей дарога амаль да самага Міра была бязлеснай. Землі тутэйшыя ўрадлівыя, таму лес, які рос тут раней, высякалі. На гэтым месцы ўзнікалі палі, якія прыносілі сялянам большы даход, чым лес.

Як толькі выехалі з Жухавіч, Васіль звярнуўся да Мацея:

— Пане Мацею, мы жывём у памежжы з Саветамі. Бяднейшыя сяляне часцяком паглядаюць на ўсход. Хтосьці з іх пераходзіць мяжу, шукае лепшай долі там. Сустракаюцца перабежчыкі і з таго боку. Яны расказваюць, што ў Саветах жыццё не такое, якое ўяўляюць многія з нашых перабежчыкаў. Мне часцяком прыходзіцца сустракацца з парушальнікамі мяжы з абодвух бакоў. Я мяркую, што вам вядома пра тамтэйшыя падзеі.

— Пане Базылю, мы з вамі ўжо добра пагутарылі, і вы, мне падалося, зразумелі — не ўсё ў гэтым свеце так проста, як думаюць малаадукаваныя людзі. Яны рэчаіснасць успрымаюць так, як бы ім хацелася. Скажам, мне хочацца, каб у мяне было шмат грошай. З грашыма можна набыць усё, чаго твая душа пажадае: удосталь зямлі, добрыя жыллёвыя ўмовы і гэтак далей. І ў той жа час чалавек забывае, што ўсе гэтыя даброты не проста «сыплюцца» на яго, як манна нябесная, як гаворыцца ў байках. Мае назіранні і жыццёвая практыка паказваюць, што чалавек павінен жыць па Боскіх законах і, галоўным чынам, працаваць. Без працы нічога само па

www.kamunikat.org

сабе не нараджаецца. Ад ляноты, п’янства нічога станоўчага не бывае. Калі чалавек спадзяецца на цуд, на вязенне ў жыцці і не працуе належным чынам, дык ён паступова апускаецца да жывёльнага стану.

Чалавеку ад прыроды даюцца прыблізна аднолькавыя пачатковыя ўмовы. Інакшыя ў сем’ях рознага дастатку. Выкарыстоўваецца дадзенае па-рознаму, і гэта залежыць ад здольнасцей кожнай асобы. Трэба зазначыць, што пачатак жыццёвага шляху маладых людзей абавязкова суправаджаецца запраграмаваным Богам працягам чалавечага роду — патрэбнасцю любові, якая ўзнікае ў адпаведным узросце. Вынікам любові з’яўляецца стварэнне маладой сям’і, якое не заўсёды адбываецца так, як бы хацелі бацькі. Узнікае канфлікт паміж бацькамі і іх дзецьмі, якія сталі дарослымі. Канфлікты між імі ўладжваюцца пераважна мірам. Часцяком бацькі сватаюць сваім сынам нявест не па любові, а глядзяць, які пасаг атрымае нявестка. Так яны часта ігнаруюць каханне паміж хлопцам і дзяўчынай, і тады ўзнікаюць трагедыі, якія пакідаюць глыбокі след на ўсё жыццё. Забарона жаніцца маладым людзям па любові прыводзіць да трагедыі, і пра гэта сведчыць сусветная літаратура. Нельга ўстанавіць законы, якія б рэгулявалі адносіны паміж закаханымі і іх бацькамі.

Успомніце англічаніна Шэкспіра і яго трагедыю «Рамэа і Джульета». Забарона гэтым маладым людзям быць разам прывяла да таго, што яны дзеля любові, калі навісала пагроза іх разлукі, пайшлі на смерць. На гэтую тэму ёсць шмат кніг, напісаных як рускімі, так і беларускімі пісьменнікамі.

Аднак я ўхіліўся ад дакладнага адказу на ваша пытанне. Таму на яго прыйдзецца даваць поўны адказ іншым разам. Зараз не паспеем, бо ўжо бачны вежы Мірскага замку, а гэта значыць, хутка прыедзем на кірмаш.

Васіль пагадзіўся, каб цікавую гутарку перанесці на іншы час. Ён спытаў:

— Пане Мацею, а як вы будзеце дабірацца дахаты?

— Я маю некалькі даручэнняў ад сваёй маладой гаспадыні, якая засталася з дачкой дома. Калі я выканаю свае справы, дык вярнуся ў Юравічы, — сказаў Мацей.

— Каб працягнуць нашу размову, якая мяне вельмі зацікавіла, — сказаў Васіль, — я прапаную: давайце сустрэнемся ля мірскага касцёла ці на любым месцы кірмашу, дзе будзе стаяць мая фурманка.

— Я задаволены вашай прапановай. Мне трэба наведаць майго сябра, які зараз працуе настаўнікам у Міры. І калі я там затрымаюся, дык я прыйду да вас ва ўмоўлены час і скажу, як нам быць далей. Мажліва, я затрымаюся на некалькі дзён. Тады я прыйду потым, але не пазней, чым у пяць гадзін вечара. Усё ж такі, пан Базыль, давайце з вамі дамовімся: калі вы будзеце на сваім участку ў Мітрапольшчыне, а гэта ўсяго некалькі кіламетраў ад нас, дык заязджайце ў Юравічы і спытайце, дзе жыве настаўнік мясцовай школы. Гарантую: кожны сустрэчны пакажа вам маю кватэру. І другая пра-

www.kamunikat.org

панова: можа, вам будзе зручней сустрэцца на перакрыжаванні ўскрайку лесу насупраць дарогі, якая ідзе ад лесу ў вёску Юравічы? Там мы знойдзем месца, дзе зможам паразмаўляць.

— Мне больш падыходзіць другая прапанова — сустрэча ў лесе. Зараз пара сенакосу, і работы, як кажуць, пад завязку. Калі я прыеду на агляд мітрапольскага лесу, там мы і сустрэнемся. Трэба дамовіцца, праз які час. Я прапаную сустрэцца нам роўна праз два тыдні на ўскрайку мітрапольскага лесу. Я буду чакаць вас а дванаццатай гадзіне. Калі не застану, то паеду насустрач па дарозе ў Юравічы, — сказаў Васіль.

## 14. Васіль гандлюе зернем і купляе парсюкоў

Воз у гэты момант уціснуўся паміж шматлікіх фурманак. Васіль пачаў распрагаць каня, а пан Мацей сказаў, што ён абавязкова прыйдзе сюды не пазней за сямнаццаць гадзін, і адышоў.

Распрогшы каня, Васіль перш за ўсё адвёў яго да бліжэйшай студні і напаіў, а на месцы павесіў яму торбу з аўсом на шыю. Варанок пачаў есці. Тым часам гаспадар разлажыў на возе свой тавар: два мяхі жыта, па мяху аўсу і ячменю, пару пудоў грэчкі. Прайшоўся па гандлёвых радах, прыцаніўся і, вярнуўшыся да воза, пачаў гандляваць. Пакуль рыхтаваўся да гандлю, надышла першая гадзіна дня.

Дзень быў пагожы і цёплы. Гандаль адбываўся даволі паспяхова. Васіль не спадзяваўся, што яму так хутка ўдасца ўсё распрадаць.

Калі прыехаў, то не спяшаўся купляць парасят, бо кіраваўся шматгадовым вопытам — самыя танныя бываюць у другой палове дня, калі гандлярам рупіць ад'ехаць дахаты. Парасят трэба прадаць, каб не везці іх другім разам. Застаецца адно — памяншаць цану.

А чацвёртай гадзіне вечара ён ужо быў гатоў ісці купляць парасят. Узяў мех, агледзеўся і праз некалькі радоў фурманак убачыў гаспадара, які гандляваў парасятамі. Падышоў да воза, прыцаніўся і накіраваўся да другога. Абышоў некалькі прадаўцоў, і ўрэшце яму прыглянуліся белыя парасяты з чорнымі плямамі. Цана аказалася сходнай. Ён папрасіў гаспадара прадаць па выбару двух кабанчыкаў і свінку. Гаспадар лавіў парасят за заднія ногі і пад іх піск па чарзе запіхваў у адзін мех. Разлічыўшыся, Васіль закінуў мех за плечы і пайшоў да свайго воза. Уладкаваў мех з парасятамі ў перадку. Яны ўсё пішчалі, але, калі да яго падышоў пан Мацей, амаль супакоіліся.

— Вось і я, пане гаёвы, — сказаў Мацей.

Васіль заўважыў, што Мацей падышоў не адзін, а з сябрам, у якога гасцяваў.

— Пазнаёмцеся. Гэта — Міхась Кот. Мы разам з ім вучыліся ў Нясвіжы. Зараз ён працуе ў мястэчку — вучыць тутэйшых дзяцей грамаце.

Васіль і Міхась моцна пацiснулі рукі. Пры гэтым Васіль назваў сябе, а Міхась дадаў:

— Пане Базылю, я ўжо наслуханы ад Мацея, хто вы і чым займаецеся. Я ведаю, што мой сябра выпадкова сустрэўся з вамі і вы з ім вялі вельмі змястоўную гутарку. Хацеў бы і я далучыцца да вашых размоў. Шкадую, што ў бліжэйшым часе наўрад ці магчыма такое.

— Мы тут з панам Мацеем збіраемся пагутарыць, — сказаў Васіль, — ён вам, мабыць, аб гэтым расказваў, дык прыедзьце да яго пагасцяваць, і мы ў прызначаны час сустрэнемся ў лесе і пагутарым у нашай невялікай кампаніі. Праўда, я не ўзгадніў гэтае запрашэнне з панам Мацеем і як бы запрашаю вас да яго ў госці. Прашу дараваць мне маю нетактоўнасць, пане Мацею. Я рэаліст і ведаю, што далучыцца да нашай кампаніі магчыма, калі вы, пан Міхал, будзеце ў той час у пана Мацея ў Юравічах. Мне таксама было б цікава пачуць вашы разважанні. Таму я са свайго боку запрашаю вас прыехаць на нашу сустрэчу.

— Так, пане Базылю. Я ўжо запрасіў Міхася прыехаць у Юравічы і адпачыць у канікулярны час, падыхаць цудоўным водарам нашых палёў і лугоў, а таксама наведаць лес і заадно сустрэцца з вамі. Таму запрашэнне Міхала на нашу сустрэчу я не лічу нетактоўнасцю, але, наадварот, я вам за гэта шчыра ўдзячны.

— Паважаныя паны Базыль і Мацей, — звярнуўся настаўнік Міхась да прысутных, — вялікі дзякуй за запрашэнне ў госці і на сустрэчу праз два тыдні. За гэты час многае можа змяніцца. Я папярэдне казаў, што вельмі зацікаўлены, каб абмяняцца думкамі з вамі. Скажу так: калі ўсё будзе добра, я абавязкова прыеду ў Юравічы да Мацея і мы сустрэнемся.

— Я бачу, пане Базылю, што вы ўжо ўсё прадалі, набылі парасят і збіраецеся ехаць дахаты. Да Бортнікаў дарога не малая. Патрэбна затраціць не менш як пяць гадзін хуткай язды. Калі вы выедзеце не пазней за сямнаццаць гадзін, то засветла прыедзеце на месца, — сказаў Мацей.

А пан Міхал дадаў:

— Мацей пагасцюе ў мяне некалькі дзён, пазнаёміцца з замкам, дакладней, з тымі развалінамі, якія засталіся ад яго. Наведаем царкву, касцёл і іншыя гістарычныя помнікі нашай даўніны.

Яны развіталіся з гаёвым. Васіль запрог каня і выехаў на сваю дарогу. Варанок, як заўсёды, калі чуў, што рухаецца ў бок дому, бег шпарка. Цяпер яго не трэба было падганяць. Ніхто з пешых не прасіўся, каб пад’ехаць, таму Васіль ехаў улегцы, калі не лічыць парасят, якія час ад часу папісквалі.

www.kamunikat.org

## 15. Вучоба Васіля ў Гарадзішчы. Сустрэча з Марыяй Абрамчык

Васілю ўспомніліся юнацкія гады, калі ён быў маладым вясковым хлапцом. Пасля заканчэння з вышэйшай адзнакай царкоўнапрыходскай школы бацькі адправілі яго вучыцца ў Гарадзішчанскае двухкласнае вучылішча, што ў пятнаццаці кіламетрах ад вёскі Вольна. Там ён сустрэўся з Марыяй Абрамчык, бацькі якой жылі на хутары Галёнія вёскі Бортнікі (сучасныя Бартнікі), недалёка ад вёскі Вольна, дзе жылі бацькі Васіля. Па нядзелях і вялікіх святах Васіль і Марыя не адзін раз бачылі адзін аднаго ў Вальнянскай царкве, аднак размаўляць не выпадала

Тут, у вучылішчы, Васіль убачыў знаёмую дзяўчыну і падышоў да яе.

— Добры дзень, Марыя! Я цябе пазнаў. А што ты тут робіш?

— Як што? Я ўжо некалькі дзён вучуся на першым курсе вучылішча. Мяне сюды прывёз вучыцца бацька, калі мы пераехалі з Баранавіч на хутар Галёнію да дзеда Аўгусціна Абрамчыка. А ты чым тут займаешся?

— Я вучуся на другім курсе. І, калі пашанцуе, вясною будучага года закончу вучылішча.

— Здаецца, цябе завуць Васіль Амялішка. Я не раз бачыла цябе ў Вальнянскай царкве і аднойчы спытала ў жанчыны, якая стаяла побач са мною, чый гэта хлопец. Яна ўважліва паглядзела на мяне і спытала: «А чыя ж ты будзеш, красуня?» — «Цётачка, я Марыя, унучка Аўгусціна Абрамчыка». — «А я Ксенія Амялішка. Гэты хлопец — мой старэйшы сын Васіль».

На гэтым наша размова перапынілася — пачалася абедня.

— Пачакай, Марыя, я ўспамінаю. Аднойчы ў нядзелю, калі мы прыйшлі з царквы, маці кажа: «У царкве ўнучка Аўгусціна Абрамчыка пыталася, чый ты хлопец. Я ёй адказала, што ты мой сын Васіль». Так што, Марыя, мы завочна пазнаёміліся ўжо тады.

— Мой бацька, Аляксандр Абрамчык, — расказвала далей Марыя, — працаваў на станцыі Баранавічы. У пачатку мінулага года на перагоне Баранавічы–Пагарэльцы адбылося крушэнне поезда. Бацьку пераламала абедзве нагі. Доўгі час лячыўся. Выйшаў у адстаўку, і мы пераехалі на хутар Галёнія вёскі Бортнікі на сталае жыллё да дзеда Аўгусціна Абрамчыка. Цяперашні дзедаў хутар яшчэ ў мінулым стагоддзі быў падараваны вальнянскімі Слізнямі іхнім дальнім родзічам Абрамовічам. Сям'я Абрамовічаў была бяздзетнай. І калі ў пачатку 20-га стагоддзя яны памерлі, то за бездакорную саракагадовую службу ў якасці кіраўніка спраў маёнтка Слізні распарадзіліся перадаць гэты хутар дзеду Аўгусціну.

— Марыя, сёння субота. Куды ты зараз ідзеш?

— Іду на сваю кватэру.

— Калі не сакрэт, дзе ж цяпер твая кватэра?

www.kamunikat.org

— Тата наняў мне пакой на Вальнянскай вуліцы.

— Марыя, калі ты не супраць, я правяду цябе.

— Не, я не супраць.

— Вось і добра, пасля заняткаў трэба нейкі час адпачыць, а потым падрыхтаваць класныя заданні на панядзелак. Марыя, давай заўтра пасля абедні сустрэнемся ў царкве, потым пагуляем па мястэчку. Згода?

— Згода!

І яны, размаўляючы, пайшлі на вуліцу Вальнянскую. Перад сваёй кватэрай Марыя развіталася з Васілём, сказала, што заўтра будзе чакаць сустрэчы, і пайшла ў свой дом.

Назаўтра сустрэліся ў царкве ў канцы службы, Васіль прапанаваў прайсціся вакол царквы, каб пазнаёміцца з храмам, з яго асаблівай архітэктурай.

— Марыя, я нядаўна толькі асэнсаваў, што ўсе храмы: і праваслаўныя і каталіцкія, мабыць, і святыні іншых вернікаў — маюць свае непаўторныя архітэктурныя асаблівасці. Храмы, як і людзі, усе розныя.

Пасля яны здаля агледзелі мясцовы касцёл. Марыя сказала:

— А знаеш, Васіль, мая мама Юлія — каталічка і па нядзелях наведвае бліжэйшы касцёл у мястэчку Паланэчка. Таму я прапаную ў будучым прыйсці да гэтага касцёла і больш дэталёва з ім пазнаёміцца. Мне хочацца аб ім больш падрабязна расказаць сваёй маме.

Яны пайшлі па стромай Наваградскай вуліцы да рэчкі Сэрвечы. Затрымаліся на мосце. Назіралі, як пераліваюцца празрыстыя струмені вады, у якіх пры ясным бясхмарным надвор'і адбіваюцца сонечныя промні. Назіраючы за хуткаплыннымі струменямі, Марыя спытала:

— Васіль, ты ў Гарадзішчы ўжо другі год і павінен ведаць, куды рэчка Сэрвеч упадае?

— Вясной бягучага года я спецыяльна цікавіўся, куды Сэрвеч нясе свае воды. Між іншым, у нашай мясцовасці яна адна з буйнейшых рэк, якія ўпадаюць у Нёман. Нядаўна ў газеце «Наша ніва» я прачытаў, што недалёка адсюль нарадзіўся паэт Адам Міцкевіч, які свае вершы і паэмы пісаў на польскай і беларускай мовах. У паэме «Пан Тадэвуш» ён пісаў, што Літва — ягоная радзіма і што побыт на ёй аздараўляе яго. Маладыя гады Міцкевіча праходзілі менавіта ў ваколіцах Сэрвечы. На беразе гэтай ракі ён пазнаёміўся з Марыляй Верашчакай і на ўсё жыццё пакахаў. Яе бацькі мелі свой маёнтак ля Сэрвечы ў Туганавічах. У тым маёнтку зараз іншыя гаспадары.

Мы павінны помніць, што з нашага краю выйшаў слынны ліцвінскі паэт сусветнага значэння, які нарадзіўся ў Завоссі, на адлегласці ўсяго пяці кіламетраў ад Бортнікаў. Надыдзе час, калі ўдзячныя нашчадкі ўшануюць яго. Ягоныя вершы і паэмы будуць перакладзены на большасць іншых моў свету, у тым ліку і на ягоную родную ліцвінскую — беларускую, на якой

толькі што пачала выходзіць у Вільні газета «Наша ніва». Вядома, што Адам Міцкевіч у Пецярбургу сустракаўся з Пушкіным і спаборнічаў з ім у складанні вершаў.

— Які ж ты малайчына, Васіль, што так шмат ўсяго ведаеш. Знаеш, мы нядаўна пераехалі ў Галёнію. Там цудоўнае месца. Утульны дом з садам, агародам і пасекай месціцца пры дарозе на Вольну. Ёсць усе гаспадарчыя пабудовы: хлеў, гумно, склеп для захоўвання прадуктаў. Уздоўж дарогі растуць векавыя ліпы. Калі прайсціся сцежкай між гаспадарчымі пабудовамі за гумно, там убачыш луг, які пераразае рэчка Змейка, дзе можна купацца і вудзіць рыбу. На поўдні за дарогай добры кавалак лесу. Да яго прымыкае гаспадарчае поле. Як толькі мы пераехалі з Баранавіч да дзеда Аўгусціна, я пазнаёмілася з суседзямі-хутаранамі, заўважыла, што іх прозвішчы адрозніваюцца ад прозвішчаў бортніцкіх сялян. Ну, напрыклад, Цівунчык, Сакалуха, Чалядка, Кухаранка, Швед і іншыя. Усе яны маюць свае надзелы і жывуць у Галёніі асабняком ад бортніцкіх сялян. Чаму?

— Адказ на гэтае пытанне, я думаю, такі: жыхары вёскі Вольнай мелі сваю зямлю і лічыліся вольнымі, таму і вёску недзе ў 16 стагоддзі, а мо і раней, пачалі называць Вольнай. Што тычыцца вёскі Бортнікі, дык назва яе, на маю думку, склалася ад прафесійнага занятку прыгонных сялян, якія абавязаны былі пастаўляць мёд у двор пану. Іх называлі бортнікамі, таму што яны здабывалі мёд з калодаў-вулляў, якія размяшчаліся на дубах і іншых дрэвах, — займаліся бортніцтвам — пчалярствам. Адсюль назва вёскі Бортнікі. На сучасную назву вёскі паўплывала тое, што ў польскай мове вулей называюць барць, а пчаляра бартнікам. Наша старадаўняя назва вулля — борць, а пчаляра — бортнік. І атрымаліся не Бортнікі, а Бартнікі. Ваша вёска, як і многія іншыя мястэчкі і вёскі, мае назву не мясцовую, а ў вымаўленні суседняй краіны. Так яна захоўваецца, на жаль, і на геаграфічных картах не толькі рускіх, але і беларускіх. Што тычыцца прозвішчаў жыхароў Галёніі, то тут вельмі проста: Кухаранка — жонка панскага кухара, Чалядко — чаляднік (рамеснік у панскім двары). Сакалуха ведаў сакаліным паляўніцтвам, Цівунчык — наглядчык за працай прыгонных сялян. Швед — прозвішча, якое, магчыма, паходзіць ад далёкага продка шведа, які ўдзельнічаў у вайне з царскімі войскамі Пятра І, ажаніўся з тутэйшай дзяўчынай і застаўся жыць у Бортніках. Адзіночныя выпадкі вядомы з больш позняга часу, калі немец з прозвішчам Штэнэкіо ажаніўся пасля Першай сусветнай вайны з бортніцкай дзяўчынай, і ад іх пайшоў род, але ўжо пад прозвішчам Штэнко.

— Я цяпер здагадваюся, што свае зямельныя надзелы ў Галёніі гэтыя людзі атрымалі як падарунак ад вальнянскіх Слізняў за шматгадовую прафесійную дзейнасць.

— Гэта так і было, Марыя. Якая ты здагадлівая. Разумніца, — пахваліў Васіль, і яны пайшлі дахаты, балазе ім трэба было на заўтра рыхтаваць класныя заданні.

www.kamunikat.org

Аднак перш чым развітацца, яны дамовіліся, што пры спрыяльных умовах у наступную нядзелю сустрэнуцца.

Спачатку яны, як знаёмыя, гулялі па мястэчку, абменьваліся ведамі, якія вычыталі ў кніжках. Раілі прачытаць адно аднаму тое, што асабліва зацікавіла. У Марыі было больш магчымасцяў прачытаць цікавую кніжку, таму што і ў дзеда, і ў бацькі былі свае бібліятэкі. У доме бацькі Васіля кніг акрамя Евангелля і перыядычных царкоўных выданняў не было. Таму Васіль карыстаўся тымі кнігамі, якія прыносіла Марыя з хатняй бібліятэкі Абрамчыкаў.

Пасля пераезду з Баранавіч Аляксандр і Юлія, бацькі Марыі, вырашылі аддаць сваю старэйшую дачку (яна добра вучылася — мела цудоўную памяць) у Гарадзішчанскае рэальнае вучылішча, якое было на адлегласці пятнаццаці кіламетраў ад Галёніі. Бацька Марысі, Аляксандр, часцяком запрагаў у брычку лепшага каня і ў суботу ці ў перадсвяточныя дні ехаў, каб праведаць сваю дачушку. На вялікія святы прывозіў яе дахаты. Колькі радасці было ў той час у вялікай сям'і Абрамчыкаў! Марыся прывозіла сваім малодшым сястрычкам і брацікам падарункі. Яна была адкрытым і добразычлівым чалавекам і ўсяляк і раз, калі бацька прыязджаў па яе, прасіла, каб ён узяў з сабою знаёмага хлопца Васіля Амялішку, бацька якога Андрэй Амялішка жыў з вялікай сям'ёй у суседняй вёсцы Вольна. Спадар Аляксандр ніколі ў просьбе Марыі не адмаўляў, калі ў гэтым была патрэба, падвозіў Васіля. Па дарозе яны гутарылі на розныя тэмы. Аднойчы, едучы з Марыяй і Васілём, спадар Аляксандр спытаў:

— Скажы, Васіль, якія ў цябе далейшыя планы? Чым ты будзеш займацца, калі закончыш рэальнае вучылішча?

— Дакладна я не магу адказаць на вашае пытанне. Мой бацька настойвае, каб праз год я паступіў вучыцца ў сталярнае вучылішча мястэчка Ракава, што недалёка ад Менску, і набыў спецыяльнасць сталяра-чырвонадрэўшчыка.

— Пазнаёміўшыся з табою, Васіль, — сказала Марыя, — я зразумела, што ў цябе прыхільнасць да матэматыкі, літаратуры, адным словам, да больш сур'ёзнай адукацыі.

— Так, Марыя, мне хацелася б атрымаць больш шырокія веды, але ж яны мне недаступныя. У майго бацькі шматдзетная сям'я, і ўсіх маіх братоў і сясцёр трэба вывесці ў людзі.

— З аповедаў Марыі я зразумеў, — дадаў спадар Аляксандр, — што ў цябе да прапанаванай бацькам прафесіі не ляжыць душа. У цябе выдатныя здольнасці да іншых навукаў. Ты захапляешся літаратурай, паэзіяй. Табе добра даюцца дакладныя навукі. У цябе сур'ёзныя адносіны да больш глыбокіх ведаў.

— Гэта так, пан Аляксандр. Сапраўднасць такая: мае бацькі могуць дапамагчы мне набыць толькі тэхнічную спецыяльнасць. Я думаю, што

www.kamunikat.org

і гэта няблага. Відаць, прыйдзецца набываць прафесію, якая бацькам па кішэні.

На гэты раз яны ехалі з Гарадзішча і, праязджаючы ля маёнтка Бортнікі, дзе ў той час ніхто не жыў, спадар Аляксандр вырашыў затрымацца, каб пазнаёміць маладых з сядзібай маёнтка, паркам і ягонымі ваколіцамі і даць магчымасць адпачыць каню. Яны пайшлі па парку. Дамы і ўсе гаспадарчыя пабудовы пасля смерці апошняга пана Эдуарда Слізня, які ў свой час служыў марскім афіцэрам царскага флоту, паступова прыходзілі ў запусценне. Цяперашнія ўладары маёнтка паны Слізні жылі ў вальнянскім маёнтку, а бортніцкі закансервавалі. Было бачна: усе пабудовы патрабавалі капітальнага рамонту.

Убачыўшы наведвальнікаў, ахоўнік Хведар Журба павітаў іх:

— Добры дзень, пан Аляксандр! Як даўно я не сустракаў вас! Ведаеце, як мне абрыдла ў гэтых харомінах аднаму!

— Хведар, я з дачкой Марыяй і яе сябрам Васілём, якія вучацца ў Гарадзішчы, едзем на Вялікодныя святы дахаты. Вырашыў затрымацца ля панскага маёнтка, каб паказаць ім яго ды даць магчымасць каню падсілкавацца, адпачыць.

— Я рады вам усім, а Васіля я часцяком сустракаў у царкве. Добра ведаю яго бацьку — паважанага царкоўнага старасту Андрэя. Магу паказаць усё, што вас цікавіць. Вы ж ведаеце, што пасля смерці апошняга з роду бортніцкіх Слізняў пана Эдуарда ў маёнтку ніхто не жыве. Па спадчыне маёнтак перайшоў вальнянскім Слізням. Яны нанялі мяне, каб я яго ахоўваў.

Спярша Хведар прапанаваў паглядзець, як з паўночнага боку панскага дому ва ўсю моц зацвілі духмяныя нябесныя фіялкі, а насупраць былога дома абслугі — белыя. Марыі спадабаўся падворак, абсаджаны па акружнасці дыяметрам прыкладна дзесяць метраў стогадовымі каштанамі, на якіх набрынялі пупышкі, каб неўзабаве зазелянець лістотай.

— У цэнтры круга, — расказваў ахоўнік, — у мінулым быў сонечны гадзіннік. Скажу па сакрэце, на добры лад, трэба было б рабіць капітальны рамонт усіх памяшканняў, як жылых, так і гаспадарчых. Але ж бяда ў тым, што тут няма каму жыць. Вальнянскія ўладары перш за ўсё клапоцяцца аб тым месцы, дзе стала жывуць.

Агледзеўшы маёнтак, Аляксандр, Марыя і Васіль паехалі дахаты ў Галёнію. Не даязджаючы да хутара Абрамчыкаў, вазок спыніўся на дарозе. Васіль саскочыў, хацеў развітацца і падзякаваць, але Марыя падышла да яго і, звяртаючыся да абодвух, сказала:

— Тата і Васіль, я хацела б, каб праз тры дні мы разам паехалі ў Гарадзішча. Спадзяюся, што тата не будзе супраць, каб захапіць Васіля і ў зваротны шлях?

— Што ты, Марыя, мне было вельмі прыемна бавіць час у вашай кампаніі, — сказаў Аляксандр, — і я са свайго боку запрашаю Васіля

www.kamunikat.org

прыйсці да нас не толькі, каб разам ехаць. Васіль, прыходзь да нас на другі дзень Вялікадня ў госці, там мы дамовімся пра паездку.

Васіль падзякаваў спадару Аляксандру і Марыі і сабраўся адысці. Марыя ў гэты час звярнулася да бацькі:

— Тата, а можна я правяду Васіля да Сакалухі?

— Чаму ж не, правядзі. Толькі доўга не затрымлівайся. Васіль, не саромейся, калі ласка. У мяне добры конь і вазок, усім месца хопіць. Да таго ж мы маем яшчэ шмат цікавых размоў, каб карысна правесці час у нашых паездках.

Па дарозе Марыя прапанавала Васілю сустрэцца ў Вальнянскай царкве на Усяночнай.

— Магчыма, у царкву я прыйду са сваімі сястрычкай Надзяй і брацікам Мікалаем, зразумела, калі бацькі дазволяць ім адстаяць усю ноч.

Васіль адказаў:

— Марыя, я аб гэтым думаў, аднак прапанаваць такое, шчыра кажучы, мне не хапіла духу.

На развітанне Марыя павіншавала Васіля з надыходзячымі святамі, пацалавала Васіля ў шчаку і, сказаўшы: «Да сустрэчы, Васілёк!», пабегла дахаты, здзіўляючыся свайму ўчынку. Марыя бегла дахаты, як на крылах, і, затрымаўшыся ля хутара Чалядкаў, азірнулася. Яна ўбачыла: Васіль стаіць пад векавымі ліпамі і ў разгубленасці махае ёй рукою.

Васіль быў узрушаны пацалункам Марыі, хацеў дагнаць яе і аддзячыць, аднак стрымаўся і на радасцях пайшоў дахаты, дзе яго чакалі маці, бацька, сястра Воля і малодшыя браты Павел, Давыд і Лаўрын.

Каля парога хаты Марыю чакала маці Юлія і малодшыя сёстры Надзя і Аня, браты Мікалай і малы Міхась. Калі яна ўвайшла ў хату, яе прывіталі і пацалавалі дзядуля Аўгусцін, бабуля Марфа і цётка Ганна.

— Марыся, — звярнулася да яе маці, — а чаму ж ты не запрасіла свайго кавалера ў хату? Я б яго пачаставала. Ён, відаць, прагаладаўся.

— Мама, ён спяшаўся дахаты. Яго там чакаюць бацькі, сястра і браты. Калі вы хочаце яго пачаставаць, дык такая магчымасць будзе. Тата яго запрасіў да нас у госці на другі дзень Вялікадня.

— А чаму гэта ты так расчырванелася і задыхалася, быццам за табою хтосьці гнаўся?

— Мама, гэта я спяшалася, каб хутчэй усіх пабачыць. Сумавала без вас. Перад прыездам таты я доўгі час стаяла ля акна і глядзела на дарогу, адкуль павінен з’явіцца татаў воз.

Марыя расказала аб тым, чый гэта хлопец, што ў будучым годзе ён заканчвае вучылішча ў Гарадзішчы і што бацькі прапануюць яму паступіць вучыцца на сталяра.

— Юлька, я з ім пазнаёміўся, — уступіў у размову Аляксандр, — ён зрабіў добрае ўражанне на мяне. Хлопец разумны, быў лепшым вучнем

Вальнянскай школе, таму царкоўны стараста Андрэй Амялішка — ягоны бацька — аддаў яго вучыцца ў Гарадзішча. Думаю, што нам з ім трэба пазнаёміцца бліжэй. Нам неабходна даведацца, да каго наша дачка неабыякавая.

— Ён, мусіць, ужо жаніх нашай Марысі, — далала Надзя.

Марыя пачырванела.

— Што ты пляцеш? Які ён жаніх? Мне проста з ім цікава. Хлопец хоць і з простай сям'і, аднак адрозніваецца ад іншых розумам, начытанасцю. Ад яго я магу больш даведацца пра жыццё. Ён старэйшы за мяне, а значыць, больш дасведчаны, — з хваляваннем выказалася Марыя.

Малодшанькія сястра і браты пачалі дражніцца:

— Марыська займела жаніха! Скора мы яе будзем замуж аддаваць.

Спадар Аляксандр вырашыў прыпыніць гэты вэрхал і сказаў:

— Дзеці, вы непрыстойна сустракаеце сваю сястрычку. Супакойцеся! Ці ж можна так дражніць Марыю? Яна ўжо некалькі месяцаў не была дома. І калі яна прыехала да нас у госці на свята, то вы не даяце ёй спакойна паесці і адпачыць. Хто ведае, Надзя, можа так стацца, што ён будзе тваім жаніхом, — сказаў бацька і заўважыў, што на гэты раз пачырванела Надзя. А сказаў ён гэта, каб спыніць кпіны дзяцей у адрас Марыі.

Прыгадаў Васіль, што гэтыя словы былі прарочыя, але гэта збылося значна пазней.

## 16. Успаміны Юліі Абрамчык

Мы, дзеці, заўсёды вельмі радаваліся, калі да нас на хутар Бортнікі прыходзіла наша бабуля Юлія. Калі мы бачылі, што яна ідзе па сцежцы, якая вядзе да нашага падворка, то беглі ёй насустрач, абнімалі яе, цалавалі. Бабуля заўсёды прыносіла нам гасцінцы. Яе прыход для нас быў асаблівым, можна сказаць, святочным днём.

І вось аднойчы, сустрэўшы сваю бабуню (так мы яе называлі — відаць, таму, што яна была каталічкай), я спытаў у яе:

— А хто быў гаспадаром нашай цяперашняй сядзібы?

— У мінулым стагоддзі, — пачала бабуня, — апошнім уладаром маёнтка быў Эдуард Слізень, які ў маладосці служыў афіцэрам на царскім флоце, а калі адслужыў свой тэрмін, то вярнуўся ў свой бортніцкі маёнтак. Яшчэ маладым хлапцом ён часцяком гасцяваў у сваіх дзядзькоў — вальнянскіх Слізняў. Яму падабалася яго дваюрадная сястра, маладая дзяўчынка Крысціна, якая ў той час была яшчэ дзесяцігадовым падлеткам. На караблі ён часта ўспамінаў паненку Крысціну, асабліва ў часы адпачынку. Прыязджаючы ў водпуск, Эдуард абавязкова наведваў сваіх родзічаў у Вальнянскім маёнтку і назіраў, як год ад году паненка Крысціна становіцца

дарослай і ўсё прыгажэйшай, і яго пачуцці да яе ўзрасталі. Ні пра каго іншага з жанчынаў ён не марыў. Заўсёды перад ім паўставаў вобраз прыгожай бландзінкі з доўгімі косамі, блакітнымі вачамі, статнай фігурай.

На апошнім годзе службы ў час водпуску Эдуарда ў бортніцкі маёнтак на яго дзень нараджэння прыехала са сваімі бацькамі панна Крысціна. Пасля застолля Эдуард папрасіў бацькоў панны Крысціны, каб яны дазволілі яму пагуляць з ёю па парку.

— Ну што ж, сёння стаіць выдатнае надвор'ё, — сказаў Рафал Слізень, бацька Крысціны, — я мяркую, што пасля такога багатага застолля маёй Крысціне і вам будзе прыемна пагуляць па паркавых алеях. Чуеце, як сёння незвычайна прыгожа спяваюць салаўі? Ідзіце і памятайце, што праз пару гадзін мы ад'язджаем.

Маладыя выйшлі з-за стала, апрануліся і пайшлі па алеі, якая крута спускалася з пагорка, на якім стаяў палац, і апынуліся сярод дрэў розных парод. Панна Крысціна даўно заўважала, што яе дваюрадны брат неабыякавы да яе. Таму, калі ён узяў яе пад руку, страпянулася і прыхілілася да яго. Іх вусны інстынктыўна зліліся ў пацалунку. Апамятаўшыся, яна сказала:

— Эдуард, што вы робіце? Мы ж з вамі блізкія па крыві — дваюрадныя брат і сястра. Вам нельга мяне кахаць.

— Панна Крысціна, я павінен сказаць вам, што даўно, можна сказаць, з маіх юнацкіх гадоў, назіраў за вамі, як вы падрасталі. З кожным новым маім прыездам праз год вы мне усё больш і больш падабаліся. І вось вы сталі дарослай і сёння паказалі, што і я вам неабыякавы. На сваёй службе на караблі ў вольны час я заўсёды ўспамінаю вас. Ваш вобраз стаяў перада мною, і свайго далейшага жыцця я ўжо не ўяўляю без вас. Я даўно кахаю вас, і ніхто іншы мне не патрэбен. Мне засталося яшчэ адзін год служыць на флоце. Пасля я пайду ў адстаўку і маю намер пасяліцца ў гэтым цудоўным памесці разам з вамі. Адчуваю сэрцам, што я вам неабыякавы. Аб гэтым сведчыць пацалунак, ад якога вы не ўхіліліся толькі што. Я бясконца шчаслівы ад таго, што адбылося між намі. Таму давайце, панна Крысціна, адзін да аднаго будзем звяртацца на «ты». Праз год прыеду ў Бортнікі, і мы з табой пажэнімся, нягледзячы на неспрыяльны нам збег розных акалічнасцей.

— Я даўно закаханая ў цябе, — эмацыянальна сказала Крысціна, — што нейкім чынам стала вядома маім бацькам. Яны ведаюць, што я закахалася ў цябе, і таму пастаянна нагадваюць мне: касцёл не дазволіць нам узяць шлюб па вядомай табе прычыне. Як нам быць цяпер — не ведаю. Пры гэтым, нягледзячы ні на што, згодна быць не толькі тваёй сяброўкай, але і жонкай.

У гэты час яны падышлі да альтанкі, якая знаходзілася на самым высокім месцы забудоў маёнтка, селі на лаўку. Эдуард абняў сваю каханую. Зараз яны адчувалі найвялікшую асалоду ад пацалунку, які іх зблізіў. Яны не думалі ні аб чым іншым. Яны былі шчаслівыя. І ў гэты момант пачулі:

— Крысціна! Час ехаць! Нас чакае карэта!

— Мой любы, чуеш, мяне клічуць. Нам пара развітвацца. Я гатова сядзець з табой усю ноч, аднак мне пара. Я ведаю, што праз некалькі дзён ты мусіш ад’ехаць на службу. Таму я зараз прапаную развітацца, каб не даваць маім бацькам падставы заўчасна даведацца пра нашы намеры. Я цябе чакаю праз год.

Яны рассталіся…

Мінуў год. Эдуард Слізень пайшоў у адстаўку і прыехаў у свой маёнтак Бортнікі. Назаўтра з’явіўся да вальнянскіх Слізняў з візітам, каб сустрэцца са сваёй каханай Крысцінай.

Эдуарда сардэчна сустрэлі дзядзькі. Як звычайна, запрасілі за стол, дзе сядзелі ўсе самыя блізкія з панства Слізняў. Віно лілося ракой. Падымаліся тосты за тое, каб Эдуард урэшце стаў добрым гаспадаром і знайшоў сабе дастойную паненку, якая б яго ашчаслівіла. Зразумела, усе гэтыя пустыя тосты падвыпіўшых дзядзькоў яго не цікавілі. Ён сядзеў як на іголках: чакаў зручнага моманту, каб нарэшце застацца сам-насам са сваёй каханай, якая таксама з нецярпеннем чакала таго ж. Праз нейкі час ён папрасіў у гаспадароў прабачэння і сказаў, што пасля доўгага сядзення яму патрэбна падыхаць свежым паветрам:

— Відавочна, я зашмат выпіў, і мне трэба прагуляцца па парку, каб прыйсці ў норму.

— Мама і тата, дазвольце мне правесці Эдуарда, — сказала панна Крысціна.

— Вядома, ідзіце, падыхайце свежым паветрам. Я думаю, Эдуард, што наша цудоўнае паветра, настоенае на водары квітнеючых каштанаў і бэзу, дапаможа вам пазбавіцца вашага недамагання, — сказаў бацька Крысціны.

Маладых адпусцілі. Яны выйшлі на алею на поўнач ад палаца. Забудоў там не было, і яны апынуліся сярод квітнеючых дрэў. Дзень быў цёплы, пагодны. Пачынаўся надвячорак. З поўдня даносілася мычанне кароў, ляскание бічоў і пакрыкванне пастухоў, якія заганялі быдла ў хлеў.

Панна Крысціна смела ўзяла Эдуарда пад руку.

— Давай пойдзем па гэтай сцежцы. Там непадалёку ад царквы ёсць лаўка, на якой мы крышачку пасядзім. Давай мне руку. Я цябе правяду.

Праз некалькі хвілін яны, абняўшыся, сядзелі на лаўцы і цалаваліся.

— Мой любы, сёння я зранку адчувала, што ты абавязкова наведаеш нас і знойдзеш прычыну, каб сустрэцца са мною. І ўрэшце мы разам. Я вельмі рада нашай сустрэчы. Думаю, што ўжо хутка настане час, калі пасля нашага вяселля мы будзем разам у тваім маёнтку, як ты мне расказваў амаль з год таму ў бортніцкай альтанцы.

— Спадзяюся, мая любая Крыся, так яно і будзе. У бліжэйшы час я планую наведаць Паланэчкаўскі касцёл і з тамтэйшым ксяндзом вырашыць пытанні адносна нашага вянчання.

www.kamunikat.org

Пакуль яны размаўлялі, добра сцямнела. Стала халаднавата. Панна Крысціна прапанавала Эдуарду вярнуцца ў палац, каб яе бацькам не было прычыны для хвалявання. Яны ўсталі, Эдуард узяў Крысціну за руку, прыцягнуў да сябе, моцна прытуліў, і яна паўшэптам сказала:

— Эдуард, такой асалоды я ніколі не адчувала. Мне так прыемна адчуваць тваё цяпло. Хацела б так стаяць з табою, любы, бясконца доўга.

Салаўі працягвалі сваю справу. Адзін дзесьці побач з імі пачынаў сваё шчабятанне, а за ім працягваў другі непадалёк. А недзе ля ракі Змейкі ў начной цішы быў чутны сапраўдны канцэрт гэтых незвычайных птушак.

— Чуеш, каханая, якое шчасце нам выпала: быць разам і слухаць цудоўныя спевы. У вольныя хвіліны на сваім караблі я марыў пра сустрэчу з табой, уяўляў, як гэта адбудзецца. Сённяшняя сустрэча пераўзышла ўсе мае мары. Я не здагадваўся, што наша цяперашняе каханне будзе такім цудоўным пад спевы цэлага салаўінага канцэрту. У гэтую травеньскую пару, мабыць, сам Бог ладзіць такія канцэрты закаханым, каб яны былі шчаслівыя і прадоўжылі свой род.

— Што б ні здзейснілася ў будучыні, мілы, я ніколі не забуду сённяшняй сустрэчы з табой. Аднак нам пара. Хадзем.

І яны пайшлі ў цемнаце: Крысціна наперадзе, за ёю яе каханы.

Усе госці даўно разышліся. Калі маладыя зайшлі ў гасціную, бацька спытаў:

— Эдуард, як паўплывала наша паветра на вас? Ці можна параўнаць наша паветра з марскім, якім вам ў недалёкім мінулым прыходзілася дыхаць пад час вашай службы?

— Дарагія мае дзядзька і цётка, ваш палац знаходзіцца ў такім цудоўным месцы! Ягонае паветра, напоенае ўсімі водарамі квітнеючых дрэў, кустоў і кветак на старанна дагледжаных клумбах, уздзейнічала на мяне так, што з кожным крокам па парку адчуваў лепш і лепш, і зараз адчуваю сябе добра. Шчыра дзякую вам і асабліва маёй сястры панне Крысціне. Яна была выдатным праваднікам А цяпер ужо час позні. Я павінен адкланяцца і запрашаю вас прыехаць у Бортнікі да нас на дзень майго нараджэння, які, мяркую, адсвяткуем у наступную нядзелю.

Развітаўшыся з Крысцінай і яе бацькамі, ён ужо праз паўгадзіны прыехаў у свой бортніцкі маёнтак.

Назаўтра Эдуард загадаў свайму лёкаю залажыць карэту і паехаў да ксяндза ў Паланэчаўскі касцёл. Прыкладна праз гадзіну быў ля ягонай плябаніі. Пробашч Віктар запрасіў яго да сябе і пацікавіўся:

— Пан Эдуард, мне стала вядома, што вы пайшлі ў адстаўку і маеце намер пасяліцца ў сваім радавым маёнтку. Вітаю вас з гэтай падзеяй і задаволены, што нашая парафія папоўніцца яшчэ адным прыхаджанінам. А цяпер слухаю вас, па якой справе вы прыбылі да нас.

— Паважаны пан пробашч, я ўжо не малады хлапец. Мне зараз болей за трыццаць гадоў. Закончыў службу афіцэрам марскога флоту. Думаю,

што настаў час мне скончыць сваё халасцяцкае жыццё. Я ўжо больш за дзесяць гадоў выбіраў сабе пару — прыглядаўся да адной дзяўчыны, якая з году ў год сталела і прыгажэла. Я адчуваў, што і я ёй неабыякавы. Апошнімі гадамі, калі я прыязджаў у адпачынак, сустракаўся з ёю, і мы пакахалі адзін аднаго. І мне здаецца, што нам засталося зрабіць апошні крок — павянчацца. З просьбай нас павянчаць я і прыехаў да вас.

— Дазвольце даведацца, хто яна, з якога рода і ці каталічка.

— Прозвішча яе Крысціна Слізень. Яна дачка майго дзядзькі Рафала Слізеня. Вы, спадзяюся, ведаеце яе?

— Я добра ведаю шаноўнага Рафала Слізеня і ягоную дачку Крысціну. Знаю, што яна ваша стрыечная сястра. Але каталіцкая царква забараняе шлюб такіх блізкіх сваякоў. Я не маю права вас абвянчаць. Аднак ёсць магчымасць папрасіць дазволу на ваш шлюб у Папы Рымскага. Напішыце ліст на імя Папы ў Ватыкан і чакайце ягонага вырашэння.

Эдуард зразумеў, што ягоны шлюб адкладваецца надоўга. Аднак надзеі не траціў. Вярнуўшыся ў Бортнікі, напісаў ліст у Ватыкан, у якім прасіў дазволу ажаніцца са стрыечнай сястрой, якую ён пакахаў і без якой не мысліць свайго далейшага жыцця.

Ішоў час. Эдуард і Крысціна сустракаліся часта. Спадзяваліся, што свяцейшы айцец дазволіць ім абвянчацца… Іх каханне паглыблялася. Бацькі Крысціны ведалі аб гэтымі і былі ўпэўнены, што Папа Рымскі дазволіць Эдуарду і Крысціне ўтварыць сваю сям’ю, таму і не пярэчылі іх сустрэчам.

Праз паўгода Эдуард атрымаў ліст, у якім на польскай мове было напісана: «Dozwalam, ale nie blagoslawiam». Гэтая адмова шакіравала яго. Ён зразумеў, што каханне з Крысцінай скончана, бо без благаславення Папы бацькі Крысціны не пагодзяцца на іх шлюб. А гэта значыць, што ён страціць сваю каханую, а без яе ён не бачыць сэнсу ў далейшым сваім жыцці.

Нікому не расказваючы аб змесце ліста, Эдуард пакінуў яго на стале ў сваім пакоі і зачыніў дзверы на ключ. Паклаў ключ у кішэнь, выйшаў у парк. Цэлы дзень хадзіў ён па алеях парка, як непрыкаяны. Абслуга — лёкай, пакаёўка, повар і кіраўнік справамі маёнтка — былі здзіўлены такімі незвычайнымі паводзінамі свайго пана. Калі надышла пара абеду, лёкай пастукаў у дзверы, каб даведацца, якія даручэнні дасць яму пан. На стук пан не адказаў. Лёкай паспрабаваў адчыніць дзверы, але яны былі зачынены на ключ. У гэты момант да лёкая падышоў кіраўнік справамі маёнтка і сказаў:

— Шаноўны, дзверы зачыніў наш пан. Пасля снедання прыйшоў паштальён і персанальна ўручыў яму ліст, пасля чаго пан Эдуард адправіўся на прагулку ў парк і с таго часу не вярнуўся. Табе трэба пашукаць пана ў парку і запрасіць яго на абед.

Лёкай пайшоў у парк і на пагорку, на ўскрайку парка, ўбачыў пана Эдуарда, які сядзеў на лаўцы, абхапіўшы рукамі галаву. Калі лёкай падышоў

да яго, ён апусціў рукі. Было бачна, што яны трасуцца, а твар быў бледны, як палатно.

— Пан Эдуард, што здарылася? Чаму ў вас такі незвычайны выгляд?

— Нічога, Янак, я штосьці не ў сваёй талерцы. Дрэнна сябе адчуваю.

— У такім разе дазвольце адвесці вас дахаты і запрасіць на абед.

Калі лёкай прывёў свайго пана ў ягоны пакой, Эдуард сказаў:

— Перадай абслузе, што сёння абедаць я не буду, — і дадаў, — прашу не турбаваць мяне, пакуль не паклічу.

Лёкай Янак выйшаў з пакоя. Ягоны пан зачыніў пакой, лёг на канапу. Лежачы, прагаварыў: «Што ж рабіць, усё скончана!» Убачыў на сцяне стрэльбу. Зняў яе, дрыжачымі рукамі нацэліў дула ў галаву і націснуў на курок. Раздаўся выбух. У галаве стала цёмна. Ад рэзкай болі ў правым воку страціў прытомнасць, упаў на падлогу.

Лёкай і іншыя дваровыя пачулі стрэл, пабеглі, адчынілі пакой і убачылі свайго пана, які ляжаў на падлозе. З акрываўленае раны па галаве цякла кроў. Пан Эдуард ляжаў непрытомны, але дыхаў. Поруч з ім ляжала паляўнічая стрэльба. Дула было цёплым. У пакоі пахла порахам. Пакаёўка і лёкай пры дапамозе дваровага паднялі пана на канапу і аказалі яму першую дапамогу — налажылі бінт на рану.

Тым часам упраўляючы спраў маёнтка асядлаў лепшага каня, ляцеў як на крылах у Вольну, каб паведаміць жандару і фельчару аб здарэнні і каб яны як мага хутчэй прыехалі ў маёнтак Бортнікі да параненага Эдуарда Слізня. Жандар распарадзіўся запрэгчы каня і запрасіць фельчара. Праз паўгадзіны яны былі ўжо ў пакоі параненага. Фельчар аказаў неабходную дапамогу і прапанаваў адвезці ў бліжэйшы шпіталь.

Жандар дасканала правёў следства, склаў пратакол, у якім запісаў, што доследныя ўлікі паказваюць, што пан палкоўнік царскага марскога флоту ў адстаўцы Слізень Эдуард Станіслававіч пятага кастрычніка 1895 года атрымаў ліст ад Папы Рымскага. Змест ліста таксама быў упісаны ў пратакол. Канстатавалася, што ў стане нервовага расстройства Эдуард здзейсніў спробу самазабойства з дапамогай уласнай стрэльбы, параніў сябе ў правае вока і быў адпраўлены ў павятовы шпіталь.

У шпіталі яго вылечылі. Праз некалькі тыдняў пан Эдуард вярнуўся ў свой маёнтак і жыў там халасцяком, пакуль не састарэў і памёр.

На гэтым аповед бабуні быў скончаны.

Я пацікавіўся:

— Бабуня, як склаўся далейшы лёс панны Крысціны?

— Дакладна не ведаю, унучак, — адказала бабуня, — аднак хадзілі чуткі, што пасля той трагедыі бацькі адвезлі яе ў Варшаву, дзе ў паноў Слізняў таксама быў свой палац, і больш у Вольну яна не з'яўлялася.

Так я зразумеў, чаму бортніцкі маёнтак перайшоў у спадчыну вальнянскім Слізням.

www.kamunikat.org

## 17. Вяртанне Васіля з вайны

Калі ў 1917 годзе пасля шпіталя Васіль вярнуўся на радзіму, то даведаўся ад сваіх родных, што Марыя Абрамчык выйшла замуж за Фёдара Заўялава і з'ехала з ім у Маскву. Марыя, шукаючы лепшай жаноцкай долі, пазнаёмілася з царскім каптэнармусам, які служыў пры вайсковым штабе і кватараваў у доме Абрамчыкаў, пакахала яго, выйшла за яго замуж і пакінула бацькоўскую сям'ю.

Марыя, як яму здавалася, здрадзіла яму. Васіль быў прыгнечаны гэтай навіной, ніяк не мог паверыць, што такое магло здарыцца. Хадзіў па бліжэйшым лесе цэлымі днямі і усё думаў, думаў, як яму жыць далей. Да Абрамчыкаў не пайшоў — лічыў, што ўсё страчана. Ад таго, што праваліліся ягоныя планы на будучыню, ён не знаходзіў сабе месца,

З цягам часу сардэчныя раны зарубцаваліся. Усвядоміўшы, што ягонае рамантычнае каханне з Марыяй закончылася, пачаў дапамагаць бацькам па гаспадарцы і выконваць розныя сталярныя заказы, якія зрэдку атрымліваў ад сялян. На вясковыя пагулянкі, якія ў гэтыя ваенныя часы амаль не праводзіліся, ён не хадзіў. Ніяк не мог выкінуць з сэрца Марыю. Каб не вярэдзіць свае душэўныя раны, лічыў лішнім наведваць сямейства Абрамчыкаў. Рэгулярна наведваў царкву.

## 18. Сустрэча Васіля з Надзеяй Абрамчык

Аднойчы нядзельным ранкам ён вырашыў схадзіць у царкву. Калі падыходзіў да царквы, якая была зусім блізка ад ягонай хаты, пад'ехала знаёмая брычка. Гэта прыехаў Аляксандр Абрамчык са сваімі дзецьмі на абедню. Ідучы мімаходзь, Васіль падышоў да іх.

— Добры дзень, пан Аляксандр! Рад вітаць вас і вашу сямейку з сённяшнім святам!

— О! Добры дзень! Гэта ж, здаецца, пан Васіль Амялішка. Колькі ж гадоў мы з вамі не сустракаліся?

— Я мяркую, што апошні раз мы з вамі, пан Аляксандр, і з Марыяй ехалі на вучобу ў Гарадзішча дзесьці ў адзінаццатым годзе.

— Так, пан Васіль, з таго часу прайшло не менш як восем гадоў. За гэты час, як кажуць, у рэках шмат вады сплыло. Пачалася сусветная вайна і, на жаль, не скончылася да сёння.

Тым часам пан Аляксандр падышоў да Васіля, моцна пацiснуў яму руку. Дзеці хуценька злезлі з воза, пабеглі ў царкву. Прывязаўшы каня да плоту, спадар Аляксандр сказаў:

— Пан Васіль, я здагадваюся, чаму гэта вы, як вярнуліся са шпіталя, ні разу нас не наведалі. Прычынай таму, напэўна, Марыя, якая паспяшалася

з уладкаваннем свайго асабістага жыцця. Мне ведама, што ў час вучобы ў Гарадзішчы яна сябравала з вамі. Але ваша сяброўства было перапынена. Вы ад'ехалі набываць кваліфікацыю ў Ракаў, адтуль у армію і ўрэшце без затрымкі на вайну, а гады ішлі. Да таго ж, пасля таго, як вы апынуліся на вайне, ніякіх звестак ад вас не было. Марыя стала дарослай. І вось у пачатку семнаццатага года яна сустрэла каптэнармуса Фёдара Заўялава, закахалася. Абвянчалася ў гэтай царкве і перад тым, як пачаўся бальшавіцкі пераварот, паехала з ім у Маскву. Я ведаю, пане Базылю, як цяжка траціць сябра, а тым больш, калі гэты сябра — маладая дзяўчына. Знаеце што, нам з вамі ёсць пра што пагаварыць, а зараз пачнецца абедня. Таму я прапаную вам сёння паехаць да нас у госці, паабедаць і спакойна пагаварыць.

— Дзякую за запрашэнне. Мне здаецца, я вам дастаўлю шмат турбот. Ці варта гэта рабіць пасля падзей, непрыемных і мне, і вам?

— Слухайце, пане Базылю, што я вам скажу: мы з вамі перажываем страшную вайну. Вы на фронце былі паранены, лячыліся. Дзякуй Богу, вярнуліся дахаты, і нам з вамі ёсць чым падзяліцца. Прашу вас, давайце паедзем разам з маімі дзецьмі. Яны, як вы бачыце, за гэтыя восем гадоў падраслі, сталі больш дарослымі, і ім цікава будзе бліжэй пазнаёміцца з вамі, пачуць ад вас расказ аб усім перажытым.

— Ну, раз вы просіце, то я паеду з вамі, толькі папярэджу сваіх бацькоў, што затрымаюся, каб яны не хваляваліся.

Святочная абедня працягвалася больш за тры гадзіны. Пасля яе на царкоўнай плошчы прыхаджане Вальнянскага прыхода разлажылі ў кашы яблыкі. Бацюшка айцец Фёдар Герасімовіч выйшаў з царквы і акрапіў іх святой вадой.

Перш чым наблізіцца да воза спадара Аляксандра, Васіль падышоў да маці.

— Мама, перад абедняй я сустрэў Аляксандра Абрамчыка, які запрасіў мяне паехаць на яго вазку ў госці, таму на абед мяне не чакайце. Дахаты прыйду ўвечары.

Васіль выйшаў на плошчу, дзе стаялі фурманкі, убачыў, што яго чакаюць. Сеў на спецыяльна прыгатаванае яму месца.

Мікалай, старэйшы з хлапчукоў Абрамчыкаў, быў за фурмана. Калі Васіль усеўся, ён таргануў лейцы, і вазок грукочучы пакаціўся праз вёску Вольну.

Васіль пачаў разглядваць падрослых Абрамчыкавых дзяцей і адгадваў, хто з іх ёсць хто. Вось перад ім сядзіць прыгожая, статная, лічы дарослая дзяўчына з доўгімі косамі і вялікімі блакітнымі вачыма. Спачатку яна ўважліва і ветліва паглядзела на Васіля, а пасля адвяла свае вочы ўбок — лічыла непрыстойным разглядаць таго, каго бачыла мімаходзь восем гадоў таму, калі ёй было адзінаццаць.

— Гэта ж, мусіць, Надзя, спадар Аляксандр?

www.kamunikat.org

— Так, гэта Надзя. Яна ў мяне галоўная памочніца ва ўсіх маіх справах, — сказаў Аляксандр.

— Дзіўна, — сказала Надзя, — але я вельмі добра памятаю, што тады адбывалася.

Твар яе ад хвалявання зрабіўся пунсовым. Яна не стала расказваць, што ў яе галаве моцна засела пачутае ў той час ад бацькі і аб чым яна думала ўсе гэтыя ваенныя гады.

Ля Надзі сядзела дзяўчына гадоў чатырнаццаці. Васіль глянуў на яе і сказаў:

— А вось гэта паненка Анюта. Я памятаю яе малою дзяўчынкаю, а зараз яна стала амаль дарослай прыгожай дзяўчынай.

— Так, гэта Анюта. Яна вельмі спагадлівая дзяўчына. Дапамагае мамулі па дому і разам з Надзяй удзельнічае ва ўсіх нашых гаспадарчых работах.

За фурмана на пярэднім сядзенні сядзеў і кіраваў канём хлопец гадоў семнаццаці, падобны на бацьку. Васіль сказаў:

— А сённяшні наш вазніца, здаецца мне, гэта Мікалай. Ён ужо амаль дарослы, ваша правая рука. А хто гэта сядзіць ля фурмана? Я штосьці не прыпамінаю.

— Гэта мой свавольнік Міхасёк, — нагадаў Аляксандр.

Пакуль Васіль гутарыў з панам Аляксандрам, вазок праехаў увесь цэнтр вёскі і ўзяў кірунак на Галёнію. Праязджаючы ля Сакалухі, Васіль успомніў Марыю і той першы пацалунак, які яна яму падаравала ля гэтых стогадовых ліп, пахрыстосаваўшыся з ім напярэдадні Вялікадня. Ад успамінаў яму стала няёмка, і ён падумаў: «Я ж не ўбачу зараз Марыі, маёй каханай, яна ўжо ніколі не будзе маёй». Гэты ўспамін балюча азваўся ў ягоным сэрцы.

Праехалі хутар Чалядкаў. Ля вакна іхняга дома стаяла Зіна, сяброўка Ані, і гадала: «Чый жа гэта хлопец, што сядзіць на адным сядзенні з Аляксандрам?»

Вазок неўзабаве затрымаўся ля парога дома Абрамчыкаў. Маладыя, за выключэннем вазніцы і гаспадара, хуценька злезлі з вазка. Надзя падышла да бацькі, каб дапамагчы яму, але Васіль апярэдзіў яе — падаў Аляксандру руку. На парозе ганка іх сустракалі Юлія і сястра гаспадара Ганна.

— О, каго мы бачым! — усклікнула сп. Юлія. — Гэта ж пан Базыль! Колькі гадоў мы вас не бачылі? Надзя, запрашай госця ў хату.

Надзя нясмела сказала Васілю:

— Пан Васіль, калі ласка, заходзьце ў хату.

— Ну што вы, панна Надзея, дазвольце мне хвілін колькі затрымацца і паглядзець на знаёмыя мясціны, убачыць сваімі вачыма змены, якія прынесла вайна вашай гаспадарцы. Я прасіў бы вас, панна Надзея, памагчы мне ў гэтым — зразумела, калі на маю просьбу будзе дазвол спадара Аляксандра.

— Пан Базыль, гэта мой абавязак паказаць вам усё, аднак ад гэтага абавязку мяне выручыць дачка. Надзейка, пакажы і раскажы пану Васілю аб усіх пераменах, а мама са сваімі памочніцамі падрыхтуе абед. Я тым часам адпачну.

— Ну і добра, — сказала пані Юлія, — а мы зоймемся сваімі справамі. Ідзіце, але, прашу вас, доўга не гуляйце.

Калі Надзя і Васіль выйшлі на дарогу, Васіль сказаў:

— Панна Надзея, дзякуй вам за тое, што пагадзіліся пайсці са мною і паказаць мне ўсё, што я бачыў з дзясятак гадоў таму. Гнятлівае ўражанне на мяне аказвае ўсё, што я зараз бачу. Вось тут плот пахіліўся, а далей агароджа саду знікла цэлымі пралётамі. Сад зараз не такі дагледжаны, як гэта было раней. Мне здаецца, што і колькасць вулляў паменела. Віной усяму гэтаму вайна, якая нахабна ўварвалася і нарабіла бяды людзям і іх маёмасці. На жаль, яна не скончана і па сёння. Вашым і маім бацькам, можна сказаць, пашанцавала: якраз у нашых мясцінах надоўга затрымаўся расійска-нямецкі фронт і нас не выганялі ў бежанства. А колькі бяды прыйшлося нацярпецца тым людзям, якія вымушаны былі кінуць свае гаспадаркі і мучыцца на чужыне. Яны яшчэ не вярнуліся ў свае котлішчы.

— Так, усё, што вы бачыце цяпер, гэта не тое, што было да вайны. Пан Базыль, я бачу, што па нас ідзе мама. Мама, што, абед ужо падрыхтаваны? — спытала Надзя.

— Так, запрашаю вас, калі ласка, у дом. Надзейка, прапануй пану Базылю памыць рукі і завядзі яго да таты ў спальны пакой. Бацька хоча з ім пагутарыць.

Надзя завяла Васіля на кухню, падала яму кавалак мыла і з кубка палівала вадой на рукі над мядніцай. Пасля паднесла чысты ручнік і, адвёўшы да пакою, дзе адпачываў бацька, сказала:

— Тата тут, у гэтым пакоі, калі ласка, заходзьце, — а сама пачала дапамагаць маці рыхтаваць стол.

Васіль пастукаў у дзверы, пачуў:

— Уваходзьце.

— Можна да вас? — спытаў Васіль. — Пані Юлія мне сказала, што вы хацелі са мной пагутарыць.

— Так, пан Базыль, сядайце, калі ласка.

Пасля крушэння цягніка гадоў дзевяць таму спадар Аляксандр застаўся інвалідам. Яму цяжка было хадзіць, тым больш — доўга стаяць у царкве. Праўда, там на мужчынскім баку была лаўка, на якой яму дазвалялася сядзець. Калі Аляксандр з Васілём засталіся ў спальным пакоі, ён звярнуўся да Васіля:

— Пан Базыль, раней я звяртаўся да вас на «ты», улічваючы розніцу ва ўзросце. Скажыце, ці не пакрыўдзіцеся вы, калі зараз мы звернемся да былога і я вас буду зноў называць на «ты»?

— Калі ласка, Аляксандр Аўгусцінавіч, я не супраць, мяне гэта не бянтэжыць.

— Дык вось, Васіль, чым ты думаеш займацца, пакуль у нашай мясцовасці ідзе вайна і цвёрдая ўлада не ўсталявалася?

— Вам вядома, што пасля заканчэння рэальнага вучылішча я вучыўся ў Ракаве на сталяра. Зараз калі-нікалі выконваю заказы, перабіваюся выпадковымі заробкамі і дапамагаю бацькам па гаспадарцы. А што будзе далей — пакажа час. Думаю, калі скончыцца вайна, буду працаваць сталяром. Мая спецыяльнасць патрэбная людзям, і больш за ўсё ў мірны час. Цяпер жа заказаў мала. У час вайны людзям не да набытку новага: ім бы захаваць найперш сваё жыццё і тую маёмасць, якая ў іх ёсць.

Васіль коратка расказаў, як ён вучыўся ў Ракаўскім вучылішчы і паспяхова скончыў яго. Адразу ж яго прызвалі ў царскае войска. Там служыў пры штабе пісарам. Калі пачалася вайна, адправілі на фронт. Там быў паранены ў правую руку і воінскім эшалонам адпраўлены на ўсход у шпіталь Екацярынбурга. Калі вылечыўся, быў камісаваны і прыехаў дахаты. Зараз жыве ў бацькоў.

У пакой увайшла спадарыня Юлія:

— Паважаныя мужчыны, дазвольце перапыніць вашу гутарку і запрасіць за абедзенны стол.

Спадар Аляксандр і Васіль увайшлі ў гасціную. Пакуль усе рассаджваліся, Васіль уважліва разглядаў, што было на сценах. У покуці вісела ікона Божай Маці Вострабрамскай, поруч з ёю — крыж з распяццем Ісуса, а з другога боку — ікона Міколы Цудатворцы.

Пані Юлія паходзіла з сям'і каталікоў. Яе бацькі па прозвішчы Купрыянчыкі ў сярэдзіне 19-га стагоддзя перайшлі з уніятаў у рымакатолікі, а сям'я Абрамчыкаў — у праваслаўе. Бацька Юліі паходзіў са збяднелай шляхты і ў той час працаваў карэспандэнтам адной з наваградскіх газет. Вянчанне спадара Аляксандра Абрамчыка і паненкі Купрыянчык адбывалася ў Вальнянскай царкве. Пані Юлія засталася каталічкай і ўсё сваё жыццё наведвала касцёл у мястэчку Паланэчка, а яе муж за тое, што яна ўпарта не хацела быць праваслаўнай, лічыў яе палячкай. Гэта паспрыяла таму, што большасць дзяцей лічылі сябе праваслаўнымі і хадзілі маліцца ў царкву вёскі Вольнай. І толькі два сыны, Мікалай і Уладзімір, ажаніўшыся з каталічкамі, лічылі сябе палякамі, што, мабыць, дапамагло ім абодвум выжыць у Другой сусветнай вайне.

Спадарыня Юля падумала, дзе ж пасадзіць госця. Вырашыла пасадзіць яго ля Надзі, каб яна даглядала яго і пры неабходнасці лёгка магла выйсці з-за стала і дапамагчы ёй.

Перад абедам спадар Аляксандр прапанаваў памаліцца. Усе ўсталі і паўтарылі за ім «Ойча наш» на стараславянскай мове. У канцы перахрысціліся кожны па-свойму.

Спачатку пані Юлія наліла ўсім па талерцы баршчу. Перад баршчом спадар Аляксандр прапанаваў дарослым выпіць па кілішку вішнёўкі. Пачалі закусваць вяндлінай і баршчом. Ад прапановы гаспадара выпіць яшчэ Васіль адмовіўся. Пасля пані Юлія і Надзя падалі па порцыі бульбы з мачанкай і аладкамі. На дэсерт пані Юлія прапанавала па выбары вішнёвы сок і халоднае ранішняе малако са склепу.

У будні дні ўся сям'я збіралася на кухні, а ў святочныя — у гасцінай. Дзеці звычайна елі на кухні. Сёння ім зрабілі выключэнне. Маці лічыла, што іх трэба прывучаць прыстойна весці сябе за сталом. Пані Юлія была ўпэўнена, што самае дзейснае выхаванне, гэта калі дзеці сядзяць за агульным сталом і вучацца ў дарослых, як паводзіць сябе.

Васіль быў з простай сялянскай сям'і, дзе ўсе, нават на святы, елі з адной вялікай місы. Падавалася, напрыклад, капуста. Пры гэтым старэйшы (бацька ці дзед), памаліўшыся, зачэрпваў лыжкай першым, а пасля маці і астатнія. Калі хтосьці з дзяцей парушаў гэты парадак, старэйшы мог пакараць яго: стукнуць лыжкай па лобе. Пасля першай стравы падавалі другую, напрыклад, зацірку, і ўсё паўтаралася, пакуль не было бачна дно міскі. Бульба з мясам таксама была ў агульнай місе. На трэцяе — кісель ці кіслае малако. З усімі асаблівасцямі этыкету харчавання ў розных сем'ях Васіль быў добра знаёмы. Ён прайшоў вайну, вучобу ў інтэрнатах, ляжаў у шпіталі. Таму яму ўсё гэтае гасцяванне было знаёмае.

Абед закончыўся. Дзеці пабеглі на вуліцу. Іх менш за ўсё цікавілі размовы дарослых. Надзя, Анюта і цётка Ганна хуценька прыбралі са стала. Каб не перашкаджаць жанчынам прыбіраць, пан Аляксандр прапанаваў Васілю пайсці ў суседні пакой і адпачыць.

— У маладосці, калі мы жылі ў маёнтку Слізняў, — пачаў размову гаспадар, — мы сябравалі з панскімі дзецьмі. Разам з імі мяне і сястру Ганну зімой адвозілі ў палац у Варшаву. Там мы разам жылі, вучыліся, а на лета нас прывозілі ў маёнтак Вольна. Сястра мая ў той час працавала гувернанткай. Калі я пачаў вучыцца, а пасля працаваць кандуктарам на станцыі Баранавічы, нашы шляхі разышліся. Нягледзячы на гэта, Слізні не забываюць нашу сям'ю, заўсёды, калі едуць ля нашай хаты, заходзяць да нас. Да вайны сустрэчы з сямействам Слізняў былі больш частымі. Яны прыязджалі да нас і шмат часу праводзілі разам з намі ў нашым лесе. Ладзілі гульні, спявалі песні, палілі вогнішча. У нас былі агульныя ўспаміны. Цяпер у сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі і вайной ўсё стала заціхаць. Пры наступленні бальшавікоў нашы сустрэчы скончыліся.

У спальны пакой увайшла пані Юля і сказала:

— Паважаныя мужчыны, час канчаць вашы размовы. Саша, табе пара адпачываць.

Васіль развітаўся з гаспадарамі і пажадаў ім добрай ночы.

У гасціным пакоі яго чакала Надзя. Яны выйшлі з хаты. Сонца было на самым гарызонце, садзілася ў хмару. Агледзеўшыся, Васіль заўважыў:

www.kamunikat.org

— Заўтра можа быць дрэннае надвор'е. Глядзіце, панна Надзя, сонейка хаваецца ў хмару, ужо становіцца холадна, а расы пакуль няма.

Звычайна маладыя, каб знайсці тэму размовы, гутараць пра надвор'е, пра тое, што ляжыць на паверхні і бачна воку.

— Паглядзіце, — звярнулася Надзя да спадарожніка, калі яны выйшлі на шашу, — чамусьці дыск сонца большы, чым днём, і не так балюча глядзець на яго. Пане Васілю, што вы сёння такі сумны? Мяркую, усё гэта з-за Марысі? Я на яе месцы так бы не паступіла. Прашу прабачыць яе. Яна выбрала свой лёс, і давайце пра гэта больш не гаварыць. Я вас запрашаю, прыходзьце да нас часцей і не толькі ў нядзелю, але і тады, калі пажадаеце. Я буду вас чакаць.

Надзя сказала гэта і сумелася ад сваёй смеласці: столькі гадоў не бачыла Васіля, а намякае, каб ён прыходзіў да яе. Яна ведала, што ён сумуе па Марысі, і хацела дапамагчы ягонаму гору, асуджала сястру за тое, што тая яму здрадзіла, але не ведала, як дапамагчы Васілю. Ён быў ужо дарослы мужчына, а Надзя мела ўсяго каля дзевятнаццаці гадоў. Яе ўзрост быў якраз такі, каб кагосьці кахаць. Таму яна так смела запрашала яго прыходзіць на сустрэчы, але, адчуваючы, што Васілю такі паварот можа не спадабацца, дадала:

— Пане Васілю, я, можа быць, навязваюся вам, запрашаючы прыходзіць да нас. Калі гэта так, то прашу прабачыць мне, — сказала яна нясмела, баючыся, ці не падумае чаго благога Васіль. Ён жа разумны хлопец, не проста хлопец, а мужчына, мае ўжо вялікі жыццёвы вопыт, прайшоў вайну, быў паранены, лячыўся ў шпіталі і пару гадоў працуе і жыве ў бацькоў.

Яна ўявіла сваім жаноцкім пачуццём, як цяжка было даведацца яму пра здраду Марыі і перажыць усё гэта, і таму вельмі спачувала Васілю. А сама адчувала, што ёй хочацца кагосьці пакахаць. І на Галёніі, і ў Бортніках, а таксама ў Вольнай было шмат хлапцоў, якія не давалі ёй праходу, намякалі на сустрэчы. Аднак яна чакала сваёй долі.

Яна добра памятала, як іх сям'я жыла на чыгуначнай станцыі ў Баранавічах, памятала аб тых умовах, якія там былі, параўноўвала іх з тымі, якія ёсць на хутары ў Галёніі. Тут ёй прыходзілася разам з маці, малодшымі сёстрамі і братамі шмат працаваць, дапамагаць бацькам. Гэтая праца і ў будні, і ў святы здавалася ёй бясконцай. А калі Марыя з'ехала з каптэнармусам Заўялавым у Маскву, то на дзявочыя плечы Надзі ляглі абавязкі старэйшай. І не толькі жаночыя, але і мужчынскія. І гэта яе прыгнятала.

Надзя шукала выйсця. Паступіць так, як сястра, яна не магла. Аб гэтым яна часта думала, асабліва ў апошнія гады. Дзяўчаты ў такім узросце маюць больш сталыя думкі, чым іх равеснікі — хлопцы, бо думаюць пра свой лёс, пра будучыню і ўрэшце знаходзяць патрэбнае рашэнне. Надзя была ганаровай паненкай. Добра выхаваная дзяўчына, рослая, з доўгімі косамі і блакітнага колеру вачыма, правільна сфарміраванай фігурай, яна скончыла некалькі класаў царкоўнапрыходскай школы ў Вольнай.

Яна ўспомніла сутычку з бацькам (а гэта было гадоў дзесяць назад, да вайны), калі бацька, каб абараніць Марыю, сказаў: «Можа стацца, што ён будзе тваім жаніхом». Гэтая заўвага ўспомнілася ёй таксама, калі з’ехала Марыся. Яна заўсёды сядзела ў яе галаве, таму дзяўчына з нецярплівасцю чакала сустрэчы з Васілём. Ёй было цікава, ці спраўдзіцца прароцтва бацькі. Таму чакала, што ёй скажа Васіль.

А ён, выслухаўшы Надзю, сказаў:

— Надзя, давай будзем размаўляць на «ты», нягледзячы на розніцу ва ўзросце. Я вельмі ўдзячны за прапанову цябе наведваць. Таксама я ўдзячны тваім блізкім, якія так ветліва ставяцца да мяне. Твой бацька падтрымлівае мяне ў маіх планах. А калі я ўбачыў цябе, я не мог нават і ў сне ўявіць, якой ты стала прыгожай дзяўчынай. Для мяне будзе вялікі гонар сустракацца з табой. Я не думаю нічога благога пра тваю прапанову, наадварот, я вельмі рады тваёй адкрытасці і гатовы заўтра прыйсці да вас, каб сустрэцца з табою. Аднак гэта будзе пасля работы.

Надзя адчувала, што ёй час ісці дахаты, дзе яе чакаюць бацькі, таму яна сказала:

— Я згодна называць цябе на «ты». Прыйду заўтра сюды. Бывай, Васіль, да заўтра, — хуценька пакланілася, пацалавала яго ў шчаку і пабегла дахаты.

Васіль успомніў, што ў гэтым жа месцы ўпершыню пацалавала яго Марыя.

Прыйшоў у бацькоўскую хату, калі ўжо добра сцямнела. Яго сустрэла маці і спытала:

— Дзе гэта, сынок, так доўга гуляў, што не прыходзіў на вячэру?

— Мама, не пытай мяне, я сёння пазнаёміўся з дзяўчынай і закахаўся, — сказаў Васіль і дадаў: — Як ты думаеш, ці не пара мне ажаніцца?

На гэта маці адказала:

— Каб у такім узросце была дзяўчына, то я сказала б, што з пары выйшла, а хлопцу ў самы раз. Сынок, жаніся, інакш старым кавалерам станеш. Я вось тыдзень таму ў краме Ёселя сустрэла адну дзеўку, Надзю Абрамчыкаву, такая ладная дзяўчына. Я спытала яе: Надзя, у цябе, мабыць, шмат жаніхоў? Чаму ж ты замуж не ідзеш? І ведаеш, што яна мне адказала? «Цётачка Ксенія, я чакаю свайго суджанага, і калі ён з’явіцца, я, не задумваючыся, пакахаю яго і, магчыма, выйду замуж». «І хто ж ён будзе?» — спытала я. «Пакуль што невядома. Адчуваю, што ён з’явіцца, і вы даведаецеся, мяркую, не апошняй», — сказала Надзя і шматзначна паглядзела на мяне.

— Мама, дык вось слухай: сёння я быў у гасцях у Абрамчыкаў, — і Васіль не ўтойваючы расказаў сваёй маці ўсё, што з ім адбылося.

— Сынок, — сказала маці, — яны ж багатыя. Ці аддадуць Надзю за цябе? Мы ім не роўня, яны дзеці вядомага ў акрузе чалавека.

Сын не ўступаў у спрэчкі з маткай, а толькі сказаў: «Пажывём — пабачым», і пайшоў спаць у адрыну. У панядзелак ён павінен быў ісці на працу.

Надзя тым часам прыйшла дахаты. Па дарозе ўспомніла, што не выканала просьбы мамы. Яна хуценька праверыла, ці ўсё ў парадку. Хлеў быў зачынены, каровы жавалі жуйку і спакойна спачывалі. Праверыла стайню, там таксама было ўсё добра. Толькі пасля гэтага ўвайшла ў хату. Маці яшчэ корпалася ля печы, рыхтавалася да заўтрашняга дня, рашчыняла аладкі, мыла чыгуны. Заўтра той дзень, калі звычайна пяклі хлеб. Дзеля гэтага яна падрыхтавала дзежку, праверыла, у якім стане закваска, ці дастаткова мукі, каб на досвітку замясіць цеста і, калі яно падыдзе, пасадзіць у добра напаленую печ на дубовае ці капуснае лісце буханак шэсць. Гэтай колькасці хлеба хапала прыкладна на тыдзень.

Калі Надзя прыйшла на кухню, маці папрасіла яе, каб прынесла добрае бярэмя бярозавых дроў. Яна з прыемнасцю выканала гэту просьбу. З-за шматлікіх клопатаў маці не звярнула ўвагі на Надзю, калі тая ўвайшла ў сталоўку ўся ўзрушаная і аж свяцілася. Гэта заўважыла цётка Ганна і спытала:

— Надзя, што з табой здарылася? Ты такая сёння незвычайная!

— Нічога, цётачка, не здарылася, проста гэты мужчына мне вельмі спадабаўся. І я ў яго закахалася.

— Глядзі, Надзя, ён вопытны, немалады, каб не затлуміў табе галавы. Ён ужо, відаць, многіх дзяўчат сустракаў і чамусьці да такіх гадоў не ажаніўся.

— Ой, цётачка, пажывём — пабачым. Я ведаю, што ён моцна кахаў Марысю і да сёння не можа забыць яе, таму і не ажаніўся, — сказала Надзя і, развітаўшыся з цёткай, пайшла спаць.

Сёння ў яе быў такі дзень, да якога яна рыхтавалася, пра які думала не адзін год. Яе мары, асабліва пасля таго, як Марыя выйшла замуж за Заўялава, прынялі адпаведны напрамак. Надзя згадвала амаль штодня прароцтва бацькі: «Васіль будзе тваім жаніхом». Яна малілася, хадзіла ў царкву, каб гэтае прароцтва здзейснілася. Калі бачыла Васіля ў царкве, то лічыла сябе шчаслівая. Ёй так хацелася з ім сустрэцца. Яна марыла, каб ён падышоў да яе і паклікаў да сябе. За тыя амаль дзесяць гадоў, што яны не бачыліся, яна так змянілася, што цяжка было пазнаць у ёй сястру Марыі. І вось яны сустрэліся. Усё адбылося так, як Надзя марыла. І яна не магла схаваць сваёй радасці ад таго, што ён ёй адказаў узаемнасцю. Заснуць яна доўга не магла, і калі нарэшце заснула, то ў сне бачыла свайго каханага.

Раніцай маці падняла яе, каб яна, маладая і дужая, памагла замясіць хлеб. Хуценька паднялася, апранулася і ціхенька, каб не разбудзіць тых, каму яшчэ трэба было спаць, пайшла ў кухню.

Надзя вучылася ў маці, як добра спячы хлеб. Для гэтага трэба было знаць, як яго замясіць і колькі ён павінен адстаяцца; у які момант з яго сфар-

маваць на лісцях, часцей за ўсё з капусты, прыблізна аднолькавай велічыні буханкі і на драўлянай лапаце пасадзіць у добра напаленую печ. Буханкі трэба было зрабіць такой велічыні, каб яны размясціліся на ачышчаным подзе печы. Трэба было хуценька выканаць гэтую працэдуру і закрыць печ засланкай. Рабілася ўсё гэта тады, калі снеданне ўжо скончылася і былі звараны свінням чыгуны з бульбай. Печ закрывалася, і хлеб выпякаўся. Для гэтага патрабавалася некалькі гадзін. Вопытная гаспадыня па паху і вонкавым выглядзе буханак угадвала, што хлеб спечаны. Калі ён быў гатовы, то яго даставалі і неслі ў кладоўку. Накрывалі буханкі чыстым палатняным настольнікам, каб яны канчаткова даспелі. Свежы (гарачы) хлеб спажываць не дазвалялася. Хлеб, выпечаны ў печы, быў вельмі смачны і высока цаніўся, калі гаспадыня была майстрам сваёй справы.

Хлеб спечаны. Узнікла свабодная ад працы хвіліна. Юлія звярнулася да Надзі:

— Надзюша, скажы, калі ласка, як ты ўчора правяла Васіля? Штосьці цябе доўга не было. Ты, мусіць, правяла яго да хаты? — спытала маці.

— Не, мама, я правяла яго да ўскрайку Галёніі, і мы з ім развіталіся пад ліпамі насупраць дома Сакалухі, — адказала Надзя. І дадала: — Мама, я ўжо не малая, Васіль мне падабаецца. Я яго цаню больш за ўсіх вясковых хлопцаў, якія прапануюць мне сваё сяброўства. Ён разумны, начытаны, мае нядрэнную адукацыю. Ведае напамяць шмат вершаў расейскіх паэтаў: Пушкіна, Кальцова, Лермантава і іншых. Знаёмы з творчасцю нашых беларускіх паэтаў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Да таго ж мае добрую кваліфікацыю сталяра-чырвонадрэўшчыка. Пагаварыўшы з ім, я ў яго закахалася, і калі ён папросіць маёй рукі, я яму не адмоўлю. Яму ўжо каля трыццаці гадоў, я мяркую, у бліжэйшым часе яму спатрэбіцца сяброўка, якая дапаможа наладзіць сямейнае жыццё, — з жарам сказала Надзя. Усё гэта было ў яе на душы. Яна лічыла, што мае шанс стаць каханай і займець сваю сям'ю.

Я табе ніколі не расказвала, што калі Марыя выйшла замуж, то я ўспомніла прароцкія словы таты: «Васіль можа быць тваім жаніхом». Гэтыя словы ён сказаў тады, калі мне было дзесяць ці адзінаццаць гадоў. У год замужжа Марысі я пачала думаць пра гэтае прароцтва, думала пастаянна, малілася Богу, каб яно збылося. Ніхто з мясцовых хлопцаў мне не падабаўся і не падабаецца. Мама, я лічу, што ўчарашняя сустрэча — гэта мой лёс. Хацела б, дарагая мамачка, каб вы з татам падтрымалі мяне, калі Васіль прышле сваіх сватоў. Сёння вечарам пасля работы ён абяцаў прыйсці да мяне. І я прашу цябе, мама, каб ты і папа не пярэчылі нашай сустрэчы, — закончыла Надзя.

На што Юлія ёй сказала:

— Любая мая дачушка, мая дарагая памочніца, мы з бацькам добра разумеем, што рана ці позна табе прыйдзецца пакінуць нас. І хацелася б,

каб гэта адбылося не так, як з Марысяй. Не раз мы з бацькам абмяркоўвалі тое, што ты мне зараз сказала. Праўда, я не здагадвалася, што ў тваёй памяці так глыбока засела прароцтва бацькі. Ён гэта сказаў не думаючы, і нават не намякаў, каб ты стала ягонай нявестай. Аб гэтым не можа быць размовы. Ён выказаў гэта дзеля таго, каб пагасіць кпіны, якія ты і твае сёстры адпускалі ў бок Марысі. Наколькі я памятаю, кпіны спыніліся, гутарка прыняла другі напрамак. Цяпер галоўнае: я ўважліва выслухала цябе і бачу, што ты даўно думаеш пра свой лёс. А ці падумала ты аб тым, што права выбару належыць мужчыне, Васілю? Можа, ён цябе не кахае? Як растлумачыць тое, што ён цябе не заўважаў з той пары, як ты пачала думаць аб бацькавым прароцтве? Глядзі, дачушка, не памыліся, бо ў такіх справах памылкі дорага каштуюць. Я не супраць твайго выбару, але ж у гэтай сардэчнай справе трэба дзейнічаць разважліва і не спяшацца, каб не нарабіць памылак.

— Мама, за апошнія сем гадоў, калі пачала хадзіць у царкву, каб там яго пабачыць, я ўсё прадумала і сама да яго не падыходзіла, наўмысна не рабіла крокаў яму насустрач. Я ведала, што адбываецца ў яго душы ў сувязі са стратай каханай, чакала, каб ён сам звярнуў на мяне ўвагу. Ведала, што памяць пра Марысю прыкрыла яму ўвесь свет. Здагадвалася, што ў той час яго ніхто не цікавіць. І гэта было так, таму што іншых дзяўчат ён не заўважаў, на пагулянкі не хадзіў, сумаваў аб сваім згубленым каханні. Мамачка, Марыся была ягоным першым каханнем, і мне думаецца, што памяць пра гэта ніколі не выветрыцца з яго душы. Аднак час ідзе, яму ўжо блізка да трыццаці гадоў. Некалькі дзён таму ў краме я сустрэла ягоную маці Ксенію. Яна чамусьці падышла да мяне, спытала аб маім жыцці, чаму я такая прыгожая і хаджу ў дзеўках. На гэта я ёй адказала, што чакаю свайго суджанага. У той жа час я не намякнула ёй аб тым, што мой суджаны, па маім разуменні, яе сын Васіль. Гэтага я не магла сабе дазволіць, бо што тады яна магла падумаць пра мяне?

Аб гэтай размове Васіль пачуў ад Надзі пазней, калі яны ажаніліся.

У той дзень Надзя была незвычайна вясёлай, выконвала ўсё, аб чым яе прасіла маці. Бацька у другой палове дня сказаў:

— Надзя, давай з табою сходзім па грыбы. Сёння прайшоў добры дождж, і я мяркую, што мы знойдзем з табой больш баравікоў, чым учора знайшлі нашы хлопцы. Я лепш за іх ведаю мясціны, дзе яны растуць. Нам з табой трэба пагутарыць пра нашы справы, заадно, калі пашэнціць, збяром грыбоў на снеданне, а калі знойдзем баравікоў, то пасушым на зіму.

Прайшла ўсяго гадзіна, як прайшоў добры дождж; сонейка падсушыла траву, можна было ісці ў лес. Яны запасліся лазовымі кошыкамі, не забыліся ўзяць нажы і паціху пайшлі ў лес. Калі заглыбіліся ў лясны гушчар, бацька прапанаваў Надзі затрымацца, каб адпачыць.

У канцы лета ў лесе не чуваць таго птушынага спеву, які бывае ў траўні ці ў чэрвені. Зараз усё птаства пакінула свае дамы, і тых спеваў,

www.kamunikat.org

якія былі вясной, калі яны закладваюць гнёзды, не было. Стаяла незвычайная цішыня, толькі сям-там птушкі пераляталі з куста на куст. Дзяцел, пералятаючы з аднаго дрэва на другое, здабываў свой корм дзюбай, лячыў дрэвы, з’ядаючы чарвякоў, якія гняздзіліся пад карой.

Пан Аляксандр знайшоў пень, сеў на яго, падаслаўшы салдацкую накідку, і прапанаваў Надзі сесці побач, каб паразмаўляць. Яна здагадвалася, якая будзе размова, і была падрыхтавана да яе.

— Надзюша, вось і прыйшоў твой час. Твая маці расказала мне пра вашу размову. Гэта вельмі добра, што ты адкрыты чалавек. Не тоіш таго, што ў цябе на душы. Я не буду апраўдвацца за свой учынак дзевяцігадовай даўніны. Шчыра кажучы, я забыўся пра яго. Вось бачыш, маё прадбачанне можа збыцца, і я адчуваю, што ты гэтага жадаеш, асабліва пасля ўчарашняй сустрэчы з Васілём. Я даведаўся, што гэтае прароцтва глыбока засела ў тваёй галаве. Ты, дачушка, у мяне старэйшая. Відаць, настала пара табе выходзіць замуж. Аднак мая парада: не спяшайся, не нарабі глупстваў у заўчасным каханні. Васіль, мне здаецца, будзе добрая табе пара. Ён ужо цвёрда становіцца на жыццёвы шлях, яму пара займець сваю сям’ю, звіць сваё гняздо. Сёння ты з ім сустракаешся. Я не ведаю, як далёка зайшло ваша каханне, аднак мяркую, што ў вас хопіць розуму, каб не нарабіць глупстваў. Ва ўсякай справе, у тым ліку і ў каханні, трэба быць стрыманым і не спяшацца. У вас з Васілём, калі вы пажэніцеся, будуць шчаслівыя часы, але да гэтага трэба ісці паступова. Мы з мамай вас выхоўвалі быць разумнымі, не хлусіць, абавязкова выконваць тое, што дакляравалі, і не траціць галаву ў розных жыццёвых абставінах, — закончыў прамову бацька.

— Дзякуй вам, тата, за разуменне стану, у якім я апынулася, — сказала Надзя, абняла бацьку і пацалавала. Пасля чаго яна спытала: — А як грыбы? Мы ж адправіліся іх збіраць, але ўвесь час прагаварылі.

— Нічога, Надзя, скажам, мала было часу, пасля дажджу грыбы яшчэ не выраслі.

Тут Надзя заўважыла, як да куста арэшніку, спрытна пераскокваючы з галінкі на галінку, набліжалася вавёрка прыгожага светла-карычневага колеру з пушыстым хвастом. Яна хуценька дабралася да арэшніку, пачала спрытна збіраць арэхі, пакаваць іх у сваё схованішча за шчакой. Забаўна было глядзець, як яна ўсё гэта робіць. Надзя з бацькам некалькі хвілін назіралі за хітрай вавёркай, якая ўжо па галінках арэшніку перабралася на высокую сасну, па вяршалінах дрэў паскакала ўглыб лесу і знікла з вачэй. «Зняла ўраджай і панесла ў сваю хату», — падумала Надзя.

Пасля некалькіх хвілін маўчання сталі збірацца, каб ісці дахаты. Бацьку было цяжка рухацца, давала аб сабе знаць калецтва. Ён падняўся, Надзя сабрала кошыкі, паклала накідку ў кош, і яны пайшлі дахаты.

— Я мяркую, дачушка, нашы хатнія нам даруюць, што мы ідзём без грыбоў.

Выйшлі з лесу.

— Надзя, я дазваляю табе схадзіць сёння на рандэву з Васілём. Мы з мамай згодны, каб ты сур'ёзна пагаварыла з ім, даведалася пра яго намеры, а пасля расказала нам. Адзіная просьба: доўга, да паўночы, не затрымлівайся. Заўтра нас з табой чакаюць работы. Ты ж у мяне галоўная памочніца, — сказаў бацька, калі да парога заставалася каля сотні метраў.

Іх убачылі малодшыя, і ўсе гурбой пабеглі ім насустрач з крыкам:

— Мама! Тата і Надзя нясуць грыбы!

Калі дзеці падбеглі, старэйшы з іх, Мікола, сказаў:

— Ну і грыбнікі! Мама, у іх пустыя кошыкі!

— Мікола, дождж толькі што прайшоў, грыбы не паспелі вырасці. Трэба чакаць пару дзён. А мы з татаю спадзяваліся, што яны за мінулую ноч выраслі, ды, відаць, памыліліся, — сказала Надзя, калі яны ўвайшлі ў хату.

Надыходзіла восень. Дні станавіліся карацейшымі. У канцы жніўня ўжо заўважалася, што сонца заходзіць значна раней, чым у пачатку лета. Каровы і ўвесь статак жывёлы Абрамчыкаў ужо ішоў з пашы ў хлеў. Трэба было завідна ўхадзіцца, падаіць кароў. Апошнія гады гэтая работа ўскладалася на плечы Надзі. Сёння дзяўчына спяшалася, каб як мага хутчэй убачыць свайго каханага. Таму яна хуценька падаіла дзве каровы, а Анюту папрасіла падаіць трэцюю. Ёй споўнілася ўжо чатырнаццаць гадоў, і яна добра спраўлялася з гэтай работай, дапамагала Надзі.

Надзя ўмылася, пераапранулася, надзела свежую кофту, змяніла спадніцу і сказала маме, што пайшла на сустрэчу. Пачынала шарэць. Надзя не хацела, каб суседнія дзяўчаты бачылі, што яна ідзе на сустрэчу з Васілём, і пайшла не па бліжэйшай дарозе, а сцежкай, што пралягала ля ракі. Адтуль звярнула да шашы, абыходзячы суседні хутар з поўначы. Адчувалася, што на траве з'явілася раса, і пакуль падышла да ліп, дзе ўжо чакаў Васіль, яна добра намачыла свае пантофлі.

Васіля яна заўважыла, калі выйшла на дарогу. Ён пайшоў ёй насустрач. Прывітаўся, узяў яе рукі і моцна паціснуў. Прапанаваў не стаяць пад ліпамі, а сцежкай абагнуць хутар Сакалухі ды ісці да бацькоўскага лесу Адтуль лясной сцежкай вернуцца дахаты. Надзя пагадзілася. Пакуль яны ішлі ля хутара, зусім сцямнела, станавілася холадна. Гэта заўважыў Васіль, зняў пінжак і накінуў на яе плечы. Надзя падзякавала, адчуўшы цяпло ягонага цела, аддадзенае цяпер ёй. Васіль агледзеўся — вакол нікога не было відно. Набліжалася ноч. З суседніх хутароў даносіліся выкрыкі ці сваркі гаспадароў, мычанне цялят, сям-там брахалі сабакі. Чым далей яны адыходзілі ад хутара, тым болей іх ахутвала цемень, станавілася цішэй, толькі чутно было крумканне жаб, што даносіліся ад рэчкі Змейкі.

Гаворку пачаў Васіль:

— Надзя, мінулую ноч я амаль не спаў, усё думаў і думаў, якое шчасце само па сабе ідзе мне ў рукі. Гэта ж трэба, выпадкова я сустрэў такую

прыгожую дзяўчыну, такую разумную і працавітую. Гэта ж, мусіць, сам Бог паслаў мне цябе, — прыцягнуў яе да сябе, і яны пачалі цалавацца.

Надзя заўважыла:

— Ну і адбымкі ў цябе, Васілёк, цішэй, а то задушыш мяне. Я ніколі не думала, якая гэта прыемнасць — каханне. Я думаю, яно Богам даецца маладым людзям, каб яны стварылі сваю сям'ю, — сказала Надзя. — Усю мінулую ноч я таксама не спала, усё марыла пра цябе. Ведаеш, Васіль, якая страшная хвароба спасцігла нашу сям'ю, калі ў нас пасяліўся штаб царскай вайсковай адзінкі? Наша сям'я амаль цалкам захварэла на брушны тыф. Гэта здарылася пасля таго, як з'ехала Марыся. Нас, ды і жывёлу, якая захавалася ў вайну, не было каму даглядаць. Дзякуй суседзям Чалядкам, асабліва Зінаідзе — яны дапамаглі нам выжыць. Тое, што было ў бацькі за гады яго службы і ад гаспадаркі, амаль усё пайшло на лячэнне. Не абышлося без страт. Памерлі ад тыфу мой дзед Аўгусцін, бабуля Марфа, мая малодшая сястра Ліда. У лячэнні нам дапамагаў фельчар, які стала пражываў у Вольнай. Да 1918 года наша сям'я патроху пачала выздараўліваць. Стойка перанёс хваробу мой бацька. Мама таксама хварэла. Цяжкія былі часы. Пахаванні дзеда, бабулі і сястрычкі адбываліся без належнага рытуалу — усе ляжалі ў несвядомым стане. Вось такія сумныя падзеі я павінна расказаць табе, мой доўгачаканы. — І дадала: — Гэта ўжо ў мінулым. Жыццё ідзе наперад, і мы павінны думаць пра нашу будучыню з надзеяй на Божую дапамогу, — закончыла яна.

— Так, дарагая мая, тыя падзеі былі звязаны з вайною. Я памятаю, як у шпіталі салдаты цэлымі палатамі хварэлі на брушны тыф. Хвароба забівала многіх з іх, яна была адным з ворагаў таго часу. Яна не мінула і нашую сям'ю, былі і ў нас страты. Памерлі дзве мае сястры Жэня і Люба, мой дзед Фама і бабуля Фёкла. Зараз я нават не ведаю дакладна, дзе яны пахаваныя. Але досыць сумных размоў. Мы знайшлі адзін аднаго і мусім разам трымацца. Надзя, пасля сустрэчы з табой я амаль увесь час думаў і вырашыў прыйсці да тваіх бацькоў прасіць, каб выдалі цябе замуж за мяне. Перш за ўсё я хачу запытаць у цябе: ці згодна ты ўжо гэтай восенню пайсці за мяне? Аднак не буду крывіць душой: калісьці ў мяне была надзея на тваю сястру Марыю. Яна мяне не дачакалася. Я доўга шукаў выйсце з гэтага стану, як мне здавалася, тупіковага. І вось учора я, сустрэўшы цябе, падумаў, а чым ты горшая за Марысю? І вырашыў звязаць свой лёс з табою. А што тычыцца Марысі, то яна сама ад мяне адмовілася. Надзя, калі ты згодна з маім рашэннем, то хачу табе сказаць: я цябе кахаю і прапаную стаць маёй жонкай, — сказаў Васіль і чакаў, што адкажа яму Надзя.

— Васіль, ты ўжо сам здагадваешся, што я табе скажу. Я згодна, каб нават сёння мы з табой пажаніліся. І ў той жа час давай не спяшацца, бо што нам скажуць і мае, і твае бацькі? Давай мы ўсё зробім па-людску. Ты

www.kamunikat.org

засылаеш да нас сватоў у бліжэйшы час, а я са свайго боку ўсё зраблю, каб гэтай восенню адбылося наша вяселле. Зараз цяжкі час. Пакуль што ідзе вайна, але, нягледзячы на ўсё, мае бацькі дапамогуць нам, каб мы з табой пабраліся, — адказала Надзя.

Яны павярнулі на сцежку, якая вяла да хаты. Час быў позні. На развітанне Васіль сказаў:

— Мілая і любая мая Надзея, усё ідзе так, як я марыў, таму я мяркую, калі заўтра вырашу свае справы, вечарам прыйду да вас. Ты мяне чакай, і мы разам з табой і з тваімі бацькамі ўсё вырашым, а цяпер мне пара ісці дахаты, бо заўтра ў мяне будзе цяжкі дзень.

Ён моцна абняў Надзю і на развітанне пацалаваў, ды так, што ў яе закружылася галава. Давёў яе да парога дому і знік у цемры.

Надзя, як ап’янелая, увайшла ў хату, зачыніла дзверы і ціхенька дабралася да свайго ложка, лягла. Яна была задаволена паводзінамі Васіля, паціху супакоілася і заснула моцным сном. Ёй прысніўся дзіўны сон: яны з Васілём, узяўшыся за рукі, паляцелі над бацькоўскім лесам, павярнулі ў напрамку бортніцкага памесця Слізняў і там затрымаліся, апусціліся на зямлю. Спала яна да той пары, пакуль добра не развіднела.

Маці ведала пра тое, што Надзя позна легла, і не хацела яе будзіць, дала магчымасць ёй адпачыць больш за звычайнае.

Надзя прачнулася, калі ўсе дарослыя былі ўжо на нагах. Бацька быў на двары, рыхтаваўся да сённяшняй працы ў полі, а маці толькі што падрыхтавала снеданне. Зайшла ў спальню і ласкава сказала:

— Надзейка, ты ўжо не спіш?

— Так, мама, я сёння добра выспалася. Які дзіўны сон я бачыла! — і расказала яго.

— Надзя, я бачу, што ўсё ідзе як мае быць, і нават сон табе ў руку. Але ж сон ёсць сон. Пажывём — пабачым, ці збудзецца ён, — адказала маці і дадала: — Раскажы мне аб выніках вашай сустрэчы. Што сказаў табе твой хлопец?

— Мама, ён сказаў, што пакахаў мяне — гэта самае галоўнае. І ён прасіў маёй рукі, — і яна расказала маці, пра што дамовіліся з Васілём.

Юлія выслухала ўважліва, глыбока ўздыхнула і засумавала, бо зразумела, што хутка настане час, калі Надзя, як і Марыся, пакіне іх, і яна страціць сваю лепшую памочніцу. Пасля сказала:

— Уставай, падрыхтуйся да снедання. Праз паўгадзіны я ўсіх чакаю ў сталовай.

Снеданне прайшло спакойна. Пасля яго ўсім прысутным бацька даў заданне. Наступаў час выбірання бульбы, таму старэйшаму сыну Мікалаю ён даручыў падрыхтаваць плуг і запрэгчы каня, разараць некалькі баразён, каб хапіла ўсім, хто будзе выбіраць. Выараць трэба было столькі, каб не пакідаць нанач барозны адкрытымі, бо магчымы замаразак.

www.kamunikat.org

Бульбу патрэбна было ссыпаць у мяхі, якія вечарам на возе звезці ў склеп. І ні ў якім разе не пакідаць мяхі на полі. Ісці на выбіранне бульбы трэба было ўсім без выключэння.

Надзя, добра выспаўшыся, пайшла ў поле першай і павяла за сабой хлопцаў і дзяўчат. Памагчы сям'і Абрамчыкаў капаць бульбу былі запрошаны дзяўчаты-суседкі Зіна і Марыя Чалядкі, якія сваю бульбу выбіраць пакуль што не збіраліся. За працу Абрамчыкі заўсёды добра плацілі — разлічваліся грашыма ці натурай.

Скончылі працу тады, калі сонейка схавалася за гарызонт. Хлопцы звезлі мяхі на возе і ссыпалі бульбу ў склеп. Першы дзень закончыўся паспяхова, пачаткам копкі гаспадар быў задаволены.

Пасля работы Васіль прыйшоў дахаты. На падворку яго сустрэў бацька:

— Васіль, ты ўчора прыйшоў позна і не паведаміў нам пра свае справы.

— Тата, я спяшаюся да Абрамчыкаў. Падрабязнасці будуць, калі я вярнуся.

— Сынок, вячэраць будзеш? — спытала маці.

— Не, мама, заўтра раніцай пагаворым аб усім больш падрабязна. Думаю, што вячэраць я буду ў Абрамчыкаў, — сказаў Васіль і пайшоў сцежкай па загуменні ў напрамку хутара Абрамчыкаў.

Да іх прыйшоў прыкладна праз паўгадзіны. На парозе яго сустракалі Надзя з Юліяй.

— Заходзь, Васіль, мы цябе чакаем, — сказала Юлія.

Яны ўвайшлі ў сталовую, дзе, седзячы за сталом, чакаў іх бацька.

— Добры вечар, Вася. Праходзь, калі ласка, сядай і расказвай, што ў цябе новага.

Васіль паведаміў пра іх з Надзяй планы, а Аляксандр сказаў:

— Ну, раз так складваюцца справы, давайце падумаем, як нам быць далей. Мне не ўсё падабаецца. Ці не здаецца табе, што мы ўсё робім у спешцы? Гэта калі паглядзець на падзеі павярхоўна. А калі падумаць, дык Васіля мы ведаем амаль дзесяць гадоў. Я памятаю той час, калі мы разам з Марысяй і Васілём ездзілі ў Гарадзішча. Па дарозе вялі размовы, знаёміліся, дакладней, прыглядаліся. Васіль нам спадабаўся. Але ж гэта не галоўнае, галоўнае тое, што да апошняга часу мы не здагадваліся аб марах Надзі. Яна ў сваёй галаве будавала свой лёс і не памылілася. Яе мара блізкая да здзяйснення. Яна даўно выбрала сабе жаніха, менавіта Васіля. Мне думаецца, што нам, бацькам, было б не разумна перашкаджаць ёй у гэтым, — закончыў сваю прамову пан Аляксандр.

— Паважаныя пані Юлія і пан Аляксандр, дазвольце мне выказаць свае думкі па нашай агульнай справе, — пачаў Васіль і працягваў: — Я шчыра дзякую вам усім і асабліва спадарству Юліі і Аляксандру за

www.kamunikat.org

тую падтрымку, якую вы аказваеце Надзі і мне. Сапраўды, мы з Надзяй даўно знаёмыя і нашае рашэнне не ўзнікла раптам. З той пары, калі я ў сямнаццатым годзе вярнуўся са шпіталя (а Надзі тады было ўжо 17 гадоў), мне належала б адчуць, што яна марыць пра мяне, а не пра каго іншага. Аднак вы зразумейце, як глыбока абразіў мяне ўчынак Марысі. Шчыра кажучы, у той час мне не хацелася жыць, таму што Марыся была маім першым каханнем, і яна застанецца ў маёй памяці на ўсё жыццё. Перада мною стаяла пытанне: як яна магла так пастурпіць? Праўда, наша каханне з Марысяй не дасягнула такой моцы, каб мы маглі сказаць, што ў будучым пажэнімся. Аб гэтым гаворкі не было і не магло быць, таму што не наспеў час, аднак кожны з нас думаў аб будучыні самастойна, незалежна адзін ад аднаго. Я паехаў вучыцца ў Ракаў, скончыў вучылішча і пайшоў служыць у войска, а пасля на вайну. З таго часу мы з ёю болей не сустракаліся. Яна выйшла замуж і паехала ў Расію. Так што Марыся зрабіла тое, да чаго яна імкнулася. І, відавочна, яна нічым мне не была абавязана. Гэта ўсё ў мінулым. Цяпер я сустрэў Надзю, і за гэты кароткі час мы з ёю пакахалі адно аднаго і збудавалі агульныя планы, вырашылі пажаніцца ў гэтую восень. Са слоў пана Аляксандра я зразумеў, што вы з шаноўнай паняй Юліяй падтрымліваеце нас. Не зважаючы ні на што, нам трэба выканаць нашы абавязкі, і, калі вы не супраць, я хачу сказаць Надзі і вам, шаноўныя: дазвольце прыйсці да Надзі ў сваты. Зрабіць гэта я мяркую ў бліжэйшую суботу ці нядзелю, — закончыў сваю прамову Васіль.

— Шаноўны Васіль, мы ўсё зробім, каб вас і вашага свата сустрэць належным чынам. А цяпер, пане Васілю, — сказала пані Юлія, — просім вас павячэраць з намі.

Да Васіля падышла Надзя і павяла яго ў гасціную, дзе быў падрыхтаваны стол. Быў тут хлеб і да хлеба. Пані Юлія прыгатавала квашаніну, вяндліну і ўсё, што было ў іхняй гаспадарцы, не забыўшыся паставіць свежыя клінковы сыр і масла.

Селі за стол, бацька прачытаў малітву «Ойча наш», усе перажагналіся. Пан Аляксандр сказаў:

— Дарагія мае дзеці, Надзя і Васіль, хачу, каб усё намечанае намі збылося. Прапаную за гэта выпіць.

Мужчыны выпілі па кілішку гарэлкі, а жанчыны па кроплі вішнёвай настойкі, падрыхтаванай гаспадыняй летам. Дзецям налілі яблычнага соку. Усе былі задаволены вячэрай, а маці, адчуваючы, што губляе чарговую памочніцу, заплакала і сказала:

— Ну, вось, я страчваю сваю самую спрытную і дужую памочніцу, — і стала хусткай выціраць слёзы.

Вячэра пачалася з заходам сонца і закончылася праз гадзіну. Дзеці пайшлі спаць.

Надзя сказала Васілю:

— Пачакай мяне крышачку, я хуценька дапамагу маме прыбраць са стала, потым праведу цябе, і мы пагуляем.

Васіль з Аляксандрам выйшлі на двор, селі на лаўку і пачалі гутарыць.

— Я чуў, што пані Слізнёва мае намер распрадаць свой маёнтак у Бортніках, — сказаў пан Аляксандр.

— Так, гэта я таксама чуў, — сказаў Васіль, — было б цудоўна купіць цэнтр маёнтка і пасля шлюбу пасяліцца там з Надзеяй.

— Я згодны, выдатнае месца. А ад сябе дадам: мы з Юляй падумаем, як вам дапамагчы. У мяне ёсць добры кавалак лесу, і ў якасці пасагу мы, я мяркую, зможам выдзеліць вам лес для пабудовы сваёй хаты. Дапаможам і яшчэ чым іншым. Мне трэба абдумаць гэтае пытанне разам з Юляй, а таксама пагутарыць з тваімі бацькамі. У нядзелю я паеду ў царкву і абавязкова пастараюся сустрэцца з Андрэем і Ксеніяй. Васіль, ты таксама раскажы бацькам пра нашы намеры. Скажы, што Аляксандр Абрамчык жадае з імі пагутарыць. У нас узнікла цікавая прапанова. Гэты шанс нам нельга ўпусціць, — скончыў Аляксандр.

Да іх падышла Надзя. Васіль падняўся.

— Надзя, ты ўжо скончыла сваю працу? — спытаў Васіль.

— Так, Вася, я закончыла свае справы і магу цябе крышачку правесці.

Аляксандр падняўся, развітаўся з Васілём і сказаў:

— Цёмна, Надзейка, далёка не хадзіце. Заўтра ў нас выбіранне бульбы.

І Аляксандр пайшоў адпачываць.

Васіль узяў Надзю пад руку. Яна ўся страпянулася, прытулілася да яго, і яны паволі выйшлі на шашу. Метраў праз дваццаць ад бацькоўскага хутара селі на грудку на вайсковую палатку, якую Надзя ўзяла з сабою. Васіль абняў яе. Вакол стаяла цішыня, якую парушаў толькі сабака, які ўсё брахаў і брахаў.

Ад рэчкі Змейкі пацягнула прахалодай. Паступова сабака ўсё радзей гаўкаў і ўрэшце супакоіўся. Неба было пакрыта хмарамі. Сцямнела. Нічога не было бачна, хоць выкалі вока. Яны сядзелі, і Васіль расказваў ёй, аб чым яны размаўлялі з яе бацькам. Гэтую вестку яна ўспрыняла эмацыянальна:

— Васілёк! Якую цікавую навіну ты мне расказаў. Вось бы нам з табой там пасля нашай жаніцьбы пасяліцца, — сказала яна ўзрушана. — Я туды вясною хадзіла па фіялкі з Анютай. Ведаеш, як там прыгожа! Якія там каштаны! Асабліва калі яны цвітуць, гэта ж проста цуд! Такога я нідзе не бачыла. Яны растуць па крузе і, калі цвітуць, нагадваюць ёлкі, на якіх запалены свечкі. Увесну мы з Аняй доўга любаваліся гэтым відовішчам. І ведаеш, што я табе скажу: пасля нашай апошняй сустрэчы мне прысніўся сон, — і яна расказала тое, пра што расказвала сваёй маці. Васіль таксама ўсхваляваўся і пачаў яе цалаваць, а пасля сказаў:

— Мая ты даражэнькая, я зраблю ўсё, каб твой сон здзейсніўся. Мне таксама падабаецца тое месца. Калісьці мы з тваім бацькам ехалі з Гарадзішча, прыпыніліся каля парку і зайшлі на падворак, каб пазнаёміцца з сядзібай. Гэта было перад Вялікаднем. Мы любаваліся духмянымі фіялкамі, блакітнымі, белымі, якія там растуць усюды. Каштаны сапраўды там велічныя, праўда, у той час яны яшчэ толькі пачалі фармаваць свае пупышкі. Відовішча было незвычайнае.

Мяне зацікавіла гісторыя гэтага маёнтку. Яшчэ да вайны, калі вучыўся ў Ракаве, у Менскай публічнай бібліятэцы я прачытаў, што яно незвычайнае. Там праводзілі свае сходкі філарэты і філаматы. Непадалёк, у Завоссі, што ў пяці кіламетрах ад Бортнікаў, нарадзіўся Адам Міцкевіч. Ён набыў сусветную вядомасць як паэт, ён пісаў па-польску і ў той жа час лічыў сябе літвінам. Ёсць звесткі, што пісаў ён і на нашай мове. Аднак пакуль што такіх твораў не публікавалі.

Тут з пачатку 19-га стагоддзя жыў Ян Слізень. Пасля ўладальнікамі маёнтку сталі ягоны сын Эдуард і дачка Юзэфа. У трыццатыя гады 19-га стагоддзя ў гасцях у Бортніках цэлы год жыў Ян Чачот, пачынальнік сучаснай беларускай літаратуры, лепшы сябар Адама Міцкевіча. Панна Юзэфа, дачка Уладзіслава Слізеня, выйшла замуж за Міхала Дамейку, брата вядомага вучонага Ігната Дамейкі, арганізатара першага ўніверсітэта ў Чылійскім горадзе Сант'яга. У канцы 19-га стагоддзя на старасці год Ігнат Дамейка прыехаў да бортніцкіх Слізняў і ў 1884 годзе гасцяваў у хворага Эдуарда, які раней служыў у царскай арміі марскім афіцэрам і толькі што выйшаў у адстаўку. На парозе бортніцкага дома Дамейку таксама сустракаў ягоны сябар па віленскім ўніверсітэце састарэлы Ота Слізень. Ёсць звесткі, што ў гэтым маёнтку бываў і Тамаш Зан, — скончыў Васіль.

Пасля сказаў:

— Знаеш што, мая дарагая Надзюша, я мушу ісці дахаты. У мяне і ў цябе заўтра будзе нялёгкі дзень. Зараз позні час, і мы павінны разлучыцца. Здзіўляюся, як хутка бяжыць час. Я гатоў сядзець з табою ўсю ноч, аднак трэба і адпачыць. Думаю, што твае бацькі таксама не спяць — трывожацца.

Яны хутка падняліся. Надзя ўзяла палатку, на якой яны сядзелі. Васіль правёў яе да парога дома.

— Прызначаць дакладны час не будзем, — сказаў Васіль, — як толькі буду вольны, прыйду да цябе.

Яны развіталіся. Васіль ішоў па вёсцы Вольнай. Дзе-нідзе яго сустракалі брэхам сабакі. А першай гадзіне ночы ён быў ужо ў хаце. Хуценька распрануўся і паціху, каб не будзіць родных, лёг спаць. А сёмай гадзіне раніцы ён ужо быў на нагах, памыўся сцюдзёнай вадой, выцерся вышываным ручніком. Маці запрасіла на снеданне. Ён зайшоў у кухню, дзе за сталом сядзеў бацька. Маці прапанавала аладкі, памазаныя здорам.

www.kamunikat.org

— Васіль, слухаем цябе, — сказаў бацька, — раскажы, што чуваць у Абрамчыкаў.

— Тата і мама, рыхтуйцеся да вяселля. Гэтай восенню мы з Надзяй пажэнімся. Надзін бацька прапанаваў, каб у бліжэйшы час вы з ім сустрэліся і пагутарылі аб падрыхтоўцы да вяселля. Пра тое, што, як мама сказала, яны нам не раўня, ніхто не згадваў, нават не заікаўся, — сказаў Васіль і дадаў: — Прабачце, тата і мама, мне пара на працу. — Апрануўся і пайшоў наўпрост па сцежцы.

Зранку пачало хмурыцца. Васіль падумаў, што хутка будзе дождж, а гэта значыць, што яшчэ будуць грыбы і нават баравікі. Думкі Васіля на гэты раз былі не толькі пра дзяўчыну, але і пра тое, як яму давядзецца працаваць сталяром.

Васіль любіў прыроду, любіў збіраць грыбы, асабліва баравікі. Лес яго зачароўваў багаццем птушак, звяроў. А колькі ва ўраджайны год вырастала суніц, чарніц, малінаі іншага багацця! Да таго ж у лесе было шмат лекавых раслін, якія чалавеку дапамагалі ў часы хваробаў. Нездарма людзі наведваюць лес не толькі каб атрымаць лясныя шчадроты, але і каб падыхаць паветрам, настоеным на раслінах, што не прыносяць чалавеку шкоды, а толькі карысць. Аднак гэтых ведаў у яго было недастаткова.

У гэты дзень, як прадбачыў Васіль, неба зацягнулася хмарамі, і апоўдні пайшоў дробны асенні дождж. Ёсць такая народная прыкмета: калі дождж пачынае ісці ў поўдзень, то ён будзе ісці тры дні, а калі зранку, то да палудня.

«Вось табе і капай бульбу пры такім надвор'і, — падумаў ён, — што ж у такую непагадзь робіць мая Надзюша?»

— Нам з табой, Адась, добра пад страхою, мы ад дажджу абаронены, а што рабіць тым, хто раніцай паспяшаўся і выараў шмат баразён, што ён цяпер будзе рабіць? — сказаў услых Васіль.

— У нашай сялянскай справе, я лічу, трэба кіравацца народнымі прыкметамі. Вось учора, калі я ішоў на поле, каб дапамагчы сваім бацькам прывезці бульбу, заўважыў, што сонейка на захадзе села ў хмару, а перапёлкі недалёка ад Храмушы так моцна абвяшчалі на сваёй мове: піць, палоць, піць, палоць. Мне падумалася: мабыць, заўтра будзе непагадзь. І вось, бачыш, ідзе дождж, — сказаў Адась.

У час перапынку яны вырашылі схадзіць дахаты і паабедаць. Васіль хуценька пераапрануўся і пайшоў. Маці ўжо падрыхтавала ўсё неабходнае і чакала Васіля. Калі Васіль адчыніў дзверы, усе хатнія ўжо сядзелі за сталом. Бацька прапанаваў памаліцца і прачытаў малітву «Ойча наш». У канцы ўсе перахрысціліся і прыняліся есці боршч, які маці паставіла пасярэдзіне стала. Хлеб быў нарэзаны кавалкамі і ляжаў побач з лыжкамі насупраць кожнага. Бацька ўзяў лыжку і са словамі «Благаславі, Божа, нашу яду» пачаў чэрпаць боршч з агульнай місы, затым маці і ўсе астатнія. На другое

была маладая бульба са скваркамі, на трэцяе — кісель, малако. Пасля абеду бацька сказаў усім, хто сядзеў за сталом:

— Дзеці, сёння раніцай Васіль паведаміў нам з маці, што восенню ён збіраецца ажаніцца. Мабыць, вы ўжо чулі, што ў яго ёсць нявеста — Надзя Абрамчыкава. Ён дамовіўся з яе бацькамі. Яны згодныя аддаць дачку за яго. Цяпер па нашаму звычаю трэба засылаць сватоў і вызначыць, калі рабіць вяселле. Мы сустрэнемся з бацькам Надзі і падрабязна пагаворым пра ўсё. Як бачым, наша немалая сям'я павялічыцца. Трэба спадзявацца, што мы ласкава прымем у сваю сям'ю Надзю. Адчуваю, што цяпер нам стане цеснавата. З гэтым мы будзем мірыцца і на нейкі час пацяснімся, пакуль Васіль з Надзяй не пабудуюць свой дом. Інакшага выйсця я не бачу. Кожнаму ў будучым неабходна займець свой асабісты куток. Вось так ад нас адышла наша старэйшая дачка Волька, якая са сваім Антонам жыве на ўскрайку мястэчка Гарадзішча ў вёсцы Брыксічы. Цяпер настае час нашага старэйшага сына Васіля. Ён расказаў нам з маці, што бацькі Надзі абмяркоўвалі, як дапамагчы маладой сям'і, і вырашылі ў якасці пасагу выдзеліць лесу на хату. Адразу гэтае пытанне не вырашыць, трэба збіраць грошы, а дзеля гэтага патрэбен час, і немалы. Усё будзе вырашацца паступова. Першым сярод вас будзе Васіль, таму што, відавочна, у будучым ён будзе працаваць на пасадзе лесніка, а пакуль што мы ўсе будзем жыць разам і па магчымасці дапамагаць купляць яму зямлю. Астатнія таксама будуць абзаводзіцца сваімі сем'ямі. Наш бацькоўскі абавязак — дапамагчы кожнай маладой сям'і завесці сваю гаспадарку. Гэта цяжкая справа, але іншага шляху няма, — закончыў бацька.

Наступным пытаннем, якое турбавала Васіля, было: каго выбраць за свата? Пра гэта ён павінен параіцца з бацькам.

## 19. Паездка ў сваты

— Тата, скажы мне, каго мы будзем прасіць за свата? — спытаў Васіль у бацькі. — У бліжэйшы час мы павінны гэта вырашыць.

— Я думаю запрасіць Міхася Хіневіча. Ён умее сказаць, ды сказаць з гумарам, тады сватаўство адбываецца і па-дзелавому, і цікава. Сёння я сустрэну Міхася, і мы з ім пагаворым, а ты рабі сваю справу, каб паспець выканаць заказ, як гэта было дамоўлена.

Вечарам Васіль зноў сустрэўся з бацькамі. Яны абмяркоўвалі, калі яму лепей ехаць у сваты да Надзі. Вырашылі параіцца з будучым сватам. У апошні час Васіль быў заклапочаны: яму трэба было змяніць сваё халасцяцкае становішча, стаць сямейным чалавекам. Гэтая мэта захапіла ўсю душу і не пакідала яго ні днём, ні ўначы. Яму як жаніху хацелася ўсё часцей сустракацца са сваёй каханай, аднак абавязкі на працы трэба было

www.kamunikat.org

выконваць у тэрмін, таму ён не мог сабе дазволіць сустракацца з Надзяй кожны дзень.

Пасля ўсіх падзей, што зваліліся на Надзю, вонкава яна была спакойная, аднак увесь час не магла не думаць пра сваю будучыню, будавала планы, як уладкаваць сваю сям'ю. Яна ведала, што ёй прыйдзецца пакінуць бацькоўскі дом. Думала пра тое, як яе прымуць у сваю сям'ю бацькі Васіля, якія адносіны ўсталююцца з яго братамі і сястрой. Яна баялася ўсіх гэтых змен, у той жа час ведала, што іншага шляху няма. Трэба будзе нейкі час, пакуль яны не пабудуюць сваю хату, жыць разам у сям'і, знаходзіць агульную мову і паразумецца з усёй сям'ёй Васіля. Безумоўна, прыйдзецца вырашаць канфлікты, якія будуць узнікаць. Зразумела, каб зліквідаваць усе непаразуменні з бацькамі, братамі і сястрой, ёй прыйдзецца саступаць, каб гэтыя канфлікты не даходзілі да сур'ёзнай сваркі. Яна кіравалася пры гэтым вядомай прыказкай: «Лепш благі мір, як добрая сварка».

Цярпець прыйдзецца і тады, калі з'явяцца дзеці, бо ў той час у хаце стане яшчэ цясней. Што тычыцца працы, то Надзя хацела і ўмела працаваць. Маці яе добра выхавала, навучыла ўсяму, каб у будучыні было лягчэй пераадольваць жыццёвыя складанасці. Юлія знала, што патрэбна дзяўчыне, каб быць у хаце добрай гаспадыняй, і гэтаму майстэрству яна вучыла дачку штодзённа. На прыкладзе сваёй шматдзетнай сям'і яна паказвала, як трэба выхоўваць дзяцей і якія каштоўнасці прывіваць асобна дзяўчатам і хлопцам.

Юлія выхоўвала іх у рэлігійным духу, і ў гэтым ёй дапамагала глыбокая вера ў Бога. Сваю веру яна і яе муж Аляксандр перадавалі сваім дзецям. Пані Юліі было складана: яна і Аляксандр належалі да розных рэлігійных канфесіяў. Каб не канфліктаваць з праваслаўнымі, калі дзеці станавіліся дарослымі, яна давала ім магчымасць самім выбраць, да якой канфесіі ў іх схільнасць. Выбар кожнага яна паважала, не пярэчыла. Таму ўсе дзяўчаты, у тым ліку і Надзя, калі сталі дарослыя, хадзілі ў царкву і выйшлі замуж за праваслаўных, а Мікалай і Уладзімір, ажаніўшыся з каталічкамі, хадзілі ў касцёл і лічылі сябе каталікамі. Сярэдні сын Міхась стаў праваслаўным. Юлія наведвала касцёл у мястэчку Паланэчка. У гэтым ёй дапамагаў яе Аляксандр. Калі-нікалі ён запрагаў каня і вёз сваю Юлію ў касцёл. Але часцей, калі падрасталі хлопцы, з ёю ехаў яе старэйшы сын Мікалай, а пазней, калі падраслі малодшыя, Міхась ці Уладзімір выконвалі ролю вазніцы, бо ўмелі запрэгчы каня ў брычку, напаіць і пакарміць, добра спраўляліся з няхітрай справай кіравання. Па дарозе заязджалі ў вёску Шчарбавічы, дзе была замужам цётка Ганна — сястра бацькі. Чарговая паездка ў касцёл была значнай падзеяй, яна давала магчымасць Юліі зблізіцца з Богам. Дзякуючы ёй Юлія перадавала дзецям сваю веру ў Бога, прывучала іх да духоўнасці.

Па дарозе дзеці знаёміліся з акаляючым светам, людзьмі, спасцігалі асаблівасці сялянскага жыцця. Калі выраслі, яны ўмелі рабіць усё. Умелі

www.kamunikat.org

касіць, жаць сярпом, малаціць цэпам, араць, працаваць з канём. Трэба сказаць, што сялянскія дзеці, як мужчынскага, так і жаночага полу, былі падрыхтаваныя да сялянскага жыцця і ўмелі выконваць любую работу, што неабходна ў гаспадарцы. Жыццёвыя абставіны і побыт абавязвалі іх умець рабіць усё.

Нягледзячы на ўсебаковую падрыхтоўку, усіх рамёстваў, патрэбных у жыцці, сялянскім дзецям усё ж такі асвоіць не ўдавалася. У вёсцы, як і ў гарадах, адбывалася разгалінаванне ў набыцці прафесійных навыкаў па вузкай спецыяльнасці. Не ўсе ўмелі пашыць боты, займацца пчалярствам, будаваць дамы, рабіць студні, збрую і шмат чаго іншага. І справа не ў тым, што чалавек не здольны авалодаць складанай спецыяльнасцю, а ў тым, што да гэтай спецыяльнасці не прыхільна ягоная душа. Калі ў сялян сем'і былі малазямельныя, дзяцей прыходзілася вучыць вузкім спецыяльнасцям. У любой вёсцы былі шаўцы, краўцы, рымары, пчаляры, бондары, ганчары і шмат іншых. Людзі самі праяўлялі свае здольнасці, набывалі пэўную спецыяльнасць і ў той жа час кваліфікавана спасцігалі асноўныя сялянскія работы.

Дамова са сватам адбылася. Міхась Хіневіч быў старэйшы за Васіля, ужо быў жанаты і з ахвотаю пагадзіўся быць сватам. Бацька і Міхась абмеркавалі ўсе асаблівасці сватаўства і вырашылі: ехаць у сваты ў бліжэйшую суботу. Да гэтай падзеі заставалася тры дні. У сераду вечарам Васіль вырашыў схадзіць да Абрамчыкаў папярэдзіць Надзю, што ў суботу да іх прыйдуць сваты, каб яна падрыхтавалася. У нядзелю бацькі сустрэнуцца і вырашаць, калі прызначыць вяселле.

Гэты дзень Васіль і Адась працавалі ў звычайным тэмпе. Работа ішла спарней. Каля шостай гадзіны вечара Васіль сказаў, што ў яго сёння сустрэча з Надзяй, і ён павінен раней сысці з працы. Папрасіў Адася закончыць справу, зачыніць дзверы майстэрні, прыбраць і сваё, і яго рабочыя месцы. Пераапрануўся і пайшоў. Сонейка схілялася да захаду, калі ён падышоў да бацькоўскай хаты, на хвіліну зайшоў у дом і сказаў маці:

— Мама, я спяшаюся на сустрэчу з Надзяй, так што дай мне чаго-небудзь перакусіць.

Падсілкаваўшыся, Васіль пайшоў сцежкай па загуменні, выйшаў паза хутарам Сакалухі ў Абрамчыкаў лес. З лесу выйшаў, калі дыск сонца быў напалову за небакраем. Падыходзячы да Надзінай хаты, заўважыў, што Мікалай з Міхасём і малодшым Валодзем высыпалі бульбу ў склеп. Насупраць стаяў воз з мяхамі.

— Хлопцы, вам дапамагчы? — прывітаўшыся, сказаў Васіль.

— Не, Базыль, мы самі ўправімся, — сказаў старэйшы Мікалай.

Але Васіль узяўся ім дапамагаць, і яны разам хутка высыпалі мяхі адабранай бульбы, а дробную высыпалі ў іншае месца. Гэта быў апошні воз. Мяхоў на полі болей не заставалася. У гэты момант да іх падышла Надзя.

www.kamunikat.org

З акна яна заўважыла, як спрытна дапамагаў хлопцам Васіль і выйшла, каб павітацца з ім і запрасіць у хату. Сказала, што бацька адпачывае, а мама гатуе вячэру. Запрасіла Васіля да бацькі:

— Васіль, пасядзі тут з татам, а я дапамагу маме падрыхтаваць вячэру.

Пан Аляксандр, які драмаў у крэсле, прачнуўся і павітаўся з Васілём:

— А, Васіль! Добры вечар! Я задрамаў, чакаючы вячэры. За дзень натупаўся, то адчуваю стомленасць у нагах. Што чуваць у вас? Калі мы сустрэнемся з тваімі бацькамі?

— Спадар Аляксандр, я якраз і прыйшоў да вас, каб сказаць, што ў суботу ў васемнаццаць гадзін мы прыйдзем да Надзі ў сваты, а вашу сустрэчу з маімі бацькамі мы прызначылі ў нядзелю, пасля абедні ў царкве. Як вы думаеце, дзе зручней будзе вам сустрэцца: у нас, у Вольнай, ці тут, у вас?

— Зараз прыйдуць жанчыны, і мы вырашым, — адказаў гаспадар.

У пакой зайшла пані Юлія, прывіталася з Васілём, запрасіла мужчын да стала. Вячэра адбывалася пры запаленай газавай лямпе. Павячэраўшы, гаспадар сказаў:

— Я думаю, што пасля абедні, у нядзелю, мы сустрэнемся з тваімі бацькамі ў вас і канчаткова вырашым дату вяселля.

Васіль падзякаваў пані Юліі, сабраўся ісці дахаты.

— Пачакай хвілінанчку, Вася, я цябе правяду, — сказала Надзя, зайшла ў спальню, апранула кофту, — хадзем, а то ўжо цёмна.

Васіль пажадаў усім дабранач.

Надзя сказала: «Тата, я ненадоўга». Яны пайшлі. У цемнаце Васіль узяў Надзю пад руку, і яны селі на тое самае месца, дзе сядзелі пару дзён таму.

З кожным днём ночы станавіліся больш халодныя і працяглыя. Ноччу тэмпература паветра паніжалася, а на досвітку яна была блізкай да нуля. Надзя прытулілася да Васіля, ён абняў яе, ім стала цёпла і ўтульна.

— Любы, як я хачу, каб ты ад мяне не адходзіў, быў разам са мною ўсю ноч.

З гэтымі словамі яны абняліся, і іх вусны зліліся ў пацалунку.

— Я таксама гэтага хачу, — сказаў Васіль.

Яны сядзелі доўга. Ім было так добра, нават не зважалі на тое, што вакол іх дзеецца. Пачуцці засцілі ўвесь свет. Ім хацелася жыць і быць разам. Ім было добра ад пачуцця таго, што ўсе пытанні іх сумеснага жыцця ў бліжэйшы час вырашацца так, як Надзя марыла аб гэтым апошнія гады. «Відаць, Бог, — думала яна, — пачуў мае малітвы, мае дзявочыя душэўныя трывогі».

У праваслаўна-каталіцкай сям'і на Надзю мелі ўплыў абедзве канфесіі. Калі яе запрашала маці, то яна ехала з ёю ў касцёл. Але ж царква была

бліжэй, таму Надзя часцей хадзіла туды, спадзеючыся пабачыць свайго суджанага. Яна была праваслаўнай. І на пытанне Васіля: «Надзюша, дзе ж мы будзем браць шлюб?» — адказала:

— Я думаю, што ў нашай Вальнянскай царкве, там, дзе вянчаліся і мае, і твае бацькі. Мая маці ніколі не настойвала на тым, каб я стала каталічкай, таму я застануся праваслаўнай. Ты ж таксама праваслаўны, і нам не трэба будзе хадзіць у розныя цэрквы, так, як робяць мае бацькі. Мяркую, між намі будзе больш паразумення.

Пасля гэтай размовы яна канчаткова вырашыла застацца праваслаўнай. Да гэтага яна не была яшчэ цвёрда ўпэўнена, кім быць: праваслаўнай ці каталічкай. Васіль падумаў: «Усё ж такі як Надзя цвяроза разважае», і яго яшчэ больш захапіла каханне. Час бег хутка, а развітвацца ім не хацелася.

— Паглядзі, Васілёк, колькі на небе зорак, якая сёння цудоўная ноч!

Надзя моцна абняла каханага і прытулілася да яго. Ён падтрымаў яе парыў і адказаў працяглым пацалункам. Так яны сядзелі, пакуль не праспяваў певень у хляве Абрамчыкаў. Яго падтрымаў голас другога ў суседнім хутары Сакалухі. Гэта быў знак, каб ім развітацца. Васіль падняў каханую на рукі, паставіў на зямлю, і яны пайшлі да парога хаты. На развітанне пацалаваліся, Надзя адчыніла дзверы, трымаючыся за яго руку, і ўрэшце адпусціла са словамі:

— Да сустрэчы, любы.

Увайшла ў сені, зашчапіла дзверы, легла шчаслівая спаць. Васіль папраставаў у напрамку Вольнай сцежкай па загуменні, каб не трывожыць у сяле сабак. Шчаслівы дабраўся дахаты.

Наступнага дня пасля работы ён сустрэўся з Міхасём Хіневічам. Яны дамовіліся, што ў суботу Васіль прыйдзе да яго каля пяці гадзін, і яны пойдуць у сваты да Абрамчыкаў.

— Звычайна ў сваты прыязджаюць, а не прыходзяць пехатой, тым больш, калі дзяўчына жыве ў суседняй вёсцы, — сказаў Міхась.

Васіль пагадзіўся. Вырашылі: Васіль запражэ бацькавага каня, яны возьмуць з сабой усё неабходнае, каб у васемнаццаць гадзін быць на месцы.

Час праляцеў хутка. У суботу Васіль святочна прыбраў воз, апрануў лепшае, што ўдалося захаваць у складаныя ваенныя часы, і ў дамоўлены час, запрогшы каня, паехаў да свата. Разам яны ўдакладнілі, ці не забыліся чаго, каб з дарогі не вяртацца назад. Не спяшаючыся паехалі. Па дарозе сустракалі фурманкі з бульбай. Сват з жаніхом, прыстойна апранутыя, віталі вазніц. Усе дзівіліся: куды гэта едуць Васіль Амялішка з Міхасём Хіневічам? Праз дваццаць хвілін яны ўжо пад’язджалі да хаты Абрамчыкаў. Заехалі ў двор. На парозе дома сватоў сустракалі пан Аляксандр з Юліяй.

— Заходзьце, калі ласка, шаноўныя, у нашу хату. Мы рады гасцям, — сказаў Аляксандр.

www.kamunikat.org

— Дзякуем за запрашэнне, пане Аляксандр, вось толькі ўладкуем каня, — сказаў Васіль.

Сват злез з воза, а Васіль праехаў далей на падворак, прывязаў каня да плоту, раскілзаў яго, паклаў перад ім добры ахапак сена. Затым яны разам са сватам і гаспадарамі пераступілі парог хаты. Калі ўвайшлі ў сталовую, сват звярнуўся да гаспадароў:

— Шаноўныя пані Юлія і пан Аляксандр, дазвольце прывітаць вас і расказаць, па якой справе мы прыехалі да вас. Мне і нашаму голубу Васілю стала вядома, што ў вас ёсць яму галубка-пара, якой мы зараз не бачым. Ці згодны вы, бацькі, аддаць яе за нашага слаўнага Васіля?

І ў гэты момант сват Міхась дастаў з кішэні паўлітроўку гарэлкі і паставіў на стол.

— Калі ласка, дарагія госці, сядайце за стол, а ты, Юлька, пакліч нашу галубку. Мы яе спытаем, ці згодна яна абраць сваю пару, — адказаў пан Аляксандр жартам.

Пані Юлія выйшла, каб паклікаць Надзю.

Надзя чакала гэтага моманту ўсхвалявана, і калі маці яе паклікала, прыйшла ў сталовую, дзе сядзелі бацька са сватам Міхасём і Васілём. Яна прывіталася. Бацька звярнуўся да яе:

— Надзя! Вось перад табою сядзяць купцы — сват Міхась і жаніх Васіль. Яны прыехалі да нас, каб прасіць цябе стаць ягонай парай, спадарожніцай жыцця. Адкажы, мая любая дачушка, ці згодна ты?

— Дарагія мае тата і мама. Я кахаю Васіля і згодна выйсці за яго замуж, — з хваляваннем, але ўпэўнена прамовіла яна і падышла да Васіля.

Усе селі за стол. Пані Юлія тым часам хуценька пайшла на кухню, каб прынесці пачастунак гасцям. Надзя папрасіла прабачэння і разам з Анютай, малодшай сястрой, пачала дапамагаць маці. Мужчыны за сталом гаварылі пра палітычныя падзеі, якія адбываліся ў нашым краі. Сват, звяртаючыся да Аляксандра, спытаў:

— Скажыце, шаноўны пан Аляксандр, калі мы зажывём прыстойным жыццём, калі скончыцца вайна? Вось толькі што палякі прагналі бальшавікоў. Гэтая неразбярыха доўжыцца з чатырнаццатага года, і сёння ўжо шосты год як няма спакою на нашай зямлі. Адна ўлада змяняецца другой. І ўсе, хто прыходзіць, чагосьці патрабуюць ад нас. Бальшавікі абяцаюць надзяліць людзей панскай зямлёй і даць людзям волю. А воля — гэта значыць нашым хлопцам трэба ісці ў войска і дапамагаць ім выконваць іх планы, каб мы сваімі рукамі дапамаглі ім ў захопе нашых земляў. Вось зараз пан Пілсудскі ўстанавіў сваю ўладу, і зноў пайшлі новыя патрабаванні да нас. Ягоная палітыка іншая: нічога не мяняць, а пакінуць усё так, як было пры цары. Зямля застаецца ў руках тых, хто ёю валодаў. Няма тых абяцанняў, якія рабілі бальшавікі.

І мужчыны пачалі выказваць свае меркаванні адносна будучыні нашага краю.

У гэты час Юлія з дзяўчатамі скончылі свае жаноцкія справы: стол запоўніўся ўсім неабходным для пачастунку.

— Выбачайце, шаноўныя мужчыны, — сказала яна, — сёння мы сабраліся не на палітычную сустрэчу, і таму прапаную нашаму свату змяніць размову на тую, дзеля чаго мы сабраліся, а палітычныя справы, мяркую, вырашаць без нас.

Слова зноў ўзяў сват Міхась:

— Нам зараз трэба наліць па чарцы і выпіць за тое, каб нашы маладыя зажылі шчасліва, каб яны займелі свой дом і пабудавалі вялікую сям'ю. За згоду панны Надзеі і пана Васіля ўтварыць новую сям'ю, ды за тое, каб бацькі падтрымалі іх у гэтым. За ўсё гэта прапаную выпіць першую чарку.

Ён падняў келіх, напоўнены манапалькай, за ім Аляксандр з Васілём. Жанчыны напоўнілі свае келіхі вішнёвай наліўкай.

— Дай Божа, каб нашы маладыя жылі шчасліва, — дадаў Міхась.

Усе выпілі, а Юлія, заплакаўшы, сказала:

— Выбачайце за маю нястрыманасць. Я ж усё-такі трачу самую старэйшую і мацнейшую сваю памочніцу. Жадаю ёй усялякага дабра, у будучым займець дзетак, а мне ўнукаў, і жыць шчасліва са сваім каханым.

Хтосьці з прысутных меў намер крыкнуць горка, аднак пані Юлія сказала:

— Пабойцеся Бога! Гэта ж не вяселле, а толькі сваты. Не спяшайцеся, усё наперадзе.

Час быў неспакойны, канчаўся 1919 год. Толькі што польскія войскі, узброеныя англічанамі і французамі, прыйшлі на змену бальшавіцкім і пачалі ўсталёўваць свае парадкі. Адмянілі ўсе прадразвёрсткі і бальшавіцкія абяцанкі. Каб справіць вяселле, трэба было пераадолець шмат цяжкасцяў, і перш за ўсё матэрыяльных, таму што ў гэтым краі ўладарыла неразбярыха. Бацькі і сват пагаварылі і вырашылі зрабіць сціплае вяселле, абвянчаць маладых у Вальнянскай царкве, а наконт пасагу дамовіцца бацькам нявесты і жаніха.

Пакуль яны вялі гаворку, дзеці пайшлі спаць. Дарослыя вялі размову пра будучыню маладых. Пан Аляксандр сказаў:

— Мы з Юліяй падумалі і вырашылі выдзеліць маладым спелага лесу на дом. Трэба абдумаць яшчэ і іншае, але пра гэта рана гаварыць. Усе абставіны мы абгаворым заўтра з бацькамі Васіля.

На заканчэнне мужчыны выпілі па чарцы за тое, каб усё намечанае здзейснілася.

Пакуль сват гутарыў з Аляксандрам, маладыя выйшлі на вуліцу. Васіль падышоў да воза, праверыў, ці можна рухацца. Узяў за руку Надзею і павёў яе ў сад, каб там хвіліну-другую пабыць разам. Селі на лаўку за хатай. Васіль абняў Надзю, а яна прытулілася да яго. Быў пачатак восені, сярэдзіна

www.kamunikat.org

верасня. Надзя і Васіль былі задаволены тымі падзеямі, якія адбыліся за кароткі час. Яны пачалі гутарку пра свае планы.

Надзя як дзяўчына, якая ўсяго нагледзелася за вайну, была чалавекам даволі вопытным, яна не магла не думаць пра сумеснае жыццё з Васілём. Яна ведала, што калі яны возьмуць шлюб, то ёй прыйдзецца пераехаць да яго і жыць у хаце ягоных бацькоў. Яе палохала тое, што ў іх цесна. Сям'я не менш як дзевяць чалавек, з ёю будзе дзесяць. У такім невялікім доме будзе не соладка.

Цяпер яна прагнала прэч ад сябе ўсе благія думкі і абняла Васіля за шыю абедзвюма рукамі, села яму на калені і пачала яго цалаваць. Ім было добра. Але тут Васіля пачаў клікаць сват Міхал, які ўжо выйшаў на двор.

— Васіль, куды ты падзеўся? Час ехаць дахаты.

— Васілёчак, цябе кліча сват, трэба ехаць. О, як мне не хочацца цябе адпускаць!

— Надзейка, я таксама рад быў бы з табою застацца, але ж трэба ісці. Заўтра я абавязкова прыйду да цябе вечарам, чакай, — пацалаваў яе і пайшоў да Міхася: — Міхась, я тут. Зараз паедзем.

Васіль запрог каня, яны са сватам селі, развіталіся з сямействам Абрамчыкаў і паехалі. Было цёмна, Надзя правяла іх да брамкі і слухала, як воз грукацеў па дарозе недзе каля суседняга хутара Чалядкаў.

Падышлі бацькі. Бацька палажыў руку на плячо сваёй старэйшай дачушцы, яна прыхілілася да яго і пацалавала.

— Дзякуй вам, тата і мама, за ваша разуменне, за тое, што дапамаглі мне ў маім выбары.

Маці Юлія абняла яе і сказала:

— Надзя, я таксама некалі была ў такім стане і рада за цябе. Табе ж на днях спаўняецца 19 гадоў. Мне будзе сумна без цябе, і ў той жа час я шчаслівая, бо ў мяне падрастаюць дзве памочніцы: Анюта і Ніна. Хто ведае, які лёс іх чакае?

І яны разам з бацькамі адправіліся ў хату.

Назаўтра, у нядзелю, Аляксандр запрог каня ў вазок і разам са сваёй Юлькай, як ён яе называў, адправіліся ў Вальнянскую царкву. Аляксандр любіў хуткую язду. Праз дваццаць хвілін яны былі ля царквы. Гаспадар прывязаў каня да плота, палажыў сена, і яны разам выйшлі на плошчу перад царквой. Ім успомніўся іх шлюб.

— Помніш, Саша, — сказала Юля, — як мы з табой вянчаліся ў гэтай царкве? А колькі брычак суправаджала нас! Ты не забыўся, дзе мы з табой спраўлялі вяселле? — уздыхнула Юлія і дадала: — А цяпер, бачыш, мы ўжо аддаем замуж другую дачку.

— І вянчацца яны будуць у гэтай жа царкве, як і мы, — дадаў Аляксандр.

— А знаеш, мне здаецца, што гэта было зусім нядаўна, — сказала Юлія.

У гэты момант яны падыходзілі да прыступак царквы. Там іх сустрэў бацька Васіля Андрэй.

— Добры дзень! Шаноўныя пані Юлія і пан Аляксандр, я прапаную пабыць на абедні, памаліцца, а пасля мы запрашаем вас заехаць да нас. Мы з Ксеніяй павінны пагутарыць з вамі пра нашыя справы.

— Мы згодны. Я прапаную пасадзіць усіх вашых да нас на вазок і ехаць да вас, — сказаў Аляксандр.

Пасля гэтага праз галоўныя дзверы яны ўвайшлі ў царкву, перажагнаўшыся кожны па-свойму. На абедні з сям'і Амялішкаў акрамя бацькоў прысутнічалі хлопцы Васіль, Павал, Давыд, Лаўрын і самая малодшая Аляксандра. Жанчыны ў царкве стаялі з левага боку ад ўваходу, а мужчыны — з правага. Літургія працягвалася больш за дзве гадзіны. Пасля яе ўсе старэйшыя селі на вазок і паехалі да Амялішкаў. Моладзь ехаць адмовілася. Праз хвілін дзесяць усе былі на падворку.

Да сустрэчы спадарыня Ксенія падрыхтавалася як мае быць. Гаспадар Андрэй паставіў на стол паўлітроўку манапалькі. Маладзейшым маці падрыхтавала абедзенны стол на кухні, каб не перашкаджалі бацькам вырашаць справы, дзеля якіх яны сёння сабраліся. Гасцей запрасілі за стол.

— Панове Ксенія і Андрэй, — звярнуўся пан Аляксандр да гаспадароў, — дазвольце мне пачаць размову. Вам ужо вядома, што ваш Васіль і мая старэйшая дачка Надзея прыкладна тыдзень таму сустрэліся паўторна пасля дзевяцігадовага перапынку. Пра гэта вам вядома, і, можна так сказаць, яны пакахалі адзін аднаго. Ваш сын прапанаваў, каб мая Надзея выйшла за яго замуж, і яна пагадзілася. Учора Васіль са сватам прыязджалі да нас. Мы з Юляй падумалі: раз існуе згода паміж маладымі, дык мы не будзем ім супярэчыць, бо яны пакахалі адзін аднаго, хай і пажэняцца. Яны прапануюць вяселле зрабіць восенню і даручаюць нам з вамі вызначыць тэрмін вянчання. Гэта першае пытанне, якое мы сёння павінны вырашыць. А другое — вырашыць справу з пасагам нашай дачцэ. Утвараецца новая сям'я, і мы, бацькі, мусім ім у гэтым дапамагчы. Мы з Юлькай падумалі і вырашылі выдзеліць ім на дом будаўнічага лесу. Адносна зямлі, мяркую, зараз няма сэнсу гаварыць, пакуль ў нашай мясцовасці не ўсталюецца цвёрдая ўлада, — сказаў Аляксандр.

Юлія дадала:

— Паважаныя нашы Ксенія і Андрэй, са свайго боку, пакуль мая дачка Надзя падрастала, я падрыхтавала ёй пасаг: падушкі, коўдры, сяннік, пасцельную бялізну і ўсялякую драбязу, без якой у жыцці не абыдзешся.

— Дзякуем вам, што вы прыехалі да нас, — адказала спадарыня Ксенія, — мой сын Васіль старэйшы сярод нашых дзяцей. Яму пара займець сваю сям'ю. Цяпер яму трэба збіраць грошы, каб пабудаваць сваю хату, і мы не ведаем, колькі часу для гэтага спатрэбіцца. Вось вы выдзяляеце Надзеі і Васілю будаўнічага лесу. Гэта ўжо першы крок, каб пачаць будаваць свой

дом. Пакуль што маладыя пажывуць у нас, а калі сям'я пачне расці ды мае малодшыя хлопцы пачнуць жаніцца, дык нам сапраўды стане цесна. Таму перш за ўсё Васілю з ягонай сям'ёй спатрэбіцца адыйсці ад нас, займець свой дом. Будучыня пакажа, як вырашыць гэтую надзённую патрэбу. Між тым, вядома, што ў Бортніках ёсць пусты маёнтак. Вальнянскія Слізні рана ці позна будуць прадаваць землі, якія ім дасталіся ў спадчыну. Трэба не празяваць і набыць зямлю там. Аб гэтай магчымасці Васіль з бацькам разважалі некалькі дзён таму.

— Добрую прапанову зрабіла спадарыня Ксенія, — дадаў спадар Аляксандр. — Мы таксама аб гэтым чулі і лічым, што трэба гэты шанец не ўпусціць. Дарэчы, з Васілём там мы былі яшчэ да вайны, знаёміліся з цэнтрам маёнтка. І я вам скажу, там такое месца, якога яшчэ трэба пашукаць. У будынках, хоць яны і старыя, але ж падрамантаваўшы, нейкі час можна жыць. Вакол забудоў — парк, шмат яблынь, праўда, яны таксама старыя, але іх можна абнавіць. А які там цагляны склеп для захоўвання бульбы і гародніны, колькі розных парод дрэў: ліпы, клёны, каштаны, ясені, бярэзіны, серабрыстыя таполі! Усе каштоўныя пароды дрэў былі завезены былымі гаспадарамі з іншых месцаў, у тым ліку і з замежжа. Яны аздаблялі месца, дзе гаспадары стала жылі. Аб гэтым месцы можна толькі марыць.

— Што тычыцца самога месца, — працягваў Васіль, — дык яно сапраўды багатае. Там можна размясціць пасеку і мець добры набытак ад вытворчасці мёду. Да нас у сталярню часцяком прыходзіць пані Слізнёва. Пры сустрэчы ў яе трэба спытацца, ці будзе яна прадаваць свой маёнтак у Бортніках. А калі так, то прасіць яе, каб цэнтр маёнтка прадала нам. Калі мы паселімся там, то прыйдзецца раздзяліць набытак паміж усімі маімі братамі і сястрой. У нас будзе магчымасць купіць гэтыя землі з пабудовамі, таму што я буду працягваць працаваць сталяром і збіраць грошы, каб купіць свой уласны дом, і мне, спадзяюся, удасца сабраць неабходную суму, каб разлічыцца за набытак. Аднак дзеля гэтага пры спрыяльных умовах нам прыйдзецца працаваць не меней як дзесяць гадоў, — закончыў Васіль.

— Цяпер мы павінны вырашыць пытанне аб даце вяселля, — сказаў сват Андрэй. — Мяркую, што трэба выбраць апошнюю суботу кастрычніка. Сёння мы маем сярэдзіну верасня, а апошняя субота прыходзіцца па новым календары на 25 кастрычніка. Калі вы ўсе згодныя, дык будзем лічыць, што вырашылі і гэтае пытанне.

Гаспадар прапанаваў выпіць па чарцы гарэлкі і перакусіць. Далей гутарка ішла пра вяселле, як яго падрыхтаваць. Узнікла шмат турбот: каго запрасіць, як усіх забяспечыць ядой і пітвом ў такі складаны час.

Пасля вяртання з кірмашу ў Міры Васіль думаў пра тое, якой карыснай аказалася сустрэча з панам Мацеем. Прайшоў тыдзень. З аднаго боку, Васіля займалі гаспадарчыя справы, з другога — служба гаёвым, што прымушала па некалькі разоў на тыдзень рабіць абход абедзвюх дзялянак

лесу, якія былі на адлегласці да пяці кіламетраў адна ад адной. Каб зручней іх даглядаць, прыходзілася сядлаць Варанка. Пры гэтым яму хутчэй удавалася праехаць і Храмушу, і Мітрапольскі лес. Рабіў ён гэта амаль штодня. Пасля некалькіх гучных падзей зладзеі пачалі пабойвацца і ўжо так нахабна не кралі лес.

## 20. Янаў лёс

У гэты ж час з адным леснікам Нясвіжскага лясніцтва здарылася трагедыя, якая скалыхнула не толькі лясніцтва, але і ўрад Польшчы. Пра гэтыя падзеі Васілю расказалі ў лясніцтве, а ён расказаў пазней мне. З таго часу прайшло больш як восемдзесят гадоў.

Адбыліся падзеі ў трыццаці кіламетрах на поўдзень ад Нясвіжа, ў супрацьлеглым напрамку ад маёй радзімы — вёскі Вольны. Ляснік Ян Лісніцкі ахоўваў добры кавалак лесу. Старанна выконваў свае службовыя абавязкі. Усё, што было сказана на нарадзе ў лясніцтве, Ян успрыняў як патрэбна: няўхільна ахоўваць тыя лясныя дзялянкі, якія яму былі даручаны. Пачаў актыўна лавіць зладзеяў, складаць на іх пратаколы. Пасля чарговага выхаду ў лес ён злавіў злодзея Сымона Торбу, які жыў у суседняй вёсцы Ганчары. Сымон Торба, як і шмат іншых сялян, лічыў, што калі яму патрэбен будаўнічы матэрыял, а набыць яго законным шляхам няма за што, то чаму б не паехаць у лес і не ўкрасці сасну. Ён ужо не аднойчы краў, і яму шанцавала — яго ніхто не злавіў. Але, як кажуць, колькі вяровачцы не віцца, але ж канец будзе.

У Яна Лісніцкага быў цяжкі дзень. Было некалькі дробных крадзяжоў, увесь дзень ён лавіў зладзеяў, састаўляў пратаколы, якія потым адпраўляў у суд, таму дахаты прыйшоў позна. А жыў ён на хутары ў Замоссі з жонкай Анэляй і трыма дзецьмі. Старэйшы, Юзаф, меў каля васьмі гадоў, Андрэй — чатыры гады, а Ядвіга — два. У той дзень дзеці хуценька павячэралі і леглі спаць, а Анэля, чакаючы мужа, задрамала. Вячэра стаяла на стале. Калі ў сенях бразнула клямка, Анэля прачнулася, падхапілася і пайшла сустракаць Янка, падышла да яго, пацалавала і спытала:

— Яначак, чаму ты так позна прыходзіш дахаты?

— Ведаеш, сёння ў мяне быў цяжкі дзень. Да мяне прыязджаў правяральшчык з лясніцтва. Мы з ім абышлі ўвесь лес. Асаблівых парушэнняў, акрамя тых, што ўказаны ў пратаколах, не знайшлі. Памочнік ляснічага папярэдзіў, што на мінулым тыдні з-за мяжы праз суседні лес прайшла нейкая банда. Бандыты нападалі на пастарункі, ёсць параненыя і забітыя. Банда дзейнічала жорстка, нападала на людзей знянацку.

— Ой, Яначак! Што ж гэта робіцца, калі ж настане мір на нашай зямлі?

— Банда, калі памежнікі прышчапілі ёй хвост, схавалася за мяжой, — дадаў Янак.

— Янак, у мяне нядобрыя прадчуванні. Глядзі, тыя, каго ты пакараў, не даруюць, — і яна заплакала.

— Я ўсё раблю па законе, і хай будзе ўсё тое, што будзе, — адказаў Ян.

Гэтыя падзеі адбываліся ў сярэдзіне траўня 1924 года, калі прырода набывала сваю вясновую моц. Хвойныя дрэвы пачалі мяняць старыя іглiцы на новыя, а шыракалістыя — салатавы колер на цёмна-зялёны. Зязюля штодня кукавала, пералятаючы з адной дзялянкі на другую, яе «ку-ку» падтрымліваліся з іншых месцаў. Спевы розных птушак запаўнялі ўсю лясную прастору. У гэты час у лесе было шмат камароў, якія сваімі вострымі джаламі нападалі як на чалавека, так і на лясных жывёл. У беразняку, які межаваў з Палессем, іх было шмат, і па сваіх памерах яны пераўзыходзілі камароў, што сустракаюцца ў лясах на поўнач ад Нясвіжа.

Ранкам, ледзьве паявіўся золак, Ян быў ужо на нагах. Памыўся на двары прахалоднай вадой з бочкі ля страхі, выцерся ільняным ручніком. Памаліўся, узяў у склепе збан халоднага малака, наліў яго ў паўлітровы кубак і з’еў з добрай лустай хлеба. Палажыў сабе ў торбу кавалак хлеба з салам і вяндлінай ды пайшоў у лес, які быў на адлегласці не менш за два кіламетры. Ішоў сцежкай, на траве была буйная раса. Боты пакрываліся вільгаццю.

Праз некалькі хвілін заўважыў, што ад лесу едзе фурманка, а каля яе ідуць два мужчыны. Было відаць, што адзін больш сталага ўзросту, а другі — маладзейшы. З-за куста, за якім стаяў ляснік, вазніцы яго не бачылі. Фурманка накіроўвалася ў Ганчары. Раптам са свайго схованішча выйшаў ляснік.

— Дзень добры, гаспадары, — ляснік з’явіўся перад імі як з-пад зямлі.

— Добры дзень, — буркнуў вазніца.

Ян пазнаў мужыка. Гэта быў Сымон Торба. Так яго празвалі сяляне за яго нораў. Усё, што ляжыць без аховы, стараецца прыхапіць сабе як у торбу.

— Стой! — сказаў ляснік. — Адкуль гэты лес?

Сымон адчуў, што на гэты раз ягоны паход быў няўдалым. «Чорт мне прапанаваў на досвітку адправіцца дахаты».

Цяпер у думках ён дакараў сябе, чаму не зрабіў гэта ноччу, бо ў суцэльнай цемры яму больш шэнціла. Затрымаўшы каня, Сымон звярнуўся да Яна:

— Пан гаёвы, вось чорт спакусіў. Ведаеш, мы з сынам Міхасём паехалі ў лес і хацелі набыць сасну, каб пусціць яе ў справу. У свіным хлеўчуку падгнілі падваліны. Вось мы вырашылі замяніць іх. Пан Ян, даруй нам,

мы гэта зрабілі першы і апошні раз. Далібог, больш ніколі не паедзем без дазволу ў лес.

— На жаль, дараваць я не магу, таму што лес — гэта не мая ўласнасць, і за ўкрадзеную сасну вам прыйдзецца разлічвацца штрафам. Вось тады вы не будзеце парушаць ляснога заканадаўства.

— Пане гаёвы, лес — гэта Божы дар, і хто ў лесе не злодзей, той у хаце не гаспадар. Так кажа прыслоўе. Гэта ж невялікая бяда дзяржаве, калі адной сасной у лесе стане меней.

— Калі кожны селянін будзе высякаць па адной сасне, то лес за кароткі час знікне, таму кожнай дзяржавай і прымаецца заканадаўства па ахове лесу. Хопіць размоў, едзем у Бондары, каб засведчыць факт самавольнай высечкі і скласці пратакол. Так што кіруй у падворак гміны.

Па дарозе Андрэй Торба стараўся і так, і гэтак угаварыць лесніка, каб той дараваў яму здзейсненае. І ўрэшце прапанаваў адвезці сасну на Янаў панадворак, а самога адпусціць. Аднак ніякія ўгаворы на лесніка не падзейнічалі, і праз гадзіну яны прыехалі на пляц каля гміны ў Бандарах.

Служачыя яшчэ спалі, не было і пана войта. Прыйшлося чакаць, пакуль ён прыйдзе на працу. Ян вырашыў схадзіць да бацькі, які жыў у Бандарах, і там паснедаць. У гэты момант да іх падышоў паліцыянт. Янак адвёў яго ў бок і папрасіў паглядзець за фурманкай са скрадзенай сасной, каб Андрэй Торба не ўцёк. Праз гадзіну з'явіцца войт, і яны складуць пратакол. Ля воза стала з'яўляцца ўсё больш і больш сялян, якія цікавіліся тым, што здарылася, і даведаліся: Торба папаўся, спілаваў у лесе сасну.

Янак тым часам зайшоў у бацькоўскую хату і расказаў бацькам аб ранішнім здарэнні з Андрэем Торбам.

— Сынок, небяспечны гэта чалавек, калі ты яго пакараеш, дык ён можа што хочаш учыніць. Вядома, што ён злодзей яшчэ той і дзякуючы свайму дурному характару часцяком выходзіць сухім з вады. Таму людзі абыходзяць яго, не звязваюцца з ім.

— Ну, на гэты раз яму прыйдзецца «памачыцца», бо ягонае зладзейства не першае. Ён, мне вядома, нанёс шмат шкоды лесу, а папаўся ўпершыню, таму яго трэба правучыць, а схаваць сённяшняе здарэнне ўжо позна, нават каб я і хацеў. Няхай ён нясе кару за парушэнне ляснога заканадаўства. Я за яго злачынствы разлічвацца не буду.

Яны вялі гутарку з бацькам, пакуль маці гатавала яму снеданне.

Маці спякла некалькі аладак, падсмажыла яешню са шкваркамі. Ян з'еў яешню з аладкай, запіў кіслым малаком, пасля чаго адправіўся ў гміну. Калі ён прыйшоў туды, там ужо яго чакаў войт. Сакратарка дапамагла Яну саставіць пратакол. Андрэя прымусілі скінуць сасну на пляцы і адпусцілі дахаты. Пачынаўся працоўны дзень, усе, хто быў у двары, заняліся сваімі справамі.

www.kamunikat.org

Чуткі аб крадзяжы сасны хутка разнесліся па ўсёй аколіцы. Адбыўся суд, і яму прысудзілі: за спілаваную сасну заплаціць дваццаць пяць злотых. Торбу гэты выпадак так раззлаваў, што ён пачаў шукаць магчымасць адпомсціць. Ён лічыў, што вінаваты ва ўсім ляснік.

Тым часам Ян наводзіў у лесе парадак. Толькі за апошнія два тыдні ён злавіў яшчэ трох парушальнікаў з розных вёсак, што межавалі з дзялкамі, якія ён ахоўваў. Ён не мірыўся з раскраданнем лесу, складаў пратаколы, а павятовы суд штрафаваў парушальнікаў.

Гэта людзям не падабалася, таму што крадзеж лесу лічыўся ў іх звычайнай справай, а тут раптам такія жорсткасці. Таму сяляне пачалі асуджаць лесніка, вінаваціць яго ў тым, што ён выслужваецца перад панамі.

Усе аштрафаваныя сабраліся разам і вырашылі пакараць лесніка. Праўда, гэта было небяспечна, таму што лесніка ахоўвалі законы Рэчы Паспалітай. Калі пакрыўджаныя судом сабраліся ў хаце Андрэя Торбы, ён выказаўся так:

— Хлопцы, я мяркую, што за зробленыя над намі здзекі трэба злавіць гаёвага і прывязаць да дрэва.

— А што гэта дасць? — сказаў Іван Печань, які таксама быў аштрафаваны за незаконнае спілаванне сасны. — Трэба яго забіць і канцы ў ваду.

— Не так усё проста. Што, не ведаеш, што ён асоба, якая ахоўваецца лясніцтвам? Тут трэба зрабіць так, каб яго напалохаць, утаймаваць яго службістасць. Я прапаноўваю аднаму з нас узяць фурманку і ўсім паехаць у лес. Калі ляснік будзе там, злавіць яго, ды так, каб ён нас не пазнаў. Дзеля гэтага кожнаму з нас трэба надзець маску. Звязаць яго і адвезці ў Бярозавік, у глухое месца, куды цяжка дабірацца. Я нядаўна там быў, збіраў грыбы і заблудзіўся. Думаў, што не знайду дарогу дахаты. Ледзь выбраўся. Дык вось, адвязем яго туды, прывяжам да дуба, а там ёсць пара моцных дубоў, і хай там павісіць пару дзён, пакуль яго не знойдуць. Гэта яму будзе добрая навука, — скончыў Андрэй.

— Не, братка, што гэта за пакаранне за нашы слёзы, слёзы нашых жонак, дзяцей. Ён іх пакінуў без харчу. Калі ўжо не забіць, дык, я мяркую, прывязаць да дрэва голым. Хай ён пакорміць камароў, — закончыў Іван Печань.

Астатнія прысутныя — Сільвестар Сняжко і Антон Казяк — выказалі згоду з Іванам Печанем. Антон Казяк сказаў:

— Добра прыдумаў, Іван. Я згодзен, падтрымліваю.

У свой час ён быў таксама аштрафаваны за крадзеж сасны.

Сваю сходку сяляне праводзілі ў хаце, каб ніхто лішні не даведаўся аб задуманым. Яны дагаварыліся, што ўсе будуць маўчаць, бо гэтая справа можа закончыцца трагічна. Разыходзіліся ў розныя бакі па адным, кожны па сваім напрамку. Перад адыходам Сільвестру Сняжку даручылі падрыхтаваць воз і чакаць на ўскрайку лесу ў напрамку на ўрочышча Бярозавік. Як

толькі пачынае світаць, ляснік ідзе часцей за ўсё да гадавальніка. Вось там, за сасняком, яго будзе чакаць фурманка з тымі, якія будуць у масках.

Ян падняўся, як кажуць, ні свет ні зара. На скорую руку перакусіў і пайшоў у лес. Перш за ўсё вырашыў наведаць гадавальнік раслін, якія ён так пільна даглядаў. Пры падыходзе да месца ў яго ўзнікла нейкая трывога, як бы хтосьці яму казаў: «Не хадзі туды». Аднак ён вырашыў, што павінен ісці і пераканацца, што там усё ў парадку. Падыходзячы да веснічак гадавальніка, Ян пачуў, як трэснула побач галінка. Прыслухаўся… Ціха… Пастаяў хвіліну. Як толькі ступіў яшчэ адзін крок і ўзяўся за кручок брамкі, з-за куста да яго падскочылі чатыры чалавекі ў масках, павалілі на зямлю, заламалі рукі назад і павялі да воза, які стаяў метрах у дзесяці ў сасонніку.

— Хто вы такія і за што вы мяне звязалі?

Аднак яму ніхто не адказаў, відавочна, таму, каб ён іх не пазнаў па голасе. Каб ён не крычаў, у рот яму засунулі кляп, а самога паклалі на воз. Не размаўляючы з ім, павезлі ў Бярозавік, як і прапанаваў Андрэй Торба. Янку палажылі тварам уніз, і ўдвух — Іван Печань і Сымон Торба — трымалі, каб не рухаўся, а Казяк і Сняжко паганялі каня, каб як мага хутчэй даехаць да месца. Лясная дарога дрэнная, з калдобінамі, карнявішчамі, таму рухацца прыходзілася павольна. Прайшло з паўгадзіны. Янак быў усхваляваны нахабствам бандытаў, якія яго звязалі і цяпер немаведама куды вязуць. Аднак ён заўважыў, што вязуць яго ў паўднёвым накірунку, дзе лес паступова пераходзіць у балота.

Прывезлі да месца, якое было ў лагчыне. Адсюль пачыналася гіблае балота, на ўскрайку якогараслі магутныя дубы. Пад'ехалі да аднаго з іх, знялі лесніка з воза і пачалі распранаць. Ён супраціўляўся, аднак яму не далі ўцячы. Распранулі, пакінуўшы толькі ніжнія порткі, падвялі да дуба і паўголага прывязалі да яго. Узнікла штосьці падобнае на ўкрыжаванне Хрыста. Рукі і ногі моцна прывязалі да галін дуба на вышыні каля двух метраў ад зямлі — з тым намерам, каб ваўкі не маглі яго пагрызці.

Скончыўшы сваю справу, злачынцы спяшаліся хутчэй ад'ехаць, пакінуўшы лесніка самога ў гэтым гіблым месцы, без вады і ежы. Да таго ж голага і падвешанага на галінах дуба. Торба з харчамі, якая была ў Яна, знікла,

«Мабыць, бандыты забралі яе і зараз частуюцца, едучы дахаты», — такая думка ўзнікла ў Яна. Ён думаў аб тым, што яму трэба зрабіць, каб вызваліцца з гэтага становішча. Ён добра ведаў гэтае месца, якое было багата камарамі, і яны неўзабаве пачалі сваю злачынную справу. Джалілі неміласэрна, упіваліся сваімі джаламі ў адкрытае цела і прыносілі нясцерпны боль, незвычайны сверб. Боль усё нарастаў, стан яго з цягам часу пагаршаўся. Янак пачаў маліцца, успамінаць сваю сям'ю, Анэлю. Ён яшчэ не думаў, чым усё гэта скончыцца, але з нарастаннем болю, ад

www.kamunikat.org

павелічэння нападу галодных камароў ягоныя думкі змяніліся. Цяпер ён быў упэўнены, што калі яго ніхто не вызваліць, то камары заядуць яго. Ён спрабаваў вызваліцца, хацеў клікаць аб дапамозе, але ў роце была затычка, якая не давала здзейсніць ягоныя намеры.

Прайшла, пэўна, ужо гадзіна, як бандыты ўчынілі здзек над Янам. Яму станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. Рукі, заціснутыя вяроўкамі, не дазвалялі крыві цыркуляваць належным чынам, яны зацяклі. Ад укусаў камароў нясцерпны боль і сверб узмацняліся. Было цяжка ў дзённы час, а што будзе ўвечары, калі колькасць гэтай пошасці-машкары павялічыцца! Вось тады сапраўды ягонае сэрца можа не вытрымаць болю.

Ян пачаў успамінаць усё сваё жыццё

Успомніўся выпадак, які таксама ўсхваляваў усю сям'ю. Ян быў жвавым хлапчуком. Аднойчы ён бег і не заўважыў, што нейкая частка пашы агароджана калючым дротам. Ён наткнуўся на драцяную калючку. Пашкодзіў месца каля самай скроні, пачаў плакаць ад болю. Гэты выпадак мог прывесці да смерці, таму што скронь — гэта месца, дзе сыходзяцца нервовыя канчаткі, якія адчувальны для ўсяго арганізма.

Усё гэта ўспомнілася, праляцела ў яго галаве. А колькі было імгненняў на вайне, дзе кожную хвіліну пагражала смерць, калі ён сваімі вачыма бачыў, як падалі мёртвымі жаўнеры, якія ішлі разам з ім у атаку, ці тады, калі абараняліся ў акопах ад артылерыйскіх снарадаў, што рваліся над іх галовамі. Ян успомніў сваіх дзяцей, хлопцаў: які лёс чакае іх, калі яны вырастуць? Можа, і ім прыйдзецца ваяваць, як і іх бацьку? Ляснік пачаў плакаць і прыгаворваць:

— О, дзеткі мае, хто ж вам будзе дапамагаць, калі мяне не стане? О, Божа, даруй мне ўсе грахі, дапамажы маім дзецям вырасці і не дапусці таго, каб яны перажылі тое, што мне давялося ў жыцці. Пакарай, Божа, злачынцаў, якія ўтварылі здзек з мяне!

Яму станавілася ўсё цяжэй і цяжэй ад болю ў заціснутых вяроўкамі руках, але асаблівы боль адчуваў ад джалаў гэтай лясной пошасці — камароў. Час ішоў, ягоныя думкі не давалі супакою і вярталіся як бы па крузе. Вось ён у думках звяртаецца да сваёй каханай Анэлі і з плачам пытаецца ў яе: «Як жа ты, мая даражэнькая, будзеш жыць без мяне? Хто табе будзе дапамагаць гадаваць нашых дзетак?» Ён звяртаецца да яе з такой роспаччу, як бы яна яго чуе; кліча яе, каб яна дапамагла яму вызваліцца ад смяротнае пагрозы. Аднак усё гэта застаецца без адказу. Да апошняга моманту Ян спадзяваўся на паратунак.

Наступіў вечар. Халадала. Недзе на захадзе пачыналіся грымоты, а разам з гэтым узмацняліся атакі кравапіўцаў-камароў. Ян ужо не адчуваў холаду, яго перасільваў боль, усё цела дранцвела ад укусаў камароў. Ён пастаянна чытаў малітвы, якім навучыла яго маці і якія яму прыходзілася чытаць у касцёле ў Бондарах. Адбывалася змаганне за жыццё. А боль

станавіўся ўсё мацнейшы і мацнейшы. Ян ад болю пачаў забывацца, траціць прытомнасць. Усведамленне таго, што ён жывы, наступала ўсё радзей і радзей. Ад працяглага, нясцерпнага болю сэрца пачало слабець. Нарэшце надышоў гэтак званы болевы шок: такі стан, калі сам па сабе чалавек не можа вярнуцца да жыцця. Наступала глыбокае забыццё, якое станавілася ўсё больш працяглым, і нарэшце прыйшло поўнае забыццё. Сэрца білася ўсё слабей і слабей і праз некаторы час перастала біцца. Ян памёр.

Тым часам, здзейсніўшы злачынства, Торба і ягоныя памочнікі ехалі дахаты і ўплёталі той харч, які падрыхтаваў сабе ляснік. Яны былі задаволены ўчыненай помстай і не хваляваліся пра тое, што будзе з іх ворагам. Торба нават сказаў:

— Але ж добрую кару мы яму прыдумалі. Хай цяпер за нашыя пакуты пакорміць камароў у лесе, а мы тым часам падсілкуемся ягонымі прыпасамі. Вось бачыце, які багаты правіянт ён мае. Мы і нашы дзеці сядзім на нішчымнай бульбе, а ён як шыкуе.

— Я ўжо забыўся смак сала і вяндліны, — сказаў Андрэй.

Неўзабаве такой кампаніяй усё з’елі.

— І што цяпер будзе, хлопцы? — звярнуўся да ўсіх Сільвестар Сняжко.

— Калі ён застанецца жывы, то зробіць выснову і перастане лютаваць, складаць пратаколы.

— А калі здохне, то і канцы ў ваду, — сказаў Іван Печань.

— Як вы думаеце? Пасля таго, як яго знойдуць, жывым ці мёртвым, пачнецца следства, і нас прыцягнуць да адказнасці. Ці думалі вы, хлопцы, што ў першую чаргу спытаюць нас: мы былі пакараны судом, а гэта значыць, нас пакрыўдзілі штрафам і нам, відавочна, захацелася адпомсціць гаёваму, які склаў пратакол і фактычна прысудзіў штраф. Што мы на гэта адкажам? — спытаў Антон Казяк.

— А я аб гэтым і не падумаў. І ведаеце, хлопцы, вось што, — сказаў Андрэй Торба. — У гэтым выпадку нам трэба адказваць следчым, што мы нічога не ведаем. Я мяркую, яны ад нас адчэпяцца.

Сяляне не ведалі ўсіх юрыдычных правілаў следства.

Пад’ехаўшы да ўскрайку лесу, яны сустрэлі фурманку, на якой ехаў хтосьці незнаёмы. Ён прыпыніўся і запытаўся: «Хлопцы, ці не сустракалі вы мясцовага гаёвага?»

— Не, браток, мы ездзілі ў балота, каб вызначыць дзялянку, дзе можна рэзаць торп. Зараз вяртаемся дахаты і нікога не сустракалі, — адказаў Андрэй. Яны размінуліся, незнаёмец прытрымаў каня і ўважліва агледзеў усіх, хто сядзеў на возе

Як толькі незнаёмец ад’ехаў, Сільвестар Сняжко сказаў:

— Хлопцы, штосьці маё сэрца адчувае нядобрае. Гэтая сустрэча з незнаёмым не да дабра.

www.kamunikat.org

— Нічога яны нам не зробяць. Хай дакажуць, што мы здзейснілі злачынства, — сказаў Іван Печань.

Не даязджаючы да вёскі Бондары, трое злезлі з воза і пайшлі ў розных напрамках, а гаспадар воза, Сільвестар Сняжко, паехаў дахаты.

Настаў поўдзень. Анэля чакала, што Ян вось-вось вернецца з лесу. Пасля ўчарашняй размовы штосьці яе мучыла, узнікала трывога. Яна адчувала: з мужам штосьці здарылася. Такі цяжар быў у яе на душы, што яна не магла знайсці сабе месца. Яна машынальна выконвала свае гаспадарчыя абавязкі, але ўсё ёй было няміла. Сэрцам адчувала, што вось-вось павінна здарыцца штосьці трагічнае. На абед Ян не прыйшоў. Душэўная трывога Анэлі ўзрастала і дасягнула найвялікшай моцы ўвечары, калі ён не вярнуўся і на вячэру. Юзаф, гледзячы, як трывожыцца маці, спытаўся: «Мамачка, чаму наш тата не прыйшоў на вячэру?» — а яна не ведала, што яму адказаць.

Моцна сумаваў без бацькі Юзаф, які часцяком з ім хадзіў у лес. Яму гэтыя паходы падабаліся. Бацька садзіў яго на воз, і яны рабілі аб’езд усіх дзялянак. Ян расказваў сыну аб дрэвах і іх каштоўнасці, паказваў прыгажэйшыя з іх. Яны наведвалі гадавальнік, дзе бацька назіраў, як растуць сеянцы, і расказваў сыну, што гэтыя дрэўцы, пасеяныя ў мінулым годзе, узышлі і праз адпаведны час будуць высаджаны ў новым месцы, дзе зоймуць месца спілаваных старых. А праз сто гадоў вырастуць вялікімі, каб даць людзям будаўнічы матэрыял. Расказваў, што ў гадавальніку ёсць шмат парод дрэваў: сосен, клёнаў, ясеняў, дубоў і іншых. Юзаф ўспомніў усё гэта і засумаваў па бацьку. Трывога маці перадалася і яму, і малодшым, хоць яны яшчэ не разумелі, чаму гэта мама такая невясёлая, усё ўздыхае і пазглядае ў акно на сцежку, якая ідзе ад лесу ў бок хаты.

Вечарам, ухадзіўшыся са сваімі гаспадарчымі справамі, Анэля падаіла каровы, загнала іх у хлеў, аднесла малако ў хату, працадзіла яго, напоўніўшы ім збанкі, якія віселі на плоце, занесла іх у склеп. Прывяла з пашы коней у хлеў, зачыніла нанач дзверы, пакарміла свіней, курэй і сабралася карміць дзяцей, каб хутчэй пакласці іх спаць. Дзеці трывожыліся, аднак сон змарыў іх, і яны заснулі. Спалі трывожна. Анэля прыслухоўвалася да стуку ці шоргату. Не губляла надзеі, што нарэшце Янак пастукае ў дзверы. У такім дрымотным стане яна знаходзілася ўсю ноч. Засынала, і ёй сніліся розныя незразумелыя рэчы. Яна бачыла ў сне, як група людзей здзекавалася з Яна. Прачыналася, падыходзіла да акна, углядалася ў цемру. Так прайшла ўся ноч.

Калі пачало світаць, Анэля была ўжо на нагах. Цяпер яна была ўжо ўпэўнена, што з Янам здарылася штосьці трагічнае. Ён ніколі не начаваў у лесе. Каб плачам не будзіць дзяцей, падаіла кароў, выгнала іх на пашу ў загарадзь, якую у свой час зрабіў з калючага дроту Янак непадалёк ад

www.kamunikat.org

хлява. Тое ж зрабіла і з коньмі, пакарміла свіней, запаліла ў печы і толькі тады дала волю сваім пачуццям — пачала плакаць. Плакала яна нядоўга.

Калі сонца паднялося над даляглядам, яна пабегла да суседкі Марылі, якая жыла непадалёку і з якою яна сябравала. Уся заплаканая, пачала ёй расказваць, што Ян вось ужо суткі як не вярнуўся дахаты. Яна думае, што з ім здарылася нядобрае. Прасіла Марылю, каб тая параіла, як ёй быць. Марыля прапанавала: трэба неадкладна паслаць ў гміну яе мужа Пятра, каб аб гэтым здарэнні паведаміць войту. Пётр хуценька сеў вярхом на каня і паскакаў у Бондары.

Войт даручыў паліцыянту арганізаваць пошукі. Па розных напрамках лесу былі адпраўлены некалькі коннікаў. Шукалі прыкладна з дзесяці гадзін раніцы да поўдня. Адзін з іх паехаў па дарозе ў Бярозавік і нечакана ўбачыў, што да дуба прывязаны голы чалавек, счарнелы і аблеплены камарамі. Недалёка ад дуба ляжала ягоная вопратка. Калі коннік адвязаў бедалагу, то з цяжкасцю пазнаў у ім Яна Лісніцкага — той быў мёртвы. Цела Яна даставілі ў гміну, потым прывезлі дахаты.

З паведамленнем аб злачынстве ў Нясвіжскае лясніцтва быў пасланы нарачны. Па просьбе ляснічага Струмінскага пачалі сваю працу следчыя, каб высветліць, хто ўчыніў гэтае забойства. Выклікалі найперш тых, хто ў апошнія часы быў аштрафаваны за крадзеж лесу. Сярод іх былі і нашы героі. Допыты вялі павятовыя следчыя. Яны хутка раскрылі, што з усіх аштрафаваных злачынства здзейсніла група сялян, якую ўзначальваў Андрэй Торба. Іх арыштавалі і адправілі ў павятовую Баранавіцкую турму, дзе і адбыўся суд. Следчыя знайшлі сведку, які сустрэў злачынцаў, калі яны ехалі дахаты пасля здзейсненага. Ён апазнаў іх, і ім нічога не заставалася, як прызнацца ў сваёй віне.

Яна прывезлі дахаты, апранулі і паклалі ў дамавіну. Анэля і дзеці былі ў шокавым стане. Жанчына галасіла і прычытала: «Як жа цяпер я буду жыць? Яначка, я ж цябе папярэджвала, што гэтыя бандзюгі табе не даруюць. Так яно і здарылася. Яначак, мой любы, а хто ж мне цяпер дапаможа гадаваць нашых дзетак? Ой, гора ж! А што ж мне цяпер рабіць?»

На пахаванне сабраліся родныя, бацькі Яна і Анэлі, браты і сёстры, суседзі, сябры гэтай сям’і. Прыехаў на пахаванне і ляснічы пан Струмінскі. Усе клопаты па пахаванні лесніка Яна Лісніцкага ён узяў на сябе. З лясніцтва прыехала цэлая брыгада супрацоўнікаў, з іх была ўтворана пахавальная каманда. Хавалі Яна на Замосскіх могілках. У развітальным слове пан Струмінскі сказаў:

— Панове, здзейснена злачынства незвычайнай жорсткасці. Забіты лепшы гаёвы лясніцтва. На безабароннага зроблены напад і ўчынены здзек з чалавека, які выконваў свае службовыя абавязкі. Ён не мог сябе нічым абараніць, бо не меў зброі. Таму па хадайніцтву лясніцтва ўрадам Рэчы Паспалітай будзе прынята рашэнне узброіць гаёвых асабістай зброяй, каб

яны маглі бараніцца ад нападу. Выпадак з панам Янам Лісніцкім абавязвае нас паступіць так. Я мяркую, што ўрад Рэчы Паспалітай пагодзіцца з гэтым, і хай ўлічаць усе тыя, хто спакушаецца на жыцці гаёвых. Мяркую, што суд вынесе справядлівае пакаранне ўсім, хто ўчыніў забойства. Лясніцтва, акрамя таго, бярэ на сябе абавязак дапамагчы сям'і нябожчыка матэрыяльна. І я думаю, што з цягам часу старэйшы сын Яна Лісніцкага вывучыцца за кошт лясніцтва і зойме пасаду гаёвага, калі ён пажадае стаць прадаўжальнікам справы бацькі.

Пахаванне адбылося пад плач Анэлі, дзяцей, бацькоў, сёстраў і братоў.

Заўважу, што ўрадам Рэчы Паспалітай было прынята рашэнне выдзеліць кожнаму лесніку зброю з тым, каб ён мог абараніць сябе ад нападу злачынцаў.

## 21. 1926 год. Амерыканец Андрэй Мароз знаёміцца з Ганнай Абрамчык

1926 год. Васіль завітаў да Абрамчыкаў і паведаміў:

— Паважаныя мае, я толькі што прыехаў з Нясвіжа, дзе быў па службовых справах, і пазнаёміўся там з Сяргеем Марозам, леснікам з-пад Навагрудка. Ён паведаміў пра тое, што ў будучым годзе з Паўночнай Амерыкі прыедзе ягоны брат Андрэй, які збіраецца ажаніцца з прыстойнай мясцовай дзяўчынай. Просіць мяне, каб я знайшоў такую.

Пан Сяргей спытаў у мяне: «Пане Васіль, можа быць, вы ведаеце такую нявесту, магчыма, з вашай радні, якую можна пасватаць майму брату?»

«Пане Сяргею, у мяне ёсць такая дзяўчына. Яна сястра маёй жонкі, завуць яе Анюта. Яе ўзрост прыкладна каля дваццаці гадоў».

«У такім разе, — сказаў Сяргей, — пагаварыце, калі ласка, спачатку з бацькамі Анюты і абавязкова з Анютай і паведамьце мне па пошце. Калі прыедзе Андрэй, мы з ім адразу ж прыедзем да Абрамчыкаў».

Мне здаецца, ёй пара задумацца аб сваёй будучыні, а зараз нам трэба паклікаць сюды Анюту, — сказаў Васіль.

Юлія пайшла на кухню і паклікала яе. Калі Анюта ўвайшла ў гасціную, шчокі яе былі пунсовымі, бо здагадвалася, што гаворка пойдзе пра яе асобу, і, магчыма, гэтая гутарка будзе звязана з яе будучыняй. Калі Васіль распавёў пра намер амерыканца Андрэя Мароза займець сабе нявесту ў нашым краі, яна падумала, што яе здагадка пацвердзілася, і была гатова адказаць яму. Калі ён скончыў, то спытаў:

— Анюта, што ты мне на гэта скажаш?

— Дзякуй табе, Васіль, што ты падумаў пра мяне і мой лёс. Зараз я не гатова адказаць на гэтае пытанне. Аднак думаю, што трэба з гэтым

кавалерам сустрэцца і пазнаёміцца, пагаварыць. Таму я вось што скажу: няхай прыязджае. Там пабачым, ці варта выходзіць за яго замуж. А можа, я яму не спадабаюся? Ці ён мне не спадабаецца?

Мінула багата часу. Ганна чакала прыезду Андрэя Мароза. Наступіла вясна 1927-га года. На Галёніі рыхтаваліся да сустрэчы Вялікадня. У цёплыя веснавыя дні на вяршыні пагоркаў снег пачаў знікаць. Сям-там з’яўляліся праталіны. З кожным наступным днём іх станавілася ўсё больш і больш. Вясна няўмольна ўступала ў свае правы.

Аднойчы пагожым сакавіцкім днём Анюта, вызваліўшыся ад хатніх спраў, вырашыла прагуляцца, падыхаць веснавым паветрам, памарыць пра сваю будучыню. Яна пайшла сцежкай паміж лесам і полем. Значная частка гэтага поля была падрыхтавана да будучай яравой сяўбы. Спачатку ісці было цяжка, бо сцежка была пакрыта снегам, але калі яна падымалася ўсё вышэй і вышэй на пагорак, снегу станавілася ўсё менш і менш. І на самай вяршыні пагорка бачны былі праталіны. Пад бадылямі ўсохлых раслін пачалі з’яўляцца зялёныя парасткі травы. Успомніла, што ў гэтым месцы мінулым летам тыя расліны красаваліся ва ўсю моц, а зараз пажухлі — аджылі свой кароткі век. Падумалася ёй, што так, мусіць, і ў кожнай дзяўчыны наступае час, калі ёй патрэбна, каб хтосьці з хлапцоў звярнуў на яе увагу — пакахаў. Біялагічная патрэба кахання ўзнікае даволі рана, і да дваццаці гадоў яна пераўтвараецца ў неабходнасць. Дзяўчаты ў гэтым узросце (а ў іншых каханне прыходзіць значна раней) чакаюць свайго суджанага, мараць пра свайго хлопца, які б прапанаваў руку і сэрца. Аднак у кожнай пары маладых каханне адбываецца па-рознаму.

Прапаноў сяброўства з боку вясковых хлопцаў ў Ані было шмат, бо яна была прыгожай дзяўчынай, але добра ведала аб цяжкай жаноцкай долі ў сучасных умовах. Задумвалася, які будзе яе лёс, калі яна пагодзіцца выйсці замуж за першага-лепшага. Яна бачыла, як цяжка працавалі на гаспадарцы яе маці, сястра Надзя. У думках ухваляла ўчынак сваёй старэйшай сястры Марыі, якая з лёгкасцю прыняла прапанову каптэнармуса Заўялава і паехала з ім у Расію. Праўда, яна ня ведала, як жывецца той цяпер. Ці задаволена яна сваім учынкам? Таму і не спяшалася звязваць сябе з першым хлопцам, які ёй падабаўся. І калі Васіль прапанаваў іншае рашэнне яе будучыні, то яна падумала, што трэба гэты шанс не ўпусціць, пагадзілася з гэтай прапановай — сустрэцца з амерыканцам.

Анюта была рамантычнай асобай. Яна, як і ўсе дзяўчаты яе ўзросту, марыла, што вось з далёкай невядомай краіны Амерыкі да яе прыедзе яе мужчына. Магчыма, ён ёй спадабаецца, і калі стане любым, то тады яна за яго выйдзе замуж, і яны паедуць ў невядомую ёй краіну і зажывуць там шчасліва. Пакіне яна гэты цудоўны куток Галёніі, які пяройдзе малодшаму брату Мішы. У далейшым яе лёс, магчыма, будзе вырашаць нейкі цяпер незнаёмы ёй мужчына, прыезд якога яна чакае вось ужо болей як

www.kamunikat.org

паўгода. Яна паступіць так, як яе родныя сёстры Марыя і Надзя. Яны самі выбралі свой лёс, утварылі свае сем'і. Цяпер надыходзіць яе чарга. Трэба як мага лепш ва ўзнікаючых абставінах выкарыстаць той шанс, але каб не памыліцца. Памылкі будуць дорага каштаваць. Зразумела, што калі выбера не таго, хто ёй будзе любы, то яе жыццё будзе няшчасным. Аднак такія думкі адганяла прэч.

За свае гады Анюта наглядзелася ўсяго: і добрага, і благога. Добрае было тое, што ёй пашанцавала нарадзіцца ў такой паважанай сям'і ды расці ў такім цудоўным месцы.

Яе бацькі, можна сказаць, былі інтэлігентамі. Бацька ў свой час пры фінансавай дапамозе Слізняў атрымаў дастатковую адукацыю, якая дала яму магчымасць заняць пасаду галоўнага кандуктара на чыгуначнай станцыі г. Баранавічы. Маці Юлія таксама была не простай жанчынай. Яна паходзіла з інтэлігентнай сям'і. Бацька яе ў 19-м стагоддзі працаваў карэспандэнтам нейкай наваградскай газеты. Выхоўвалася яна ў тагачасных традыцыях, каб стаць сяброўкай і памочніцай свайму будучаму мужу. Яна атрымала такія якасці, якія перадавала штодзённа сваім дзецям, а ў будучыні і ўнукам.

Анюта сябравала з Зінай Чалядкавай. Разам з ёю яны хадзілі ў Вальнянскую школу, дзяліліся сваімі дзявочымі сакрэтамі. Таму, калі яна вярнулася з прагулкі, вырашыла вечарам, як уходзіцца, збегаць да Зіны, каб абмяняцца з ёю сваімі думкамі.

Калі пачало змяркацца, яна прыстойна апранулася і сказала:

— Мамачка, я хуценька на хвілінaчку збегаю да Зіны.

І праз дзве хвіліны была ў сваёй сяброўкі. Зіна Чалядкава знала ўсе Анюціны сакрэты, дзялілася з ёю сваімі асабістымі таямніцамі. Іх сустрэчы былі ім неабходны.

Наступіла субота. Апошні перадсвяточны дзень, дзень, калі канчаўся Вялікі пост. Анюта з самага ранку чамусьці была радасная, выконвала з прыемнасцю ўсе даручэнні мамы. Адчувала, што менавіта сёння штосьці незвычайнае павінна адбыцца. І сапраўды, прыкладна ў шаснаццаць гадзін каля іх дома затрымалася брычка з двума мужчынамі. Адзін з іх злез і, убачыўшы маладую дзяўчыну, якая ішла ў дом з кошыкам бульбы, падышоў да яе і спытаў:

— Шаноўная паненка, затрымайцеся, калі ласка, на хвілінaчку.

І калі яна паставіла свой кош, то ён спытаў:

— Скажы мне, прыгажуня, ці не ў гэтым доме жыве Аляксандр Абрамчык?

— Так, гэта дом майго бацькі, Аляксандра Абрамчыка.

— Скажы, можа, цябе завуць Анютай?

— Не. Мяне ахрысцілі ў царкве Нінай, а Анютай завуць маю старэйшую сястру.

— А ці можна нашай брычкай заехаць да вас у двор і пагутарыць з тваімі бацькамі?

— А чаму ж не, заязджайце. Вось толькі я занясу бульбу на кухню і адчыню вам браму. Пачакайце.

Ніна хуценька падхапіла кошык і знікла ў хаце. Тым часам Анюта бачыла праз акно, што хтосьці затрымаўся ля іх дома. Убачыла, што на брычцы сядзелі двое мужчын. Адзін з іх злез, падышоў да іх хаты і штосьці пытаецца ў Ніны. Яна здагадалася, што гэта да яе прыехаў амерыканец. Яна ўвайшла ў спальны пакой і пачала будзіць бацьку, які адпачываў пасля абеду:

— Тата, прачніцеся, да нас хтосьці прыехаў!

Спадар Аляксандр падняў галаву і спытаў:

— Анюта, а каго там нялёгкая прынесла? Не даюць мне адпачыць.

— Тата, я адчуваю, што гэта важныя госці. Уставайце. Іх трэба сустрэць.

— Ну што ж, трэба дык трэба. Устаю. Іду.

Тым часам Ніна хуценька занесла кош з бульбай у кухню маме, сказала ёй:

— Мамачка, да нас нейкія важныя госці прыехалі на такой прыгожай брычцы. Адзін злез з брычкі, падышоў да мяне і спытаў, ці ў гэтым доме жыве Аляксандр Абрамчык і ці выпадкова я не Анюта. Я яму ўсё растлумачыла. Ён тады папрасіў дазволу заехаць да нас на падворак. Я яму сказала пачакаць. Аднясу бульбу і адчыню яму браму.

— Ну, што ж ты, Ніна, чаму ж ты такая няўважлівая да гасцей? Трэба было адразу паставіць кош і адчыніць браму, а пасля прынесці кош да мяне. Бяжы хутчэй, адчыняй браму!

Ніна пабегла, адчыніла. Брычка з двума седакамі заехала на падворак. Спадар Аляксандр якраз у гэты момант выйшаў на ганак, каб сустрэць гасцей.

Пакуль адбываліся гэтыя падзеі, Аня прыбіралася па-святочнаму, бо сустракала такіх важных ёй асоб, хацела ім падабацца — не хацела паказацца ім неахайна апранутай.

Калі брычка затрымалася ля ганка, то прыехаўшыя злезлі, пачалі знаёміцца з гаспадаром. Спадар Аляксандр зрабіў крок ім насустрач і адрэкамендаваўся:

— Я Аляксандр Аўгусцінавіч Абрамчык. А з кім я маю гонар быць знаёмым?

— Я — Сяргей Мароз, ляснік наваградскага лясніцтва, — адрэкамендаваўся старэйшы.

— А я яго родны брат, Андрэй Мароз, прыехаў са Злучаных Штатаў Амерыкі на радзіму. Жыву ў Нью-Ёрку і там працую.

— Мне вельмі прыемна пазнаёміцца з вамі. А цяпер прашу вас да нас у хату.

Увайшлі ў гасцінуую, размясціліся за сталом. Сяргей Мароз сказаў:

— Паважаны пан Аляксандр, я хацеў бы, каб за нашым сталом тут прысутнічалі і прымалі ўдзел у бяседзе гаспадыня гэтага дома і таксама ваша дачка Анюта.

Спадар Аляксандр падняўся, сказаў:

— Добра. Пачакайце. Зараз я запрашу сваіх жанчын.

Праз некалькі хвілін пан Аляксандр з Юліяй і Анютай увайшлі ў гасцінную. Аляксандр сказаў:

— Шаноўныя нашы госці, вось гэта мая жонка Юлія Канстанцінаўна, а гэта наша дачка Анюта.

І калі ўсе ўселіся за сталом, Сяргей Мароз падняўся і сказаў:

— Мы з братам Андрэем прыехалі да вас не выпадкова. Мінулай восенню мне давялося пабываць у нясвіжскім лясніцтве. Там я пазнаёміўся з цудоўным чалавекам Васілём Амялішкам. У бяседзе з ім я яму расказаў, што мой брат Андрэй, які жыве ў Штатах, вырашыў ажаніцца. Каб вырашыць свой асабісты лёс, ён збіраецца прыехаць на сваю радзіму, знайсці нявесту тут, дзе ён нарадзіўся, бо ў нас самыя прыгожыя, добрыя ды працавітыя дзяўчаты. Улічваючы тое, што для Андрэя радзіма — гэта не пусты гук, як гэта наглядаецца ў некаторых эмігрантаў, ён не хоча ажаніцца з жанчынай з другога кантыненту. Ягоная мара — мець сяброўку, якая б паходзіла з таго ж краю, дзе ён нарадзіўся, з тым, каб гэтая дзяўчына напамінала яму мілую радзіму, матчыну мову, якая з цягам часу ўсё больш і больш забываецца ў англамоўным асяроддзі. Спадзяецца, што гэтая дзяўчына яму і будучым ягоным дзецям будзе нагадваць, што ёсць такі край, дзе ён нарадзіўся і склаўся дарослым мужчынам, які пакінуў назаўсёды сваю радзіму.

— Прабачце мяне, Сяргей, а чаму б цяпер, калі Андрэй стаў грамадзянінам ЗША, — спытаў пан Аляксандр, — не вярнуцца сюды на радзіму, ажаніцца тут і завесці сабе сям’ю на радзіме?

— Вярнуцца сюды на радзіму мне зараз па розных прычынах немагчыма, — пачаў адказваць на пытанне Андрэй, — па-першае, і гэта бадай галоўнае, што я зараз жыву ў больш дэмакратычнай краіне, дзе правы кожнага грамадзяніна надзейна абаронены нашай Канстытуцыяй. А, па-другое, жыццёвы ўзровень у нас значна вышэйшы. Наша праца там больш цэніцца і вышэй аплачваецца, чым у вас. Васемнаццаць гадоў таму, калі я працаваў у Менску, адбыліся падзеі, якія прымусілі мяне пакінуць радзіму, пераехаць за акіян. І, як паказаў час, гэта дало мне шмат выгод. Я там стаў зарабляць значна больш, чым тут. Мне пашэнціла пазбегнуць Першай сусветнай вайны і звязанай з ёю высылкай у бежанства, непазбежнага ўдзелу ў вайне ў якасці жаўнера. Усё гэта стрымлівае мяне ад вяртання на радзіму. Таму, як кажа мудрая народная прыказка, ад дабра дабра не шукаюць. Усё гэта мяне ўтрымлівае ад неразумнага ўчынку — вяртання сюды. Я вымушаны быў уцячы ў ЗША, шукаючы лепшай долі.

— А як вы, шаноўны Андрэй, пераадолелі тугу па радзіме?

— У мяне, па сутнасці, паважаны пане Аляксандр, іншага выбару не было. Пасля таго, як мне паграджаў арышт за ўдзел у забастоўцы рабочых дэпо Менска, дзе працаваў сталяром, я паспешна сабраўся і пакінуў радзіму. Пры царскім рэжыме, вядома, я прыехаць сюды не мог, а пасля пачалася Першая сусветная вайна, якая перарасла ў бальшавіцкі пераварот і ў канцы ў грамадзянскую вайну. Наша мясцовасць адышла да Польшчы. Цяпер мне нішто не паграджае. І я вырашыў адведаць радзіму, каб здзейсніць асабістыя планы. А што датычыць тугі па радзіме, то я павінен сказаць, што ЗША такая краіна, якая сфармавалася выключна з эмігрантаў, якія перасяліліся з розных кантынентаў, і ў кожнага на першых парах адчуваецца вельмі моцная туга па бацьках, братах і сёстрах. У большасці перасяленцаў гэтая туга з цягам часу праходзіць, а ў мяне, як бачыце, яна засталася і па сёння. Таму я зараз і прыехаў сюды, каб не толькі вырашыць намечанае асабістае, але і каб падыхаць тутэйшым паветрам, пачуць роднае слова, пабачыць, як тут жывуць мае родныя цяпер.

— Паважанае сямейства, мне здаецца, час нам прыступіць да таго, аб чым мы дамовіліся з шаноўным панам Васілём, каб вырашыць вядомую вам справу, — пачаў гаварыць Сяргей Мароз. — Мы прыехалі ў гэты незвычайны час, каб мой брат Андрэй пазнаёміўся з вашай дачкой Анютай і, магчыма, з ёю пасябраваў. Таму наш план такі: я прасіў бы вас, панове Юлія і Аляксандр, дазволіць майму брату Андрэю пажыць у вас нейкі час, каб нашы маладыя бліжэй пазнаёміліся. Чаму? Таму, што рабіць такі пераезд штодзень яму не магчыма. Адлегласць паміж нашымі дамамі больш за пяцьдзесят кіламетраў. І калі на гэтую прапанову будзе вашая згода, то я пакіну Андрэя ў вас, а сам паеду на працу. Праўда, з такой прапановай мы адыходзім ад звычайных традыцый. Таму хацелася б пачуць вашу думку на гэты конт.

— Паважаныя нашы госці Сяргей і Андрэй, — сказала гаспадыня. — Мы ведалі аб той дамове, якую наш зяць Васіль вёў з вамі, і чакалі вашага прыезду. Мне здаецца, што прапанова Сяргея слушная. Я як гаспадыня забяспечу неабходным паважанага Андрэя. Думаю, што і пажыць ён зможа ў нас нейкі час. Месца сну і адпачынку Андрэю знойдзем.

— Тата і мама, дазвольце мне сказаць пару слоў. Я ўважліва паслухала ўсё тое, што тут гаварылася, — сказала Анюта. — Перш за ўсё мне пажадана пазнаёміцца з Андрэем. Таму я прашу тату і маму дазволіць нам прагуляцца па нашай сядзібе, каб паказаць яму нашу гаспадарку і заадно абмеркаваць нашы планы, пакуль мама з Нінай будуць рыхтаваць пачастунак.

— Дарагая мая дачушка, — сказала спадарыня Юлія. — Я думаю, што ў вас з Андрэем будзе шмат часу, каб вырашыць усё сказанае табою. А зараз мы павінны як мага хутчэй пачаставаць нашых гасцей, бо яны галодныя пасля такой доўгай дарогі.

— Шаноўныя госці, пакуль нашы жанчыны будуць збіраць на стол пачастунак, мы з вамі пройдзем да мяне ў спальню і пагаворым, — прапанаваў Аляксандр.

З прапановай пані Юліі пагадзіліся, і яна са сваімі памочніцамі прыняліся рыхтаваць стол, які быў сервіраваны поснымі стравамі ў апошні дзень Вялікага посту. Калі мужчыны зайшлі ў спальню, Андрэй звярнуўся да прысутных:

— Прабачце мяне, я павінен схадзіць да нашай брычкі па чамадан.

І калі ён праходзіў праз гасціную, то сустрэў Аню. Яна несла нейкую страву. Ён звярнуўся да яе:

— Панна Анюта, выйдзіце на хвіліначку на ганак, я хачу вам сказаць пару слоў.

— Добра, я зараз прыйду, — адказала Аня.

Андрэй падышоў да брычкі, узяў падрыхтаваны загадзя чамадан і ўбачыў, што на ганку яго чакае Аня. Падышоў да яе.

— Пан Андрэй, я слухаю вас.

— А чаму ж, Аня, так афіцыйна. Гэта, мусіць, таму, што я крыху старэйшы за вас. Каб прасцей нам з вамі было размаўляць, я прапаноўваю: давайце адкінем усё, што перашкаджае нашым зносінам: узрост, тое, што я амерыканец, і шмат чаго іншага — і пачнём са мной размаўляць так, як быццам бы я ваш знаёмы хлопец з суседняй вёскі. Лічу, што зараз настаў час звяртацца адзін да аднаго на «ты». Ці згодна ты са мною?

— Я згодна, аднак лічу, што пакуль мы як след не пазнаёміліся, то калі памылюся, думаю, што вы, прабач, ты мне мае памылкі даруеш.

— А цяпер галоўнае. Ганна Аляксандраўна, прабач, Аня, я хачу з табою схадзіць на Усяночную ў бліжэйшую царкву. І астатняе: скажы мне, Аня, дзе я магу паставіць свой кейс, прабач, чамадан?

— Аднясі яго з сабою ў спальню, пакінь там. А адносна першага пытання, я не ведаю, што і сказаць. Справа ў тым, мы збіраліся схадзіць на Усяночную разам з Нінай. Ну а цяпер, раз ты прыехаў, дык я папрашу Чалядкавых дзяўчат, каб яны ўзялі Ніну з сабою. І тады мы з табою зможам паразмаўляць без сведак.

— Выдатна прыдумана. Я згодзен. А цяпер, — сказаў Андрэй, — ідзі і дапамагай сваёй маме. Але перш чым ты пойдзеш, хачу паднесці ўсім вам падарункі, якія я прывёз.

Андрэй увайшоў у спальны пакой. Да яго звярнуўся Сяргей:

— Андрэй, паслухай, мы зараз з панам Аляксандрам абмяркоўвалі, калі мне ехаць дахаты. Дык ён прапанаваў мне ўладкаваць каня ў стайню і ад'ехаць заўтра, пасля велікоднага снедання, калі мне неабходна тэрмінова на службу.

З гэтай прапановай пагадзіліся.

Пастукалі ў дзверы. У спальны пакой увайшла спадарыня Юлія:

— Саша, запрашай гасцей за стол на падвячорак. Пачастунак падрыхтаваны.

Гаспадар падняўся і запрасіў прысутных у гасцінюю. Першым з чамаданам увайшоў Андрэй. Звяртаючыся да ўсіх, сказаў:

— Паважаныя, я з Амерыкі прывёз падарункі. Лічу, што зараз настаў час паднесці тое, што мне ўдалася набыць у Нью-Йорку. Прыміце і прашу не крыўдзіцца, калі штосьці з гэтых рэчаў не падыдзе па памерах.

— Дзякуем за падарункі, — сказала спадарыня Юлія, — лічу, што паважаны Андрэй хай уручыць іх кожнаму пасля таго, як мы вас пачастуем.

На гэтым і пагадзіліся. Гаспадыня прапанавала заняць свае месцы. Яна пасадзіла Аню разам з Андрэем і так, каб магчыма ёй было ў любы момант свабодна выйсці з-за стала — дапамагчы ў абслугоўванні гасцей. Улічваючы тое, што ў гэты дзень хрысціянскім вернікам не дазвалялася спажываць скаромную страву, спадарыня Юлія прыгатавала выключна посныя стравы. Калі ўсе ўселіся, падняўся Аляксандр:

— Вось і адбылося жаданае знаёмства, якое арганізавана нашым зяцем Васілём. Мы рады сустрэчы і знаёмству з вамі, панове Марозы. На жаль, Васіля зараз няма з намі. Ён жыве ў суседняй вёсцы Вольна і рыхтуецца са сваёю сям'ёю да Вялікадня. Фактычна мы наладзілі наша знаёмства дзякуючы ягоным прапановам. Я думаю, што Андрэй будзе мець магчымасць пазнаёміцца з ім і ягонай жонкай, нашай дачкой Надзеяй, у гэтыя велікодныя дні. А зараз прапаную прыступіць да яды, бо нашы госці прагаладаліся.

Сустрэчы гасцей у сям'і Абрамчыкаў адбываліся строга з захоўваннем няпісанага этыкету: у гэты перадсвяточны дзень звычайна ніхто ў госці не хадзіў, аднак калі такое здаралася, то гасцям на стол спіртное не ставілі — іх, прагаладаўшыхся, проста частавалі.

Яда скончана. Андрэй устаў, заявіў:

— Мы з Анютай дагаварыліся схадзіць на Усяночную памаліцца.

Гэтым самым паведаміў прысутным, што ён пачынае знаёміцца са сваёй будучай нявестай — намякаў, каб ніхто не перашкаджаў іхняму знаёмству.

Спадарыня Юлія прапанавала Андрэю і астатнім, хто збіраецца на Усяночную, адпачыць.

— Аня, я даручаю табе падрыхтаваць пасцель тым, хто пажадае адпачыць.

Калі ўсе ўсталі і выйшлі з-за стала, Аня падышла да Андрэя і паціху яго спытала:

— Андрэй! Ці будзеш адпачываць?

— Аня, я запомніў тваю прапанову прагуляцца са мною па вашым хутары, каб азнаёміцца з ім і нам бліжэй пазнаёміцца. Таму прашу цябе, калі ты не занятая, давай зараз пагуляем.

— Гэтую прапанову я павінна ўзгодніць з мамай. Прабач.

І пайшла на кухню.

Калі вярнулася, сказала:

— Хадзем.

Выйшлі на дарогу, пайшлі ўздоўж старых ліп, якія раслі перад домам з усходу.

Не даходзячы да хутара Кухаранкі, затрымаліся, убачылі, як сонейка садзілася за гарызонт. Назіраючы гэтую з'яву, Андрэй сказаў:

— А ведаеш, Аня, я ўжо болей за дваццаць гадоў не назіраў такой прыгажосці, як захад сонца, таму што там, дзе я жыву, шматпавярховыя дамы засланяюць увесь гарызонт. Давай хвілiначку затрымаемся, каб удосталь наглядзецца на гэтую прыродную з'яву, якую вы назіраеце амаль штодзённа. Справа ў тым, што я якраз цяпер пабачыў сонца на захадзе і ўспомніў свае дзяцінства. Я пасвіў кароў, і калі бачыў гэтую прыгажосць, то гэта мне было знакам, што трэба гнаць кароў дадому — канчаўся мой працоўны дзень. Божа, як гэта было даўно!

— Андрэйка! Можна я так цябе буду называць? — спытала.

— А чаму ж не?

Успомніўшы калісьці пачутую трапную прымаўку, Андрэй сказаў:

— Называй мяне хоць гаршчком, але ў печ не стаў.

Гэтая народная прымаўка прагучала ў вуснах Андрэя жартоўна, з налётам англійскага вымаўлення, што вызвала здаровы смех абодвух. Пасмяяўшыся ўдосталь, Аня сказала:

— Пакуль яшчэ не сцямнела, давай мы з табою абыдзем увесь наш хутар супраць гадзіннікавай стрэлкі. Пачнем абход вось гэтай сцежкай, якая мяжуе з хутарам нашай суседкі Кухаранкі. Згода?

— Я згодзен.

Сцежка была вузкая, толькі каб свабодна ісці аднаму чалавеку, таму Аня пайшла наперадзе, а ён за ёю. У гэты момант Андрэй пабачыў тую дзяўчыну, якой наканавана стаць ягонай нявестай. Ён цяпер захапляўся яе стройнай прывабнай постаццю ў промнях заходзячага сонца. Ад гэтага назірання за дзяўчынай станавілася лёгка на душы. Яму захацелася, каб яна зараз затрымалася. Гэтыя думкі перадаліся Ані. Яна адчула, што ёй трэба на хвіліну затрымацца, зірнуць на свайго кавалера, бо ёй хацелася таго самага, што і Андрэю.

Калі ён першы раз зірнуў на яе, то пабачыў дзяўчыну, якая была настолькі прыгожай і абаяльнай, што ён адразу захапіўся ёю. Адпалі тыя адмоўныя вобразы, пра якія ён думаў пад час амаль месячнага пераезду ў каюце парахода праз акіян. А зараз любаваўся ёю, яе трапнымі словамі, якімі яна карыстаецца ў размове, ужо наяве. Яе адказы былі кароткія і разумныя, яны сведчылі пра яе развітасць. Карацей кажучы, ён настолькі захапіўся Аняй, што яму хацелася не толькі пасіўна назіраць, але прытуліць

да сябе і цалаваць. І ў гэты момант Аня адчула тое ж самае, затрымалася, а ён смела падышоў да яе, абняў і без лішніх слоў пацалаваў. Калі яны апомніліся, Андрэй сказаў:

— Дарагая мая, доўгачаканая Ганулька, я больш як дваццаць гадоў таму пачаў марыць пра такую дзяўчыну, як ты. І вось урэшце мы сустрэліся. Я пакахаў цябе ўжо ў каюце парахода, калі марыў пра цябе тымі бясконца доўгімі начамі, калі сюды плыў. Я праз цябе меў звесткі з пісем майго брата больш як паўгода таму. Брат таксама не бачыў цябе. Меў звесткі пра цябе толькі з аповедаў Васіля Амялішкі. Я вельмі ўдзячны гэтаму чалавеку за тое, што ён мне пасватаў такую цудоўную дзяўчыну, з якой мы тут, магчыма, у бліжэйшай царкве абвянчаемся, калі яна пажадае, і паедзем у Амерыку. А цяпер скажы, мая дарагая Ганулька, мая разумніца, што ты аб маіх разважаннях думаеш?

— Перш чым вырашаць такое жыццёва важнае пытанне, мне здаецца, нам не трэба спяшацца. Зараз намечанае знаёмства з нашым хутарам трэба адкласці на іншы час, бо сёння мы з табою ідзем у царкву. Па дарозе туды нам хопіць часу, каб намеціць нашы планы. Я думаю, што ў нас з табою ўсё наперадзе. А на тваю прапанову выйсці за цябе замуж я скажу так: ты спецыяльна ехаў сюды, каб ажаніцца. І калі ты дабіваешся таго, каб быць упэўненым, што мне падабаешся, то я скажу: ты мой доўгачаканы. З пачаткам вясны, калі толькі што пачынаў знікаць снег, я прыходзіла сюды і згадвала, чакала цябе. І сёння, калі я ўбачыла праз акно, што хтосьці пад’ехаў і затрымаўся ля нашага дома, я ўсёй душой адчула, што гэта прыехаў мой суджаны з Амерыкі. А калі цябе ўпершыню ўбачыла — такога прыгожага мужчыну за сталом у хаце — разгубілася, бо не ведала, як сябе паводзіць. А пазней, калі ты запрасіў мяне на ганак, адчула, што з кожным крокам набліжаюся да цябе, што я табе патрэбна, так, як ты мне. А цяпер, калі ты мяне абняў і пацалаваў, — гэта доказ таго, што мы закахаліся. Я гатова выйсці за цябе замуж, бо цябе пакахала. Аднак не будзем спяшацца. Ты застанешся ў нас не толькі, каб нам абвянчацца, але нам патрэбен час, каб мы маглі больш дэталёва пазнаць адзін аднаго і адказаць на пытанне, ці зможам мы скласці моцную сям’ю. Бо, як паказвае вопыт маіх суседзяў, замужніх сясцёр, выбар жаніха — няпростая справа. Трэба тым, хто ўступае ў шлюб, перш за ўсё задумацца, а ці падыходзяць адно аднаму. І калі высветліцца, што ў нас несумяшчальныя характары, то лепш не даводзіць справу да вянчання, а разысціся ў час знаёмства. Таму я прапаную, мой дружа, не трэба спяшацца з любоўю. А калі каханне між намі стане сапраўдным, вось тады ісці пад вянец.

— Аня, я бачу, што ты разважлівая. Ты ўсё правільна сказала, і я мяркую, што мне і дадаць няма чаго. Застаецца толькі прыняць тое, што ты выказала. Я застануся ў вас жыць на правах самага блізкага табе чалавека. Калі мы зразумеем, што мы сходныя характарам і мае разважанні табе падыходзяць — тады пажэнімся.

Яны зноў пацалаваліся. Калі прыпыніліся, каб аддыхацца, Аня сказала:

— Ведаеш, Андруша, я так ні з кім дасюль не цалавалася. Я не знала, як гэта прыемна. Я ніколі ў сваім жыцці не атрымлівала такой асалоды ад пацалункаў.

— А ці ведаеш, мая дарагая, што каханне — гэта Божы дар, дадзены толькі людзям?

Яны выяўлялі свае пачуцці адзін да аднаго меней словамі, а больш пацалункамі. Калі прыпыніліся, то Анюта прызналася:

— Андрэйка, я адчуваю, што цяпер ты мой мужчына. Ты мой самы блізкі сябар.

Ён абняў яе за талію. Так яны дайшлі да ўскрайку лесу і затрымаліся. Аня сказала:

— Андрэйка, вось гэта бацькоўскі лес. Разглядзець яго зараз складана, бо пачынае цямнець. Я адчуваю, што нам сюды варта прыйсці іншым разам. А цяпер я прапаную гэтай сцежкай вярнуцца дахаты. Мне мама даручыла наладзіць табе з братам адпачынак.

Увайшлі ў дом. Аня з Нінай пачалі рыхтаваць гасцям пасцелі ў сталовай, бо іншага месца ў адносна невялікай хаце не было.

— Сяргей, вось гэты ложак ваш, а тут будзе спаць Андрэй. Вам абавязкова зараз трэба адпачыць пасля такой доўгай дарогі.

Звяртаючыся да Андрэя, паціху сказала:

— Адпачывай. Я цябе разбуджу, калі настане час ісці ў царкву.

І тут Андрэй адчуў, як прыемна атрымаць ад каханай яе клопат. Гэта яго супакоіла. Ён распрануўся, лёг і тут жа заснуў.

— Аня, а калі ж ты будзеш адпачываць? — спытала маці, калі яна прыйшла на кухню. — Табе таксама патрэбна паспаць хоць бы пару гадзін, бо служба ў праваслаўных ідзе ўсю ноч. Не проста выстаяць не менш як шэсць гадзін на нагах. Абавязкова адпачні. Мы з Нінай самі справімся з тымі справамі, якія засталіся. Ідзі ў спальню. Я цябе падыму своечасова.

Калі настаў час ісці ў царкву, да Андрэя падышла Аня і ціха прашаптала:

— Андрэй, нам пара збірацца ў царкву.

Андрэй хутка падхапіўся, апрануўся і пайшоў на кухню. Там яго чакала Аня. Прапанавала асвяжыцца вадой з калодзезя. Апаласнуў твар і жартаўліва сказаў:

— А цяпер, Ганулька, я гатоў ісці з табою хоць на край свету.

Закончыўшы зборы, пайшлі ў царкву. У Андрэя з’явіўся вольны час, каб больш дэталёва расказаць Анюце пра сваё мінулае жыццё. Пры гэтым ён смела ўзяў яе пад руку. Яна адчувала сябе нязвыкла — ісці з мужчынам, з якім толькі сёння пазнаёмілася. Паразважала, супакоілася, бо ўспомніла народную прымаўку: чаму бываць, таго не мінуць.

— Спярша, Ганулька, я хацеў бы пазнаёміцца з Васілём Амялішкам, якому я абавязаны тым, што ён прапанаваў мне такую цудоўную дзяўчыну. Спадзяюся яго сустрэць на Усяночнай. Ты мяне з ім абавязкова пазнаём.

— Добра, Андруша, калі я ўбачу яго, то абавязкова пазнаёмлю з табой. Аднак яго можа і не быць у царкве таму, што ў іх сям'і першага студзеня гэтага года нарадзіўся сын Мікалай. У іх сям'і гэта трэцяе дзіцё. Дзве першыя дзяўчынкі Жэня і Наташа памерлі ад шкарлятыны пару гадоў таму. Бацькі былі ў страшэннай роспачы. Цяпер, калі нарадзіўся хлопчык, Надзя крыху ачуняла. Калі мы сёння ў царкве Васіля не сустрэнем, то зойдзем да іх, запросім на велікоднае снеданне. Аб гэтым мяне прасіла мама. Заадно ты з імі пазнаёмішся.

— Пасля таго, як я закончыў Наваградскае рэальнае вучылішча, — пачаў свой аповед Андрэй, — бацькі аддалі мяне ў рамесніцкае вучылішча мястэчка Ракаў, каб я набыў спецыяльнасць чырвонадрэўшчыка. У 1905 годзе ўладкаваўся на працу ў Менскае чыгуначнае дэпо. У той час пачаліся рэвалюцыйныя падзеі. За актыўны ўдзел у іх мне пагражаў арышт царскай жандармерыі. Каб пазбегнуць арышту, прыйшлося кінуць працу і з'ехаць на радзіму бацькоў. Там мае блізкія параілі як мага хутчэй пакінуць Расію, таму што мясцовы прыстаў цікавіўся ў бацькі да майго прыезду месцам знаходжання сына Андрэя. Бацька выдзеліў са сваіх запасаў адпаведную суму грошай на дарогу і блаславіў мой ад'езд у Амерыку. Даволі ўдала дабраўся да Вялікабрытаніі, а адтуль амаль праз месяц параходам прыплыў у Нью-Йорк, дзе ўладкаваўся па спецыяльнасці, праўда, не адразу.

Пакуль не вывучыў ангельскай мовы, працаваў прыбіральшчыкам смецця на вуліцах і ў розных прадпрыемствах. Наймаў самае таннае памяшканне без усялякіх бытавых зручнасцяў. Праз нейкі час здаў экзамен па ангельскай мове, а другі экзамен па спецыяльнасці — і тут жа знайшоў працу. Атрымаў амерыканскае грамадзянства. Адразу ж мой заробак павялічыўся ў некалькі разоў і з'явілася магчымасць здымаць больш прыстойнае жыллё.

Год за годам збіраў грошы і адкладваў. Не менш як праз пяць гадоў наняў прыстойную кватэру.

У Штатах кватаранты дабіліся таго, што ўлады на федэральным узроўні прынялі такі закон: той, хто жыве не менш як дзесяць гадоў ў нанятай па дагавору кватэры і акуратна выконвае ўсе ўмовы кватэраздатчыка, то гаспадар кватэры не мае права павялічваць аплату за здадзенае жыллё. Таму зараз я маю прыстойнае па амерыканскіх мерках жыллё. Думаю, што мы з табою там паселімся, калі ты пагодзішся выйсці за мяне замуж. Каб паехаць табе ў Нью-Ёрк, прыйдзецца нам пераадолець некалькі фармальнасцяў, і перш за ўсё — атрымаць табе візу на ўезд у Злучаныя Штаты Амерыкі. А дзеля гэтага патрэбен час, і не малы. Калі мы пажэнімся, дык нам з табою прыйдзецца ехаць у бліжэйшае павятовае ці ваяводскае амерыканскае прадстаўніцтва і там атрымаць візу.

— Галоўнае ў нашых адносінах, я лічу, — сказала Анюта, — каб мы знайшлі паразуменне між сабою, а дзеля гэтага неабходны пэўны час, які нам пасылае Бог, каб мы ўпэўніліся ў тым, што ўсялякія непаразуменні будзем вырашаць з любоўю і павагай адно да аднаго. Ты згодзен са мною?

— Згодзен. Думаю, што так яно і будзе.

І ў гэты момант яны пачулі выбухі і страляніну, а гэта было знакам, што яны набліжаюцца да Вальнянскай царквы.

— У нашай мясцовасці толькі шэсць гадоў таму ўсталяваўся мірны час, — пачала свой расказ Анюта, — на палях, дзе ішлі ваенныя дзеянні, засталося шмат розных выбуховых сродкаў: патронаў, снарадаў і іншых выбуховых рэчаў. Іх знаходзяць сяляне пры апрацоўцы глебы. Яны ведаюць пра іх смяротную небяспечнасць. Сумленныя дарослыя збіраюць гэтыя рэшткі былой вайны і папярэджваюць адпаведныя дзяржаўныя ўлады пра свае знаходкі. Гэтыя паведамленні вымушаюць апошніх ліквідаваць небяспеку. Але ёсць адно «але»: гэтыя кінутыя арсеналы часта пападаюць у дзіцячыя рукі. Іх цікавяць гэтыя небяспечныя рэчы як забаўкі, яны пачынаюць з імі гульні, бо не ведаюць, якая смяротная небяспека тоіцца ў іх. Гульні часцяком заканчваюцца трагічна. Хто ідзе у царкву, за кіламетр, а можа, і болей чуюць тую страляніну і выбухі, а гэта небяспечна не толькі падлеткам, але і прыхаджанам.

Наблізіўшыся да царквы, Андрэй і Анюта заспяшаліся, каб як мага хутчэй прайсці самы небяспечны кавалак дарогі — царкоўны падворак. Калі яны апынуліся прыкладна на сярэдзіне падворка, адбыўся моцны выбух, асвяціўшы ўсё бліжэйшае наваколле на нейкі момант. Тут жа Андрэй убачыў параўнальна невялікую, але вельмі прыгожую белакаменную царкву незвычайнай для праваслаўных храмаў архітэктуры, а з паўночнага боку ад яе — нейкі велічны двухпавярховы будынак.

— Анюта, якая прыгожая ў вас царква! А што гэта за будынак з левага боку ад яе?

— Вальнянская царква пабудавана грэка-католікамі (уніятамі), — адказала Анюта, — у другой палове васемнаццатага стагоддзя, а ў другой палове дзевятнаццатага перададзена праваслаўным вернікам расійскім царом Мікалаем I пасля ліквідацыі грэка-каталіцкага веравызнання. Пра гэта расказваў мой дзед Аўгусцін нам, дзецям, яшчэ за царом. Зараз яна лічыцца праваслаўным храмам. Гэтым тлумачацца яе архітэктурныя асаблівасці. Бліжэйшы будынак ад царквы — гэта былы базыльянскі кляштар, які пасля ліквідацыі уніі ў 1839 годзе аказаўся нікому не патрэбны і амаль паўстагоддзя паступова разбураецца. Звярні ўвагу, што галоўны ўваход у царкву накіраваны, як ва ўсіх уніяцкіх храмах, на захад. У праваслаўных жа храмах царскія вароты і галоўны ўваход у храм скіраваны на ўсход. Акрамя таго, як ты заўважыў, ёсць і іншыя архітэктурныя адрозненні: купалы ў праваслаўных храмах нагадваюць цыбулю, а купалы ўніяцкіх цэркваў зусім іншыя. Іх можна будзе разглядзець уважліва, калі настане дзень.

Падняліся па прыступках цэнтральнага ўваходу. А там было ўжо поўна прыхаджан. Праціснуліся між прысутнымі з цяжкасцю. Анюта стала злева ад уваходу, дзе звычайна стаялі жанчыны, а Андрэй справа, на мужчынскай палавіне.

## 22. Знаёмства Андрэя Мароза з сям'ёй Васіля

Вестка пра тое, што да Абрамчыкавай Анюты прыехаў кавалер з Амерыкі, хутка разнеслася па ўсёй Галёніі. Аб гэтай навіне першай даведалася сяброўка Ані Зіна Чалядкава. Яна вечарам на хвіліначку збегала да Ані, і тая пра ўсё ёй расказала. І калі пайшлі ў царкву, то амаль усе жыхары Галёніі ведалі.

Аня і Андрэй занялі свае месцы непадалёк між сабою ў царкве. Аня пачала разглядаць прысутных — спадзявалася сярод іх знайсці Васіля

На нейкай адлегласці бліжэй да царскіх варотаў убачыла царкоўнага старасту Андрэя, бацьку Васіля, смела падышла да яго і паціху спытала:

— Андрэй Фаміч! Прашу вас, скажыце, а ці прыйшоў на Усяночную Васіль?

— Не, не прыйшоў і не прыйдзе, штосьці неспакойна паводзіць сябе дзіця, — адказаў Андрэй Фаміч. — Аня, а што ў вас здарылася?

Весці размовы паціху можна было таму, што літургія яшчэ не пачыналася.

— Андрэй Фаміч, сёння ў другой палове дня да нас прыехаў з Амерыкі Андрэй Мароз, і я з ім прыйшла на Усяночную. Ён хацеў бы пазнаёміцца з Васілём. Ці вы не заняты? Я хацела б пазнаёміць яго з вамі.

— Велікодная служба пачнецца праз нейкі час. Давай выйдзем з царквы і там пазнаёмімся, — сказаў Андрэй Фаміч.

І ён пайшоў на выхад, а за ім Аня, запрасіўшы Андрэя кіўком галавы, каб ён ішоў за ёю. Яны ішлі даволі доўга, пераадольваючы сустрэчную плынь прыхаджан, якія ішлі насустрач ім у царкву. Праціснуліся. Выйшлі на прасторны царкоўны ганак, апынуліся на яго шырокіх каменных сходах. Там таксама было шмат прыхаджан, якія стаялі і разважалі, як бы ім праціснуцца ў царкву.

Урэшце яны збочылі ўправа ад праходу і затрымаліся ў паласе святла. Аня падвяла Андрэя Мароза да Андрэя Фаміча і сказала:

— Андрэй Фаміч, пазнаёмцеся, калі ласка, з маім сябрам Марозам. Яго пры нараджэнні ахрысцілі таксама Андрэем. Прывёз да нас яго на велікодныя святы ягоны брат Сяргей, які працуе лесніком непадалёку ад Наваградка. Сяргея мы пакінулі адпачываць, таму што яму заўтра неабходна ад'ехаць на службу. А самі прыйшлі памаліцца, паўдзельнічаць у літургіі.

Андрэй Фаміч зрабіў крок насустрач, моцна паціснуў руку Андрэю Марозу і сказаў:

— Мне прыемна пазнаёміцца з такім паважаным чалавекам і прывітаць вас з вялікім святам Уваскрэсення Хрыстова і з прыездам на радзіму. Вельмі прыемна пазнаёміцца з грамадзянінам Злучаных Штатаў, вітаць вас у нашай царкве. Спадзяюся, што маліцца будзем разам, а пасля службы пойдзем да нас. Там я вас пазнаёмлю з маім сямействам.

Андрэй Мароз падзякаваў Андрэю Фамічу за ветлівую сустрэчу пад час знаёмства і віншаванне з прыездам на радзіму і сказаў:

— Я ў свой час вымушаны быў паехаць за акіян, у Амерыку, каб уладкавацца там на працу, бо ў царскай імперыі мне пагражаў арышт, і пры гэтым я ніякага крыміналу не здзяйсняў. Проста ўдзельнічаў у дэманстрацыі працоўных чыгуначнага дэпо Менску. За акіянам мне пашэнціла папасці ў такую краіну, дзе за такія выступы працоўных ніхто не арыштоўвае і не садзіць у турму. Мы жывем у свабоднай дэмакратычнай дзяржаве.

— А цяпер я прапаную вярнуцца ў царкву і маліцца, — сказаў Андрэй Фаміч, — бо неўзабаве пачнецца велікодная служба.

Пры ўваходзе ў царкву бацюшка Дзмітры Герасімовіч віншаваў прыхаджан поклічам на расійскай мове:

— Христос Воскресе!

І прыхаджане адказвалі па-расійску:

— Воистину воскресе!

І ніхто з прысутных не адказаў на сваёй мове: «Сапраўды ўваскрэс!»

Чаму? Таму, што з ліквідацыяй грэка-каталіцкай канфесіі царом Мікалаем І з 1839 года пад прымусам амаль усіх грэка-католікоў перахрысцілі ў праваслаўных. Пры гэтым абавязалі ў царкве літургію праводзіць на старaславянскай мове, а ў пропаведзях карыстацца толькі расійскай. А гэта азначае, што праваслаўная царква праводзіла палітыку абрусення і ўжо з тых часоў дапамагала ўладам праводзіць сваю палітыку.

Каб беларусы лічылі сябе рускімі, царызм дабіўся таго, што ў малітвах беларусы не карыстаюцца сваёй мовай. Часцей за ўсё ў літургіях чуюць амаль цалкам незразумелую ім старaславянскую мову. І калі б хтосьці з прысутных у той час мог прамовіць: «Сапраўды ўваскрэс!», то ўсе прысутныя палічылі б гэта зневажальным ці нават хуліганствам. І маглі б сілай выправадзіць з царквы таго, хто насмеліўся такую хвалу Хрысту агучыць на сваёй роднай мове.

Трэба падкрэсліць, што літургія амаль ва ўсіх праваслаўных цэрквах Беларусі і ў 21-м стагоддзі адбываецца з выкарыстаннем гэтых дзвюх моў. Нацыянальная беларуская мова Свяшчэнным Сінодам Маскоўскай патрыярхіі, якой падпарадкоўваецца Менская епархія, у літургіі і пропаведзях забаронена.

Царкоўная служба з хросным ходам у тую ноч працягвалася да світання. А ў канцы адбывалася асвячэнне фарбаваных яек, пірагоў, кулічоў.

Выбухі-феерверкі працягваліся ўсю ноч і заціхлі, калі пачало віднець. Асвячэнне было заканчэннем літургіі. Яго выконваў бацюшка з дапамогай псаломшчыка, і яно суправаджалася спевамі царкоўнага хору:

— Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ, и сущим во гробе живот даровал.

Паўтор гэтага напеву гучаў да канца літургіі шмат разоў — да канца асвячэння. Беларусы — рыма-католікі, грэка-католікі — той жа велікодны напеў цяпер і раней спявалі ў перакладзе на беларускую мову:

— Хрыстос уваскрэс з мёртвых, смерцю смерць зваяваў і тым, што ў магілах, жыццё дараваў.

З майго пункту гледжання, гэты велікодны напеў, перакладзены на беларускую мову, больш зразумелы. Відаць, кіраўніцтва цэрквамі на Крэсах лічыла, што беларуская мова не прыдатная для выкарыстання яе ў праваслаўных святынях. Гэтага не разумеў Андрэй Мароз: чаму беларуская мова не выкарыстоўваецца ў праваслаўных цэрквах?

Царкоўная служба закончылася. Прыхаджане бяруць свае кашы са свянцоным і ідуць дахаты, спяшаючыся, хрыстосуюцца з тымі, хто іх чакаў дома, каб пачаць велікоднае снеданне.

Спадарыня Юля даручыла Ніне пасвянціць яйкі і кулічы. Гэтую ганаровую місію яна выканала і з Чалядкавымі дзяўчатамі пайшла дахаты.

Усе рэлігійныя абрады выкананы. Да Андрэя Фаміча падышла Анюта са сваім госцем, каб ісці і пазнаёміць свайго сябра з Васілём Амялішкам. У гэты момант каля Андрэя Фаміча сабраліся амаль усе ягоныя дзеці: Павел, Давыд, Лаўрын і Аляксандра.

Андрэй Фаміч прапанаваў ісці ўсім да яго ў хату па сцежцы праз рэчку Змейку. Ісці было недалёка. Праз нейкі час іх сустракалі на ганку дома Васіль, маці Ксенія і Надзя.

Андрэй Фаміч вітаў усіх велікодным поклічам:

— Христос воскресе!

Яму адказвалі хорам:

— Воистину воскресе!

Анюта звярнулася да тых, хто быў на ганку:

— Цёця Ксенія, Надзя і Васіль, я хачу пазнаёміць Вас з маім сябрам Андрэем Марозам, які прыехаў да нас у госці. Васіля ў царкве мы не знайшлі. Затое пазнаёміліся з Андрэем Фамічом.

Андрэй Мароз і Васіль пазнаёміліся. Гасцей запрасілі ў хату.

— Паважанае сямейства Амялішак, — слова ўзяла Анюта, — мне мая мама даручыла запрасіць вас на велікоднае снеданне. Там ужо ўсё падрыхтавана, нас усіх чакаюць. Мы зараз з Андрэем павінны адкланяцца, таму што пасля снедання брат Андрэя ад'язджае дахаты

— Прабачце мяне, прашу ў хаце размаўляць цішэй, — сказала гаспадыня Ксенія, — таму што дзіця капрызнічала і толькі перад ранкам заснула.

Прапанова Анюты цікавая. Аднак ці можам яе выканаць? На мой погляд, не можам, таму што мы таксама да гэтага велікоднага снедання даўно рыхтаваліся і ў сваю чаргу просім вас разгавецца ў нас. Пакуль вы былі ў царкве, мы з Надзяй падрыхтавалі стол. Давайце дружна сядзем і разгавеемся. Тым больш, што вам трэба ісці не меней, чым паўгадзіны. Таму, калі ў нас затрымаецеся на дзесяць хвілін, ад гэтага нічога, спадзяюся, благога не здарыцца. Вы ў нас падсілкуецеся, а дома будзеце грунтоўна снедаць.

— Мая мама прадбачыла такое, — сказала Анюта, — і тады мы запрашаем вас да нас у госці на абед.

— Анюту і Андрэя запрашаем сесці за стол і разгавецца з намі, — прапанавала Надзя, — а пасля Васіль адвязе вас да Абрамчыкаў. Там нашы госці прадоўжаць разгаўляцца, а Васіль хутка вернецца да хаты. А што тычыцца запрашэння на святочны абед, то гэта будзе залежаць ад таго, як будзе паводзіць сябе наш Мікалай. Спадзяёмся, што мы ў госці прыедзем.

На гэтым і пагадзіліся.

Тым часам Анюта падвяла Андрэя, каб пазнаёміць яго з малым Мікалаем.

Затым усе прысутныя хутка сталі ля стала і паўтаралі малітву «Ойча наш» на стараславянскай мове за Андрэем Фамічом. Перахрысціліся. Надзя перад кожным паклала па свянцонаму фарбаванаму яйку. Мужчыны выпілі па кілішку манапалькі, а жанчыны — па кілішку вінаграднага віна і пачалі разгаўляцца скаромнымі стравамі, якімі ўвесь вялікі пост не частаваліся.

Хутка праляцелі дзесяць хвілін. Госці пачалі збірацца на Галёнію. Гаспадары болей іх не затрымлівалі — разумелі, што ім трэба ехаць. Падняўся Васіль, каб падвезці іх. Дзеля гэтага ён запрог каня ў брычку, якую часцей усяго запрагаў, калі трэба было ехаць у лясніцтва. Пад’ехаў да парога і ўвайшоў у хату, каб сказаць, што ён гатоў.

Андрэй не прывёз падарунка Васілю за бясцэнную паслугу яму. Вырашыў зрабіць такі падарунак на месцы: купіць каштоўную рэч у Баранавічах. З гэтай мэтай Андрэй хацеў прасіць Васіля адвезці яго разам з Анютай у Баранавічы і там у адным з магазінаў купіць у якасці сюрпрызу неабходную Васілю рэч, а Анюце набыць усё неабходнае для вянчання.

Пачаўся другі дзень, як Андрэй выехаў са сваёй роднай вёскі. А да гэтага ён зусім кароткі час прабыў на сваёй радзіме пасля прыезду з Амерыкі. Яму ж так хацелася пабыць са сваімі роднымі, блізкімі і былымі сябрамі. З імі ён так даўно не бачыўся. За дваццаць год, як ён з’ехаў са сваёй радзімы, адбылося многа падзей. Шмат землякоў загінула пад час Першай сусветнай вайны. А колькі загінула аднасяльчан у бежанстве ў Расіі! Нацярпеліся там ў холадзе і голадзе. І ўрэшце вярнуліся на свае котлішчы. А колькі сіл і сродкаў прыйшлося патраціць, каб адрадзіць свае гаспадаркі, вярнуўшыся на радзіму!

www.kamunikat.org

Калі Васіль увайшоў у хату, то Андрэй і Анюта развіталіся з сям'ёй Амялішак са спадзяваннем сустрэцца з імі пад час святочнага абеду на Галёніі. І як толькі ўселіся на воз, то паехалі па Крывасельцах. Крывасельцы — гэта вальнянскае паселішча на поўдзень ад цэнтральнай вёскі Вольнай. Там за рэчкай Змейкай была хата майго дзеда, Андрэя Фаміча, дзе нарадзіліся ўсе Амялішкі, у тым ліку і аўтар гэтых успамінаў.

У той час на вуліцы Крывасельцаў было бязлюдна: усе сяляне сядзелі за святочнымі сталамі і разгаўляліся. За час кароткай язды па Крывасельцах Андрэй паспеў сказаць:

— Паважаны Васіль Андрэевіч, улічваючы тое, што мы амальаднагодкі, я хацеў бы да вас звяртацца на «ты», разумеецца, калі вам такі мой зварот будзе прыймальным.

На гэтую прапанову Васіль сказаў коратка:

— Андрэй, я згодзен.

— Васіль, я прыехаў сюды дзякуючы табе, па тваім рэкамендацыям. Калі я плыў на караблі цэлы месяц, у галаву лезлі розныя думкі: і харошыя, і благія. У канцы дрэнныя я адкідваў — спадзяваўся на тваю прыстойнасць у выбары мне нявесты, — улюбёна паглядзеў на Анюту. — І не памыліўся. Твае лісты Сяргею чытаў грунтоўна. Прабач мяне, Аня, за маю адкрытасць. У мяне было шмат вольнага часу, каб грунтоўна абдумаць сваю будучыню, каб не рабіць няспелых рашэнняў. З тваіх лістоў я зрабіў выснову, што выбар нявесты для мяне ты рабіў з такой сур'ёзнасцю, быццам выбіраў нявесту сабе. Бо калі я ўбачыў учора Анюту, дык зразумеў, што нашы густы з табой супадаюць. І за гэты выбар я табе бясконца ўдзячны.

Нахіліўся да Анюты, узяў яе за руку і пацалаваў.

Як толькі праехалі драўляны мост праз раку Змейку, нагналі прыхаджан з Бортнік і Галёніі. Аня сказала:

— Зараз мы, магчыма, нагонім Ніну з яе сяброўкамі-суседкамі.

І сапраўды, не даязджаючы хутара Сакалухі, насупраць ліп нагналі Ніну. Васіль прыпыніў каня і сказаў:

— Дзяўчаткі, Христос Воскресе!

У адказ пачулі:

— Воистину воскресе!

Аня сказала:

— Ніна і Зіна, сядайце да нас, крышачку вас падвязем.

Ніна перадала кошык з пасвенчаным Анюце і сказала:

— Васіль, дзякуем за запрашэнне. Едзьце, перадайце маме кош. А я праз пяць хвілін буду дома.

Васіль тузануў ляйчынай. Конь пачаў бегчы, і не заўважылі, як праз пару хвілін пад'ехалі да парога Абрамчыкавай хаты. Сустракалі іх на парозе спадарыня Юля з Сяргеем Марозам і хлопцамі Мікалаем, Мішам і Валодзем.

Аляксандр, як звычайна, адпачываў. Аднак калі пачуў, што хтосьці прыехаў у двор, падняўся і пaціху выйшаў на ганак У гэты момант тыя, што прыехалі, пачалі хрыстосавацца з тымі, хто ў велікодную ноч быў дома. Урэшце гаспадар дома запрасіў усіх у гасціную на велікоднае снеданне. Васіль у гэты момант падзякаваў за запрашэнне і сказаў:

— Прабачце мяне, я павінен пакінуць вас, таму што я мушу быць са сваёй сям'ёй на сямейным снеданні. Там мяне чакае Надзя з сынам і маімі роднымі. Па запрашэнні Анюты да вас, калі нішто не перашкодзіць, прыедзем на велікодны абед.

Васіля не затрымлівалі. Ён пайшоў да воза. Сеў і пачаў рабіць разварот, каб ехаць да сваёй хаты. І як праязджаў ля ганка, то яго затрымаў Сяргей Мароз:

— Васіль, пасля святочнага снедання я, на жаль, вымушаны ад'ехаць дахаты. Мяне чакаюць неадкладныя справы. Андрэй застаецца ў Абрамчыкаў, каб вырашыць намечанае. Мы ўсё зрабілі з вамі, паважаны Васіль, каб мой брат атрымаў такую прыгожую і кемлівую сяброўку Анюту. Ягоная мара збылася, дзякуючы, перш за ўсё, вашым стараннямі. Таму я асабіста складаю шчырую падзяку вам за дапамогу майму брату Андрэю. Я цяпер упэўнены, што ў яго будзе надзейная сяброўка і добрая гаспадыня.

— Шкада, што так склаліся справы: мы не можам пабыць разам і пагутарыць з вамі, — сказаў Васіль. — У нас з вамі аднолькавы прафесійны занятак. Таму мы маем шмат цікавых пытанняў для размоў. Аднак вам трэба ад'ехаць. Дасць Бог, мы сустрэнемся ў лясніцтве ці ў другім месцы і там абмяняемся сваім вопытам. Не буду хаваць, мне ваша ацэнка маёй дапамогі Анюце і вашаму брату Андрэю асабліва прыемна. Цяпер ім трэба пераадолець шмат праблем, перш чым адправіцца за акіян. Едзьце дахаты і не хвалюйцеся за маладых. Нашы дзве сям'і — мая і Абрамчыкаў — дапамогуць маладым рашыць усе іхнія пытанні. Я мяркую, што маладыя пасля вянчання паедуць да вас на радзіму, і адтуль вы будзеце праводзіць іх за акіян.

Пасля гэтых слоў Сяргей цёпла развітаўся з Васілём. Васіль ад'ехаў дахаты.

Сяргей вярнуўся ў гасціную, каб удзельнічаць у святочным снеданні. Ён увайшоў у гасціную, папрасіў прабачэння за затрымку і далучыўся да вялікай кампаніі сямейства Абамчыкаў. Гаспадар дома падняўся, прывітаў прысутных поклічам аб уваскрэсенні Хрыста. Атрымаў адказ прысутных і прапанаваў прачытаць малітву «Ойча наш». Прысутныя ўсталі і разам з Аляксандрам паўтарылі за ім словы малітвы.

Разгавенне праваслаўных вернікаў пасля працяглага посту адбываецца менавіта ў той час, калі з Усяночнай прыходзяць усе блізкія і спецыяльна запрошаныя госці. Да гэтага святочнага рытуалу праваслаўныя рыхтуюцца ўвесь працяглы перадвелікодны пост. Назапашваецца неабходная коль-

касць розных спажывецкіх прадуктаў: мяснога, хлеба і іншых. Сяляне, за нязначным выключэннем, у тыя часы харчы рыхтавалі сабе самі. На рынак па іх не хадзілі.

Асаблівай увагай у гаспадарцы Васіля карысталіся вырабы з свінога мяса. Дзеля гэтага загадзя кожная руплівая сям'я ранняй вясной на рынку набывала парасят. Гадавалі іх цэлы год. Саспелых кабаноў забівалі на будучы год, а ў гэтым годзе карысталіся прадукцыяй, якая гадавалася з вясны мінулага года. У некаторых гаспадарках парасят вырошчвалі самі. Васілю грошы дзеля набыцця парасят прасцей было атрымаць ад пчалярства.

Пад час велікоднага снедання абмяркоўваліся планы далейшага побыту Андрэя ў Абрамчыкаў і неадкладны ад'езд Сяргея Мароза на працу. Сяргей сказаў:

— Васіль сказаў, што пра маладых вы тут паклапоціцеся. А мы ўжо будзем выпраўляць іх у Амерыку.

Гэта пацвердзіў спадар Аляксандр:

— Я згодзен з Васілём. І гатоў сам адвезці іх на радзіму Андрэя, калі яны ажэняцца.

Сяргей Мароз пасля снедання развітаўся і паехаў дахаты.

Настаў поўдзень першага дня Вялікадня. Перш чым адправіцца ў госці да Абрамчыкаў, Андрэй Фаміч паклікаў усіх сваіх дзяцей і сказаў:

— У Абрамчыкаў сям'я вялікая. Калі раптам прыедзе восем чалавек, не лічачы дзіцяці, то будзе ў іхняй гасцінай вельмі цесна. Тым больш, што гэта ж не вяселле. Таму я думаю, што нашай моладзі — Паўлу, Давыду, Лаўрыну і Аляксандры — мы наладзім сустрэчу з Андрэем Марозам асобна, каб ён расказаў аб сваім жыцці за акіянам. Таму я прапаную і прашу вас, маладых, сёння паабедаць дома самастойна з маладой гаспадыняй Сашай. А на другі дзень вялікадня мы дагаворымся з Абрамчыкамі, і вы да іх пойдзеце ў госці без нас. Калі няма пярэчанняў і іншых прапаноў, дык зараз збіраемся і едзем. Я з мамай Ксеняй, Васіль, Надзя і маленькі Міколка.

Іншых прапаноў не было. Павел сказаў:

— Тата правільна вырашыў, бо паехаць усім і пакінуць дом пустым — гэта не к дабру. Нехта павінен застацца дома, каб дагледзець гаспадарку. Едзьце, а мы заўтра ці на трэці дзень Вялікадня, як дагаворыцеся, сустрэнемся ў Абрамчыкаў і пагутарым з Аніным жаніхом.

Васіль запрог каня і пад'ехаў да ганка. Пасадзіў Надзю з дзіцём і маці Ксенію на задняе сядзенне, а сам з бацькам усеўся на пярэднім. Ехалі і бачылі ля дарогі купкі святочна апранутых сялян, якія забаўляліся ў традыцыйную гульню з фарбаванымі курынымі яйкамі. Усе здагадваліся, куды едуць старэйшыя Амялішкі.

Праз пятнаццаць хвілін прыпыніліся ля Абрамчыкавага парога. Сустракалі іх Аня з Андрэем і спадарыня Юлія. Крыху пазней да іх падышоў спадар Аляксандр. Госці пахрыстосаваліся і пайшлі ў хату. Васіль

прывязаў каня да плоту, увайшоў і далучыўся да ўсіх прысутных. У гэты момант гаспадары запрасілі ўсіх за стол. Спадар Аляксандр спытаў:

— Скажыце, а дзе ж вашы хлопцы і Аляксандра?

На гэтае пытанне адказаў Андрэй Фаміч:

— Паважаныя, мы не можам пакінуць гаспадарку без дагляду. А раптам мы затрымаемся ў вас? Прыйдзе з пашы наш статак, пойдзе гуляць па панадворку ці па гароду і наробіць шкоды. Таму я прапанаваў моладзі абедаць дома і дагледзець гаспадарку. Канешне, ім ахвота быць разам з намі, паслухаць расказы Андрэя аб жыцці ў Амерыцы. У сувязі з гэтым я хацеў бы прасіць вас, паважаныя Юлія і Аляксандр, прызначыць сустрэчу нашым маладым іншым разам, каб яны маглі пагутарыць з Андрэем.

— Паважаны Андрэй Фаміч, такая сустрэча прасцей за ўсё можа адбыцца менавіта ў гэтыя велікодныя дні ў дзве гадзіны дня, — сказала спадарыня Юлія, — напрыклад, нават заўтра. Хай вашы маладыя прыйдуць да нас і будзем заадно палуднаваць і размаўляць. Ці няма іншых прапаноў у Ані і Андрэя?

— У мяне на заўтрашні дзень нічога не прадбачыцца, — сказаў Андрэй Мароз. — Магу заўтра, Андрэй Фаміч, апоўдні сустрэцца з вашымі дзецьмі і адказаць на іх пытанні.

— Добра, тады я іх заўтра з Васілём і Надзяй адпраўлю да вас, а сам з Ксеняй застануся дома.

Святочны абед адбываўся традыцыйна. Пачаўся з малітвы «Ойча наш», якую прачытаў спадар Аляксандр.

Пад час абеду Андрэй Мароз расказаў прысутным пра тое, як ён папаў у Злучаныя Штаты Амерыкі і як уладкаваўся там на працу, чаму ён вымушаны быў пакінуць Расійскую імперыю. Коратка паведаміў пра сваіх бацькоў, братоў і сясцёр і тое месца, дзе ён нарадзіўся. У канцы сказаў:

— Калі я пачынаў жыццё ў Нью-Ёрку, то першыя гады была страшэнная туга па радзіме, бацьках, братах, сёстрах, блізкіх і сябрах. Аднак, як вядома, час — лекар, і ў большасці эмігрантаў туга па радзіме праходзіць. Я прыехаў на радзіму, каб вырашыць свой уласны лёс — ажаніцца з дзяўчынай, якая б нагадвала мне мой родны куток, беларускую мову, нашы палі, лясы і пагоркі і выхоўвала маіх будучых дзетак у павазе да ўсяго вышэй згаданага. За тыя гады, пакуль я жыў там, мне амаль кожную ноч снілася бацькоўская хата, бацька, маці і ўся мая радня. І як мне хацелася б тут застацца і ўтварыць сваю сям'ю ў вольнай і незалежнай бацькаўшчыне. Аднак у нас, беларусаў, пакуль няма незалежнай Беларусі. Яна штучна разарвана на два кавалкі: на Усходнюю і Заходнюю. І невядома, калі Беларусь атрымае сапраўдную незалежнасць. Таму грамадзяніну Злучаных Штатаў Амерыкі вярнуцца на радзіму было б неразумна. Я, можна сказаць, уцёк ад пакарання за ўдзел у дэманстрацыі менскіх чыгуначнікаў 1905 года, якіх падбухторвалі Ульянаў і ягоныя паплечнікі.

І ён падрабязна расказаў, як уцёк у Нью-Ёрк, на першых парах уладкоўваўся на працу і адначасова вывучаў ангельскую мову.

— Мой прыезд на радзіму і да вас стаў магчымым таму, што гэтая частка цяперашняй тэрыторыі ўваходзіць у склад Польшчы, з якой Злучаныя Штаты Амерыкі знаходзяцца ў сяброўскіх адносінах. У сувязі з гэтым, мне думаецца, нам удасца своечасова атрымаць візу на ўезд Ані ў ЗША, разумеецца, калі мы возьмем шлюб.

І на заканчэнне, пазіраючы на Аню, сказаў:

— Цяпер я госць Анюты. Нашаму знаёмству спрыяў Васіль, і яму за гэта я вельмі ўдзячны. Спадзяюся, што праз нейкі час Анюта стане маёй нявестай, калі на тое будзе Божая воля і яе згода. Гэтая сустрэча не магла б адбыцца, калі б Усходнія Крэсы былі захоплены бальшавікамі, бо там, як расказвалі мне расіяне, якім пашчасціла нейкім чынам адтуль уцячы, зараз адбываюцца такія братазабойчыя падзеі, якіх ніколі і нідзе ў свеце не наглядалася. Грузін Джугашвілі, апошняя канспірацыйная мянушка якога Сталін, як сцвярджаюць некаторыя амерыканскія журналісты, псіхічна хворы. Па сведчанні вучоных, ягоная хвароба носіць назву «параноя». Стаў кіраўніком Саветаў і замест таго, каб прыпыніць чырвоны тэрор Ульянава-Леніна, узмацніў забойствы нявінных людзей. З Польшчай жа ў Злучаных Штатаў усталяваліся спрыяльныя дыпламатычныя адносіны, і я свабодна змог прыехаць на сваю радзіму.

— Каб сказаць, што мы возьмем шлюб, — сказала Анюта, — сёння пакуль што рана. Вельмі мала прайшло часу. Мы з Андрэем пазнаёміліся толькі ўчора. Я адчуваю, што Андрэй стаў мне блізкім сябрам за такі кароткі час. Спадзяюся, што нішто і ніхто не перашкодзіць нашаму сяброўству і праз нейкі час мы станем жаніхом і нявестай.

— Дык у чым жа справа? — сказала Надзя. — Сёння як раз спрыяльны момант, каб зрабіць заручыны, калі сабраліся разам такія паважаныя прадстаўнікі старэйшага пакалення роду Абрамчыкаў і Амялішак. І я мяркую, што мы можам засведчыць, што яны з гэтага моманту — жаніх і нявеста.

— Прапаную напоўніць чаркі, — падтрымаў спадар Аляксандр, — і выпіць за тое, што мы, прысутныя, сведчым Аню і Андрэя жаніхом і нявестай.

## 23. Паездка ў Баранавічы

Зацвярджэнне жаніхом і нявестай маладых у нас называюць заручынамі, ці запоінамі. З гэтага моманту маладыя лічацца жаніхом і нявестай — пераходная ступень перад шлюбам. Заручыны ў нейкай ступені маральна абавязвалі жаніха і нявесту быць вернымі свайму выбару, аднак калі ўзнікалі ў гэты перыяд нейкія непаразуменні між імі, то яны добраахвотна

маглі зняць з сябе абавязацельствы і не лічыцца жаніхом і нявестай, чаго амаль нельга рабіць пасля царкоўнага шлюбу.

Праз нейкі час вырашылі зрабіць па прапанове спадарыні Юліі перапынак у пачастунку.

Калі ўсе выйшлі з-за стала, Андрэй падышоў да Анюты і паціху сказаў:

— Анюта, я на некалькі хвілін пакіну кампанію, выкарыстаўшы перапынак. Хачу пагутарыць з Васілём па маіх вельмі важных справах. Пра іх я скажу табе сёння вечарам — зараз не маю часу.

Андрэй падышоў да Васіля і прапанаваў:

— Васіль, я хачу з табою пагутарыць. Давай мы з табою зробім прагулку па лесе і пагаворым.

Пакінуўшы ўсіх прысутных, яны выйшлі ў двор і накіраваліся праз дарогу ў лес. Сонейка хілілася да захаду. Перад вечарам стала цудоўнае надвор’е. Андрэй сказаў:

— Васіль, які ты шчаслівы чалавек, што маеш магчымасць кожны дзень бываць у лесе. Вось і зараз мы з табою зрабілі не больш як пару дзесяткаў крокаў і апынуліся ў лесе. Гэта ж дзеля мяне — цуд. Я, калі падрастаў, увесь час быў таксама сярод лесу. І столькі ад падобных мясцін на маёй памяці засталося незабыўных успамінаў, якія, на жаль, так і застануцца ўспамінамі на ўсё астатняе жыццё. Як бы хацелася жыць пастаянна ў такім месцы!

— Андрэй, дык у чым жа справа? Жаніся і заставайся жыць тут, на радзіме.

— Не, Васіль, на такое ж пытанне бацькі Анюты я ўчора адказаў усім, хто ў той час быў за сталом. Аднак галоўнай прычыны я ім не сказаў. Вярнуцца сюды небяспечна таму, што Саветы рана ці позна далучаць наш край да сябе, як пра гэта піша амерыканская прэса. І тады любому грамадзяніну ЗША і ягонай сям’і, якія доўга жылі за акіянам, не мінуць арышту, высылкі ў Сібір ці ў іншае месца на поўначы Расіі. А гэта значыць, што прыйдзецца загубіць сваю будучыню, якая так выдатна складваецца зараз у нас з Анютай. У Штатах ёсць шмат людзей, якім удалося вырвацца з кіпцюроў ДПУ (Дзяржаўнае палітычнае упраўленне). Яны расказваюць пра тое, што адбываецца зараз у Саветах. Многія з іх сведчаць пра небывалы тэрор. Тамашнія правіцелі прытрымліваюцца нечалавечых установак Леніна, а цяпер і Сталіна. Расказваюць пра тое, што чым бліжэй яны ідуць да сацыялізму, тым больш людзей не пагаджаюцца з іхняй праграмай пабудовы новага камуністычнага грамадства. Гэтых людзей яны называюць «ворагамі народу», а з гэтага робяць выснову: каб пабудаваць новы дзяржаўны сацыялістычны лад, патрэбна фізічна знішчыць ворагаў, а лепш за ўсё — выкарыстаць гэтых ворагаў у якасці дармовай рабочай сілы на так званых будоўлях камунізму. Аб гэтых падзеях у ЗША шмат пішуць тыя «будаўнікі камунізму», якім удалося вырвацца са спецлагераў.

www.kamunikat.org

Аднак у Штатах, на жаль, ёсць шмат людзей, якія не вераць усяму таму, што адбываецца ў Расіі. Лічаць, што такія паведамленні — хлусня, якую наўмысна арганізуюць капіталісты. Аднак я сустракаўся не з адным чалавекам, перажыўшым страшныя здзекі ДПУшнікаў, і упэўнены, што гэтыя звесткі — не хлусня, а сапраўдная рэчаіснасць.

Васіль, нейкі час таму я прачытаў у амерыканскай прэсе пра тое, як Сталін не дараваў рускаму акадэміку Вярнадскаму, які публічна заявіў, што Сталін хварэе на параноюю. Гэтая хвароба адрозніваецца ад іншых псіхічных хваробаў тым, што ў мазгу хворага фарміруецца рэзка адмоўная ідэя ў адносінах да крытыкі ў адрас хворага. Пасля такой заявы акадэмік Вярнадскі папаў у шпіталь і пры загадкавых абставінах памёр. А гэта азначае, што ў вышэйшай уладнай асобы (у дадзеным выпадку ў Джугашвілі) у мазгу сфарміравана хваравітая ўстаноўка, якая не церпіць праўды. Хворы параноік, які мае неабмежаваныя ўладныя паўнамоцтвы, разумее, што рана ці позна стане вядома пра яго хваробу шырокаму колу людзей, і тады яму прыйдзецца пакінуць пасаду — закончыць свой зямны шлях у псіхіятрычным шпіталі. У хворага параноіка ўзнікае дылема: альбо лячыцца і пакінуць свой высокі пост, альбо схаваць сваю хваробу. Сярод параноікаў бываюць таленавітыя людзі з моцным характарам, і свае трызненні ім удаецца здзейсніць на практыцы. Джугашвілі, надзелены неабмежаванымі ўладнымі паўнамоцтвамі, аддаў сакрэтнае вуснае распараджэнне аддзелам ДПУ ліквідаваць акадэміка і праўдзівую інфармацыю пра хваробу. У сувязі з гэтым мне патрэбна ў бліжэйшы час павянчацца з Анютай і адвезці яе туды, дзе мая сям'я будзе ў большай бяспецы. Многім тутэйшым падасца, што Андрэй расказвае неверагоднае. Пра гэтыя мае разважанні я нікому ў Беларусі не гаварыў таму, што ніхто не можа гарантаваць, што маё прадказанне будучыні абавязкова збудзецца. Васіль, я цябе паважаю і прашу нікому не гаварыць, пакуль я ў вас у гасцях, пра маё бачанне нашай і вашай будучыні. Карацей кажучы, пасля вянчання я не намераны доўга затрымлівацца ў Бортніках, а таксама і ў Польшчы. Як толькі Анюта атрымае візу на ўезд у ЗША, мы адправімся да месца майго тамтэйшага жылля. Таму ў мяне бадай самая апошняя сур'ёзная просьба будзе да цябе, Васіль: адвязі мяне з Анютай у Баранавічы, каб залатвіць там некалькі неадкладных спраў — зрабіць неабходныя пакупкі дзеля нашага вянчання і дазнацца, як і дзе атрымаць візу Анюце на ўезд у Штаты.

— Я думаю, тваю просьбу трэба выканаць неадкладна, пакуль не пачаўся масавы веснавы сеў ярыны, — сказаў Васіль. — Заадно табе неабходна пагаварыць з Мікалаем Абрамчыкам, які прыехаў да бацькоў на велікодныя святы. Ён працуе клеркам у Баранавіцкім камунальным банку і можа расказаць, якім чынам атрымаць візу сястры. Дарэчы, яму таксама пасля трэцяга дня Вялікадня неабходна быць на службе. А як ён будзе дабірацца? Можа быць, яго нам з сабою прыхапіць? Пагавары з ім. Чацвярom нам будзе ехаць зручней. А што тычыцца маёй дапамогі, то ты можаш

не сумнявацца. Усё тое, аб чым просіш мяне, я пастараюся выканаць. Андрэй, ты маеш рацыю. Рашэнне вашых пытанняў не трэба зацягваць.

Так размаўляючы, яны дайшлі сцежкай амаль да сярэдзіны лесу і, калі агледзеліся, то заўважылі, што іх па той жа сцежцы даганяе Анюта. Падыходзячы да іх, сказала:

— Андрэй і Васіль, вас чакаюць госці. Мяне паслала за вамі мама.

— А мы якраз закончылі свае размовы, — сказаў Андрэй, — і можам далучыцца да гасцей.

Развярнуліся і пайшлі. Праз некалькі хвілін занялі свае месцы за сталом.

Як толькі ўселіся, Андрэй устаў:

— Паважаныя прысутныя, мы толькі што з Васілём пабылі ў вашым лесе, у гэтым цудоўным месцы. Не ведаю, як паважанаму Васілю, а мне гэты лес нагадаў мінулыя і, звычайна, цёплыя ўспаміны дзяцінства і юнацтва. Я рос прыблізна ў такім жа месцы. Праца бацькі была звязана з лесам. І калі я падрастаў і пачаў задумвацца, а кім жа я буду ў будучым, то ўяўляў сябе не чырвонадрэўшчыкам, а леснікoм ці чалавекам, які звязаны з лясной гаспадаркай. Таму сёння, калі я трапіў у такое цудоўнае месца, узніклі ўспаміны тых часоў. Тым больш, што такой прыгажосці я там, у Нью-Ёрку, не сустракаю. Там мяне акружае лес каменных шматпавярховых дамоў. Дамы засланяюць гарызонт, і мы не бачым той прыгажосці ўсходу і захаду сонца, таго, што ўчора назіраў у вас разам з Анютай пад час нашага першага знаёмства.

Наступіў вечар. Васіль з Надзяй, сынам і бацькамі паехалі дахаты. Конь, адпачыўшы, бег так жвава, што хвілін праз пятнаццаць прыехалі на свой падворак. Па дарозе пад уплывам прахалоднага свежага паветра малы Мікола заснуў.

Пачаўся другі дзень Вялікадня. Раніцай Васіль успомніў, што яму неабходна пабачыць Андрэя Мароза, каб дагаварыцца з ім, у які дзень пасля велікодных свят паехаць у Баранавічы.

Вырашыў ранкам схадзіць да Абрамчыкаў, каб у дэталях удакладніць, а якой гадзіне выехаць, каб да абеду прыбыць у Баранавічы. Параіўшыся з Надзяй і бацькамі, Васіль пайшоў пешшу ў Галёнію. Праз паўгадзіны быў там. Андрэй яшчэ спаў, бо ўчора яны доўга гулялі з Анютай. Сустрэлі Васіля бацькі Анюты. Спадар Аляксандр даведаўся, што Васіль прыйшоў, каб дамовіцца з Марозам пра паездку ў Баранавічы, і прапанаваў:

— Васіль, запрагай майго лепшага каня ў нашу брычку і адвязі маладых у Баранавічы, і заадно адвязіце туды Мікалая. Каб паспець яму на працу, вам трэба выехаць не пазней як у чатыры гадзіны раніцы на чацвёрты дзень Вялікадня.

На чацвёрты дзень Васіль а пачатку чацвёртай гадзіны раніцы быў на падворку Абрамчыкаў. Яго сустрэлі Андрэй Мароз і пан Аляксандр.

Запрэглі лепшага каня, прыбралі брычку Узялі ўсё неабходнае. Спадарыня Юлія дала ім з сабою пачастунак. Падрыхтавалі неабходны харч каню.

З Галёніі ад хутара Абрамчыкаў можна ехаць двума шляхамі. Першы — да вёскі Вольнай, а адтуль напрасткі па шашы да Баранавіч. Гэты шлях выбраў Васіль.

Другі напрамак — праз вёску Бортнікі. Гэта бліжэй, аднак там палявая дарога, якую ніхто ніколі не рамантуе. Таму амаль усе жыхары Галёніі едуць у Баранавічы праз Вольну — так больш надзейна.

Паездка ў Баранавічы канём на возе займае не менш за пяць гадзін. За гэты значны прамежак часу можна атрымаць многа новых ведаў ад суразмоўцы, які прыехаў з іншага кантыненту, дзе пражыў больш як дваццаць гадоў у дэмакратычным англамоўным грамадстве. Маючы ў запасе значны кавалак часу, Васіль звярнуўся да Андрэя і папрасіў:

— Андрэй, у нас багата часу, і мне хацелася б прадоўжыць тую размову, якую мы пачалі ў Абрамчыкавым лесе. Мне па роду сваёй працы даводзіцца сустракацца з людзьмі, якія пераходзяць мяжу з рознымі мэтамі. Адны ідуць па заданні Саветаў весці агітацыйную работу з нашымі людзьмі, расказваючы, як багата жывуць тыя, хто пачаў будаваць сацыялістычнае грамадства. Такая ж махлярская агітацыя праводзіцца радыёстанцыяй Менску.

— Васіль, хачу запытацца. А навошта бальшавікам патрэбна прыўкрашваць сапраўднасць, карацей, маніць людзей? Што яны маюць за карысць? — спытала Аня ў Васіля.

— Яшчэ якую. Калі людзі чуюць, што ў Саветах багатае жыццё, людзі там маюць свабодны доступ да навукі на роднай мове, жывуць багата і шчасліва, тады і яны задумваюцца: а чаму ж у нас гэтага няма?

Сустракаюцца і такія перабежчыкі, якія ратуюцца ад карных органаў Саветаў, просяць палітычнага прытулку ў польскіх уладаў. Гэтыя людзі распавядаюць пра тое, што пасля кастрычніцкага перавароту да улады прышлі людзі, якія лічаць, што тыя, хто не падтрымлівае іхніх поглядаў, а тым больш крытыкуе іх, з'яўляюцца ворагамі, і не проста ворагамі савецкага ўраду і яго неправамерных дзеянняў, а ворагамі народу. Гэтым самым яны як бы звяртаюцца да грамадскасці, каб простыя людзі паверылі іхнім хлуслівым вымыслам аб тым, што чалавек, які крытыкуе высокага дзяржаўнага дзеяча, вораг народу і яго належыць арыштаваць і судзіць, а то і расстраляць.

— Адказ на гэтае пытанне лёгка знайсці ў амерыканскім дэмакратычным друку, — сказаў Андрэй, — напрыклад, амерыканская прэса піша, што прычынай голаду на Паволжы і ў іншых месцах ёсць не памылковае, а скарэй за ўсё наўмысна прынятае рашэнне савецкай адміністрацыі, каб голадам задушыць незадаволеных людзей. У Тамбоўскай губерні дзеля падаўлення незадаволеных былі выкарыстаны рэгулярныя вайсковыя часткі, якія па загаду зверху прымянілі атрутныя газы не толькі супраць узбунтаваўшыхся, але і супраць дзяцей і старых людзей.

— Якое шчасце даў нам Бог, што мы апынуліся пад Польшчай, — сказала Анюта, — бо невядома, як бы мы жылі пры бальшавіках.

— Гэта так, — сказаў Васіль, — аднак невядома, што будзе з намі ў бліжэйшай будучыні, бо Саветы, па сведчанні перабежчыкаў, актыўна рыхтуюцца да вайны з намі.

— Пра ўзбраенне савецкай арміі ў амерыканскім друку можна знайсці шмат матэрыялаў, — прадоўжыў Андрэй, — якія сведчаць пра намеры бальшавікоў пабудаваць камунізм на ўсім зямным шары. А каб дасягнуць гэтага, трэба заваяваць увесь свет.

Зрабіць гэта ў сягонняшніх умовах немагчыма — не стае ў бальшавікоў сіл. Таму яны разлічваюць на абман, — уступіў у размову Васіль, — засылаюць праз мяжу ў суседнія краіны спецыяльна падрыхтаваных бальшавіцкіх агітатараў, якія расказваюць пра баснаслоўныя поспехі ў будаўніцтве сацыялізму. Такіх поспехаў няма. Аб гэтым гавораць тыя, каму ўдалося ўцячы з савецкага «раю». Саветам патрэбна загадзя пераканаць простых, часта малаадукаваных мясцовых людзей, што яны ўпершыню ў свеце пабудавалі больш прагрэсіўны дзяржаўны лад, чым у нас. Зрабіць гэта вельмі складана, таму што перабежчыкі з-за мяжы сведчаць пра адваротнае: пабудова камуністычнага грамадства ў Саветаў церпіць крах.

— У 1917 годзе адбылася Лютаўская буржуазная рэвалюцыя, — напомніў Мікалай, — і ў Петраградзе быў сфарміраваны Часовы ўрад, які ўзначаліў Керанскі. Пасля, у кастрычніку 1917 года, адбыўся ўзброены пераварот — захоп улады бальшавікамі. Часовы ўрад Керанскага быў арыштаваны.

— Кіраваць Петраградскім урадам пачаў Ульянаў. Захоп улады быў здзейснены за грошы кайзераўскай Германіі*. Аб гэтым пішуць у газеты Злучаных Штатаў, — сказаў Андрэй.

Усю дарогу ад Бортнікаў да Баранавіч Андрэй, Аня, Васіль і Мікалай гутарылі на палітычныя тэмы.

Прыехалі ў Баранавічы і затрымаліся на адным з завулкаў паблізу банка ля дома, дзе Мікалай Абрамчык наймаў пакой. Пакінулі брычку ў двары дома гаспадара. Мікалай пайшоў на службу, а Анюта, Андрэй і Васіль пайшлі па магазінам — купляць неабходнае дзеля вяселля. Дагаварыліся з Мікалаем сустрэцца пад час абедзеннага перапынку. За гэты час Мікалай даведаецца, як хутчэй атрымаць Анюце візу ў Штаты.

---

* Гэты факт знайшоў дакументальнае пацверджанне ў кнізе члена палітбюро ЦК КПСС А. М. Якаўлева «Сумерки», якая выдадзена ў Маскве ў пачатку 21-га стагоддзя. Там А. М. Якаўлеў, абапіраючыся на крамлёўскі архіў, піша пра сапраўдныя падзеі кастрычніка 1917 года і масавы тэрор, здзейснены бальшавікамі як у часы захопу ўлады, так і на працягу ўсяго тэрміну кіраўніцтва Леніна і Сталіна.

Спачатку зайшлі ў магазін, дзе можна было набыць усё неабходнае нявесце, і прапанавалі Анюце застацца там і з дапамогай прадаўцоў выбраць усё, што ёй спадабаецца. А самі па прапанове Андрэя вырашылі схадзіць у гаспадарчую краму, дзе прадавалася збруя. Знайшлі такую краму. Там Андрэй запытаўся ў прадаўца:

— Скажыце, калі ласка, ці ёсць у продажы сёдлы?

— Так, ёсць.

І адвёў Андрэя і Васіля ў аддзел, дзе былі розныя мадэлі сёдлаў. Андрэй прапанаваў Васілю:

— Васіль, я доўга думаў, які падарунак зрабіць табе за тваю неацэнную паслугу. І ўрэшце вырашыў набыць твайму каню сядло. Лічу, што яно табе больш за ўсё патрэбнае. Выбірай, якое табе даспадобы.

Васіль быў здзіўлены такому багатаму падарунку. Разумеў, што гэты прэзент зроблены Андрэем Марозам ад душы. Быў удзячны Андрэю. Сядло яны аднеслі на брычку, а самі вярнуліся ў краму да Анюты. Яна амаль усё выбрала для вянчання. Заставаліся дробязі. Андрэю патрэбна было толькі разлічыцца. Усё набытае запакавалі, і мужчыны аднеслі на брычку. Прыйшлі ў двор, а там іх ужо чакаў Мікалай. Ён запрасіў іх у свой пакой, дзе Анюта пры дапамозе Мікалая прыгатавала багаты пачастунак. Пад час яды Мікалай расказаў пра тое, што ў Баранавічах ёсць амерыканскае консульскае прадстаўніцтва, дзе пры наяўнасці адпаведных дакументаў можна атрымаць візу ў ЗША, разумеецца, калі будзе дакумент рэгістрацыі шлюбу.

Вось такія ўспаміны ўсплылі ў памяці Васіля, калі ён ехаў з кірмашу ў Міры. Прыехаў у Бортнікі праз Паланэчку і Мітрапольскі лес а 22 гадзіне. Сонца зайшло за гарызонт. Дома яшчэ не спалі, выйшлі сустракаць бацьку.

— Мама, тата парасят прывёз! — закрычалі дзеці, калі воз заехаў на падворак.

Выйшла Надзя і разам з дзецьмі панесла мяшок у хлеў, дзе яго развязалі і выпусцілі парасят у спецыяльна падрыхтаваны катух.

## 24. Успаміны Надзеі аб зажынках

Мая мама Надзея любіла гаварыць са мной пра маё дзяцінства. Аднойчы яна мне расказала, як звычайна адбываўся ў нашай мясцовасці абрад зажынак:

— Паспела жыта. Каб пачаць жніво, па традыцыі трэба рабіць зажынкі. Дзеля таго, каб абрад зажынак правесці святочна, неабходна было запрасіць бліжэйшых жанчын-суседак паўдзельнічаць у ім. Твой бацька асядлаў каня

www.kamunikat.org

раней за звычайнае і паехаў у лес на службу з тым разлікам, каб у другой палове дня прыехаць дадому і дапамагчы мне падрыхтаваць святочны стол. У нас былі сыны. Мікалаю чатыры з паловай, а табе два. Каб не пакідаць вас адных дома, я вырашыла ўзяць Мікалая з сабой на жытнёвае поле. З табой папрасіла пазабаўляцца ў хаце дзесяцігадовую Вольку, дачку бліжэйшага суседа Юзіка Сеўрука, пакуль мы будзем жаць жыта на самым спелым палетку насупраць суседняга хутара.

Апрануўшыся ў святочныя нацыянальныя строі, з сярпамі і са жніўнымі песнямі пайшлі на поле:

Пара, пара ў поле жыта жаць —
Каласок наліўся.
Пайду, пайду ў чыста полейка,
Салаўём зальюся.
Пара, пара, маці, жыта жаць —
Каласок схіліўся.
Пара, пара дачку замуж даць —
Жанішок з'явіўся.

Трэба нагадаць, што менавіта ў тым доме, дзе пасялілася сям'я майго таты Васіля Амялішкі, ў 30-я гады 19-га стагоддзя ў памешчыкаў Слізняў цэлы год гасцяваў пачынальнік беларускай літаратуры Ян Чачот. Гасцяваў менавіта ў тым доме, дзе жыла сям'я майго бацькі з 1929 па 1973 год. Той драўляны дом захоўваецца ў поўразбураным стане і зараз.

У час гасцявання Ян Чачот слухаў песні бортніцкіх жанчын і ацэньваў, як яны цудоўна спявалі пад час каляд, гукання вясны, Вялікаднем, на купалле, зажынкі і дажынкі. Захаваўся ліст Я. Чачота да Юзефы Слізень, у якім ён просіць паненку Юзефу запісаць гэтыя песні і прыслаць яму, каб уключыць іх у зборнік.

Калі Волька і малы я засталіся адны, дзяўчынка раптам успомніла, што яе маці прасіла выпусціць з хлява ў загарадзь курэй і падсыпаць ім ячменю аб адзінаццатай гадзіне.

Яна сказала мне:

— Мішка, вось табе цацкі. Ты пагуляй адзін. Я збегаю дадому. Мне трэба пакарміць курэй. Глядзі, нікуды ж з дому не выходзь.

Прычыніла дзверы і пабегла дадому. Адны і тыя ж гульні хутка надакучылі. Пачаў хадзіць па хаце, забыўся, пра што прасіла Волька, і як бы незнарок выйшаў у калідор, папхнуў рукамі дзверы, пераступіў парог і апынуўся на ганку. Ракам споўз з ганка па сходах і пайшоў уздоўж хаты сцежкай ля бэзу і кветніку. Выйшаў на бульбянішча, дзе расла скараспелка. Пайшоў па баразне, якая здавалася сцежкай. Дзень быў цёплы. Сонца стаяла ў зеніце, бязлітасна грэла. Шукаў паратунку ад спякоты ды рухаўся

па баразне далей, пакуль выпадкова не апынуўся ў ценю высокай грушы. Адразу адчуў прахалоду. Затрымаўся і стаў клікаць маму. Ніхто не пачуў. Прысеў. У цяньку стала ўтульней. Галоўку палажыў на бульбянішча і заснуў.

Праз нейкі час вярнулася Волька і ўбачыла, што дзверы ў дом адчынены. Устрывожылася. Пабегла ў хату. Там не знайшла «выхаванца». Зразумела. што я яе не паслухаў — кудысьці пайшоў.

«А куды ён пайшоў?» — падумала яна і пачала бегаць па панадворку. Нідзе не знайшла. Пабегла ў поле, каб як мага хутчэй сказаць маме, што Міхась прапаў.

— Я хутка прыйшла дахаты, і пачаліся пошукі, — расказвала матуля. — Клікалі, каб ты азваўся, але гэта не дапамагло. Успомніла я, што недалёка, метрах у трыццаці, ёсць студня, зруб якой быў на ўзроўні зямлі, і вырашыла: Міша пайшоў да калодзезя і там утапіўся. Я з плачам кінулася да суседзяў, каб дапамаглі знайсці прапаўшага сына. Мужчыны басакамі пачалі даследаваць дно студні — усё безвынікова. І тады я пачала плакаць прычытаючы: «О гора ж мне-е-е! Прапаў Міхаська-а!» Тым часам ты выспаўся, пачаў плакаць і клікаць: «Мама!»

Мяне пачула Волька, пабегла і крыкнула:

— Цёця Надзя! Міша знайшоўся!

Усе свабодна ўздыхнулі. Бяда мінула.

Пасля заканчэння першага дня жніва жнеі ўзялі з сабою цэлы сноп спелага жыта і з песнямі прынеслі ў хату, паставілі на покуці пад абразамі. Працоўнае свята зажынак працягвалася. У якасці заключнай часткі зажынак Васіль і Надзя дамовіліся наладзіць пачастунак жнеям, якія прымалі ўдзел у зажынках. На стале з'яўляліся ўсё лепшыя стравы, прыгатаваныя рукамі Надзеі. І, вядома ж, не абыходзілася без паўлітроўкі віна. Жнеі віншавалі гаспадароў з пачаткам жніва да самага вечара. Гучалі дажынкавыя песні. А на захадзе сонца госці разышліся па сваіх хатах, каб паспець зрабіць усё ў сваіх гаспадарках. Гэтая іх праца ў нас называлася «ўхадзіцца» — навесці парадак, каб спакойна адпачываць пасля цяжкай працы.

## 25. Пачатак касавіцы

На наступны дзень Васіль выйшаў на двор. Пачыналася касавіца. З мінулай восені ён павесіў косы ў адрыне і да сёння не звяртаў на іх увагі. Сёння вырашыў праверыць іх стан, бо знаў, што без добрых кос нарыхтаваць сена на зіму будзе складана. Было тры касы з усім рыштункам. Косы неабходна было накляпаць. Знайшоў «бабку», прымацаваў да калодкі. Потым зняў касу з касся, паклаў лязо на вострае джала бабкі і тыльнай часткай малатка пачаў кляпаць. Ад гэтай працы раздаваўся характэрны металічны

www.kamunikat.org

гук. Яго можна было пачуць з многіх сялянскіх двароў. Калі Васіль скончыў наладку кос, з пашы прыйшлі каровы, цяляты, авечкі, коні.

У Васіля быў не адзін конь. Гаспадарка была, можна сказаць, узорнай, і самому Васілю з жонкай выканаць усё было вельмі цяжка. Неабходна была чыясьці дапамога. Таму яму прыходзілася наймаць працоўную сілу, бо сам ён не спраўляўся. Пад час касьбы ён запрашаў адмысловых касцоў. Карміў іх, разлічваўся па дамоўленасці зернем ці грашыма. У наём ішлі бяднейшыя сяляне, якія мелі малавата зямлі. Падпрацоўванне памагала ім няблага карміць сваю сям'ю.

Былі такія моманты, калі ў сям'і Васіля жыла наймічка, якая дапамагала Надзі па хаце і ў доглядзе жывёлы. За сталом пад час яды ўсім хапала месца і нават тады, калі выпадкова хтосьці прыходзіў. Госця абавязкова садзілі за стол і частавалі.

Васіль быў выдатным пчаляром. Калі сялянам быў патрэбен мёд на лячэнне, маці нікому не адмаўляла. Налівала шклянку мёду, пры гэтым аніякіх грошай не брала. Так яны жылі ў згодзе з бортніцкімі сялянамі.

Сям'я Васіля і Надзі была прышлай у гэтую вёску. З грашовай дапамогай сям'і Абрамчыкаў Амялішкі набылі хутар, які аказаўся адным з лепшых у Бортніках. Хутар займаў былы цэнтр маёнтка памешчыцкага роду Слізняў з усімі пабудовамі — восем гектараў парку плюс шэсць гектараў ворнай зямлі за паркам на захадзе. Пры дзеляжы маёмасці Амялішак на сямейным савеце вырашылі пасяліць на гэтым месцы сям'ю Васіля як старэйшага сына.

Дзеці Васіля падраслі і пайшлі ў школу. Трэба было думаць, як у будучым раздзяліць гэтую зямлю на пяць частак — двум сынам, дачцэ і бацькам.

Атрымлівалася, як не круці, кожнаму ўсяго па 2,8 гектара — небагата.

Гэта хвалявала Васіля і Надзю. Каб павялічыць долю спадчыны дзецям, вырашылі дадаткова набыць яшчэ пяць гектараў ворнай зямлі.

Надзя скончыла царкоўнапрыходскую школу. Чытаць кніжак не мела магчымасці, бо хатнія клопаты па выхаванні дзяцей, а іх трэба было апранаць, карміць і даглядаць, займалі ўвесь час. Яна кожны дзень гатавала ежу для сваёй сям'і, а таксама свінням, цялятам, парасятам. Адным словам, кожны дзень суцэльнае кручельства ля печы. З яе абавязкаў не здымалася праца ў гародзе, полі, на сенажаці. Ёй трэба было не толькі працаваць у полі, але і паспець загадзя згатаваць яду, накарміць тых, хто працаваў. Трэба было ўмець згатаваць стравы такімі, каб яны былі ўсім да спадобы, каб ніхто не абгаворваў, што жонка Васіля — няўмека. Надзя была ганарыстай, і ўсё, за што яна бралася, атрымлівалася лепшым чынам. Як і яе муж, яна заўжды імкнулася да новага: і ў прыгатаванні яды, і ў іншых хатніх справах.

Уладзімір Сладкоўскі, муж яе сястры Ніны, неяк гаварыў:

www.kamunikat.org

— Надзя — вопытная гаспадыня па прыгатаванні мяса на лета. Яе каўбасы, сальцісоны, крывянкі, вантрабянкі лічацца смачнейшымі ў акрузе. І гэта, відаць, таму, што вопыт пераняты ад памешчыкаў Слізняў час пражывання сям'і Абрамчыкаў у вальнянскім маёнтку не прайшоў дарэмна.

Ад сваёй маці Юліі мая маці пераняла ўмельства ў прыгатаванні дамашніх страў. Пані Юля была знаўцам у назапашванні на зіму саленняў, марынадаў, варэнняў. У вёсцы не было прынята купляць прадукты: мяса, хлеб, пірагі. Усё гэта рабілася рукамі жанчын. І тая сям'я, якая была дбайнай, жыла заможна. А той, хто асабліва не рупіўся пра свой дабрабыт, жыў беднавата.

Праз тыдзень пасля паездкі Васіля ў Нясвіжскае лясніцтва Андрэя Таркайлу пад канвоем паліцыянта даставілі ў павятовы суд. За самавольна спілаваную сасну суд аштрафаваў яго на 25 злотых і абавязаў у двухтыднёвы тэрмін разлічыцца за нанесеную лясніцтву страту. Такіх грошай у Андрэя не было, і ён на працягу двух тыдняў не змог іх знайсці. Калі скончыўся тэрмін расплаты, да Андрэя прыйшоў секвестратар і апісаў ягонага каня, таму што ў доме не было больш нічога каштоўнага. Падняўся плач жонкі і дзяцей. Яны прасілі, каб судовы выканаўца дазволіў ім адтэрмінаваць плату яшчэ на тыдзень. Ён з просьбай пагадзіўся і пайшоў з хаты. Відаць, у яго было сэрца, якое спачувала гору. Скончыўся і гэты тэрмін. На парозе хаты зноў з'явіўся судовы выканаўца. Паколькі Андрэй грошай не знайшоў, то выканаўца надзеў каню аброць і адвёў яго ў вальнянскі пастарунак.

Васіль наводзіў парадак, не даваў спуску зладзеям. За апошнія два тыдні ён злавіў яшчэ траіх зладзеяў з розных вёсак, што межавалі з дзялкамі, якія ён ахоўваў. Складаў пратаколы. Так у ягоным абходзе быў наведзены патрэбны парадак. Самавольныя парубкі прыпыніліся.

Надыходзіла лета. Сям-там зацвітала ліпа. На каліне, рабіне з'явіліся зялёныя зародкі ягад. То там, то сям на сонечных палянах пачалі наспяваць суніцы. На арэшніку з'явіліся завязі будучых арэхаў. У лесе і на лузе з кожным днём усё больш і больш прырастала травы. Вось-вось яе трэба будзе касіць на лугах і палянах. Зязюля кукавала, пералятаючы з аднаго месца на другое. Паблізу рэк і азёр працягвалі свой цудоўны спеў салаўі.

У гэты час Надзя з дачушкай Соняй сабралася ў Храмушу — назбіраць лекавых траў. Цешыцца акаляючай духмянасцю дрэў, зацвіўшых кустоў, лясных красак, спевамі птушак, гудзеннем пчол і шмялёў яны не мелі часу. Дыхалі незвычайным лясным водарам і не звярталі ўвагі на ягоную карысць. Надзя не была адмысловым знаўцам лекавай сыравіны, але ад сваёй бабулі яна атрымала сакрэты лячэння некаторых хвароб. Бабуля навучыла Надзю загаворваць рожыстае запаленне скуры, вучыла, як нарыхтоўваць лекавыя зёлкі: зверабой, палын, піжму, сунічнік, аер і шмат чаго іншага.

Сяляне да лекараў звярталіся рэдка. У той час існавалі платныя медычныя паслугі. Візіт да доктара каштаваў не менш як пяць злотых. А гэта маглі дазволіць сабе толькі заможныя. Таму большасць пацыентаў звярталіся да

знахараў, якія лячылі травамі, загаворамі. Яны за паслугі бралі меней, таму больш была распаўсюджана народная медыцына. Яе вопыт перадаваўся з пакалення ў пакаленне. Лячыліся ў бабак, якія загаворвалі рожу, нагавор, выкарыстоўвалі зёлкі. Раны лячылі падарожнікам, крываўнікам.

Надзя збірала зёлкі, прыносіла іх дахаты і развешвала пад страхой дома ці пад паветкай. Яны павінны былі сушыцца ў цяні. Пасля, калі ўзнікала патрэба ў травах, іх ужывалі ў тых ці іншых зборах.

У Бортніках у той час жыла бабуля Аўдоля, якая выкарыстоўвала шмат чаго са сродкаў народнай медыцыны. Яна, напрыклад, лячыла дзяцей, якія хварэлі на ангіну. Той, хто прыходзіў да яе лячыцца, ведаў, што з сабою трэба мець лыжку мёду. Мёдам Аўдоля змазвала свой палец і прасіла дзіця адчыніць рот. Пальцам змазвала гланды, пасля чаго дзіця вылечвалася.

Васіль расказваў, як лячыўся ягоны дзед. Аднойчы ён захварэў і звярнуўся да доктара. Лекар выпісаў яму рэцэпт. Васіль прынёс лякарства з аптэкі. Дзед Фама паглядзеў на малую колькасць мікстуры і кажа:

— Што, гэты дохтур насміхаецца нада мной?

Выліў усю мікстуру ў шклянку і залпам выпіў.

Пасля добрага дажджу глеба атрымала дастатковую колькасць вільгаці, каб напаіць расліны вадой, а ў вадзе карысныя рэчывы разбаўляліся — засвойваліся карэннямі раслін.

Прырода ажывала.

Васіль не толькі нёс старанна сваю службу, аберагаў лес ад зламыснікаў, але і даглядаў жывёлу, якой у яго гаспадарцы было дастаткова. Яе належала карміць, каб мець добры прыбытак. Трэба было своечасова нарыхтаваць якасны корм. Селяніну Бог не заўжды спрыяе пагодным (добрым) надвор’ем. Калі праявіцца няўмельства, нядбальства, то і плён будзе страчаны. Васіль быў добра падрыхтаваны да касьбы. Спачатку агледзеў свае палеткі і памеціў тыя, дзе паспела трава. Каб справіцца з касьбой у сціплыя тэрміны, ён наймаў лепшых у акрузе касцоў. Добра іх карміў і плаціў столькі, колькі яны прасілі. Сам ён не касіў, таму што параненая ў час вайны правая рука азывалася болем. Скасіць трэба было як мага хутчэй, за дзень-два. Праз нейкі час пракосы растрэсці граблямі, каб яны пры добрым надвор’і прасыхалі. На гэтую работу прыцягваліся ўсе хатнія, акрамя касцоў.

## 26. Паездка Васіля на сустрэчу ў Мітрапольскі лес

Мінула два тыдні пасля кірмашу ў Міры. За гэты час амаль закончылася касавіца. Дастаткова назапашана грудавога сена, канюшыны, пялюшкі.

Не забыўся Васіль і пра абяцанне настаўніку з Юравіч Мацею і ягонаму сябру Міхалу. Спецыяльна рыхтавацца да сустрэчы не было магчымасці: у

гарачую пару ён увесь час быў загружаны гаспадарчымі справамі. Служба гаёвым патрабавала кожны дзень быць у абедзвюх дзялянках лесу. Звычайна Васіль хадзіў у лес пешшу. У прызначаны час ён запрог каня, узяў торбу з правіянтам, каб перамовы адбываліся з пачастункам.

— Вася, чаму ты сёння бярэш яды як на цэлую кампанію?

— Надзя, сёння ў мяне будзе сустрэча з людзьмі, з якімі я пазнаёміўся ў Міры. Нам трэба абмеркаваць многа пытанняў, а ўсялякая справа бывае больш плённай, калі чалавек не галодны.

— Глядзі, не затрымлівайся. Ведаеш, якая цяпер гарачая пара: адзін дзень увесь год корміць. Работы столькі, што няма калі носа выцерці, — пакрыўдзіўшыся, сказала Надзея.

Пры адсутнасці мужчыны ў такую гарачую пару на яе жаночыя плечы дадаткова лажыліся мужчынскія абавязкі па гаспадарцы.

— Думаю, калі не будзе крадзяжу лесу, доўга там я не затрымаюся. Ведаеш, гэта ж мая служба.

Едучы на сустрэчу са сваімі знаёмымі, Васіль пры гэтым не забыўся пра службовыя абавязкі: каб агледзець сляды фурманак магчымых парушальнікаў, Васілю трэба было праехаць спачатку вакол Храмушы, а пасля зрабіць тое ж і ў Мітрапольшчыне. Ён пралічыў, каб яму выканаць гэта, неабходна выехаць з дому а восьмай гадзіне. Натура Васіля была такая: калі абяцаў штосьці, то трэба трымаць слова і абавязкова выканаць, а калі не можаш, то пастарайся зрабіць так, каб не пакрыўдзіць чалавека. Выехаў на возе напрасткі да лесу. Спачатку праехаў праз суседні сад Лявона Яцкевіча, які зелянеў яблыкамі велічынёй з грэцкія арэхі, і падумаў, што будзе багаты ўраджай. Былі тут розныя гатункі. Усё гэта багацце, утворанае людскімі рукамі, прыносіла асалоду тым, хто гэта бачыў. А большае задавальненне меў гаспадар, рукамі якога ўтвораны гэты цуд. Восенню крамяныя яблыкі будуць адвезены на рынак і дадуць гаспадару добры прыбытак.

Сад скончыўся. З левага боку з’явіўся грудавы сенакос, а справа — збажына. На прыгорку стаяў вятрак Яцкевіча, які аздабляў мясцовасць, махаючы сваімі крыламі. Васіль па-добраму зайздросціў суседу. Падумаў, як умела ён выкарыстоўвае дармавую энергію ветру і атрымлівае прыбытак у гаспадарку — меле збожжа не толькі сваё, але і людзям, якія вязуць у млын, каб атрымаць муку за адпаведную плату зернем. Працаваў вятрак толькі тады, калі быў моцны вецер. А калі сціхаў, то крылы прыпыняліся, а млынар адпачываў ці працаваў на гаспадарцы. Каштоўным у суседа было тое, што ён навучыў свайго старэйшага сына Барыса выконваць абавязкі млынара. Барыс з гэтымі абавязкамі спраўляўся паспяхова. Вецер дастатковай моцы вымушаў круціцца крылы ветрака і круціць жорны, якія малолі зерне. Механічная энергія ветру ператваралася ў механічную энергію руху ўсіх прылад млына, у тым ліку і жорнаў, якія і малолі зерне — пераўтваралі яго ў муку.

www.kamunikat.org

Пад'ехаўшы да лесу, Васіль уважліва агледзеў свежыя сляды. Праехаў павольна да павароту дарогі, якая пралягала праз лес з вёскі Стайкі ў Вольну, павярнуў да лесагадавальніка, дзе ён звычайна затрымліваўся. Прывязаў каня да агароджы, абышоў гадавальнік, пацікавіўся, як растуць маладыя саджанцы. Заўважыў, што з паяўленнем цяпла ў гадавальніку буйна пачало расці зелле, якое належала ў бліжэйшыя часы прапалоць. Дзеля гэтага трэба наняць некалькі жанчын. Гэта трэба зрабіць у бліжэйшыя дні. Такую працу Васіль выконваў кожны год: у яго было з дзясятак жанчын, якія ахвотна ішлі на такую працу, бо лясніцтва добра ім плаціла. Ад гадавальніка паехаў да пасеваў збажыны. Лясніцтва тут жа, побач з гадавальнікам, выдзяляла два гектары зямлі лесніку. Усё было добра, нішто не выклікала трывогі. Пасля той трагедыі, якая адбылася з Янам Лісніцкім, кожны гаёвы насіў з сабою рэвальвер і меў права прымяняць зброю, калі на яго быў напад. Сёння на падазроных месцах доўга не затрымліваўся — спяшаўся ў Мітрапольскі лес на сустрэчу. Прагледзеў усе свае асноўныя дзялянкі, на якія заўсёды звяртаў асаблівую ўвагу. Прыехаў у Мітрапольскі лес, уважліва агледзеў, ці няма слядоў, якія б ішлі ад лесу. Да сустрэчы заставалася больш як гадзіна часу. Вырашыў заехаць да свайго лепшага сябра Адася Рудамана, які цяпер жыў на хутары непадалёку вёскі Росашы побач з Мітрапольскім лесам.

Пад'язджаючы, заўважыў, што на палетку ля сядзібы Адася ідзе поўным ходам касьба канюшыны, а сам Адась падглядае вуллі. Ён меў добрую пасеку. Заехаў у панадворак. Да яго падышоў Адась з сеткай ад пчол на галаве, прывітаўся і пажартаваў:

— Васіль, ты што ў такі гарачы час блудзіш?

— Хацеў бы з табой параіцца, — адказаў Васіль. — Ці ведаеш ты Юравіцкага настаўніка Мацвея Чэчата? Ён жа недалёка ад цябе працуе, у Юравічах вучыць дзяцей.

— Не, я з ім амаль незнаёмы, ды і якія ў мяне справы да яго? — адказаў пытаннем на пытанне Адась. — У мяне ж зараз школьнікаў няма, як у цябе.

— Адась, скажы, ці не шкадуеш ты, што пакінуў Вольну? Тут жа такая глуш.

— Не, што ты. Тут такі прастор, цішыня. Я не ведаю лепшага месца пчолам, яны тут маюць удосталь усяго. Поруч твой лес. Ты ж не забароніш ім туды ляцець і знаходзіць сабе здабычу. Спадзяюся, што ты за гэта штрафаваць мяне не будзеш? — сказаў Адась пасмейваючыся.

— Адась, хопіць жартаваць.

— Не крыўдуй на мяне, ты ж мяне ведаеш. Я без жартаў не магу. А чаму, Васіль, ты пытаешся пра Мацея Чэчата?

— Справа ў тым, што я два тыдні таму пазнаёміўся з ім у Міры. Таму я хацеў бы даведацца, што гэта за чалавек і ці варта з ім весці размову.

— Не, я з ім не сустракаўся і не меў такой сардэчнай бяседы, як ты.

На гэтым іх гутарка скончылася. Васіль сказаў:

— Мне пара, — і яны развіталіся.

Васіль прыехаў на месца, глянуў на гадзіннік — 11 гадзін і 55 хвілін — і заўважыў, што на адлегласці з паўкіламетра па Юравіцкай дарозе ідуць яму насустрач двое мужчын. «Так і ёсць, я думаў, што сябра Мацея Міхась абавязкова прыедзе сюды».

З'ехаў на абочыну і затрымаўся ля дуба, чакаў. Постаці з набліжэннем павялічваліся, і неўзабаве Васіль мог упэўніцца, што гэта Мацей і Міхась. Васіль падумаў: «Якія пунктуальныя мае новыя знаёмыя». У яго свядомасці падмацоўвалася павага да сваіх новых знаёмых, з якімі ён выпадкова пазнаёміўся два тыдні таму. Праз некалькі хвілін яны падышлі да воза.

— Добры дзень, пане Базылю! — І яны паціснулі рукі адзін аднаму. — Ці доўга вы чакаеце нас? — спытаў Мацей.

— Не, што вы, не прайшло і пяці хвілін, як я прыехаў. Па дарозе праверыў свае дзялянкі лесу, наведаў свайго сябра, з якім сталярнічалі ў пані Слізнёвай пасля вайны — рабілі вокны. Майго сябра завуць Адась Рудаман, ён жыве недалёка адсюль, на хутары вёскі Росашы. Мабыць, вы яго ведаеце. Адась нядаўна пераехаў сюды з Вольнай, набыў свой хутар, збудаваў дом і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Ён займаецца пчалярствам. Мы з ім абменьваемся здабытымі навінамі ў гадоўлі і развядзенні пчол. Ён добры сталяр, і калі мне неабходна змайстраваць вулей новай канструкцыі, гэта я даручаю яму, таму што ў гэтай справе няма лепшага майстра ў бліжэйшай акрузе. Але ж гэта між іншым. Мы з вамі сустрэліся, каб пагаварыць аб іншых справах.

— Нічога, я мяркую, што пачуў ад вас не лішняе, — сказаў Мацей, — зараз я дакладна ведаю, дзе мне купіць мёд на зіму. Ведаю, што Адась Рудаман надзейны чалавек і выдатны сталяр, а гэта мне можа спатрэбіцца.

— Я таксама сталяр, — сказаў Васіль, — маю адпаведную тэхнічную адукацыю. Вымушаны шчыра прызнацца, па-першае, што ў мяне не ляжыць душа да сталярнай работы, а па-другое, у сувязі са сваёй пасадай я цяпер настолькі заняты, што мне прыходзіцца больш за ўсё выконваць паліцэйскія функцыі: лавіць зладзеяў, якія лічаць, што маюць права ісці ў лес і высякаць дрэвы, якія ім спадабаліся. Лясніцтва патрабуе, каб я знаходзіў гэтых людзей, складаў пратаколы і аддаваў іх у суд, а суд, як вядома, жорстка карае за крадзеж лесу. І вось тут узнікаюць крыўды, я нажываю сабе ворагаў, можна чакаць помсты. Вам, магчыма, ведама, што ў пяцідзесяці кіламетрах ад Нясвіжа, у Замоссі, адбыўся трагічны выпадак.

І Васіль падрабязна расказаў ім пра Янаў лёс.

— Ад нападу бандытаў ён не мог абараніцца, бо не меў зброі, — дадаў Васіль. — Пасля гэтай трагедыі ўсім гаёвым, у тым ліку і мне, выдадзена зброя — пісталет з баявымі патронамі, і калі хто нападае ці пагражае, нам дадзена права абараняцца. Вось і ў мяне адбыўся такі выпадак у гэтым лесе.

www.kamunikat.org

Неяк раніцай я заўважыў, што ўкрадзена сасна, папілавана на кавалкі. След прывёў мяне ў вёску Мітрапольшчына. А калі я прыйшоў у двор аднаго з хутароў і звярнуўся да гаспадара, каб ад камля сасны адпілаваць узор і потым параўнаць яго з пнём у лесе, дык гаспадар схапіў сякеру і кінуўся на мяне. Тут я імгненна выхапіў пісталет, і толькі тады ён супакоіўся. Вось так, зброя абараняе жыццё гаёвых ад нападу бандытаў. Мне здаецца, пане Мацею, настаў час пачаць бяседу, якую мы не скончылі, едучы ў Мір.

— Усё, што вы мне расказалі, мяне ўзрушыла. Ёсць жа сярод нас людзі, якія гатовы на забойствы. Тое, што ўрад Польшчы прыняў пастанову ўзброіць гаёвых, я лічу справядлівым. На жаль, не ўсе гэта разумеюць, адсюль і помста, якая пераносіцца на гаёвых. З гэтым нічога не зробіш. Цяпер адносна пытання, што дзеецца на свеце і ў нашым краі. Наш памежны рэгіён багаты на перабежчыкаў з-за мяжы. Ёсць шмат ахвотнікаў адысці на ўсход і ўладкавацца там на працу. Ідуць і не ведаюць, які лёс там іх чакае. Не так даўно наведаў мяне мой сябра, перабежчык з усходу. Яму нейкім чынам удалося перайсці мяжу. Некалі мы разам з ім вучыліся ў Нясвіжскай семінарыі, і ён мне расказаў аб жыцці на ўсходзе Беларусі. Дык вось што ён мне тлумачыў.

«Рэвалюцыйны ўздым працягваўся да 24-га года, а пасля пачаліся перамены. Па смерці Ульянава-Леніна пачаўся нацыянальны ўціск беларусаў і тых людзей, якія набылі зямлю, займелі гаспадарку і зажылі заможна. Цяперашняму правадыру камуністаў генсеку партыі спатрэбілася перанесці ідэю пабудовы камунізму на ўвесь свет. Спярша ён вырашыў пабудаваць камунізм у СССР. А дзеля гэтага патрэбны грошы, і немалыя. А дзе іх узяць? І ён аддае антызаконны загад сваім карным аддзелам ДПУ сілай адабраць золата, якое ахвяравалі прыхаджане царкве. Але гэтага аказалася мала, і карныя аддзелы пачалі забіраць залатыя рэчы і царскія залатыя рублі, якія ў свой час былі ў абарачэнні.

А рабілася гэта вось як. Прыходзілі ў хату дэпэушнікі і казалі гаспадару: «Нам стала вядома, што вы ў свой час набылі шмат золата як у творах мастацтва, так і ў рублях царскай чаканкі. Выйшаў указ урада гэтае золата здаць добраахвотна на карысць пабудовы камунізму». Калі ўладальнікі золата і мастацкіх вырабаў з яго адмаўляліся выканаць гэтае распараджэнне, то рабіўся вобыск, знойдзеныя каштоўныя рэчы і валюта ў залатых рублях канфіскоўваліся. А калі яны не знаходзілі нічога, дык гаспадара арыштоўвалі і катавалі (забаронай сну), учынялі такі гвалт, што многія падследныя лічылі за лепшае аддаць сваё багацце і застацца ў жывых. Былі і такія выпадкі, як гэта было са знаёмым: ён вытрымаў катаванні, і праз нейкі час яго адпусцілі з умовай прынесці золата, здаць дзяржаве. Ён абяцаў падумаць. А калі ён апынуўся на свабодзе, то пачаў думаць, як яму ўцячы з гэтага «раю». Узяў свае каштоўнасці і пайшоў да мяжы з Польшчай, заплаціў праваднікам і перайшоў мяжу. Так ён апынуўся

ў маёй хаце. Акрамя таго, ён мне расказаў пра тое, што пачалася кампанія супраць нацыянальных дэмакратаў (нацдэмаў).

— Пане Мацею, аб гэтым мне стала вядома, калі гутарыў з адным перабежчыкам, якога сустрэў у Храмушы, у дзялянцы лесу побач з вёскай Вольнай.

І Васіль расказаў аб той размове, якую меў з Сямёнам Яўтухом, што, па ягоных словах, таксама вучыўся ў Нясвіжскай семінарыі пры цары.

— Вось дзіва, я памятаю яго добра. Ён вучыўся на трэцім курсе, калі я паступіў у семінарыю.

— І куды ён пайшоў? — спытаў Мацей.

— Прасіў паказаць яму бліжэйшую дарогу да Гарадзішча. Там ён меў знаёмага.

— Я хацеў бы дадаць, што мне становіцца зразумелым, як бальшавіцкая ўлада будуе сваю палітыку, — падтрымаў размову Міхал Кот. — Галоўным чынам, адкінуўшы ўсялякія маральныя нормы, правы чалавека на ўласнасць, якія ўсталёўваліся вякамі, а можа, нават тысячагоддзямі, канфіскавалі зямлю і адкінулі тысячагадовую веру людзей у Бога. Адабраўшы зямлю ў сялян, пераўтварылі іх у рабоў. Бо калі чалавек траціць уласнасць, то становіцца залежным ад таго, хто дазваляе яму працаваць на агульнай зямлі — ад бюракратычнага кіраўніка. Я калісьці чытаў, што досвед тых, хто марыў пабудаваць камунізм на агульных пачатках, калі ўсё абагульнялася, выпрабоўваўся ў асобных абшчынах на Захадзе. І гэтыя спробы заўсёды заканчваліся развалам гаспадарак, якія спрабавалі ўтварыць калектыўнае жыццё.

— Такі стан можна тлумачыць тым, што не кожны чалавек здольны да цяжкай сялянскай працы, — прадоўжыў Мацей. — Людзі ад прыроды надзелены Богам рознымі схільнасцямі ў выбары сваёй будучай спецыяльнасці. А што робяць будаўнікі камунізму? Яны раяць селяніну адмовіцца ад нажытай уласнасці. Абагуліць усю нажытую вякамі маёмасць: зямлю, гаспадарчыя забудовы, коней, рагатую жывёлу, свіней і птушак — і працаваць пад кіраўніцтвам старшыні, абранага калектывам. Якая можа быць схільнасць да пабудовы камунізму ў селяніна, калі ў яго забіраюць нажытую маёмасць і прымушаюць рабіць тое, да чаго ў яго не схільная душа? Былы гаспадар траціць магчымасць самастойна распараджацца сваёй маёмасцю. Атрыманай прадукцыяй цяпер распараджаецца старшыня калгаса. Ён цяпер па ўсіх гаспадарчых пытаннях павінен прасіць у старшыні дазволіць яму рашыць нават дробязнае пытанне. Напрыклад, узяць фурманку, каб адвезці хворага да доктара. Калгаснік траціць магчымасць самастойна распараджацца прадукцыяй, выробленай ім. Таму са з’яўленнем агульных гаспадарак вытворчасць прадукцыі падае, людзям у калгасах менш плацяць, чым раней той жа ўласнік плаціў сваім парабкам. І паступова план пабудовы калгасаў церпіць крах. Наступае голад.

Бальшавікі разумеюць, што ў іх не ўсё ідзе на лад. Вытворчасць прадукцыі скарачаецца, жыццёвы ўзровень насельніцтва не паднімаецца, а падае. Гэтаму спрыяюць памылковыя, не зразумелыя навацыі ў гаспадарцы. І каб прыйшло разуменне іх памылковасці, патрэбны пэўны час. А за гэты час Польшча, прытрымліваючыся прыватнай уласнасці, развіваецца натуральным шляхам — ствapae людзям лепшыя ўмовы жыцця, прынамсі, таго голаду, які назіраецца ў Саветах, у нас няма. Таму, каб людзі з другога боку мяжы не даведаліся праўды пра цяжкае матэрыяльнае становішча там, дзе кіруюць бальшавікі, Саветы прыдумалі ўзмацніць ахову граніцы. Пратэсты сялян супраць бальшавіцкіх новаўвядзенняў жорстка караюцца. Той, хто асмельваўся выказаць незадавальненне бальшавіцкім кіраўніцтвам, аб'яўляўся ворагам не ўрада, а менавіта народа і пападаў у ГУЛАГ.

— І заўважце, пан Базыль, — прадоўжыў Міхал Кот, — што нягледзячы на адмоўны вопыт пабудовы камунізму ў мінулым і зараз ў СССР, партыя, а значыць, і ўрад, абавязвае надалей будаваць калектыўныя гаспадаркі ўсюды. Гэтую недарэчнасць можна параўнаць з хваробай, якую лечаць не тымі лекамі, якія патрэбны ў дадзеным выпадку. У капіталістычных краінах, дзе ўласнасць законам забяспечана, ёсць магчымасць выпраўлення памылак ці, як іх называюць, складанасцяў. У СССР правіць адна партыя бальшавікоў, а іншых партыяў, якія б указалі на памылковасць выбранага шляху, няма. Іх аб'явілі ворагамі народу і ліквідавалі. Вось такі стан у краіне, дзе кіруе адна партыя. Памылкі, зробленыя ёю, своечасова не выпраўляюцца, а стан сельскай гаспадаркі паступова прыходзіць у заняпад, і рана ці позна гэта прывядзе да выбуху, але гэта будзе не хутка. І тады паўстане пытанне, як па ўзроўні жыцця дагнаць капіталістычныя краіны, а пабудова камунізму ў сусветным маштабеператворыцца ў прывід. І прыйдзецца вяртацца да таго, ад чаго адштурхнуліся.

— З другога боку, — уступіў у бяседу Мацей, — мы бачым, што цяперашнія кіраўнікі СССР у сваёй палітыцы абапіраюцца на хлусню, што ў СССР лепшае жыццё, лепшае жыццёвае забеспячэнне, роўнасць паміж усімі слаямі людзей, лепшая навука, лепшая культура і шмат чаго іншага. Па вялікім рахунку, усё гэта ў сваёй большыні хлусня. Каб схаваць цяжкі стан у забеспячэнні насельніцтва хлебам і іншымі прадуктамі, даводзіцца выкручвацца, хлусіць, але ж, як кажуць у народзе, у хлусні кароткія ногі. Нашы сяляне паверылі ў свой час бальшавіцкай агітацыі, і гэтая вера так засела ў іх галовах, што яны зараз хацелі б жыць у СССР, таму і пераходзяць мяжу і застаюцца там. А іх затрымліваюць аддзелы ДПУ. Арыштоўваюць і высвятляюць, хто яны такія. Следства вядуць неаб'ектыўна, без адваката. Загадзя лічаць арыштаванага шпіёнам суседняй дзяржавы. Катаваннямі дабіваюцца, каб арыштаваны сазнаўся, што ён сапраўды шпіён. Катаванні бываюць настолькі бязлітаснымі, што арыштанту лягчэй агаварыць сябе і загінуць, чым цярпець такія жахлівыя пакуты. Кат выносіць прысуд:

расстраляць, і невінаваты чалавек знікае. Колькім маладым хлопцам з Заходняй Беларусі прышлося добраахвотна развітацца з жыццём? Пакуль невядома. Калі падследнаму ўдалося вытрымаць пабоі катаў, то яго судзяць, адпраўляюць у ГУЛАГ: невінаваты пераўтвараецца ў раба.

— У мяне была сустрэча ў лесе з такім чалавекам, які вяртаўся дахаты, — пачаў бяседу Васіль. — Ён ішоў лесам, і я яго затрымаў. — Васіль расказаў аб сустрэчы са Зміцерам Філіпчыкам.

— Справа не толькі ў шпіянажы, — уступіў у бяседу Міхал Кот, — прышлыя праз мяжу пападаюць у іншае асяроддзе, можна сказаць, што яны прыйшлі з больш дэмакратычнага ладу, чым у БССР. Яны спадзяваліся ўбачыць квітнеючую краіну, пра якую ім расказвалі савецкія агітатары. Убачылі, што людзі тут жывуць значна бядней, чым у іх на радзіме. У крамах амаль пустыя паліцы. Пра гэта яны гаварылі знаёмым усходнікам, а гэта было небяспечна для савецкай улады, бо развейваўся міф Саветаў пра перавагу сацыялістычнага ладу над капіталістычным. Цяпер старанна вылоўліваюць тых, хто цяпер пераходзіць мяжу, і тых, хто ўладкаваўся на працу, але раней перайшоў нелегальна граніцу, абвінавачваючы іх у шпіянажы. Арыштоўваюць і адпраўляюць у спецыяльныя лагеры. У той жа час цікава і тое, што гэтыя людзі ніякіх злачынстваў не здзяйснялі. Віна іх была толькі ў тым, што яны шукалі лепшай долі, а папалі ў недэмакратычную дзяржаву з таталітарным рэжымам.

— Я атрымаў ад вас столькі новых ведаў, — сказаў Васіль, — пра якія раней нават і не здагадваўся. Мае веды аб сучасным становішчы ў СССР папоўніліся. Мы сталі цяпер бліжэйшымі ў нашых поглядах.

— Мы, — сказаў пан Мацей, — верым вам і вашым назіранням. Знаем, што большасць нашых сялян, і не толькі сялян, пакуль што вераць бальшавіцкім байкам, і, відаць, як вы гэта трапна заўважылі, гэты падман не хутка адкрыецца. З гэтым падманам яны будуць жыць доўга. Нашы людзі даверлівыя. Калі засланы Саветамі агітатар пераканаўча хлусіць, яны вераць і з гэтай верай ідуць шукаць лепшай долі. Трэба мець добрыя адваротныя доказы хлуслівым абяцанкам, каб у іх галаве адкрыўся падман. На жаль, падман дзеля большыні ашуканых раскрываецца тады, калі нічога зрабіць ужо немагчыма — прыходзіцца расплачвацца жыццём ці, у лепшым выпадку, катаржнымі работамі ў спецыяльных лагерах. Шмат нашых людзей становяцца заблуднымі.

— А цяпер я прапаную пад'есці, — прапанаваў Васіль сваім сябрам, — а то мы гутарым, ды так, што ў горле перасохла. Я захапіў з сабою ўсё, што мы маем у гаспадарцы.

Яны знайшлі пень, падаслалі невялікі настольнік, які прадбачліва прыхапіў Васіль, разлажылі яйкі, вяндліну, сала, хлеб і пачалі частавацца на свежым паветры. Некалькі хвілін елі моўчкі, таму што добра прагаладаліся.

Сонейка схілялася да гарызонту, птушкі ў лесе спявалі на поўную моц. Недалёка працякаў ручай, берагі якога параслі алешнікам. Салаўі там ўчынілі канцэрт, які гучаў на ўвесь лес. У гэтым канцэрце немалаважную ролю адыгравала зязюля, дапаўняючы салаўіны спеў сваім адвечным «ку-ку».

— Вось чуеце, пан Базыль, які канцэрт нам арганізавалі птушкі, — сказаў пан Міхал Кот.

— Такі канцэрт я чую кожную вясну ў дзялянках лесу, і гэтыя спевы не пакідаюць мяне абыякавым. Больш, я шчыра вам скажу, адной з прычын маёй згоды служыць гаёвым была мая любоў да лесу, у тым ліку і да птаства, насяляючага лясную прастору. Да ўсяго жывога, што жыве ў гэтым цудоўным асяроддзі, я стаўлюся з любоўю. Люблю назіраць не толькі за дрэвамі, а і за падлескам, living рознымі раслінамі, асабліва ў травеньскую пару, калі ўсё вакол цвіце. Знаю, дзе і якія расліны займаюць свае месцы, дзе яны любяць расці, дзе растуць лугавыя ці лясныя краскі, лекавыя зёлкі. Я не разумею тых людзей, якія да ўсёй гэтай прыгажосці ставяцца толькі па-спажывецку. З агідай стаўлюся я да людзей, якія зрываюць і тут жа кідаюць лісце ці галіны дрэў. Усё жывое разглядаю як штосьці дадзенае нам Усявышнім, каб чалавек усім гэтым захапляўся і выкарыстоўваў. Разглядаю дрэвы, падлесак, расліны і нават звычайную траву як жывое, што неабходна берагчы не толькі ва ўласных інтарэсах, але і ў агульных.

А яшчэ мне хацелася б паразважаць на тэму, якую мы даволі глыбока закранулі. Я хачу высвятліць і сам разабрацца, чаму за мяжой дзейнічае такая жорсткасць, чаму бальшавікі будуюць сацыялізм і абвяшчаюць, што іх мэта — пабудова бяскласавага грамадства.

— Усе людзі па сваёй прыродзе розныя, — тлумачыў Мацей, — адны працавітыя, другія менш зацікаўлены ў цяжкай працы. Іх Боскае назначэнне займацца чымсьці іншым, яны не здольныя займацца цяжкай сялянскай працай. Ім лягчэй дасканала выконваць адну з работ, ну, скажам, шыць боты; другім — гадаваць пчол; трэцім — працаваць рымарам (шыць коням збрую). Вось гэтыя людзі, калі іх сілком прымушаюць быць гаспадарамі, на гэта не здольныя. Душа іх не ўспрымае нелюбімай працы. Іх гаспадаркі прыходзяць у заняпад, бяднеюць, а самі яны часта співаюцца.

Сярод нас ёсць людзі, якія маюць здольнасці, глыбока спасцігаюць навукі, яны ідуць у настаўнікі, зарабляюць свой хлеб тым, што вучаць дзяцей, як гэта робім мы з панам Міхалам. Ёсць такія, але іх мала, якія здольныя складаць вершы, пісаць кнігі. Я гэтым хачу падкрэсліць, што загнаць усіх у калектыўную гаспадарку сілком і прымушаць працаваць у імя светлай будучыні немагчыма, нічога з гэтага не атрымалася і не атрымаецца. Тым больш, што бальшавікі зразумелі, што пабудаваць камунізм немагчыма толькі адной хлуслівай агітацыяй, таму што шмат людзей не вераць у «светлую будучыню», таму яны вырашылі будаваць камунізм сілком. Аднак з гэтага нічога не атрымліваецца. Людзі — не простыя

вінцікі машыны, а кожны чалавек — асоба, якая мае сваю галаву. Яны бачаць, як жывуць цяпер у параўнанні з тым, як жылі пры цары. Да таго ж ёсць перабежчыкі, якія паверылі бальшавікам, перайшлі мяжу і жывуць там, у БССР. Яны небяспечныя рэжыму тым, што праўдзіва апавядаюць пра жыццё ў нас.

— Перабежчыкі ідуць, пераважна хаваючыся па лясах. Адзін з перабежчыкаў расказаў мне пра тое, што зараз у СССР адбываецца штосьці незразумелае. Чалавека там лёгка арыштоўваюць па любому ілжываму даносу. У гэтым выпадку абвінавачваемага выклікаюць да следчага і патрабуюць ад яго прызнання. А калі ён не прызнаецца, то яго арыштоўваюць і вядуць допыты з прымяненнем фізічных мер уздзеяння, і ён пападае ў ГУЛАГ. У гэтым выпадку ён лічыцца ворагам народа. Карныя органы патрабуюць, каб ягоная сям'я — жонка, дзеці і бацькі — лічылі яго таксама ворагам народа і адмовіліся ад яго. Калі сям'я не адмаўляецца, яе таксама залічваюць у ворагі, рэпрэсуюць. А калі сям'я пагаджаецца з гэтым езуіцкім патрабаваннем, то жонка павінна разарваць шлюб з «ворагам народа». І тады асуджаны пападае ў ГУЛАГ. Ад яго адмаўляюцца блізкія, чалавек знікае. Бальшавікі судзяць чалавека толькі за тое, што ён скажа: «Я супраць савецкай улады». Бальшавікі масава распраўляюцца з людзьмі і іх сем'ямі, якія ў грамадзянскую вайну ваявалі супроць іх. Іх арыштоўваюць, а сем'і высяляюць ў мясціны, мала прыгодныя для жылля: Сібір, Казахстан і інш.

Пан Мацей, вось вы працуеце настаўнікам паўшэхнай школы на польскай мове, вучыце сялянскіх дзяцей не на іх роднай мове. Працягваецца асіміляцыя літвінаў палякамі. Як вы лічыце, гэта справядліва? Чаму ў нашым краі мы не вучым дзяцей на ліцвінскай мове?

— Гэтыя пытанне, пане Базылю, больш палітычнае. Спачатку пан Пілсудскі абяцаў мясцоваму люду займець школы на сваёй ліцвінскай мове. І сапраўды, мы мелі некалькі гімназій, якія працавалі на беларускай мове: Віленская, Клецкая, Гарадзенская, Свіслацкая і іншыя. З гэтых гімназій засталася зараз толькі Віленская, астатнія ў апошнія гады зачынены. Палякі абвінавацілі гэтыя гімназіі ў тым, што яны пад уплывам агітацыі з усходу выхоўвалі моладзь у бальшавіцкім духу. Таму іх зачынілі. Відаць, з цягам часу будзе зачынена і Віленская. Сапраўды, моцны ўплыў агітацыйнай машыны суседзяў з усходу і падтрымка большасці мясцовай беларускай інтэлігенцыі ідэй бальшавізму прымусіла польскія ўлады зачыніць гэтыя школы. Школа была ўцягнута ў палітычныя гульні, якія былі не на карысць польскай дзяржаве. Мы, тутэйшыя, знаходзімся пад асіміляцыйным уплывам з 1696 года, з тых часоў, калі ў Рэчы Паспалітай была забаронена беларуская (ліцвінская) мова ў школах. З тых часоў пачалася асіміляцыя беларусаў палякамі. Тыя, хто меў магчымасць і хацеў набываць веды, вымушаны былі вучыцца на мове суседняй дзяржавы. Таленавітая і заможная моладзь з ВКЛ вучыцца і выхоўваецца на польскай мове, а з за-

хопам Кацярынай II нашага краю моладзь, якая мае неабходныя сродкі, вучыцца на расейскай мове. І так мы бачым, што больш як трыста гадоў ліцвінская моладзь адлучана ад ліцвінскага (беларускага) навучання на роднай мове. Таму не трэба здзіўляцца тым, хто забыўся на сваю родную мову, асіміляваўся і свабодна карыстаецца адной з моў суседніх дзяржаў.

Пачало шарэць, гэта было знакам, каб закончыць сустрэчу. Васіль падзякаваў Мацею і Міхалу за цікавую гутарку і, цёпла развітаўшыся з сябрамі, паспяшаўся ад'ехаць дахаты, Перад гэтым ён прапанаваў падвезці сяброў у Юравічы. Аднак пан Мацей сказаў:

— Мы сядзелі амаль палову дня, цяпер нам будзе карысна прайсціся. Тым больш, што ісці недалёка. — І яны развіталіся.

## 27. Успаміны пра перасяленне сям'і Васіля на хутар Бортнікі

Васіль з Надзеяй і дзецьмі, двухгадовым Мікалаем і двухтыднёвым Міхасём, у канцы траўня 1929 года пераехалі на сталае жыццё і пасяліліся ў цэнтры былога памесця вымерлага роду бортніцкіх Слізняў. Пераехалі з вёскі Вольнай, дзе яны жылі разам з дзедам Андрэем і ягонай сям'ёй. Добрых умоваў для пастаяннага пражывання ў тых нежылых панскіх харомінах не было. Нягледзячы ні на што, малое дзіця трэба было штодзённа купаць. Каб гэта зрабіць, патрэбна было нагрэць на пліце чыгун вады, аднесці да калодзежа, які быў ад дома на адлегласці трыццаці метраў, бо на дзядзінцы ля дома калодзежа не было. (Калодзеж быў выкапаны на дзядзінцы насупраць дома значна пазней, калі я пачаў наведваць школу.) Купалі Міхася каля калодзежа ў драўляным карыце, з якога звычайна паілі жывёлу. Балазе стаяла цёплае надвор'е.

Памешчыцкі парк плошчай восем гектараў пры продажы быў выразаны, а дрэва прададзена мясцовым сялянам па загадзе вальнянскіх Слізняў. Як толькі агалілася былая плошча парка, ніякавата было пазіраць на пустэчу, бо ад былога парка засталіся толькі пні. Аднак з цягам часу па ўсім парку пачалі шпарка расці маладыя парасткі тых жа парод дрэў.

Гэтыя каштоўныя пароды дрэў завозіліся панамі Слізнямі сюды сто гадоў таму з іншых краёў. Парасткі Васіль наўмысна не выразаў, а пакідаў, каб адбылося ўзнаўленне парка. Між пнямі добра расла трава. Васіль і ягоны бацька Андрэй своечасова касілі яе — рыхтавалі сена жывёле.

Пні існавалі доўгі час і запомніліся мне тым, што на пнях і паблізу іх багата расло грыбоў, асабліва апенек. Там я ўпершыню пазнаёміўся з гэтымі цудоўнымі грыбамі.

Мы з братам Мікалаем збіралі іх у лазовыя кошыкі, неслі на кухню. Разам з мамай перабіралі, ачышчалі ад смецця, абмяркоўвалі, хто з нас

больш знайшоў прыгажэйшых грыбоў. Захапляліся іх цёмна-карычневымі афарбоўкамі ў розных тонах і адценнях. Гэта быў нам самы цікавы занятак. Кончыўшы пераборку, мама іх смажыла на свіным тлушчы з цыбуляй. Нам гэтая яда здавалася найсмачнейшым ласункам.

З далёкіх трыццатых гадоў мне запомніліся такія радкі невядомага мясцовага паэта, якія, пасмейваючыся, дэкламаваў мой бацька:

Дзед пайшоў па грыбы,
Баба па апенькі.
Дзед свае пасушыў,
Бабіны сырэнькі.

Раслі ў парку грыбы: падбярозавікі, чырвонагаловікі, свінушкі, сыраежкі, але самымі карыснымі, мне здавалася, былі апенькі. На жаль, там не раслі баравікі, відаць, таму, што яны спадарожнікі елак ды соснаў. Баравікі ў грыбную пару мы знаходзілі пад елкамі, якія раслі на поўдзень ад яблыневага сада Льва Яцкевіча.

На лузе, дзе пасвіліся каровы, расло шмат шампіньёнаў, аднак у тыя гады мы іх не ведалі, таму і не бралі — лічылі атрутнымі.

Васіль пасля сямейнага дзеляжу атрымаў увесь хутар Бортнікі. Ягоная сям'я пасялілася ў тым месцы, аб якім Васіль і Надзя марылі ў дзевятнаццатым годзе. Васіль набыў цэнтр былога панскага двара за грошы, якія ён зарабіў гаёвым на працягу дзесяці гадоў, за Надзін пасаг і бацькоўскую спадчыну. Там былі два старыя аднапавярховыя драўляныя дамы, памерам болей за сто квадратных метраў кожны. Між імі быў круглы дзядзінец, радыусам каля дзесяці метраў, абсаджаны каштанамі, узрост якіх быў каля сотні гадоў. Пры продажы каштаны, на шчасце, не былі выразаны. Аднак у лютыя зімы 1939–1940 гадоў яны амаль цалкам вымерзлі. Засталіся лічаныя экземпляры на заходняй частцы поруч з былым пчальнікам. У паўднёвым доме кватаравала панская абслуга, а ў паўночным — паны Слізні.

Бортніцкі маёнтак, ягоныя будынкі працяглы час заставаліся без рамонту. Пасля смерці апошняга Слізня маёнтак па спадчыне перайшоў ва ўласнасць вальнянскім Слізням. Дамы і ўсе гаспадарчыя пабудовы пачалі разбурацца. Гэтаму паспрыяла Першая сусветная вайна. Пад час яе ўвесь парк быў перакапаны акопамі і салдацкімі зямлянкамі. Сляды іх засталіся і па сёння. Калі сям'я Васіля пераехала ў Бортнікі, то Васіль вымушаны быў займацца рэстаўрацыйнымі работамі паўночнага дома, дзеля таго, каб там можна было жыць з сям'ёй. Васіль першачаргова рабіў у гаспадарцы тое, што, па яго разуменню, трэба было зрабіць неадкладна, а што магло пачакаць — адкладвалася. Цалкам былы панскі дом і да сёння капітальна не адрамантаваны. Самай высокай пабудовай у бортніцкім маёнтку была цагляная альтанка. Яе пры продажы разабралі на цагліны. Ад альтанкі на сёння захаваўся толькі часткова падмурак. Між дзядзінцам, на ўсходзе

www.kamunikat.org

агароджаная часткова каштанамі, былой вайсковай зямлянкай з поўдня, падмуркам альтанкі на захадзе, а на поўначы кустамі рознакаляровага бэзу, існавала пляцоўка, на якой Васіль размясціў пчальнік, дзе да 1939 года меў каля дваццаці чатырох сямей. Астатнія гаспадарчыя забудовы былога маёнтка Бортнікі захаваліся ў маёй памяці як падмуркі, сляды якіх можна ўбачыць і зараз.

## 28. 1932 год. Расказ стрыечнай сястры Лёлі

У гэтым годзе мой бацька Уладзімір Сладкоўскі жыў у мястэчку Цырын, быў кавалерам гадоў дваццаці шасці. Вясной ягоная сястра Тоня павінна была стаць маці. Яна была замужам за Іваноўскім. Ягоны бацька Осіп Сладкоўскі даручае сыну Уладзіміру запрэгчы лепшага каня і паехаць па акушэрку ў вёску Вольну. Бліжэйшая дарога ў той час пралягала праз Быкевічы, Мітрапольшчыну, Трацавічы, Пянчын, Бортнікі і Галёнію. Праязджаючы ля хутара Абрамчыкаў, Уладзімір сустрэў фурманку, якой кіравала маладая прыгожая дзяўчына гадоў дваццаці. Яна везла на палетак пад бульбу гной. Яго зацікавіла: чаму менавіта маладая дзяўчына, а не мужчына выконвае цяжкую брудную працу. Ён прывітаўся і спытаў:

— Чаму гэта такая прыгожая дзяўчына ды выконвае такую цяжкую працу? Што, хіба ў вас мужчын няма?

— Не, чаму ж? Мужчыны ў нас ёсць. Яны ж выконваюць яшчэ цяжэйшую работу — выкідваюць гной з хлява, а я яго адвожу на палетак. Да таго ж мой бацька інвалід.

Уладзімір спытаў, як яе завуць. Яна сказала, што яе завуць Ніна, і дадала, што яна лічыць сваю цяперашнюю працу лягчэйшай, чым выдзіраць віламі пласты гною, утрамбаваныя за зіму жывёлай, і накідваць іх на воз.

Пасля Уладзімір пацікавіўся:

— Скажы Ніна, а ці далёка да Вольнай? Я павінен адтуль прывезці акушэрку для маёй сястры-парадзіхі.

— Не, не далёка. Праедзеш яшчэ з кіламетр і амаль за мостам праз рэчку Змейку пачнецца Вольна. Там спытаеш, у якой хаце жыве акушэрка.

Падзякаваў новай знаёмай за адказ, спытаў:

— Скажы, Ніна, а ці можна, калі я буду адвозіць акушэрку, заехаць да вас і пазнаёміцца з тваімі бацькамі?

— А чаму ж не, заедзь. Бацькі заўсёды рады сустракаць гасцей, калі яны з добрымі намерамі.

Развітаўся з Нінай. Ад’ехаў. Знайшоў акушэрку і тым жа шляхам праз пару гадзін быў у Цырыне. Калі ехаў ля хутара Абрамчыкаў, уважліва агледзеў яго, бо Ніна, з якой пазнаёміўся ў такіх незвычайных абставінах, чамусьці глыбока кранула ягоную душу тым, што яна не цураецца нават

www.kamunikat.org

такой, можна сказаць, мужчынскай работы. Да таго ж ягоны бацька не аднойчы яму раіў ажаніцца, бо яму патрэбны былі дадатковыя жаноцкія рукі ў гаспадарцы. Акрамя таго, у Цырыне толькі што пачаўся пераход сялян на хутарную сістэму. Осіп Сладкоўскі пагадзіўся пакінуць па дагаворы камасацыі сваё радавое месца ў Цырыне і атрымаць значна большы кавалак зямлі з маладым лесам, які прымыкаў да рэчкі Сэрвечы ля вёскі Падгайная. І ў гэтым выпадку бацьку былі патрэбны дужыя маладыя жаноцкія рукі. Ягоны сын быў відным хлопцам, можна сказаць, мужчынам, які быў неабыякавым да маладых жанчын. Бацька думаў: настаў час, каб яго ажаніць.

Акушэрка выканала сваю справу — дапамагла дзіцяці нарадзіцца — і прасіла неўзабаве адвезці яе ў Вольну. Уладзіміру Сладкоўскаму належала зноў ехаць раніцай наступнага дня тым жа шляхам. Ехаў ён хутка. Сям’я Сладкоўскіх у тыя часы была вядома тым, што яны гадавалі добрых коней. Уладзімір на гэтую паездку падабраў самага лепшага каня, з тым разлікам, каб паказаць бацькам Ніны, што іх сям’я прыстойная, заможная. На гэты пераезд затраціў усяго паўтары гадзіны. Уладзімір ставіў сваёй мэтай, каб на зваротным шляху затрымацца ў сям’і Абрамчыкаў. Была якраз нядзеля, сонечны травеньскі дзень. Усё вакол расцвітала, чаравала. У гэтую пару года нават абыякавыя людзі гаварылі, што так прыгожа можа быць хіба што толькі ў раю.

У сярэдзіне дня Уладзімір з шыкам затрымаўся ля парога дома Абрамчыкаў. Сустракаць яго выйшла Ніна. Яна ўбачыла ў акно, што хтосьці да іх прыехаў, дома былі толькі яна і бацька, які пасля ранішняй працы па гаспадарцы лёг адпачываць. Маці Юлія з Мішам паехала на імшу ў Паланэчкаўскі касцёл. Калі Ніна выйшла на парог, то пазнала Уладзіміра, з якім яна пазнаёмілася мінулым днём, калі працавала, і ўзрадавалася, бо жаноцкім чуццём адчувала, што гэты прыгожы хлопец зацікавіўся ёю. Тым часам Уладзімір злез з воза і сказаў:

— Я, мусіць, памыляюся. Ці ж гэта я ўчора з вамі на дарозе сустракаўся? Вы Ніна?

— Так, я Ніна. А цябе, здаецца, завуць Валодзя?

— Ніна, якая у цябе цудоўная памяць. Я ўчора сустракаў зусім іншую дзяўчыну. А сёння я бачу прыгажуню. Цябе я не пазнаў. А ці можна пазнаёміцца з тваімі бацькамі?

— Не, Валодзя. Тата пасля ранішняй працы адпачывае, а мама мая паехала ў Паланэчкаўскі касцёл з братам Мішам.

Калі ля дома прагрукацеў воз і хтосьці прыехаў на падворак, то пан Аляксандр прачнуўся, нацягнуў свой абутак і няспешна выйшаў на ганак.

Ніна ўбачыла бацьку:

— Тата, чаму гэта вы не адпачываеце?

— А як ты будзеш спаць, калі ў нас госці?

Убачыўшы мужчыну, які выйшаў на ганак, Сладкоўскі сказаў:

— Добры дзень! Вы, як мне здаецца, бацька Ніны?

— Так. А вы па якіх справах да нас? Ніна, запрашай госця ў хату. Уладкуйце каня і прывядзі яго да мяне, я буду пакуль што адпачываць.

І спадар Аляксандр пайшоў паволі ў свой пакой.

Тым часам, пакуль уладкоўвалі каня і ішлі ў хату, Ніна тлумачыла Уладзіміру, чаму яе бацька незвычайна сябе паводзіць:

— Валодзя, мой бацька інвалід. Ён атрымаў перадом двух ног пад час крушэння на цягніку, таму доўга на адным месцы стаяць не можа. Прабач яго. Адвядзі каня крышачку ўперад і прывяжы яго там. Падлажы яму канюшыны і прыходзь сюды. Я цябе завяду ў ягоны пакой.

Пакуль ён ставіў каня, Ніна ўважліва разглядзела яго. Ёй спадабаўся ён тым, што быў дарослым мужчынам, высокага росту, шыракаплечым, з блакітнага колеру вачамі, прывабным тварам, прыстойна апранутым. Яна падумала: «Вось бы мне пасябраваць з ім. Ён смела і рашуча паводзіць сябе ў гутарцы з людзьмі. З такім сябрам не сорамна сустракацца, бо ўмее падтрымліваць размову ў любой кампаніі. Ён спадабаўся мне, і я хацела б займець такога кавалера».

І ў гэты момант ён падышоў да яе ды сказаў:

— Ніна, я каня уладкаваў і магу цяпер ісці да твайго бацькі.

— Ну, і добра. Хадзем.

Яны ўвайшлі праз сені ў гасцінную. Ніна пастукала ў дзверы спальні, дзе чакаў госця яе бацька. Пачулі:

— Уваходзьце і сядайце. Расказвайце, хто вы і па якой справе вы да нас завіталі. А тым часам ты, Ніна, падрыхтуй нам пачастунак у гасцінай. А цяпер я вас слухаю.

— Я родам з мястэчка Цырына. Уладзімір Сладкоўскі. Мой бацька Осіп Сладкоўскі мае там добрую гаспадарку. Дык вось, ён выправіў мяне, каб я прывёз маёй замужняй сястры, якой пара стаць маці, акушэрку.

І ён падрабязна расказаў бацьку Ніны, як трапіў у іх дом.

— А я — Аляксандр Абрамчык, жыву з сям'ёй на гэтым хутары.

І ён таксама даволі падрабязна расказаў пра сябе і ў канцы дадаў:

— А з якою патрэбаю вы завіталі да нас?

— Маю намер ажаніцца, а дзеля гэтага, як вядома, неабходна мець нявесту. А да сёння я не падабраў сабе такую, каб мне спадабалася. Едучы ля вашага хутара, я ўбачыў вашу дачку Ніну і, прыглядзеўшыся да яе, вырашыў, што яна больш з усіх падыходзіць мне ў жонкі. Яна мае тыя якасці, якія падыходзяць мне. Таму я прашу ў вас дазволу ў бліжэйшы час прыехаць да яе ў сваты.

— На жаль, я вам зараз не магу даць станоўчы адказ на ваша пытанне, — сказаў пан Аляксандр, — па-першае, таму, што сёння няма ў хаце яе

маці, а па-другое, перш чым вырашаць лёс маёй дачкі, трэба яе запытацца, ці згодна яна пайсці за вас замуж, па-трэцяе, такія справы так хутка не робяцца. Трэба вам як след пазнаёміцца з той, з кім вы вырашылі звязаць свой лёс, а дзеля гэтага, як вядома, патрэбен час. А ці ведае аб гэтым ваша выбранніца?

— Не, спадар Аляксандр, я толькі ўчора пазнаёміўся з Нінай, і, перш чым вырашаць гэтае жыццёва важнае пытанне з ёю, я хацеў бы параіцца з яе бацькамі, растлумачыць вам, хто я такі, што, як мне здаецца, я ўжо зрабіў.

— Значыць, застаецца нам запытаць Ніну, ці згодна яна стаць вашым сябрам, а ўрэшце стаць спадарожніцай вашага жыцця.

У гэты момант Ніна пастукала ў дзверы, каб сказаць бацьку, што яна выканала ягоную просьбу — падрыхтавала пачастунак.

— Вось і добра. Ніна, а я хацеў цябе клікаць, каб запытаць пра тое, ці варта Уладзіміру засылаць да цябе сватоў у бліжэйшым часе.

— Перш чым адказаць на такое пытанне, я павінна падумаць, — Ніна з усмешкай паглядзела на бацьку, а потым на Валодзю, — мы толькі пазнаёміліся, не паспелі даведацца, ці мы падыходзім адно аднаму, і ўжо ставіцца пытанне аб сватаўстве. Што я на гэта магу сказаць? Я ўчора выпадкова ўбачыла Уладзіміра, і мы з ім упершыню сустрэліся ў такіх для мяне непажаданых абставінах.

І яна коратка расказала аб выпадковай сустрэчы на дарозе і дадала:

— Я спачатку не звярнула ніякай увагі на гэтую сустрэчу, але калі Уладзімір спытаў у мяне, а ці можна пагутарыць яму з маімі бацькамі, то я пасля задумалася, а навошта яму, незнаёмаму хлопцу, патрэбна сустрэча з імі? Задумалася і здагадалася, што, мажліва, я гэтаму хлопцу спадабалася і, відаць, не памылілася. Сённяшні ягоны прыезд канчаткова пераканаў мяне, што я адгадала яго намер. Таму, калі ён пад’ехаў да нашай хаты, я падумала: «Здагадкі пацвердзіліся». Стала прыглядацца да яго. Ён мне спадабаўся. Таму, калі ён мае намер прыехаць да мяне ў сваты, каб я выйшла за яго замуж, то яму ў гэтым не адмоўлю. Вось які будзе мой адказ на пытанне, тата. А цяпер я запрашаю вас на пачастунак.

Калі ўселіся за стол, бацька наліў сабе і госцю па кілішку манапалькі, а Ніне вішнёўкі, падняў келіх і сказаў:

— Я прапаную выпіць гэтую чарку за знаёмства, бо хачу, каб задуманае вамі збылося.

І як толькі яны выпілі і пачалі закусваць, пан Аляксандр сказаў:

— Шчыра скажу, што мне не зусім падабаецца паспешлівасць у вырашэнні такога пытання. Але ж, нягледзячы на гэтыя абставіны, ёсць яшчэ час як да сватоў, тым больш да вяселля, каб пазнацца між сабою. Ведайце: царква злучыць вас на ўсё жыццё. А цяпер мне трэба адпачыць. Вы схадзіце ў лес ці на рэчку з Нінай. Яна пакажа вам нашы ўладанні.

А пасля, калі вы прагуляецеся, прыйдзеце да мяне. Я, магчыма, яшчэ штосьці вам скажу.

І пан Аляксандр, абапіраючыся на кульбу, пайшоў у свой пакой, а Ніна сказала Уладзіміру:

— Валодзя, пачакай мяне тут, я зараз прыйду.

І калі яна вярнулася, апранутая ў новую сукенку, ён быў узрушаны яе незвычайным выглядам і не мог стрымацца, каб не пахваліць яе:

— Ніна, якая ты прыгожая, я гатоў сёння прызнацца табе ў сваім каханні.

На што яна адказала:

— Валодзя, не спяшайся, у нас з табою ўсё наперадзе. Мне мой тата даручыў пазнаёміць цябе з нашым хутарам.

Яна ўзяла яго за руку. Яны выйшлі на ганак, пайшлі сцежкаю ўздоўж хаты і паміж гумном, адрынай і хлявом туды, адкуль даносіліся цудоўныя спевы салаўя з зараснікаў па-над рэчкай Змейкай. Наступіў поўдзень. Праз некалькі хвілін яны дайшлі да берага рэчкі, селі пад лазовым кустом, разуліся, апусцілі свае ногі ў рэчку і адчулі прахалоду. Не зважаючы ні на што, Валодзя прытуліў Ніну да сябе, сілком яе абняў, пачаў цалаваць. Яна хацела працівіцца гэтаму пацалунку, аднак ягоныя дужыя абдымкі не далі ёй гэта зрабіць. І як толькі ён зрабіў перадых, яна вырвалася з ягоных абдымкаў.

— Валодзя, ты звар'яцеў! Супакойся, ну і абдымкі ў цябе, ты ж мог бы мяне задушыць. Апусці глыбей у ваду ногі, ахаладзіся і супакойся.

Ён паслухаў яе і падумаў, што гэтая дзяўчына ўстаяла перад яго любошчамі, і пабаяўся таго, што калі ён стане дабівацца ад яе кахання, тады можа папсаваць усё задуманае. Зразумеў, што яму не варта спяшацца. Пасля чаго яны падняліся, абуліся і ўспомнілі наказ бацькі — пайшлі сцежкаю па цячэнні рэчкі, абагнулі хутар Чалядкаў, перайшлі шашу і сцежкаю, ля хутара Сакалухі, дайшлі да Абрамчыкавага сасновага лесу. Апынуліся ў іншым асяроддзі, поўным водару жывіцы і тамтэйшых раслін. Ля сцежкі было шмат пнёў. Валодзя на гэты раз абняў яе нясмела. Ніна прытулілася да яго і пацалавала. У гэты момант Валодзя падняў яе на рукі, і іх вусны зліліся ў доўгім пацалунку. Апамятаўшыся, Ніна сказала з усмешкай:

— Як прыемна цалавацца з такім прыгожым хлопцам!

Далей яны пайшлі абняўшыся, Ніна тым часам тлумачыла:

— Раней у лесе было шмат дрэваў. Іх спілавалі на пасаг сёстрам Надзі, Ані і на іншыя патрэбы, так што, як бачыш, лес значна парадзеў. За лесам пачынаецца ралля, якая мяжуе з іншымі хутарамі. Гэты надзел атрымаў мой дзед Аўгусцін за доўгую службу кіраўніком спраў у вальнянскім маёнтку Усё, што мы тут бачым, у 19-м стагоддзі належала Абрамовічам, дальнім родзічам Слізняў. Абрамовічы былі бяздзетнымі. Калі іх не стала ў пачатку 20-га стагоддзя, Слізні падарылі гэты цудоўны куточак зямлі майму дзеду

Аўгусціну за саракагадовую службу ў іхнім маёнтку. Мінулі гады. Не стала дзеда Аўгусціна і бабулі Марфы. Яны пахаваныя на бортніцкіх могілках. Я нават не ведаю, дзе іх магілы, а хацелася б прынесці туды кветкі, бо гэтыя людзі далі нам жыццё, памяць іх будзіць нас, падказвае нам: «Людзі, прачніцеся, знайдзіце месцы пахавання, памаліцеся за нас, бо калі вы нас забываеце, то і пра вас забудуць нашчадкі, як вас не стане». Хутар Абрамчыкаў пасля смерці майго дзеда перайшоў ва ўласнасць майго бацькі. А цяпер, відавочна, гэты цудоўны кавалак зямлі застанецца ў спадчыну таму, хто будзе жыць разам з бацькам Аляксандрам і мамай Юліяй.

Мне здаецца, скора павінна вярнуцца з Паланэчкаўскага касцёла мая мама. Было б добра, каб ты з ёю пазнаёміўся. Я думаю, што пара нам вяртацца дахаты.

— Пра мае намеры ўзяць цябе замуж ты ведаеш, — сказаў Уладзімір. — Я таксама ўдзячны табе за твае словы, якія ты выказала за сталом.

Ён прыцягнуў яе да сябе, і вусны іх зліліся ў пацалунку. Калі яны схамянуліся, то ўбачылі, што знаходзяцца зусім блізка ля хаты.

— Хадзем. Там нас чакае тата.

Калі яны падышлі бліжэй, то ўбачылі, што з Паланэчкі прыехала пані Юлія, якая выйшла ім насустрач.

— Добры дзень. Я вас чакаю. Ніна, пазнаём мяне са сваім хлопцам. А можа, ужо і кавалерам?

— Мама, гэта Уладзімір Сладкоўскі. Я вам пра яго гаварыла ўчора ўвечары.

І Ніна расказала пані Юліі пра сваё знаёмства з Уладзімірам. Закончыла смела, гледзячы на яго:

— Мамачка, я сказала тату, што мне Валодзя падабаецца і хацела б мець такога кавалера. Аднак ён паспяшаўся і прапанаваў прыехаць да мяне ў сваты, з тым, каб я выйшла за яго замуж. Я яму адказала згодай. А цяпер мы ідзем дахаты пасля таго, як мы больш дэталёва пазнаёміліся. Я паказала яму наш хутар. Шкада, мамачка, што вы пры размове з татам не прысутнічалі. Дзякуй тату, што ён нас зразумеў і падтрымаў.

— Спадарыня Юлія, Ніна мне расказала пра вас, і за гэта я ёй вельмі ўдзячны. Мне прыемна пазнаёміцца з такой паважанай жанчынай, якая дала жыццё вялікай сям'і — нарадзіла такіх прыгожых дзяўчат і хлопцаў. Разам з мужам далі дзецям неабходнае, каб годна ўладкавацца ў жыцці. І яшчэ я хацеў бы дадаць, што вы выгадавалі іх здаровымі. Навучылі іх мудрасцям, каб самастойна зрабіць свой выбар.

З гэтымі словамі яны падышлі да парога хаты. Маці запрасіла кавалера Ніны ў дом, каб там прадоўжыць бяседу. Калі яны ўвайшлі ў гасціную, да іх выйшаў пан Аляксандр.

— Вось бачыш, Валодзя, пакуль вы хадзілі, прыехала наша гаспадыня. Думаю, што ўжо час нам паабедаць.

www.kamunikat.org

— Так, Аляксандр. Мы з Нінай зараз падрыхтуем яду, а вы прайдзіце ў спальню і пагутарыце.

— Прабачце, — сказаў Уладзімір, — я павінен пацікавіцца, як там мой конь. І ўвогуле, мне ўжо час ехаць дахаты.

— Ну, што вы, Валодзя, пакуль я вас не пачастую, — сказала пані Юлія, — дахаты не адпушчу. Мы хутка з Нінай падрыхтуемся, і толькі тады вы зможаце ехаць. Ідзіце, паглядзіце свайго каня і прыходзьце на абед.

Уладзімір падышоў да воза. Адвязаў каня і падвёў яго да студні. Напаіў, прывёў да воза, павесіў на шыю торбу з аўсом і пайшоў да пана Аляксандра. Гаспадар чакаў яго, і калі Уладзімір пастукаў у дзверы, гукнуў:

— Валодзя, уваходзь. Сядай. Скажы мне, як жа вы будзеце перасяляцца на новае месца?

— Аляксандр Аўгусцінавіч, вядома, што па ўмовах камасацыі (ліквідацыя цераспалосіцы) той, хто перасяляецца з цэнтра мястэчка, атрымлівае значна большую колькасць зямлі, чым той, хто жадае атрымаць зямлю там, дзе жыве. Таму мой бацька на сямейнай радзе вырашыў перасяліцца і атрымаць больш зямлі, каб было што пакінуць дзецям у спадчыну. Зямельныя надзелы значна даражэйшыя ў мястэчку, таму што не трэба займацца новабудоўляй, і той, хто не згодзен перасяліцца, атрымлівае зямлі менш. А хто пры гэтым выгадае, пакажа час. Будзе бачна, хто больш дальнабачны.

— Дзеля новабудоўлі спатрэбяцца вялікія грошы,. Я ведаю, што пераезд на новае месца можна параўнаць хіба што з пажарам, — сказаў пан Аляксандр, — які знішчае ўсе здабыткі, якія збіраліся гадамі. Аднак ёсць вялікая розніца між пажарам і пабудовай новага. Пажар пераўтварае ў попел усё, а пабудова на новым месцы, наадварот, усё пакідае людзям дзеля іх далейшага дабрабыту, тым людзям, якія скарысталі грошы, здабытыя нялёгкай працай, атрымалі новае, больш дасканалае жытло, а старыя пабудовы выкарысталі па сваім меркаванні.

Пастукала ў дзверы Ніна і сказала:

— Мужчыны! Мы падрыхтавалі абед, калі ласка, падымайцеся і ідзіце абедаць.

На стале ў гасціным пакоі было ўсё, што мелася ў натуральнай гаспадарцы, прыгатаванае ўмелымі рукамі гаспадыні Юліі і яе памочнікаў. Сям’я Абрамчыкаў заўжды была рада гасцям і частавала ад душы тым, што прыпасена.

У час абеду было вырашана і ўзгоднена на гэты раз абодвума бацькамі, што калі паміж Уладзімірам Сладкоўскім і Нінай Абрамчык узніклі цёплыя сяброўскія адносіны і яны згодны аб’яднацца, каб утварыць сям’ю, то тут жа быць і заручынам — Ніна стала з сённяшняга дня нявестай Уладзіміра Сладкоўскага, а Уладзімір Сладкоўскі — жаніхом Ніны. Канчаткова вырашылі, што Уладзімір праз два тыдні прыедзе са сватам да Ніны. У канцы пан Аляксандр ад імя ўсіх прысутных сказаў:

— Вось надышоў час, калі мы вырашылі лёс нашай апошняй дачушкі Ніны, а Юля страчвае сваю памочніцу.

У гэты момант па шчоках пані Юліі пакаціліся слёзы. Яна ўстала і падышла да Ніны, абняла яе, і яны расхваляваліся, бо адчувалі, што ў Ніны настае новае нялёгкае жаноцкае жыццё, і ці можна ўгадаць, якім яно будзе. Маці добра ведала не толькі з уласнага жыцця, але і з назірання за іншымі маладымі парамі, што сапраўднае каханне паміж маладымі на ўсё жыццё, як яны абяцаюць адно аднаму пад час першых сустрэч, бывае вельмі рэдка, і з цягам часу шчырыя абяцанкі забываюцца. У гэтых адносінах прынята лічыць: прыярытэт выбару нявесты належыць мужчыне, а жанчыне застаецца толькі пагаджацца ці не пагаджацца з партнёрам, і тут, відавочна, няма раўнапраўя паміж мужчынам і жанчынай. Звычайна лічыцца неэтычным, калі жанчына першай даводзіць свайму каханаму пра свае пачуцці. Не дай Бог мужчына падумае, што яго партнёрка занадта смелая, і ў гэтым выпадку мужчына мае права знайсці другую, якая з усімі ягонымі прапановамі пагаджаецца. Большасць дзяўчат вераць у гэта, аднак ёсць шмат такіх жанчын, якія разумнейшыя за сваіх партнёраў і не вераць гэтым застарэлым традыцыям, што права першынства выбару пары быццам бы мае толькі мужчына. Так думала пані Юлія, бо бачыла, што яе апошняя дачка Ніна не бачыць нічога дрэннага, каб адкрыта выказаць свае думкі.

Абед закончыўся. Уладзімір падняўся і сказаў:

— Выбачайце, шаноўнае панства Юлія і Аляксандр, мне пара адправіцца дахаты. Я і так доўга ў вас затрымаўся. Праўда, сёння святочны дзень, і я сабе дазволіў гэта зрабіць. А зрабіў таму, што сустрэў цудоўную дзяўчыну Ніну, якая за гэты кароткі час пасябравала са мной. У мяне з'явілася надзея на тое, што мы за два тыдні пазнаёмімся яшчэ бліжэй і створым сваю сям'ю. Цяпер я мушу ехаць. Спадзяюся, вы дазволіце, каб Ніна правяла мяне.

Валодзя цёпла развітаўся з усімі прысутнымі, пажадаў заставацца здаровымі і з Нінай выйшаў да воза. Ён хутка і спрытна запрог каня, які стаяў з пустой торбай на галаве. За гэтымі ўмелымі дзеяннямі з замілаваннем сачыла Ніна.

Калі ён скончыў запрагаць каня і пад'ехаў да парога, дзе стаяла Ніна, то прапанаваў ёй:

— Сядай, Ніна. Я цябе крышачку падвязу, каб яшчэ лішнюю хвілінку пабыць з табою.

Ніна села, і яны рушылі.

У гэты момант яны нікога не заўважалі, былі шчаслівыя, задаволеныя тым, што намечанае вырашана лепшым чынам. Ніна ні на што не зважала, яе цалкам ахапіла каханне да гэтага мужчыны. Яна хацела б сёння з ім паехаць хоць на край свету, зайздросціла ў думках тым дзяўчатам, якія, пры адпаведных акалічнасцях, пакідаюць радзімы дом назаўсёды — уцякаюць з дому, каб быць з каханым разам.

Конь адчуў, што на гэты раз едзе дахаты, пачаў жвава бегчы, і Уладзіміру прыходзілася яго стрымліваць, каб як мага даўжэй пабыць з Нінай. Аднак праехаўшы хутар Цівунчыка, Ніна папрасіла затрымацца. Пацалавала Валодзю і сказала:

— Бывай, каханы. Калі зможаш, прыедзь да мяне, я рада цябе сустрэць у любы час. А калі не атрымаецца, то буду чакаць цябе праз два тыдні са сватам.

Саскочыла з воза. Затрымалася. Глядзела і махала рукой да таго часу, пакуль фурманка не знікла за гарой перад хутарам Руцкіх. Шчаслівая, пайшла дахаты.

Уладзімір тым часам даў магчымасць каню набіраць свой уласны, яму пажаданы тэмп руху, а сам, не зважаючы на цудоўнае травеньскае надвор'е, думаў пра сустрэчу з Нінай. Не спадзяваўся, што ён выпадкова знойдзе прыгожую дзяўчыну і з заможнай інтэлігентнай сям'і. Спадабаліся яе бацькі. Маці — разважлівая кабета. «Гэта ж колькі сіл і ўмельства трэба было ёй прыкласці, каб усіх выхаваць і вывесці ў людзі, навучыць кожнага рабіць правільны выбар у стварэнні сям'і». А бацька, нягледзячы на сваю інваліднасць, кіруе работамі ў сваёй шматпрофільнай гаспадарцы, займаецца пчалярствам. Па ўсім відаць, што і апошняя Абрамчыкава дачка вырасла ў такім цудоўным асяроддзі, не цураецца любой, нават самай чорнай сялянскай работы. Яму, Уладзіміру Сладкоўскаму, якраз і патрэбна была такая сяброўка-жонка, каб была ўмелай гаспадыняй, добрай маці будучых ягоных дзяцей, дарадцам у яго гаспадарчай дзейнасці. Ён увесь быў захоплены разважаннямі пра сваю будучую сяброўку. У ягонай галаве дадаўся яе рамантычны вобраз, мабыць, далёкі ад сапраўднага. Але ж яму хацелася, каб яна была менавіта такой, якой ён стварыў яе ў сваёй галаве.

Час ляцеў хутка. Ён не заўважыў, як ягоны воз апынуўся ля парога бацькоўскага дома. Там яго з нецярпеннем чакалі. Усе яго родныя былі ў невядомасці, па якой прычыне ён затрымаўся так доўга. Бацька сказаў:

— Валодзя, што здарылася? Чаму ты так доўга затрымаўся? Ты, мусіць, дзесьці загуляў?

— Не, тата, я вырашаў вельмі важную асабістую справу, па якой вы з маці апошнімі месяцамі ўсё больш настойліва гаварылі: «Валодзя, табе пара ажаніцца». Дык вось, лічыце, што я амаль ажаніўся за гэты час.

Пасля заехаў ва двор, распрог каня, зайшоў у хату, падрабязна расказаў сваім родным пра паездку, сустрэчу з Нінай і яе бацькамі, закончыў словамі:

— Тата і мама, я з бацькамі Ніны дамовіўся, што праз два тыдні, у суботу, паеду ў сваты да Ніны Абрамчыкавай, а там вырашым і з вяселлем. Вось чаму я затрымаўся.

Хутка праляцелі два тыдні. У апошнюю суботу разам з запрошаным сватам адправіліся да Абрамчыка і сасваталі Ніну. Яна стала нявестай

www.kamunikat.org

Уладзіміра Сладкоўскага, а пасля вянчання ў Вальнянскай царкве і жонкай. Муж перавёз яе на сталае месца жыхарства ў мястэчка Цырын. Так апошняя з сясцёр вялікай сям'і Абрамчыкаў Ніна пакінула свой радзімы дом, каб стварыць сваю сям'ю, прадоўжыць род Сладкоўскіх. Не магу не адзначыць, што мая цётка Ніна разам са Зміцерам Герасімовічам вясной 1929 года хрысцілі мяне ў Вальнянскай царкве. Дарэчы, яны ж былі хроснымі і майго брата Мікалая, і сястры Соні.

## 29. 1934 год. Нясвіжскае лясніцтва звольніла Васіля Амялішку з пасады гаёвага

Восенню 1934 года да Васіля прыехаў аб'ездчык з лясніцтва і прапанаваў неадкладна прыехаць у Нясвіж да пана ляснічага. Пры гэтым ён папярэдзіў Васіля:

— Пан Базыль, падрыхтуйце ўсе свае дакументы і вазьміце іх з сабою. Падрыхтуйцеся да справаздачы.

Васіль адчуў: штосьці здарылася непрыемнае. Аднак трэба ехаць. Падрыхтаваўся да паездкі звечара. Сваім прадчуваннем чагосьці непрыемнага ён з Надзяй не падзяліўся — не хацеў яе трывожыць. Надзя была чулым чалавекам, заўважыла, што з яе Васілём адбываецца нешта незвычайнае, і спытала ў яго:

— Васіль, нешта здарылася. Мая душа адчувае, што нас чакаюць непрыемнасці. Гэты выклік не к дабру.

— Ну што ты, Надзюша, не выдумляй, — стараўся супакоіць яе Васіль, — я думаю, што гэта звычайны выклік, каб падвесці вынікі маёй працы.

— Не, Вася, вось пабачыш, будуць непрыемнасці, — папярэдзіла яна.

Яны развіталіся. Надзя перахрысціла яго і дадала:

— Сцеражы цябе Бог.

З пажаданнямі Надзі ён паехаў. Думкі яго цяпер былі скіраваныя на тое, каб разгадаць, што здарылася. На гэты раз яму было трывожна, таму ўсё іншае, што ён сустракаў па дарозе, не цікавіла яго так, як гэта бывала другім разам, калі ехаў у лясніцтва. Спяшаўся. Усё часцей і часцей тузаў лейцамі. Хацелася як мага хутчэй даведацца, па якой прычыне яго выклікаюць. Таму на тую ж адлегласць, якую раней пераадольваў звычайна за шэсць гадзін, цяпер выдаткаваў усяго пяць. Затрымаўся на заезным двары Ёселя. Уладкаваў каня. Дагаварыўся з гаспадаром і пайшоў у лясніцтва.

Пры падыходзе да канторы сустрэў сакратара, які і правёў яго да ляснічага.

За сталом былога кабінета Лісніцкага сядзеў незнаёмы чалавек. Сакратар патлумачыў яму:

www.kamunikat.org

— Пане ляснічы, прыбыў гаёвы Вальнянскага абходу Базыль Амялішка.

Толькі цяпер Васіль здагадаўся, што перад ім новы ляснічы, які, відаць, замяніў пана Эдуарда Лісніцкага.

— У сувязі з арганізацыйнымі мерапрыемствамі і ўлічваючы палітычную абстаноўку ў нашым рэгіёне лясніцтва вырашыла звольніць вас з пасады гаёвага, — сказаў ляснічы, — разлік і дакументы атрымаеце ў канцылярыі.

Васіль спытаў у ляснічага:

— Пан ляснічы, ці можаце вы мне патлумачыць, на якой падставе мяне звольнілі?

— Не, пане Амялішка, у сувязі з рашэннем урада Рэчы Паспалітай, нам дадзена права ў некаторых выпадках гаёвых здымаць з пасады і не тлумачыць, па якой прычыне яны звольнены. Гэта той выпадак, калі гаёвы падазраецца ў сувязях з замежнымі краінамі.

Так закончылася служба Васіля на пасадзе гаёвага.

www.kamunikat.org

## Частка 2

# ГАСПАДАР

### 1. Васіль вырашае зрабіць сваю гаспадарку сучаснай

Васіль расхваляваўся, бо зразумеў, што ягоная служба гаёвым скончана канчаткова і незваротна. І каб пазбавіцца ад нахлынуўшай на яго крыўды вырашыў прагуляцца па вуліцах Нясвіжа, паразважаць, чаму яго пакаралі.

Спачатку падумаў, што ён зараз беспрацоўны. Паразважаўшы, зразумеў, што гэта не так, таму што за адзінаццаць гадоў службы на гэтай пасадзе яму ўдалося займець добрую ўласную гаспадарку, можна сказаць, не горшую, чым у суседзяў — Льва Яцкевіча і ягонага зяця, Якуба Бубноўскага. Менавіта таму, што ён цікавіўся навінамі ў сельскагаспадарчых часопісах і выкарыстоўваў іх у сваёй гаспадарцы. Цяпер, калі яго незаслужана звольнілі з пасады, з'явіўся вольны час, каб прымяніць тыя навіны, якія знойдзе ў розных сучасных часопісах.

Выпісваў пчалярскі часопіс «Bartnik postępowy» («Пчаляр прагрэсіўны»), які быў ягоным дапаможнікам. Уважліва яго чытаў і займеў сваю пасеку, заказваў свайму сябру-сталяру Адасю Рудаману па чарцяжах, знойдзеных у часопісе, вуллі навейшай канструкцыі, якія давалі магчымасць павялічыць медазбор. Тэарэтычна, а пасля і на практыцы, вывучыў інстынкты пчол, самастойна навучыўся лавіць рой, які вылятаў са сваёй маткай і садзіўся блізу пасекі на дрэва. Ён так моцна захапіўся пчалярствам, што ягоныя сябры лічылі яго лепшым спецыялістам у пчалярскай справе, меней адукаваныя — ведзьмаром.

Васіль чытаў розныя часопісы. Тое, што яго цікавіла, запамінаў. Зараз у яго з'явілася больш вольнага часу, каб свае знаходкі прымяніць у гаспадарцы. І пачаў укараняць іх тады, калі дазвалялі фінансавыя магчымасці. Цікавымі прапановамі, што запомніліся яму з прачытанага, дзяліўся з Надзеяй, дзецьмі, калі яны падрасталі, і з самымі блізкімі суседзямі. Яны бачылі, што ў гаспадарцы Васіля Амялішкі ідуць справы паспяхова па

www.kamunikat.org

усіх галінах ягонай гаспадаркі. Ён меў лепшую за іх адукацыю. Цікавіўся новымі, больш дасканалымі тэхналогіямі, якія пры меншых выдатках прыносілі большы плён, што, безумоўна, выклікала зайздрасць. Акрамя таго, суседзі ведалі ці здагадваліся, што іх сусед-ляснік выпадкова сустракаецца ў лесе з тымі, хто пераходзіць савецка-польскую мяжу, і маглі падумаць, што Васіль мае сувязь з замежжам. Часта на пасядзелкі прыходзіў да нас вечарамі Леў Яцкевіч і пытаўся ў бацькі:

— Васіль, ты амаль кожны дзень бываеш у лесе. Сустракаешся часцяком з тымі, хто пераходзіць граніцу. Як там, пры бальшавіках, жывуць людзі? Ці праўда тое, што там усё лепшае, чым у нас? А чаму я цябе пытаю? Справа ў тым, што да мяне заходзіў адзін бальшавіцкі агітатар і расказваў мне, што за мяжой людзі жывуць, як у біблейскім раю. Там усё лепшае: багатае жыццё у калгасах, маюць удосталь харчоў, ідзе павальная ліквідацыя неадукаванасці дарослых. Навучанне дзяцей і моладзі адбываецца на нашай мове, навука выдатная і даступная ўсім.

На што звычайна Васіль адказваў яму так:

— Ну што ты, Леў Лявонавіч, яны ж баяцца сустрэчы са мной, бо ведаюць, што я, па-першае, узброены, а па-другое, мне лясніцтвам даручана адводзіць такіх людзей у пастарунак і здаваць паліцыі.

Адказваў ён яму так, бо адчуваў да яго недавер. Пра свае сустрэчы з перабежчыкамі і іх расказы аб «заможным» жыцці ў Саветах вырашыў не расказваць. Па ўсмешцы суседа тады Васіль бачыў, што той яму не паверыў.

Васіль меркаваў, што чорная зайздрасць суседзяў ягоным поспехам як на гаспадарцы, так і на службе лесніком прывяла да таго, што хтосьці з іх зрабіў ілжывы данос лясніцтву: Васіль Амялішка мае сувязь з бальшавікамі. Гэтага ў такой неспакойнай міжнароднай абстаноўцы было дастаткова, каб замяніць гаёвага на больш надзейнага. Якраз у той час урад Польшчы прыняў такое рашэнне: калі службовая асоба падазраецца ў сувязі з замежжам, то кожная дзяржаўная ўстанова мае права звальняць падазронага і не тлумачыць, па якой прычыне службовец звольнены.

Засталося здагадацца, хто мог зрабіць такую подласць. Аналізуючы ўсе падзеі, якія адбыліся апошнім часам, Васіль думаў, што такі данос маглі зрабіць суседзі, а можа, хтосьці з тых наведвальнікаў нясвіжскага заезнага двара Ёселя, якім ён расказваў аб выпадковых сустрэчах з перабежчыкамі. Хто ж сапраўды зрабіў данос, ўжо не мае значэння, бо зразумеў, што абвінавачваць падазронага чалавека, калі ў цябе няма простых доказаў ягонай віны, бессэнсоўна. Сказаць падазронаму: «Як гэта ты мог зрабіць такі ілжывы данос?», апіраючыся толькі на свае здагадкі, — выклікаць вялікую сварку. І каму ад гэтага будзе карысць? Акрамя таго, Васіль падумаў, што яшчэ невядома, каму прынясе большую шкоду гэты данос: яму ці даносчыку. І ён прыняў рашэнне падтрымліваць з падазронымі такія адносіны,

якія былі раней між імі, каб тыя нават не здагадваліся, што папалі ў іх лік. Васіль быў глыбока веруючым хрысціянінам, упэўненым у тым, што за ўчыненае зло ў будучым Бог пакарае таго, хто ўзяў такі грэх на сваю душу. І пры гэтым успомніў такое мудрае народнае прыслоўе: «Няма таго благога, каб яно не выйшла на добрае». Яго цяпер цікавілі толькі навінкі па розных напрамках вядзення сельскай гаспадаркі. Марыў выкарыстаць штучныя ўгнаенні, нягледзячы на тое, што гною ад жывёлы было ўдосталь. У адным з часопісаў прачытаў, што ў некаторых эксперыментальных гаспадарках Захаду выкарыстоўваюць хімічныя сродкі ў барацьбе з пустазеллем, якія ў наш час называюць хімічнай праполкай. Зразумеў, што калі выкарыстаць гэтыя сродкі, то, магчыма, удасца замяніць ручную праполку хімічнай, што будзе танней. І пачаў праводзіць дослед.

## 2. Развітанне з Нясвіжам

Супакоіўся. І ў гэты момант падышоў да парога заезнага двара, дзе яго сустрэў пан Ёсель:

— Пан гаёвы, што здарылася з вамі? Чаму ў вас такі заклапочаны выгляд?

— Прашу вас, не называйце мяне цяпер гаёвым, таму што гадзіну таму ляснічы звольніў мяне з пасады. Мы з вамі цяпер будзем рэдка сустракацца, паважаны пан Ёсель.

— А як гэта здарылася? У чым вас абвінавацілі?

— На жаль, новы ляснічы мяне папярэдзіў, што ён не мае права тлумачыць мне прычыну майго звальнення.

Пан Ёсель выказаў яму спачуванне і дадаў:

— Пане Базылю, вам перш за ўсё трэба супакоіцца. Мне здаецца, што вы ад гэтага звальнення асабліва нічога не страціце. Вы маеце добрую гаспадарку. З вашым розумам знойдзеце ў сучасных часопісах парады, якія прынясуць такі даход, які перакрые заробак гаёвага. Акрамя таго, вы вызваляецеся ад небяспечных паліцэйскіх абавязкаў — лавіць лясных зладзеяў і складаць пратаколы. Ну, а цяпер, пан Базыль, чым вас пачаставаць на ваш ад’езд?

— Закуску я маю сваю. Калі ласка, прынясіце мне кручок манапpolькі і два кілішкі, і мы разам пачастуемся, пагаворым, успомнім тыя сустрэчы, якія былі ў нас шмат разоў у вашым заезным двары. Я мяркую, што на гэты раз вы не адмовіцеся, каб пасядзець са мною разам, магчыма, у апошні раз. Хто ведае, які мяне чакае лёс? Ці давядзецца мне ўвогуле ў бліжэйшым часе быць у Нясвіжы, а значыць, і ў вас?

— Я сёння маю час, пан Базыль, правесці гэты вечар разам з вамі.

— Прабачце, тады я мушу схадзіць да воза, паглядзець, у якім стане конь, і прынесці свае харчы.

Ёсель, калі ішоў на кухню, каб выканаць просьбу Васіля, успомніў, колькі карысных парад даў яму асабіста гэты ўжо цяпер былы гаёвы. І вось камусьці ён не спадабаўся. І вырашыў яго гэтым вечарам пачаставаць. Сказаў сваёй жонцы:

— Хая, падрыхтуй пану Базылю паўлітроўку манапалькі і лепшую закусь. Я хачу правесці ўвесь гэты вечар у ягонай кампаніі.

Васіль тым часам пайшоў да воза. Калі ён падышоў, то заўважыў, што конь чакае свайго гаспадара. Перад ім было пуста — каню патрэбна была тэрміновая дапамога. «Як гэта я мог забыцца пра свайго сябра Варанка, які мне ніколі не здраджваў?» — падумаў Васіль. Выканаўшы ўсе абавязкі перад жывёлай, Васіль узяў сваю палатняную торбу з харчамі, пайшоў у гасціную. Там ужо чакаў яго Ёсель. Васіль, як заўсёды, разлажыў на стале свае прыпасы. Тут жа да іх падышла Хая з падносам, на якім была бутэлька манапалькі і закуска, прыгатаваная ёю па заказу Ёселя, і прапанавала:

— Паважаныя, я бачу, што вы сабраліся весці бяседу ў агульнай зале. А ці не зручней вам частавацца ў пакоі, дзе пан Базыль будзе начаваць. Там ёсць стол і два крэслы, ніхто турбаваць вас не будзе. Давайце я перанясу ўсё, што на стале, туды.

— Якое разумнае рашэнне, дзякуем, пані Хая. Як гэта мы з вамі, пан Ёсель, да гэтага не дадумаліся?

І яна хуценька перанесла ўсё, што было на стале, у пакой да Васіля, а ім нічога не заставалася, як падпарадкавацца прапанове гаспадыні. Адыходзячы, яна пажадала:

— Смачна есці, панове. Я заказ ваш выканала. Выбачайце, у мяне шмат спраў на кухні.

Адышла. Пасля чаго Ёсель сказаў:

— Ведаеце, пан Базыль, добра разумею ваш цяперашні цяжкі душэўны стан. Улічваючы гэта і тое, што між намі за доўгія гады нашых сустрэч склаліся прыязныя адносіны, вы мне сталі духоўна блізкім чалавекам, нават нягледзячы на нашы розныя нацыянальныя прыналежнасці. Таму я вас цаню вышэй за многіх сваіх суродзічаў. Прапаную выпіць першы кілішак, каб вам як мага хутчэй пазбавіцца ад той душэўнай раны, якая вам сёння была незаслужана нанесена невядома за што.

Яны выпілі і пачалі закусваць. Елі моўчкі, і кожны думаў пра толькі што пачутую навіну па-свойму. Васіль супакойваў сябе разважаннем, чым ён будзе займацца пасля прыезду дахаты. У сваіх думках ён успомніў параду Ёселя пры сустрэчы: шырэй укараняць навінкі ў вырошчванні розных культур, каб менш затрачваць людской працы. Успомніў, як аднойчы Ёсель раіў у большай ступені выкарыстоўваць коней пры дапамозе сучасных тэхнічных сродкаў. Ёсель тым часам вырашыў закрануць пытанне, якое апошнім часам больш за ўсё яго хвалявала:

— Пан Базыль, я ў якойсьці газеце прачытаў, што ў Нямеччыне да ўлады прыйшла партыя нямецкіх нацыяналаў, якія сябе называюць

www.kamunikat.org

фашыстамі. Іхнім правадыром стаў нейкі былы яфрэйтар германскай арміі Адольф Гітлер. Дык ён абяцае нямецкаму народу шмат чаго. Перш за ўсё прапанаваў нямецкім прамыслоўцам укладваць свае капіталы ў будоўлю дарог, аўтабанаў, стадыёнаў, каб ліквідаваць беспрацоўе і выхоўваць фізічна моцнай падрастаючую нямецкую моладзь. Па-другое, укладваць грошы ў будаўніцтва вайсковых заводаў, каб мець такую зброю, пры дапамозе якой у любы час можна даць адпор усім нямецкім ворагам. Па-трэцяе, выхоўваць нямецкіх людзей у духу, што немцы — гэта асобая нацыя, паўнавартасная, а астатнія нацыі, якія жывуць у Нямеччыне, другарадныя, непаўнавартасныя і падлягаюць пазбаўленню правоў ці нават фізічнаму знішчэнню як ворагаў нямецкай нацыі.

— Так, паважаны пан Ёсель. Я краем вуха чуў пра незвычайныя падзеі ў гэтай краіне, якая пасля вайны як агрэсар страціла шмат чаго. Вуснамі свайго красамоўнага правадыра сцвярджае, што нямецкая нацыя пацярпела ў мінулай вайне, але павінна адрадзіцца, перамагчы ўсіх сваіх ворагаў. Ягоныя планы, на маю думку, вельмі небяспечныя не толькі самой Германіі, але і іншым краінам.

— Мяне хвалюе больш за ўсё тое, што ў Нямеччыне пражывае шмат маіх супляменнікаў, і, па звестках, адносіны да нашай нацыі вельмі дрэнныя. Гітлер гаворыць, што жыды і цыганы ёсць тыя непаўнавартасныя нацыі, ад якіх трэба пазбавіцца. А што гэта азначае?

— Цяжка прадбачыць, аднак я мяркую, што, прынамсі, нічога добрага ўсім нам чакаць не прыходзіцца, асабліва тым, хто жыве ў Нямеччыне і штодзённа чуе трызненне фюрэра аб велічы чыстай нямецкай расы. Адчуваецца, што наступаюць цяжкія часы і, як вы сказалі, безвыходныя для тых вашых супляменнікаў, якія нарадзіліся і жывуць зараз там. Цяжкае выпрабаванне чакае іх, калі трызненне Гітлера здзейсніцца, —скончыў Васіль.

— Аднак мы з вамі, пан Базыль, ухіліліся ад асноўнай мэты нашай сустрэчы. Мы сёння, можа быць, апошні раз сустракаемся, і я прапаноўваю выпіць другую чарку за тое, каб вашы асабістыя планы па ўдасканаленні вашай гаспадаркі ажыццявіліся. Я на працягу нашых сустрэч міжвольна назіраў за вашымі паводзінамі і бачыў, як вы ўмееце заўсёды знайсці дакладнае рашэнне даволі складаных пытанняў. Таму я выпіваю, каб вы заўжды заставаліся ўмелым і вынаходлівым.

І яны выпілі.

— Знаеце, пан Ёсель, я не магу зразумець, якую карысць атрымаў даносчык. Чаму ж ён сваёй галавой не падумаў, што яму пасля такога непрыгожага ўчынку пры выпадковай сустрэчы са мной заўсёды прыйдзецца гадаць, ці ж не здагадваецца сусед, што ён фактычна паспрыяў ягонаму звальненню з пасады гаёвага. І гэтае пытанне, па-мойму, будзе праследаваць яго ўсё свядомае жыццё.

— Так, шаноўны пан Базыль, ёсць такая разумная прымаўка: не капай магілу камусьці, бо сам у яе ўвалішся. Зразумела, што калі чалавек здзяйсняе подласць, ён забывае пра гэта. Ён думае, што ніхто не здагадаецца пра ягоны учынак. Гэтая пляма заўжды застанецца на ягоным сумленні і будзе яго пераследаваць усё жыццё, паскорыць ягоную смерць.

— Подлы ўчынак чалавека, — прадоўжыў Васіль, — з пункту гледжання хрысціянскай маралі, з'яўляецца вялікім і незмываемым грахом, нясе Боскую кару, але той, хто грашыць, не думае пра тое. Мне адзін замежны перабежчык з Саветаў расказаў, што зараз у Савецкім Саюзе мараль грамадства ў параўнанні з царскім часам настолькі панізілася, што брыдкаслоўе стала звычайнай з'явай не толькі сярод малаадукаванай часткі грамадства, але і сярод тых, хто набыў вышэйшую адукацыю. І адбылося гэта пасля выказвання Леніна: «Маральна тое, што садзейнічае пабудове сацыялізму». І сталі выканкамы карыстацца ленінскай мараллю. Адмянілі веру ў Бога, бо кіраваліся выказваннем Леніна, што «рэлігія — опіум народа». Тысячагадовыя Боскія запаведзі адкінуты таму, што яны ляжалі ў аснове хрысціянскай маралі. Ілжывы данос стаў нормай паўсядзённага жыцця Саветаў. І, як мы бачым, прымяняецца і ў нас.

— Пан Базыль, я прапаноўваю на заканчэнне выпіць трэцюю чарку, каб у нашым грамадстве людзі кіраваліся маральнымі законамі і ад іх не адступаліся.

Пасля апошняга тоста Васіль прапанаваў, а Ёсель падтрымаў, каб пайсці адпачываць, таму што заўтра, кастрычніцкім ранкам, ён вымушаны канчаткова расстацца з Нясвіжам — едзе дахаты. Перш чым развітацца, Васіль, як звычайна, звярнуўся да гаспадара заезнага двара:

— Выбачайце, шаноўны, я мушу за вашы паслугі разлічыцца.

На што Ёсель адказаў:

— Пан Базыль, калі я пагадзіўся з вамі правесці апошні вечар, то гэта значыць, што ўсё, што мы спажывалі, павінна ісці за мой кошт. Гэта я зрабіў, бо глыбока паважаю вас, пан Базыль. Спадзяюся, што з вамі сустракаемся не апошні раз у нашым жыцці. Хто ведае, якія падзеі чакаюць нас наперадзе?

Пажадалі спакойнага адпачынку адзін аднаму. Рассталіся. Васіль лёг і тут жа заснуў. Праспаў гадзін шэсць. Падняўся. Выйшаў паціху, каб не будзіць тых, каму належала яшчэ адпачываць, на двор, каб падрыхтаваць каня да дальняй дарогі. Поцемку напаіў Воранка і падлажыў канюшыны, пайшоў і лёг, каб яшчэ трохі паспаць. Заснуць не мог. Запаліў запалку, асвяціў цыферблат гадзінніка. Пяць гадзін.

Да ўсходу сонца заставалася прыкладна дзве гадзіны. Ляжаў. Успомніў аб тым, што яму з сённяшняга дня не трэба ісці ў лес. У хуткім часе ляснічы прызначыць іншага гаёвага. А ці будзе новы гаёвы так клапаціцца пра лес, як гэта рабіў ён?

Васіль амаль штодзённа прыходзіў да загарадзі лесагадавальніка, зробленай ягоным сябрам Адасем Рудаманам па ягонаму праекту з соснаў, якія ссеклі для прарэджвання загусцелых пасадак. Успомніў, што гэта адбывалася ў пачатку ягонай службы. Калі лесагадавальнік зрабілі, яго убачыў ляснічы і сказаў: «Гэты гадавальнік бадай што самы прыгажэйшы і найлепш дагледжаны ў нашым лясніцтве. Думаю, што лясніцтва выдзеліць гаёваму пану Базылю Амялішку прэмію за яго стараннасць». Прэмію Васіль атрымаў разам з жалаваннем у лясніцтве. Гэты ўспамін яшчэ больш разварушыў ягоны душэўны стан: фактычна, яго звольнілі па нейкім ілжывым даносе. І ён задаваў сабе пытанне: чаму ў нашым грамадстве ў невінаватага чалавека адымаюць кавалак хлеба? Аднак у той жа час за кардонам у Саветах карныя органы, атрымаўшы ілжывы данос, паступаюць больш жорстка: падазронага арыштоўваюць і судзяць. У нас пакуль не судзяць і не арыштоўваюць, а проста выганяюць з работы, спасылаючыся на антызаконную, юрыдычна не абгрунтаваную пастанову ўрада. Палякі, каб аблегчыць сабе змаганне з той часткай службоўцаў, якія глядзяць з замілаваннем на ўсход і вераць ілжывым байкам савецкіх агентаў, вырашылі весці супраць такіх людзей такія ж незаконныя, юрыдычна неабгрунтаваныя меры барацьбы, як гэта практыкуецца там, у Саветах. Праўда, пакуль што ўрад Польшчы не поўнасцю пераняў антычалавечую практыку Саветаў. Але ж першы крок зроблены — магчымы далейшыя. Тыя ўрадоўцы, відавочна, ведалі, што пастанова незаконная, таму прынялі яе з агаворкай — не тлумачыць падазроным прычыну звальнення.

## 3. Развітанне з Нясвіжам

Пачало світаць. Васіль хуценька падняўся. Выйшаў на двор. Там дэталёва былі бачны сялянскія вазы, якія правялі ноч на гэтым двары. Варанок спакойна стаяў пасля добрага ранішняга пачастунку, чакаў свайго гаспадара.

— Ну што, мой сябра, добра пад’еў? Хадзем, я цябе напаю.

Напаіў, стаў запрагаць, і тут да воза падышоў пан Ёсель.

— Добры дзень, пане Базылю!

— Добры, — адказаў Васіль, — які ён будзе сёння? Прырода рыхтуецца да зімы. Зямля з кожным днём пакрываецца апалым лісцем. Ад балотных мясцін вее холадам, відавочна, тэмпература там панізілася на досвітку ніжэй за нуль. Скора будзем святкаваць дзяды. А там, глядзі, і зямля пакрыецца белым покрывам. Прыйдзецца перасаджвацца на сані. Пачынаюцца перамены як у прыродзе, так і ў мяне асабіста.

— Перамены у прыродзе, пан Базыль, адбываюцца даволі пастаянна, а ў людзей яны непрадказальныя і залежаць часцей за ўсё ад тых, хто намі

кіруе. Прабачце мяне, пан Базыль, я ж прыйшоў сюды перад такім вашым значным пераездам запрасіць вас на сняданак. Мая жонка нас чакае.

Васіль перапыніў запраганне, і яны пайшлі снедаць. Пад час яды да іх падышла гаспадыня:

— Смачна есці, панове. У сувязі з тым, што пан Базыль пакідае нас, жадаю яму багата здароўя, мірнага і заможнага сямейнага жыцця, шчаслівай дарогі і не забываць сваіх сяброў у Нясвіжы.

Снеданне скончана. Ёсель разам з Васілём пайшлі да воза. Васіль хуценька запрог каня. Цёпла развітаўся з Ёселем і паехаў дахаты. Пакідаючы Нясвіж, падумаў: «Я, магчыма, гэтае цудоўнае мястэчка і гэтых спагадлівых людзей бачу ў апошні раз».

## 4. Разважанне Васіля пра свой край

Выехаўшы на дарогу, Васіль падумаў, што, нягледзячы на ўсе складанасці нашага жыцця і нават тое, што мы, беларусы, пакуль не маем сваёй не залежнай ад іншых краін дзяржавы, якую мы страцілі шмат гадоў таму, нам Бог падараваў на зямлі такое цудоўнае месца, якіх на нашай планеце не так і шмат. Калі мы едзем па нашых дарогах, мы ўсюды сустракаем прыгожыя лясы з багатым наборам разнастайныхігольчатых і шыракалістых парод дрэў. Часта перасякаем рэкі, зарослыя алешнікам і living рознымі кустамі, у тым ліку чырвонымі і чорнымі парэчкамі і маліннікам. Мінаем не толькі лясы, але і пералескі, гаі і нават пушчы. Рэдка перасякаем вялікія рэкі — такія, як Нёман. Часцей невялікія, як Шчара ці Зельвянка, а больш за ўсё ручаі, якія нясуць свае воды ў галоўную раку. Ручаі, якіх амаль не ўбачыш у стэпах.

Таму ў нашых суседзяў пастаянна ўзнікае зайздрасць, і яны ідуць на наш край войнамі, ірвуць нашу радзіму на кавалкі з адной мэтай: каб гэтае цудоўнае месца далучыць да сябе. Чаго толькі з тутэйшымі людзьмі суседзі не робяць! Некаторыя расіяне сцвярджаюць, што Беларусь бліжэй за ўсё да Расіі, што яе мова — гэта папсаваная руская мова, і таму Беларусь трэба далучыць да Расіі, каб выправіць мову, замяніць яе рускай. Каб абвергнуць гэтыя домыслы, трэба пазнаёміцца з выказваннямі вялікага польскага паэта, які лічыў сябе літвінам (беларусам). Прыкладна два стагоддзя таму сцвярджаў: «На беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-русінскай, таксама размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі.

Мова велікарусаў, на якой гаварылі амаль гэтулькі ж чалавек (трэба выключыць адсюль фінска-маскоўскі дыялект, які моцна ад яе адрозніваецца),

вылучаецца багаццем і чысцінёй, але ў ёй няма ні цудоўнай прастаты беларускай мовы, ні гарманічнасці маларускай…»

З другога боку, некаторыя палякі робяць амаль тое ж, але толькі на сваю карысць.

Такі іхні погляд мае падставу, бо большасць нашых маладых таленавітых людзей, выхадцаў з Паўночна-Заходняга краю, даволі лёгка авалодваюць рускай ці польскай мовамі і становяцца таленавітымі рускімі ці польскімі вучонымі ў розных навуках, у тым ліку і пісьменнікамі, паэтамі. Дастаткова назваць двух літаратараў — Фёдара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча, творчасць якіх прызнаецца ва ўсім свеце геніяльнай. Дастаеўскі лічыцца вялікім рускім пісьменнікам, а Міцкевіч — вялікім польскім паэтам, бо той і другі вучыліся і выхоўваліся не ў нашых ліцвінскіх школах. Аднак гэта не азначае, што яны належаць толькі тым нацыям, на мовах якіх яны пісалі свае геніяльныя творы. Перш за ўсё трэба лічыць, што яны былі выхадцамі з нашага краю. Міцкевіч пісаў у сваім сусветна вядомым творы «Пан Тадэвуш», што Літва (Беларусь) — ягоная радзіма, і побыт на ёй аздараўляе яго. Вядомы таксама юнацкі бунтарскі дух Дастаеўскага супраць царызму. Таму мы можам лічыць іх абодвух вялікімі Літвінамі. Мы, беларусы, маем падставу ганарыцца тым, што з'яўляемся нашчадкамі геніяў чалавецтва: Фёдара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча.

Так разважаў Васіль, калі ехаў дахаты з Нясвіжа.

## 5. Развітанне з лесам

Прыехаў Васіль у Вольну ў другой палове дня, паехаў на свой хутар не па бліжэйшай дарозе праз вёску Бортнікі, а вырашыў апошні раз заехаць у Храмушу, каб развітацца з лесам, якому ён аддаў адзінаццаць гадоў свайго жыцця. Каля лесагадавальніка затрымаўся, абышоў навокал. Усё было на сваім месцы. Саджанцы апошняй гадоўлі паспелі. «Ім пара мяняць сваё месца, перасяляцца туды, дзе ім належыць многа гадоў расці, каб прынесці людзям будаўнічы матэрыял», — падумаў Васіль. Успомніў, што цяпер гэта не ягоная справа, і яму стала сумна, бо адчуў: ён апошні раз бачыць гадаванцаў. І пайшоў да воза, каб болей сюды ніколі не вяртацца.

Вечарэла. Было пахмурна.

Праз паўгадзіны ён спыніўся ля ганка свайго дома.

## 6. Васіль прыехаў дахаты

Яго з нецярпеннем чакала Надзея і якраз выйшла насустрач. Калі воз прыпыніўся, спытала:

— Ну, што здарылася, Вася, чаму цябе раптоўна выклікалі ў лясніцтва?

— Ведаеш што, Надзя, мяне звольнілі з пасады гаёвага. Хтосьці напісаў ілжывы данос лясніцтву, што я маю сувязь з бальшавікамі. Гэтага было дастаткова новаму ляснічаму, каб пазбавіць мяне пасады лесніка.

— А хто ж гэта мог напісаць такую хлусню?

— Пачакай, я распрагу каня і пра ўсё падрабязна раскажу.

Пад'ехаў да канюшні, уладкаваў каня, пайшоў у хату. Адчыніўшы дзверы, убачыў, што Надзея разгублена снуе ля печы, збіраецца рыхтаваць яму вячэру.

— Надзейка, не хвалюйся з гэтай падзеі. Я ўсё прадумаў за гэтыя апошнія суткі, як мы будзем жыць далей, параіўся са сваім сябрам Ёселем…

І ён расказаў Надзеі, пра што яны гутарылі пад час пачастунку ў нясвіжскім заезным двары.

— Яно-то так, выйсце з нашага, скажам, нялёгкага стану, безумоўна, знойдзем, але ж адразу супакоіцца ад такой дрэннай навіны немагчыма, — сказала Надзея.

Яна пачала падаваць на стол, што было загадзя падрыхтавана, а думкі былі пра іншае. Асэнсоўвала пачутае ад Васіля, і перад ёю паўставала адно пытанне: а хто ж мог учыніць такую подласць?

— Знаеш, Надзя, калі ўчарашнім ранкам ехаў праз Яцкевічаў сад у напрамку Нясвіжа, сустрэў Льва Яцкевіча. Ён збіраў ападкі і, прыпыніўшы мяне, спытаў: «Васіль, а няўжо ж ты так рана сабраўся на працу? Ты ж звычайна ходзіш пешшу, а сёння чамусьці як бы прыбраўся ў дальнюю дарогу». — «Лявон, ты ўгадаў. Я сапраўды еду ў Нясвіжскае лясніцтва».

Мне падалося, што ён ведаў, куды я еду і па якой справе, бо на ягоных вуснах паявілася ўсмешка. Ён сказаў: «Ну, едзь, едзь, спадарожнага табе ветру». І калі я ад'ехаў і азірнуўся, то мне падалося, што ён стаяў і міжволі са смяшком паціраў рукі. У той час я на гэтую сустрэчу не звярнуў аніякай увагі і толькі цяпер аб ёй ўспомніў.

— А знаеш, Васіль, я думаю, правільна ты прыдумаў: калі ў цябе няма грунтоўных доказаў чыёйсьці віны, то лепей маўчаць і нікому не гаварыць пра здагадкі. Уяві сабе, што было б, калі б памылкова абвінавацілі чалавека? Набылі б сабе ворага, зрабілі б вялікі грэх.

— Я думаю, калі ў мяне будуць пытаць знаёмыя ці суседзі, па якой прычыне мяне звольнілі, скажу, што ў сувязі са складанымі міжнароднымі абставінамі адбыліся змены ў лясніцтве. Звольнены з пасады былы ляснічы.

Больш за тое, я не каталік, а нам, праваслаўным, цяпер з боку польскіх уладаў няма даверу. Новы ляснічы пачаў дзейнічаць па вядомым прыслоўі: «Новы венік па-новаму мяце». Вось па гэтай прычыне мяне «вымелі». Ляснічы нават сказаў мне: «Я не маю права тлумачыць, па якой прычыне вас звольнілі».

## 7. Набліжалася зіма 1934–1935 года

Канчаўся кастрычнік. Пачаліся ўстойлівыя начныя замаразкі. Пасля Пакроваў выпаў снег, які пакрыў не толькі зямлю, але і дрэвы, з якіх не паспела апасці лісце, затрымаўся на галінах хвой. Вакол стала святлей ад снежнай белаты. Звычайна доўгімі асеннімі вечарамі пачынала рана цямнець, а цяпер стала святлей у прыродзе і на душы чалавека.

Са з'яўленнем святла ранкам ля дрэў сталі бачны на снезе сляды птушак і розных дзікіх жывёл. Па адбітках слядоў вопытныя людзі ведалі, хто наслядзіў. Сляды пакідалі курапаткі, зайцы, лісы, ваўкі, казулі, кабаны і іншыя палявыя і лясныя дзікія жывёлы. У адмысловых месцах, дзе слядоў было нямала, узнікалі сцежкі. На сцежках ставілі сілкі. Іх рабілі з конскага воласу і лавілі імі курапатак. А на зайцоў ладзілі драцяныя петлі, ставілі пасткі. Сваю здабычу спажывалі, а часцей адносілі на продаж.

Паляўніцтвам сяляне амаль не займаліся — не мелі стрэльбаў. Яны былі вельмі дарагімі. Набыць стрэльбы маглі памешчыкі і невялікая колькасць багатых сялян, жыдоў, якія мелі значны прыбытак ад уласнай зямлі ці ад прадпрыемстваў. Гэта пераважна былі млыны, пабудаваныя на невялікіх загачаных рэчках. Вада, паднятая на дастатковую вышыню плацінай, падала на кола турбіны і круціла яе, а турбіна круціла жорны, якія малолі зерне.

Кемлівыя людзі энергію вады выкарыстоўвалі ў механічнай маслабойцы, а таксама выціскалі алей з насення ільну, канапель і іншага семені. Дасведчаныя людзі выкарыстоўвалі дармавую энергію ветру — будавалі ветракі. Такі вятрак пабудаваў і сусед Васіля Лявон Яцкевіч.

## 8. Паездка ў Баршчаўнік

Пасля таго, як выпаў снег і пакрыў дастатковым слоем зямлю, настала пара вымаць сані, якія стаялі да сённяшняга дня пад павеццю ля адрыны. У гаспадарцы Васіля былі сані, на якіх вазілі розныя грузы. Іх называлі розвальні. Сані, на якіх выязджалі ў царкву на літургію ці ў госці, называлі вазок.

Васіль на першую паездку пачатку саннага сезону запрог каня ў вазок, каб даставіць дзецям прыемнасць. Сказаў Надзі:

— Надзейка, я вырашыў апрабаваць сані, ці дастаткова выпала снегу, каб імі можна было карыстацца, і заадно пракоцімся з дзецьмі. Паглядзім, што дзеецца ў Баршчаўніку.

Калі Міша і Соня даведаліся, што бацька возьме іх з сабою ў паездку, ды яшчэ на санях, то яны ўзрадаваліся і як мага хутчэй захацелі забрацца на сані. Надзея хутка апранула нецярплівых. Яны навыперадкі пабеглі на ганак да бацькі і селі побач з ім. На развітанне Надзя падышла да саней, папярэдзіла Васіля, каб ён не дазваляў ім сваволіць падчас руху, і, жартуючы, дадала:

— А чаму ж гэта вы мяне з сабою не бераце?

На што Міхась сказаў:

— Мамачка, сядайце разам з намі. Тут месца нам хопіць.

— О, мае ж вы харошыя, дзякуй табе, Міхаська, за запрашэнне. Але мне ж трэба заняцца хатнімі справамі. Едзьце з Богам. Я ж мушу прыгатаваць вам вячэру, накарміць жывёлу. Хто ж за мяне ўсё гэта зробіць? Да таго ж, я чакаю Мікалая, што ён скора прыйдзе са школы.

Узяў Васіль трохгадовую дачушку Соню сабе на рукі, а Міхась сеў побач з бацькам і трымаў з гонарам лейцы, як сапраўдны вазніца, пакуль усе ўладкоўваліся. Пасля Васіль узяў з рук Міхася лейцы і, каб той не пакрыўдзіўся, сказаў:

— Міхаська, табе яшчэ ранавата кіраваць канём. Пройдзе зусім мала часу, ты падрасцеш і навучышся добра кіраваць, а пакуль што прыглядайся, запамінай, што я буду рабіць, каб пачаць рухацца.

Васіль тузануў двума лейцамі — і конь рушыў з месца. Надзея перахрысціла іх і дадала:

— Едзьце з Богам.

А сама стаяла некалькі хвілін і назірала, як яны ехалі па падворку, пакуль не схаваліся за гумном.

Як толькі Васіль тузануў лейцамі і выгукнуў: «Но!», Варанок пачаў ісці па снежнай цаліне. Капыты ног і палазы саней правальваліся прыкладна на дзесяць сантыметраў і не давалі магчымасці саням паскорана рухацца. Левы паварот ад ганку таксама не спрыяў хуткаму руху. Акутыя жалезам драўляныя палазы за вясну, лета і восень пакрыліся іржою і пакуль што дрэнна слізгацелі. З’езд з падворка быў даволі стромым спускам між гумном і склепам-адрынай, што штурхала Варанка перайсці на бег, а гэта было небяспечным. Соня і Міхась усхвалявана ўзіраліся, як конь з цяжкасцю стрымліваецца, каб не пачаць бегчы. Бачылі, як хамут разам з аглоблямі па шыі каня рухаўся наперад, а конь сваімі капытамі гамаваў, на толькі што выпаўшым снезе заставаліся сляды на шырыню капытоў, і гэта працягвалася, покуль не выехалі на роўнае месца. Дзеці ад страху рукамі абхапілі бацьку і моцна трымаліся, пакуль не з’ехалі з горкі на роўную дарогу.

Калі выехалі на гарадзішчанскую дарогу, адчулі сябе смялей і пачалі разглядаць тое, што з’яўлялася перад імі. Вакол разлеглася шырокае засне-

www.kamunikat.org

жанае пагорыстае поле. Учора яно было зусім іншым: дзе-нідзе ўзараным, вялікая плошча была засеяна азімым жытам. Злева пачаўся бацькаў парк, дзе яны ўчора бачылі шмат апалых рознакаляровых лістоў, збіралі самыя прыгожыя кляновыя, каб прынесці дахаты і падарыць маме. А зараз усё было спрэс пакрыта снегам, стала зусім іншым. Хтосьці за адну ноч накрыў белым снегам усю зямлю. Сённяшнія перамены ў наваколлі чамусьці асабліва застануцца ў іх памяці. Мабыць, таму, што бацька ўзяў іх з сабою і вязе, каб заадно пазнаёміць з пераменамі ў прыродзе, паназіраць за сваім участкам зямлі, які ляжыць на адлегласці двух кіламетраў ад асноўнай гаспадаркі. Паездка давала дзецям многа таго, чаго яны не маглі бачыць, калі сядзелі ў хаце.

На заснежаным покрыве Міхась убачыў сляды, спытаў бацьку:

— Татачка, чые гэта сляды?

Сані рухаліся павольна, а Васіль тлумачыў:

— Глядзіце, дзеткі, вось гэтыя сляды пакінулі курапаткі. Бачыце? Вунь там, у лагчынцы, яны ласуюцца насеннем пустазелля. Лявей паўзірайцеся на сляды цэлай чарады зайцоў. Якую прыгожую сцежку паспелі вытаптаць за ноч. Зірніце на бярозавы гаёк Бубноўскага, вунь там яны гарэзнічаюць па першым снезе на значнай адлегласці ад хутарскіх сабак. Гэтае шырокае поле, як толькі магчыма акінуць вокам, маёмасць пана Якуба Бубноўскага. І цягнецца аж да самага Хвалькавага хутара. У Бубноўскага ў нашай вёсцы дзесьці каля трыццаці гектараў зямлі. Хутар Бубноўскіх пабудаваны за гарой, адсюль не відаць.

Ехалі павольна. Дарога яшчэ была не абабітая іншымі санкамі. Цяжкавата было каню цягнуць сані на гэтым участку дарогі, ды усё ў гару. Калі падняліся на самую высокую горку, то злева ўбачылі лес. На галінах сосен ды елак за апошнюю ноч затрымалася багата снегу. Убачыўшы лес, Міхась спытаў:

— Тата, а чый гэта лес?

— Міхаська, гэты лес завецца Круглік, відаць, таму, што месца, якое ён займае, нагадвае круг. Належыць ён амаль усім сялянам, якія некалькі гадоў таму пайшлі на хутары. Кожная сям'я бортніцкіх сялян надзелена паласой лесу. Не маюць такіх палос прышлыя (мы ў тым ліку), хто набыў зямлю былога бортніцкага маёнтка, і сяляне Галёні, якія атрымалі свае надзелы за доўгую службу ў памешчыкаў Слізняў. Круглік — гэта самы блізкі да нас лес плошчай каля сямідзесяці гектараў.

Дзеткі, я хачу вам расказаць, што непадалёк адсюль, за рэчкай Змейкай, да вайны быў вялікі лес, — працягваў расказваць Васіль, — які займаў значную плошчу і належаў бортніцкім памешчыкам Слізням. Раслі там магутныя дубы, елкі, сосны і іншыя дрэвы. На гэтых магутных дрэвах у дуплах вадзіліся дзікія пчолы. Гэта было даўно, недзе ў чатырнаццатым стагоддзі, а можа, і раней. І калі ў нашай мясцовасці пасяліліся памешчыкі

Слізні са сваімі прыгоннымі сялянамі, яны пабудавалі сабе маёнтак на тым месцы, дзе мы зараз жывем. А памешчыцкія сяляне пасяліліся там, дзе цяпер месціцца наша вёска. Па прапанове пана Слізня сяляне пачалі займацца пчалярствам з тымі пчоламі, якія гняздзіліся ў дуплах старых дубоў панскага лесу, а мёд пастаўлялі панам Слізням. За гэтым маёнткам і паселішчам панскіх прыгонных сялян усталявалася назва Бортнікі. Бортнік у перакладзе на сучасную мову азначае пчаляр.

У мінулым стагоддзі род бортніцкіх Слізняў вымер, а маёнтак па спадчыне перайшоў ва ўладанне вальнянскім Слізням. Яны выграшылі прадаць сядзібу і належныя маёнтку землі.

— Тата, а што азначае слова «круг»? — запытаўся Міша.

— Міша, табе споўнілася пяць гадоў. Пайшоў шосты. У будучым годзе, магчыма, цябе адправім у школу. Там даведаешся, што мы разумеем пад словам «круг», і многа чаго іншага. Цяпер я табе магу сказаць наступнае: сёння ў нас пагожы сонечны дзень. Калі хуценька зірнуць на сонейка, то мы ўбачым, што яно круглае. Але доўга глядзець на яго нельга: можна страціць зрок — аслепнуць, Круглымі з’яўляюцца зярняткі гароху, яблыкі, плады вішань, чарэшань і г. д. Так ты і сам зможаш зараз мне нагадаць шмат круглых рэчаў, з якімі часцяком сустракаешся.

— Так, тата, я думаю, што гэта будзе гарбуз, яйкі і мноства іншых рэчаў.

— Прыблізна гэта так, але не зусім дакладна. Каб зразумець сэнс слова «круг» і іншых, пакуль што табе невядомых слоў, трэба не адзін год вучыцца ў школе. Словы «круг», «акружнасць», «лінія», «вугал» і шмат чаго іншага падрабязна вывучае вельмі карысная навука геаметрыя, з якой знаёміцца кожны вучань у школе. На жаль, табе, і тым больш Соні, яшчэ ранавата разумець дакладна гэтыя словы. Ты малайчына, Міхаська, цяпер ты зразумеў адказ на сваё пытанне? Калі ў школе будзеш вучыцца, то атрымаеш адказы, што дакладна азначаюць гэтыя словы.

Лес канчаўся. Каля Цікаловічавага хутара павярнулі ўправа і прыкладна праз трыста метраў па снежнай цаліне пад’ехалі да ўскрайку свайго ўчастка, які чамусьці завецца Баршчаўнік. У адыходзячым годзе Васіль набыў яго за грошы, якія пазычыў у баранавіцкай ашчаднай касе. Там да куста прывязалі каня, а самі адправіліся па снезе, каб агледзець увесь участак.

Ехаць на вазку далей было немагчыма з-за снегу і складанага гарыстага рэльефу мясцовасці. Акрамя таго, набытая бацькам зямля месцілася ўпрытык да бліжэйшага дота, які будаваўся ўрадам і ўваходзіў у склад абарончай лініі супраць бальшавікоў. Гэта ўсяго невялікая частка былой перадавой абарончай лініі з акопамі, зямлянкамі Першай сусветнай вайны, парослая хмызняком.

Агледзеўшы ўвесь свой участак зямлі, Васіль сказаў дзецям:

— Вось цяпер пойдзем да саней і паедзем дадому.

Васіль узяў Соню на рукі, а Міша ішоў, стараючыся патрапляць у бацькавы сляды аж да самога вазка — так яму было лягчэй ісці. Варанок чакаў іх з нецярпеннем. Селі. Тым самым следам паехалі ў зваротным кірунку. Праехалі з дзясятак метраў, і Васіль заўважыў сляды зайцоў каля аднаго з бліжэйшых кустоў:

— Паглядзіце, вось там гуляла чарада зайцоў. Бачыце, якую ладную сцежку паспелі вытаптаць.

Соня была ў такім узросце, калі яна поўнасцю залежала ад сваіх бацькоў у сваіх патрэбах. Маці Надзея прывучала яе да элементарных жыццёвых абавязкаў: раніцай умывацца, прычэсвацца — выконваць усе гігіенічныя працэдуры. Гэтыя абавязкі прывіваліся і хлопцам, Мікалаю і Міхасю. І ўсё гэта рабілася і кантралявалася мамай Надзеяй. Абавязкі жанчыны ў сям'і былі і будуць больш складанымі, чым у мужчын. Самой прыродай і Богам наканавана жанчыне з моманту нараджэння дзяцей і да сканчэння веку займацца ўсімі дробязнымі, але так неабходнымі сямейнымі справамі. Цяпер жа, калі правяла сваіх дзяцей з Васілём у паездку па першым снезе, Надзея пайшла ў хату, каб там ухадзіцца з усімі справамі. Перш за ўсё неабходна напаіць усіх жывёл, якія раней пасвіліся на пашы, забяспечыць начной порцыяй корму кароў, цялят, авечак, коней, свіней. Трэба было схадзіць у склеп, дзе захоўваліся гароднінa і ўсё астатняе. Неабходна было адтуль прынесці каровам і цялятам кармавых буракоў; падрыхтаваць чыгуны з бульбай, каб у наступны дзень зварыць яе свінням. Уся гэтая праца выконвалася ўручную без усялякіх механічных дапаможнікаў і лажылася на плечы гаспадыні.

Працу парабкаў і наймічак бальшавікі ў СССР лічылі эксплуатацыяй. Пра гэта Васіль даведаўся ад аднаго перабежчыка з-за мяжы. Пры суцэльнай калектывізацыі ў СССР тых сялян, якія наймалі працоўную сілу, бальшавікі ліквідавалі як эксплуататараў. Іх назвалі кулакамі і вывезлі сілком, пераважна ў Сібір і Казахстан. Бальшавікі лічылі, што калі бяднейшыя раздзеляць маёмасць, сілком адабраную ў кулакоў, а гэта значыць, зямлю і пабудовы, нажытыя гэтымі людзьмі, а кулакоў перасяляць у іншыя месцы, дык бяднейшыя зажывуць шчасліва. Гэтыя планы дорага каштавалі сялянам. У тыя часы цяжка прыйшлося не толькі тым, каго раскулачылі і вывезлі, але і тым, хто будаваў калгасы. Не спраўдзіліся абяцанкі бальшавікоў.

Сялянам прыйшлося будаваць калгасы ў страшэнных умовах холаду і часцяком голаду. Вядомы голад 1930-х гадоў у Паволжы, Украіне і іншых месцах, які пад час пабудовы калгасаў забраў шматмільённую ахвяру, ніколі не будзе забыты ў гісторыі чалавецтва. Ёсць доказ злачыннай дзейнасці бальшавіцкага ўрада дыктатара Сталіна. Злачынная справа гэтага рэжыму, існаваўшага на нашай зямлі, на жаль, не была асуджана чалавецтвам.

На пясчаных горках Бортнікаў сустракаюцца пераважна бярозавыя гаі. У тых мясцінах няма сэнсу займацца земляробствам, таму што пясчаныя

глебы пры сухавеях хутка перасыхаюць. У гэтым выпадку зерневыя не атрымліваюць неабходную ім колькасць вільгаці — заўчасна жаўцеюць. Пажаданага плёну ў гэтых мясцінах не атрымаеш, таму іх і не апрацоўваюць. Яны зарастаюць кустамі і ягаднікамі. Туды вясной, летам і восенню можна схадзіць па ягады ці грыбы. Зімой на гэтых гарыстых мясцінах моладзь з бліжэйшых хутароў арганізоўвала гульні на санках і дошках. Наш дом стаіць на даволі стромай горцы, з якой мы, дзеці, зімой на розных падручных сродках, а то іншым разам проста на штанах слізгацелі па аб'езджанай сцежцы аж да падножжа горкі, бо не мелі ні санак, ні лыж.

## 9. Дзед Андрэй, Павел і Давыд Амялішкі перасяляюцца ў Калюгу

Трэцім з дзяцей Андрэя Амялішкі (па-вулічнаму Пракопчыка) быў Павел. Дзед Андрэй, відавочна, больш за ўсё быў схільным да яго. Таму калі стала пытанне дзеду Андрэю і бабулі Ксеніі, з кім з дзяцей дажываць свой век, яны выбралі Паўла. Павел з Давыдам прадалі ўсе свае надзелы ў вёсцы Вольна і набылі добры кавалак зямлі ў асаднікаў Дамагалаў — засценак Калюга непадалёку ад вялікай вёскі Стайкі.

Чаму асаднікі Дамагалы прадавалі свае надзелы менавіта ў сярэдзіне 1930-х гадоў? Тут можна здагадацца: яны ведалі, што Саветы помслівыя і не даруюць ім іх удзел у грамадзянскай вайне на баку Пілсудскага, і таму вырашылі прадаць сваю маёмасць і падацца з грашыма на захад Польшчы. Яны прадчувалі пагрозу ад бальшавікоў, калі яны захопяць гэты край. Так яно і адбылося. Тыя асаднікі, якія сядзелі на месцы з прыходам Саветаў, страцілі і зямлю, і маёмасць, а шмат хто — жыццё.

А што выйгралі ўрэшце з прыходам Саветаў мае бацькі, дзед і дзядзькі, патраціўшыя шмат грошай на зямлю, пабудовы і на ўсё іншае? Адказ такі: яны страцілі таксама ўсё. Праўда, іх жыцці захаваліся — пачалася вайна. Фашысцкі рэжым Гітлера напаў на СССР, і бальшавікі не паспелі здзейсніць свой план — вывезці кулакоў.

Перад Другой сусветнай вайной дзед Андрэй з сынамі Паўлам, Давыдам і іх сем'ямі перасяліліся ў Калюгу, былы засценак, якім пілсудчыкі надзялілі асаднікаў. Набыты ўчастак зямлі падзялілі на два. Адзін хутар з усімі пабудовамі заняў дзядзька Павел з сям'ёй і дзедам Андрэем і бабуляй Ксеняй, а другі —дзядзька Давыд са сваёй сям'ёй. Два хутары мелі цудоўныя тагачасныя фермерскія збудаванні з выдатнымі для таго часу жылымі дамамі. Хутары былі абсаджаны чарэшнямі і вішнямі. Багатыя былі і яблыневыя сады. Мы, Васілёвы дзеці, наведвалі штогод дзеда і дзядзькоў у пачатку чэрвеня, калі паспявалі чарэшні. А якія там былі гатункі! Буйныя былі бурштынавага колеру, а меншыя — чырвонага і

цёмна-чырвонага — гарэнілі. Дрэвы былі такія высокія, што няпроста было з іх зрываць плады. Нам, гасцям, дазвалялася ласавацца колькі ёсць жадання, і мы хутка наталялі сваю смагу.

## 10. Каляды 1935 года

На прасторы былога памесця Бортнікі прайшлі маё дзяцінства і юнацтва. Самым шчаслівым было першае дзесяцігоддзе, а пасля пачалася вайна. Усе мае ўспаміны звязаны з нашым жыццём у гэтай цудоўнай мясціне, якая мне да сёння часцяком з'яўляецца ў сне.

Перад тым, як Васіль са сваёй сям'ёй пераехаў на бортніцкі хутар, у вёсцы Бортнікі адбыліся змены: сяляне вырашылі пайсці на хутары. Ім у гэтым спрыяла ўлада. Палякі, трэба аддаць ім належнае, стаялі на пазіцыях рынкавай эканомікі: не толькі падтрымлівалі перасяленне сялян на хутары, але настойліва рэкамендавалі ім гэта рабіць, таму што бачылі перспектыву развіцця аграрнага сектара эканомікі.

Пад канец 1930-х гадоў, гэта трэба падкрэсліць асабліва, польская адміністрацыя больш спрыяльна ставілася да каталікоў, бо лічыла іх палякамі. Гэта тычылася адукацыі тых юнакоў і дзяўчат, якія хацелі пасля заканчэння сямігодкі вучыцца ў гімназіі, настаўніцкай семінарыі або ў тэхнічным вучылішчы. Бацькі праваслаўных вучняў павінны былі плаціць за вучобу, і не мала. Таму нават заможныя сем'і маглі вучыць толькі аднаго вучня, а каб вучыць усіх дзяцей, трэба было прадаваць зямлю. Аднак па гэтаму шляху амаль ніхто не ішоў. Гэта мы бачым на прыкладзе сям'і майго дзеда.

Сярэднюю адукацыю атрымаў мой дзядзька Лаўрэнцій. У сярэдзіне 1930-х ён закончыў платную Слонімскую семінарыю, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых класаў. Закончыць семінарыю дзядзьку Лаўрэнцію дапамагалі бацькі, браты і сёстры пры ўмове, што пры дзеляжы спадчыны Лаўрэнцію зямельнага надзела не будзе. Ягоны зямельны надзел быў страчаны на навучанне ў семінарыі.

А вось і яшчэ адзін прыклад. У шматлікай сям'і Осіпа Сладкоўскага з мястэчка Цырын малодшы сын Барыс быў здольным да навукаў. Ён закончыў сямігодку ў Цырыне, і бацька Осіп паслаў яго вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. Барыс паспяхова яе закончыў у 1938 годзе. Аднак далей трэба было паступаць ва ўніверсітэт. Каб вучыцца і атрымаць вышэйшую адукацыю, трэба было прадаваць зямлю. Гэтага зрабіць бацька Барыса Осіп не мог. Аднак існаваў другі шлях атрымання вышэйшай адукацыі: памяняць Барысу канфесійную прыналежнасць — стаць каталікам. Тады польская дзяржава абяцала вучыць яго за свой кошт. Пераход Барыса ў каталікі не адбыўся. Здольны вучань Барыс Сладкоўскі не папаў ва універсітэт.

www.kamunikat.org

У Саветах у той час існаваў больш шырокі доступ да адукацыі для моладзі. Тыя, хто меў здольнасці і жаданне набыць сярэднюю і вышэйшую адукацыю, маглі набыць яе толькі пры адной умове: бацькі і сам вучань не павінны былі быць ворагамі народа. Тады вучань без праблем набываў за нязначную аплату сярэднюю, а таксама і вышэйшую адукацыю. Аплата за навучанне ў СССР у параўнанні з аплатай у Польшчы была нязначнай, а ўрэшце і зусім была адменена ў канцы 1950-х гадоў 20-га стагоддзя.

У маёй памяці захаваліся ўспаміны аб вёсцы Бортнікі, якая месціцца на хутарах. Хутары яе пабудаваны ўздоўж дарог, якія пачынаюцца з агульнага цэнтра ля былога панскага бровара і сажалкі і разыходзяцца па розных напрамках. Калі паехаць з гэтага пункта на захад, то можна папасці ў вёску Завоссе і наведаць музей-сядзібу Адама Міцкевіча, рэстаўраваную некалькі гадоў таму да яго двухсотгадовага юбілею. Да яе можна трапіць па асфальтаванай дарозе, спецыяльна пабудаванай для наведвальнікаў музея.

А калі паехаць з таго ж пункта па дарозе на паўночны захад, праз адзінаццаць кіламетраў можам апынуцца ў мястэчку Гарадзішча, затым у Наваградку, а па дарозе маем магчымасць наведаць легендарнае возера Свіцязь.

І апошняя дарога з таго ж пункта ў паўднёва-ўсходнім напрамку прывядзе нас праз Бортнікі ў Вольну. А адтуль да алімпійскай дарогі Брэст–Масква ўсяго пяць кіламетраў.

Трэба зазначыць, што зараз на гэтым перакрыжаванні пабудавана альтанка дзеля тых, хто прыйшоў на прыпынак і чакае аўтобуса, каб ехаць у Баранавічы.

Ад гэтага перакрыжавання на адлегласці каля ста метраў захаваўся драўляны дом бортніцкіх памешчыкаў Слізняў, які цудам перажыў абедзве сусветныя войны і захаваўся да нашых дзён. Пабудаваны ён у пачатку 19-га стагоддзя. Застрахаваны ў 1827 годзе. Дом цікавы тым, што быў сведкам сустрэч такіх гістарычных асобаў, як Ян Чачот і Ігнат Дамейка (гасцяваў там у 1884 годзе пад час апошняга побыту на радзіме). Ёсць здагадкі, што ў гэтым доме бываў і Адам Міцкевіч. Там праводзілі свае сходкі філарэты і філаматы. Пра Бортнікі расказвае ў сваёй кнізе «Наваградскі замак» пісьменнік Кастусь Цвірка.

Канчаўся 1934 год. Васіль са сваёй сям'ёй рыхтаваўся да калядных святаў 1935 года. Было вырашана набыць елку і ўпрыгожыць яе елачнымі цацкамі, якія Надзя купіла ў краме Дашкевіча. Колькі было радасці дзецям разглядваць незвычайныя блішчастыя шкляныя шары і постаці анёлаў, рыбак, лупатых вавёрак і мядзведзяў!

Вечарам 6 студзеня хлопцы і маленькая Соня пачалі прыбіраць елку. Колькі радасці ў дзяцей выклікаў гэты занятак! Надзя з Васілём кармілі статак, каб у гэтую святую марозную ноч і жывёла была добра накормлена. Калі скончылі ўходжвацца, бацька прынёс з адрыны пагожага грудавога

сена ў рэзгінах, пах якога распаўсюдзіўся па ўсіх пакоях. Мама разаслала духмянае сена на кухонным стале роўным слоем і зверху пакрыла бялюткім кужэльным абрусам. На стале пачала раскладваць посныя стравы ў гонар нараджэння Божага сына Хрыста.

На стале цэнтральнае месца заняла куцця — ячменная каша. У цёрле хлопцы церлі качалкам запараны варам мак, дабаўлялі мёд, ды так, каб з гэтай масы атрымалася макавае малако. Акрамя таго, мама пякла спецыяльныя посныя праснакі з пшанічнай мукі велічынёй з аладкі, якія называлі ламанцамі таму, што яны падсушваліся на патэльні ці на блясе, пакуль не ламаліся з хрустам. Саладзілі іх мёдам ў спецыяльнай місе і ставілі на стол. З такога ж цеста выпякалі галушкі. Абавязковым блюдам быў квас, які запраўлялі грыбамі і цыбуляй і салілі. Да квасу выпякаліся аладкі. Іх елі з грыбной поліўкай. Асобна на стол падавалі селядцы, запраўленыя падсмажаным льняным алеем з цыбуляй. На стале, вядома, былі салёныя гуркі, яблыкі, посны вінегрэт, квашаная капуста, кісель з журавін і мёду, хлеб, булкі і асобна мёд.

Падрыхтоўка стала скончана. Усе садзяцца. Кожны на сваё месца. Падымаецца Васіль, а за ім прысутныя, і вымаўляюць словы: «Ойча наш, каторы ёсць у небе, свяціся імя Тваё. Прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая, як у небе, так і на зямлі…» Малітва скончана, і Васіль складае падзяку Богу, што мы шчасліва прыждалі каляды і просіць, каб і праз год таксама дачакацца новых каляд. Перахрысціліся і пачалі яду з куцці. Такое блюда было абавязковым для ўсіх. Гэта не значыць, што кожны прысутны абавязаны быў з’есці цэлую талерку куцці. Але гэты рытуал без прымусу абавязкова выконваўся без усялякіх адгавораў усімі прысутнымі як напамін, што хлеб — аснова ўсяго нашага дастатку і шчасця.

Далейшы працяг куцці адбываўся свабодна. Елі, што каму падабалася.

Мая маці Надзя была добрай гаспадыняй, гатавала посныя стравы так, каб яны былі да спадобы ўсім. У прыгатаванні страў прытрымлівалася нацыянальных традыцыяў, на розныя святы гатавала адмысловыя стравы. Паспяхова апрабавала новыя стравы ў сваёй хатняй практыцы. Пачуццё новага было ў яе натуры. Яна нейкі час наведвала кулінарны гурток, які быў арганізаваны ў нашай вёсцы. Кіраўнікі гуртка прапанавалі маме паездку ў цэнтральную Польшчу ў мястэчка Ліскув дзеля абмену кулінарным вопытам. Паездка не адбылася па невядомых прычынах.

У гаспадарцы Васіля Надзея мела свабоду творчасці ў справе прыгатавання новых страў. Калі нейкая са страў была няўдалай і яе ніхто не хацеў есці, у гэтым бяды не было, бо прадукт не марнаваўся — яго з’ядалі свінні, а ўрэшце і сабакі.

Прадуктаў як жывёльнага, так і расліннага паходжання ў гаспадарцы было ўдосталь, Аднак гэта не азначала, што можна было раскідваць набы-

тае нялёгкай працай. Бацькі заўсёды былі ашчаднымі. Мэта сям’і Васіля — забяспечыць дзяцей прыстойнай будучыняй. А дзеля гэтага была патрэба ў набыцці зямлі, каб падрастаючым сынам і дачцэ было што даць у пасаг і не дзяліць на кавалкі ў будучым сваю гаспадарку. Планавалася старэйшага сына Мікалая вучыць, а малодшага, Міхася, пакінуць на гаспадарцы. Соні на пасаг быў набыты Баршчаўнік.

Усё, што вырошчвалася, зберагалася і ў асноўным ішло на продаж, а вывучаныя грошы — на пакрыццё доўгу ашчаднай касе. Прамысловыя тавары набывалі толькі тады, калі без іх нельга было абысціся. Нацельная бялізна была льняная — саматканая. Дзецям куплялі толькі неабходнае. Іх не песцілі. Дзецям хацелася мець веласіпеды, аднак бацькі ўмелі іх пераконваць, што на гэтую раскошу грошай не хапае. Набывалі неабходнае, што прынясе ў будучым значны даход. Мы, дзеці, у сваім юнацтве не мелі таго, што мелі дзеці ў сем’ях з меншымі даходамі. Да 1939 года нам бацькі не купілі ніводнага веласіпеда. Ад гэтага мы не сталі горшымі. Ашчаднасць у нашай сям’і перадавалася ад пакалення пакаленню. Але мы не лічыліся скупымі.

## 11. Паездка Васіля ў Баранавічы па сеялку

Пачаўся 1935 год. Тыя планы, якія пасля звальнення з пасады гаёвага пачаў будаваць Васіль яшчэ ў Нясвіжы, трэба было выконваць. У пачатку лютага ён сказаў Надзі:

— Надзя, канчаецца зіма, хутка вясна, трэба думаць аб сяўбе, таму мне ў бліжэйшыя дні трэба паехаць у Баранавічы і купіць там конную сеялку. Хопіць нам дарэмна раскідваць зерне, каб яго з’ядалі птушкі.

— Ну, што ж, Васіль, мы не раз абмяркоўвалі неабходнасць гэтай пакупкі. І хоць у нас ад твайго жалавання засталося няшмат грошай, едзь і купляй. Табе сапраўды цяжка сеяць уручную, — падтрымала Надзея.

Надзея, як ніхто іншы, разумела, як цяжка яе мужу сеяць параненай рукой.

Васіль добра пакарміў каня, падрыхтаваў вазок і ў канцы студзеня, калі спаў мароз, паехаў у Баранавічы купляць сеялку. Выехаў зацемна з разлікам, каб да абеду прыехаць у краму, якая гандлявала сельскагаспадарчымі машынамі.

Надвор’е спрыяла паездцы. Церушыў невялікі снег. Дарога была абабітая іншымі фурманкамі. Конь, застаяўшыся ў хляве (некалькі дзён нікуды паездак не было), бег з ахвотай. Да Баранавіч дарога не блізкая. Звычайным сваім тэмпам руху гэтую адлегласць Васіль пераадольваў за пяць гадзін. Сёння ў Баранавічах рынчны дзень. Не даязджаючы да вёскі Войкавічы, нагнаў некалькі фурманак, якія везлі на продаж свіней і рухаліся

павольна. Васілю неабходна было іх абагнаць. Звярнуць на абочыну не мог — там было шмат снегу. Да вёскі рухаўся павольна, спадзеючыся абагнаць іх там. І сапраўды, ягоны разлік збыўся. У другім канцы вёскі каля крамы была расчышчана пляцоўка. Васілю ўдалося абагнаць пярэднія фурманкі. Варанок, адпачыўшы на значнай адлегласці, ізноў паскорыў свой бег.

Пасля моцных студзеньскіх маразоў пацяплела, падсыпала снегу. Набліжалася пара, калі звычайна пачыналася лютаўская завея. Дарогі ў некаторых месцах заносіла так, што каню было цяжка пераадольваць гэтыя адрэзкі. Ведаючы пра тое, што да пачатку завірух трэба выканаць намечаную справу, Васіль спяшаўся, таму і прыехаў у Баранавічы на вуліцу Берасцейскую раней на гадзіну. Там была крама, дзе гандлявалі сельскагаспадарчымі машынамі. Даведаўся, што набытыя машыны за нязначную дадатковую плату дастаўляюцца пакупніку дахаты. У якасці гарантыі патрэбна было ўнесці задатак, а астатнія грошы заплаціць тады, калі сеялка будзе дастаўлена спецыялістамі і сабрана на месцы. Гэтыя ўмовы гандлю яго задавальнялі. Акт продажу быў заключаны. Спецыялісты ўручылі Васілю неабходны дакумент пастаўкі сеялкі ва ўказаны тэрмін.

Гэтым набыткам пачаў выконвацца ягоны план — аснашчэнне гаспадаркі сучаснай тэхнікай. Першым крокам у гэтай справе было прыдбаць конную сеялку. Сеў будзе адбывацца пры дапамозе двух коней і двух чалавек абслугі і выконвацца ў некалькі разоў хутчэй і больш якасна. Птушкам цяпер будзе складаней дабрацца да насення, каб паласавацца.

З дапамогай супрацоўнікаў магазіна Васіль авалодаў асаблівасцямі сяўбы па-новаму, і калі наступіла пара пасяўной, ён болей уручную не сеяў. Запрагаў пару коней і засяваў увесь яравы палетак, а пазней і азімыя за больш кароткі тэрмін.

У жыцці любога чалавека адбываюцца такія моманты, калі трэба задумацца і спытаць сябе: «А ці правільна я жыву? Ці правільна, што я так цяжка працую — падрываю сваё здароўе?»

Васіль задумаўся, як аблегчыць сваю працу, а значыць, і стан свайго здароўя. Успомніў. Яму вядома шмат прыкладаў, калі чалавек ставіць, здавалася б, высакародную мэту, ну, скажам, пабудаваць сабе дом. І, не зважаючы ні на што, цяжка фізічна працуе — будуе. Не даядае і не дасыпае. Выконвае намечанае, дасягае сваёй мэты. Дом гатоў. А здароў'я няма. Непасільнай працай нажыта невылечная хвароба, і гэты працаўнік памірае менавіта тады, калі дасягнуў сваёй мэты — пабудаваў дом. Яму цяпер дом непатрэбны. Праўда, можна сказаць, ён зрабіў добрую справу — ёсць дом, у якім зараз, пасля ягонага пахавання, жыве ягоная сям'я. Жонка і дзеці. Блізкія паставілі яму вялікі мармуровы помнік і гэтым ганарацца. Аднак ці быў у яго іншы шлях, каб пабудаваць дом і застацца жыць? Відаць, у свой час, калі пачыналася захворванне, яму на лячэнне не знайшлося грошай,

бо іх трацілі на дом. Затое цяпер жонка і дзеці на Радаўніцу і Дзяды носяць яму дарагія букеты кветак і добрым словам успамінаюць бацьку.

## 12. Рашэнне Васіля аснасціць сваю гаспадарку тэхнічнымі сродкамі

А Васіль знаходзіць іншы шлях жыцця — працаваць па-новаму. Неабходна выкарыстоўваць тэхнічныя навінкі, якія даюць магчымасць аблегчана працаваць, а значыць, захоўваць сваё здароўе — укладваць грошы не толькі ў гаспадарку, але і ў лячэнне тых хвароб, якія часцяком наведваюць кожнага.

Вырашаючы гэтую праблему, Васіль параіўся з Надзеяй, набыў арфу, конную малатарню з прывадам і конную сеялку. І ўсе гэтыя набыткі зрабіў па чарзе, як толькі паяўляліся грошы ад продажу зерня, прадуктаў жывёлагадоўлі, мёду і многа чаго іншага, бо ягоная гаспадарка была шматпрофільнай. Вырошчваў іншыя культуры, якія даюць добры ўраджай у нашай мясцовасці. У Васіля былі мары — планы на будучае. Павелічэнне колькасці кароў дыктавала Васілю выкарыстоўваць тэхнічныя сродкі ў перапрацоўцы малака. Васіль набывае цэнтрыфугу — малочны сепаратар. На месцы атрымлівае вяршкі, а з атрыманых вяршкоў — смятану і масла. Сялянская маслабойка гаспадароў не задавальняе. Пры нарастаючай колькасці смятаны неабходна больш дасканалая механічная маслабойка, якую неабходна набыць. А пакуль ён бярэ на пракат маслабойку новай канструкцыі і выпрабоўвае яе. Павелічэнне колькасці свіней патрабавала ўводзіць элементы механізацыі ў іх кармленне. Дзеля гэтага Васіль купляе кормазапарнік бульбы, які аблягчае працу гаспадыні. Цяпер ёй не трэба цягаць чыгуны з бульбай у печ і з печы.

Стаўшы на гэты шлях вядзення ўзорнай гаспадаркі, Васіль дасягнуў поспеху і пачаў марыць аб тым, каб механізаваць уборку зерневых культур, адмовіцца ад жніва сярпом. Жніво традыцыйнае, бачыў Васіль, гэта нішто іншае, як лішняя трата ручной працы. І зноў ён упэўніўся, што трэба жніво рабіць механізавана з дапамогай больш складанай тэхнікі. Нарыхтоўка корму жывёле таксама прымушала адмовіцца ад ручной касьбы — замяніць яе коннай сенакасілкай Патрэбнасці механізацыі ў жніве і загатоўцы кармоў падказваюць гаспадару набыць конныя жняярку і сенакасілку. Выканаць гэтую патрэбу Васіль не паспеў. Я не сумняваюся, што гэтыя планы ён бы выканаў, але скончыўся васемнаццацігадовы мірны перыяд ў нашым краі.

www.kamunikat.org

## 13. Вучоба дзяцей Васіля і Надзі ў польскай школе

1936 год быў памятным тым, што старэйшы ў сям'і Васіля сын Мікалай пайшоў у трэці клас польскай пачатковай (паўшэхнай) школы, а Міхась — у першы. Мікалай быў лепшым вучнем у школе. Старанна выконваў школьныя заданні. Яму, мабыць, перадаліся здольнасці Васіля. У яго генах была закладзена цяга да вучобы. Яго не трэба было штодзённа кантраляваць у падрыхтоўцы хатніх заданняў. Такіх дзяцей сярод нас меншасць. За вучобай Мішы трэба было рэгулярна назіраць, правяраць, як ён рыхтуецца да наступных заняткаў. Тады існаваў такі погляд на вучобу сялянскіх дзяцей: вучылі толькі тых, хто сам цягнуўся да вучобы, і да таго ж, калі ў бацькоў былі на гэта сродкі. Бацькі цяжка працавалі і былі задаволены вучобай Мікалая, а тое, што Міша слабавата вучыўся, іх асабліва не хвалявала.

— Ну што ж, Мікалая будзем вучыць, а Міша будзе гаспадаром. Яму ў гаспадарцы і гэтых ведаў будзе дастаткова, — так разважаў Васіль.

Таму і не звярталі на яго вучобу асаблівай увагі.

Першым настаўнікам Мішы быў Антоні Бабуль. Ён не толькі вучыў сялянскіх дзяцей на польскай мове, але з сялянскай моладдзю ставіў у школе беларускія п'есы. Гэта ўладам не падабалася, і ў наступны год яны замянілі настаўніка. Наступным быў пан Пятрак. Ён таксама працаваў адзін год.

Усе настаўнікі, якія працавалі ў Бортніках, чамусьці кватаравалі ў нас. Відаць, таму, што мы жылі ў былым памешчыцкім доме, дзе было некалькі пакояў. Адзін з іх мае бацькі выдзялялі кватарантам — настаўнікам. Сродкаў, каб адрамантаваць увесь былы панскі дом, у бацькоў не знаходзілася, таму што Васіль укладваў грошы ў іншыя патрэбы. У 1938-м годзе Мікалай паспяхова скончыў пяць класаў пачатковай Вальнянскай школы, а Міша два класы Бортніцкай пачатковай школы

А ў наступным 1938–1939 вучэбным годзе вучыла мяне настаўніца Яніна Янішэўская, якая паходзіла з польскіх горцаў (górali). Пані Яніна зусім па-іншаму вучыла і выхоўвала нас. Запомнілася яна мне больш за іншых, відаць, таму, што да сваёй працы пані Яніна ставілася па-іншаму, чым папярэднія настаўнікі. У кракаўскай семінарыі яна атрымала неабходныя веды і навыкі для выхавання вучняў пачатковых класаў. Любіла мастацкую літаратуру. Яна захаплялася вершамі Адама Міцкевіча і яго незвычайным рамантычным каханнем да Марылі Верашчакі. Пасля атрымання дыплома ёй прапанавалі паехаць ў вёску Бортнікі Наваградскага ваяводства Баранавіцкага павета, якая знаходзілася недалёка ад радзімы Адама Міцкевіча. Менавіта гэта выклікала зацікаўленасць прыхільніцы паэзіі панны Яніны, і яна пагадзілася паехаць настаўнічаць у Бортнікі. У канцы лета 1938 года яна прыехала цягніком у Баранавічы. Калі апынулася на пероне Палескага вакзала Баранавіч, то вырашыла спытаць тамтэйшага паліцыянта, як ёй адсюль даехаць у вёску Бортнікі, куды яе накіравалі пра-

www.kamunikat.org

цаваць настаўніцай. Паліцыянт параіў: «Niech panna nauczycielka weżmie furmankę i doedzie do samych Bartnik». Паказаў ёй пляцоўку, дзе стаялі розныя павозкі. Там яна наняла фаэтон і папрасіла, каб рамізнік адвёз яе ў Бортнікі, а па дарозе паказаў ёй тое месца, дзе нарадзіўся яе любімы паэт Адам Міцкевіч.

Пані Яніна навучыла нас спяваць свае горскія (góralskie) песні, мелодыі іх я ўспамінаю і зараз, калі чую па радыё. Панна Яніна была ў такім узросце, каб кагосьці кахаць, а знайсці такога хлопца ў сялянскім асяроддзі было даволі складана. У той час моладзь не мела доступу да больш шырокай адукацыі, а звязаць свой лёс з сялянскім хлопцам, які скончыў толькі два ці тры класы і не мае такой жа адукацыі, якую мела яна, не хацела, бо разумела, што з гэтага нічога станоўчага не атрымаецца. Аднак яе лёс склаўся так, што ёй пашэнціла. Аднойчы пад час прагулкі жніверьскім надвячоркам па гарадзішчанскай дарозе, яна сустрэла інжынера, які будаваў доты (схроны).

Пасля цяжкага працоўнага дня інжынер пан Уладзіслаў вырашыў перад сном прайсціся, і калі ён падышоў да хутара Алеся Манько, убачыў, што яму насустрач з вёскі Бортнікі ідзе прыгожая паненка, апранутая не па-вясковаму. Яго зацікавіла яе асоба. І як толькі яна падышла да яго, пан Уладзіслаў затрымаўся і прывітаўся, спытаўшы:

— Ці магу я даведацца, хто вы такая? Я кожны вечар гуляю па гэтай дарозе і ўпершыню сустракаю такую прыгожую паненку. Я інжынер-будаўнік, завуць мяне Уладзіслаў. Мы будуем доты, а як ваша імя?

— Мяне завуць панна Яніна, працую настаўніцай паўшэхнай школы ў Бортніках. Я таксама вырашыла прагуляцца перад сном. Кватарую я ў прыстойнага гаспадара былога гаёвага Базыля Амялішкі, які перасяліўся ў 1929 годзе з вёскі Вольнай з сям'ёй у цэнтр былой сядзібы вымерлага старадаўняга бортніцкага роду памешчыкаў Слізняў. Там я здымаю даволі вялікі пакой. Мае гаспадары працавітыя людзі. Позна кладуцца спаць, рана ўстаюць — з усходам сонца. Складваецца ўражанне, што яны ўвогуле не спяць.

— Панна Яніна! Ці магу я далучыцца да вас і разам прайсціся ў гэты цудоўны жнівеньскі вечар?

— Можна. Толькі мне неабходна вяртацца на сваю кватэру, таму што ўжо пачынае цямнець.

— Прабачце. Ці магу я вас правесці да дома? Таму што сапраўды ўжо пачынаецца вечар.

— Ну, што вы, пан Уладзіслаў, гэта далёка, а пану пасля цяжкага працоўнага дня трэба адпачываць.

— Не, я вас адну не адпушчу, бо часта хаджу па гэтай дарозе. Ведаю, што ўздоўж яе размешчана некалькі хутароў, якія ахоўваюцца сабакамі. Нанач іх могуць спускаць на волю. Таму вам адной ісці можа быць небяспечна, а што тычыцца сну, то няхай панна не хвалюецца — выспацца я паспею.

— Пан Уладзіслаў, калі я ішла сюды і спусцілася з горкі, то заўважыла шмат пнёў на вялікай плошчы. Яны цягнуцца аж за гарызонт. Відавочна, там быў лес, а цяпер засталіся адны пні. Ці не можаце мне патлумачыць, чаму яго выразалі?

— Панна Яніна, лес, які называўся Круглік, ўрад пастанавіў зліквідаваць у абарончых мэтах, таму што ён зацямняў агляд перад дотамі, якія мы амаль што пабудавалі, таму яго і знішчылі. Мне самому шкада, што знік сапраўды цудоўны лес, дзе можна было любому, хто жадаў, пабываць, падыхаць цудоўным паветрам, а летам сабраць ягоныя дары: ягады, грыбы і іншае. А цяпер у бліжэйшай ваколіцы радыусам прыблізна каля трох кіламетраў такога лесу няма.

Размаўляючы, яны ішлі да хутара, дзе кватаравала настаўніца. Сцежкай, каторая вяла пад хату праз малады парк, падышлі да дома з паўночнага боку. Прыпыніліся.

— Далей прашу пана Уладзіслава мяне не праводзіць. Тут я ўжо ў бяспецы.

— Згодзен, але я прапаноўваю панне Яніне прызначыць мне спатканне, зразумела, калі ў вас будзе вольны час. Нам за такі кароткі час не ўдалося з вамі як след пазнаёміцца. Карацей кажучы, я думаю, што нам трэба сустрэцца.

— Пан Уладзіслаў, калі будзе добрае надвор’е, то давайце сустрэнемся на гадзіну раней ад сённяшняй нашай сустрэчы там, дзе мы сустрэліся. Зараз восень. Дні становяцца карацейшымі. Гэта мы павінны ўлічваць. А калі будзе дождж, то, мабыць, сустрэчу адменім.

— Не, панна Яніна, калі будзе дождж, то я прыйду да вас на кватэру, разумеецца, калі панна Яніна мне дазволіць.

— Калі будзе дождж, то я запрашаю вас прыйсці ў мой пакой. Я буду вас чакаць. Уваход у маю кватэру з паўднёвага боку.

— Я цяпер дарогу ведаю. Прыйду не раней за дзевятнаццаць гадзін.

Пацалаваў ёй руку і пайшоў.

На наступны дзень яны сустрэліся, і пасля некалькіх сустрэч яна пакахала пана Уладзіслава так, што не ўяўляла свайго жыцця без яго. Яна запрасіла яго да сябе на кватэру. Жыла яна ў той час у цэнтральным пакоі нашага дома. Калі панна Яніна пасябравала з інжынерам, то, натуральна, яна жадала ўсё часцей і часцей з ім сустракацца. На сустрэчы з ім пад час яго працы яна брала мяне з сабою праважатым. Відавочна, таму, што ёй самой было няёмка ісці ў тыя часовыя памяшканні казарменнага тыпу, дзе жыў і працаваў яе каханы. Мне ў той час споўнілася дзевяць гадоў. Я не задумваўся ў той час, чаму менавіта мяне настаўніца выбрала на сустрэчы са сваім інжынерам.

Успамінаецца такі выпадак. Наша спальня была ў суседнім пакоі, і мы з братам Мікалаем любілі спяваць. Праспявалі юнацкі гімн (гімн тых

www.kamunikat.org

будаўнікоў, што будавалі доты), а ў суседнім пакоі былі панна Яніна з панам Уладзіславам. І калі ён праслухаў наша выкананне гімна, прыйшоў у наш пакой, пахваліў і прэзентаваў нам кожнаму па шакаладцы.

Пасля цёплых сустрэч панны Яніны са сваім каханым яны вырашылі жыць як муж і жонка. Яны вырашылі, як я цяпер разумею, аб'яднацца і жыць грамадзянскім шлюбам. Інжынер прыходзіў да яе і начаваў у яе пакоі. У той час дзесяцігадовы Міхась гэтага не разумеў.

Пад час канікул у чэрвені летам 1939 года пані Яніна вадзіла нас на экскурсію на радзіму Адама Міцкевіча ў Завоссе. Там мы ўбачылі цэментны абеліск, на пярэдняй частцы якога была прымацавана шыльда, а на шыльдзе тэкст з бронзавых літар, з якога даведаліся пра жыццё вялікага паэта, нашага земляка Адама Міцкевіча. У далейшым мне некалькі разоў даводзілася бываць ля гэтага помніка таму, што дарога ад нашай хаты да Баранавіч праходзіць тут. І калі я з бацькам ехаў па ёй на базар у Баранавічы, дык амаль кожны раз наведваў той абеліск. Памятаю, што аднойчы, а гэта было пад час нямецкай акупацыі, я ўбачыў, што хтосьці выкалупаў бронзавыя літары. А з якой мэтай гэта было зроблена і хто гэта зрабіў, можна толькі здагадвацца, бо была вайна.

Тым летам з настаўніцай Янінай Янішэўскай пешшу ўсім класам хадзілі на экскурсію ў Туганавічы, дзе жыла ў пачатку 19-га стагоддзя Марыля Верашчака, якую пакахаў на усё жыццё Адам Міцкевіч. Наведалі непадалёку вялізны камень, ля якога тайна збіраліся філарэты і філаматы. Сябры Адама Міцкевіча (Ян Чачот, Ігнат Дамейка і іншыя) абмяркоўвалі свае планы адукацыі мясцовага сялянства і адмены прыгоннага права, што супярэчыла палітыцы царскай улады.

У канцы ліпеня пані Яніна арганізавала на сялянскіх вазах паездку на легендарнае возера Свіцязь, якому многія паэты, у тым ліку і Адам Міцкевіч, прысвяцілі шмат вядомых вершаў. Гэта была мая першая паездка на Свіцязь. Абышлі вакол возера. Здзіўляліся празрыстасці вады, багаццю дрэў, якія ахоўваюць яго. Па дарозе дахаты пані Яніна пазнаёміла нас з легендамі гэтагаляснога цуда, дэкламавала ўрыўкі з вершаў Адама Міцкевіча.

У пачатку жніўня 1939 года будоўля абарончай лініі насупраць нашых зямельных надзелаў была скончана. Будаўнікі вырашылі адзначыць святочным днём сваю працу. Дзеля гэтага загадзя ў вёсцы Вольнай на скрыжаванні дарог Баранавічы–Мір і Бартнікі–Вольна пабудавалі невялікую бетонную каплічку са статуэткай Божай Маці ўсярэдзіне. На франтоне каплічкі былі тры літары: ІНР (Junackie Hufcy Pracy), што у перакладзе на нашу мову азначала: моладзевыя брыгады працы. На асвячэнне капліцы прыйшлі будаўнікі і мясцовыя сяляне вёскі Вольнай. Нас, вучняў трэцяга класа бортніцкай школы, прывяла наша настаўніца пані Яніна. Капліцу асвяціў ксёндз з Паланэчкі. Пасля асвячэння іграў духавы аркестр будаўнікоў.

www.kamunikat.org

Капліца прастаяла гадоў шэсць. Спачатку пад уплывам антырэлігійнай агітацыі Саветаў у 1939 годзе хтосьці з мясцовых жыхароў знішчыў скульптурны абраз Божай Маці, а ў пасляваенны час рашэннем мясцовых органаў была ліквідавана сама каплічка як нікому непатрэбны аб’ект.

Цікава, што на высокім пясчаным пагорку непадалёк ад той каплічкі, якую паставілі палякі, у тыя ж часы знікла капліца, пабудаваная ў гонар Аляксандра Неўскага ў 19-м стагоддзі, калі наш ліцвінскі край быў акупаваны рускімі войскамі пад камандаваннем Суворава і атрымаў назву «Северо-Западный край» Расіі.

www.kamunikat.org

# Змест



www.kamunikat.org

**Частка 2.**
**Гаспадар**



www.kamunikat.org

На першай старонцы вокладкі — выява хаты ў в. Бортнікі, у якой нарадзіўся Ота Слізень, вядомы скульптар 19-га стагоддзя, чые працы знаходзяцца ў музеях Санкт-Пецярбурга (пазней у ёй жыла сям'я Амялішкаў); узор цвіка ручной работы, якім прыбіта шалёўка, а таксама бляшаная шыльда страхавога таварыства, якая вісела на хаце ў той час.

На чацвёртай старонцы вокладкі — пограб, які застаўся з часоў памешчыкаў Слізняў.


*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Амялішка** Міхась Васільевіч

**ЗАБЛУДНЫЯ**

*Раман-успамін*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Аскерка*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 3.09.2009. Фармат 60x84 1/16.
Друк на рызографе. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ул.-выд. 10,27 арк. Ум. друк. 11,2 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 779.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія № 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.


www.kamunikat.org